# Полымя Рэволюцыі



**ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА І МАРКСЫЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ**

*КНІГА ТРЭЦЯЯ*



1 / 9 / 3 / 4

# Полымя Рэвалюцыі

ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА
І МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ
ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

Орган
Арганізацыйнага камітэта
Саюза совецкіх
пісьменнікаў БССР

*КНІГА ТРЭЦЯЯ*



МЕНСК ЛІМ
ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
1934

# З М Е С Т

*Стар.*




Уп. Галоўлітбела № А 1141. Зак. № 1137—3500 экз. „Палесдрук“, Гомель

ІЛЬЯ ГУРСК

# МАЦІ

(Драма ў 3-х актах і 10 карцінах)

Светлай памяці, бясстрашным адважным і гордым, безымённым героям, загінуўшым у барацьбе за дыктатуру пролетарыята, за Беларусь Совецкую, прысвячаю гэты твор.

## ДЗЕИНЫЯ АСОБЫ

Нікалай II—былы гасудар імператар і самадзержац усерасійскі, цар польскі, вялікі князь фінляндскі і прочая, і прочая, і прочая.
Марыя Фёдараўна—маці Нікалая II.
Аляксееў
Карнілаў —генералы царскай арміі.
Дзенікін
Бублікаў—член Дзяржаўнай думы.
Андрэй Бушма—рабочы, радавы, салдат рускай арміі.
Васіль Бушма—паручык царскай арміі, урадам БНР праізведзен у чын палкоўніка
Грышчыха—іх маці.
Алеська—яе дачка.
Іваноў
Карпенка —салдаты рускай арміі.
Борух
Святаполк-Мірскі—паручык царскай арміі.
Кабыльніцкі—палкавы поп.
Гелер—палкоўнік нямецкай арміі.
Мюлер—салдат нямецкай арміі.
Кажамяка Янка—бязрукі, інвалід вайны.
Кастрыцкі—бязногі, інвалід вайны.
Саладуха Сяргей Сяргеевіч—начальнік пошты.
Вайцэхоўскі—палкоўнік польскай арміі.
Сланімскі—паручнік польскай арміі.
Змудзінскі—падпаручнік польскай арміі.
Скірмунт—абшарнік, Старшыня Рады міністраў БНР.
Радзівіл Казімір Вініямінавіч—абшарнік, былы генерал.
Радзівіліха—яго жонка.
Стася—іх дачка.
Аркашка—іх слуга.
Славін—рэдактар газеты „Буревестник“.
Усеслаў Крывічанскі—журналіст і п'сьменнік.
Бахрым Ігнат Кандратаў—паўстанец.
Рудштэйн—служачы Белэвака.
Люся—прастытутка.
Стары дзед.
Сялянка.
1-шы салдат.
2-гі салдат.
1-ая дзяўчына.
2-ая дзяўчына.
Пісар.
Гарадавы.

Рабочыя і работніцы, сяляне старыя і маладыя, чырвонаармейцы, паўстанцы, рускія, нямецкія і польскія салдаты, жабракі.

Дзея адбываецца ў 1917—1920 г. г.

# ПРАЛОГ

Вагзал звычайнага горада "„Северо-западнога края". Каля вагзалу пляц. Пасярэдзіне пляцу стаіць адзінока чорнае страшыдла, помнік Аляксандру III. На пярэднім плане нерухома, стаіць гарадавы—сымбал бязмежнага ўладарства, трусасці і славы, разгулу і дзікасці дома Раманавых. Праходзіць Нікалай II са сваёй світай. Сярод іх генерал Аляксееў. Ля акна вагона стаіць Марыя Фёдараўна. На пероне член Дзяржаўнай Думы Бублікаў. Адчуваецца нейкая трывога. Чутна песня салдат: „Соловей, соловей, пташечка", прарываецца каманда афіцэра: „Аць! два! левай"!

Галасы (*жабракоў*).
— Просім у бога!
— Хлеба!
— І солі!
— Долі!
— І волі!
— Просім у бога!

Марыя Фёдараўна (*да Нікалая II*). Не, гэта не так. У Расіі рэволюцыі быць не можа. Казакі не здрадзяць.

Нікалай II. Бог ведае. (*З вагона*) „У апошні раз звяртаюся да вас, горача любімыя мною вайска. Пасля адрачэння майго за сябе і за сына майго ад прастола расійскага ўлада перададзена часоваму ўраду, па пачыну Дзяржаўнай думы ўзнікшаму. Да паможа яму бог весці Расію па шляху славы і благадзенствія. Да паможа бог і вам доблесныя вайска адстаяць нашу радзіму ад злога ворага".

Гарадавы. Ур-ра-а!

Нікалай II (*працягвае гаварыць*). „На працягу двух з паловай год вы неслі ежэчасна цяжкую баявую службу, многа праліта крыві, многа зроблена намаганняў, і ўжо блізак час, калі Расія, звязаная са сваімі доблеснымі саюзнікамі адным агульным жаданнем да перамогі, зломіць апошняе намаганне ворага. Гэта небывалая вайна павінна быць даведзена да поўнай пабеды".

Гарадавы. Ур-р-ра-а!

Нікалай II. „Хто думае цяпер аб міры, хто жадае яго—той здраднік айчызны, яго прэдацель. Знаю, што кожны чэсны воін так мысліць. Выконвайце-ж ваш доўг, абараняйце доблесную нашу радзіму, павінуйцеся Часоваму ўраду, слухайцеся вашых начальнікаў. Помніце, што ўсякое паслабленне парадку службы толькі на руку ворагу. Цвёрда веру, што не ўгасла ў вашых сэрцах беспрадзельная любоў да нашай вялікай радзімы".

Гарадавы. Ур-р-ра-а!

Нікалай II. „Да благаславіць вас господзь бог і да вядзе вас к пабедзе святы велікамучанік і пабеданосец Георгій!".

Гарадавы. Ур-р-ра-а-а!

Голас. Далоў Мікалашку і Грышку з Алісай!

Гарадавы (*напружана*). Што-о? Крамола? (*Да Аляксеева*). Гэта там... На маім-жа ўчастку ўсё спакойна... Ніякай смуты... Ніякай рэволюцыі...

Галасы.—Не трэба нам цара!

— Не трэба нам міністраў!

Аляксееў (*да Бублікава*). Прыкажыце далажыць гасудару імператару?

Бублікаў. Не далажыць, а абвясціць пастанову Часовага ўраду.

Аляксееў (*да Нікалая II*). Ваша вялікасць! Членам Дзяржаўнай Думы Бублікавым даручана мне абвясціць вам волю насіцеля вярхоўнай улады ў Расіі, Часовага ўраду, аб арышце гасудара імператара і яго сям'і. (*Пауза*). А таксама паведаміць гасудара імператара, што гэтым Часовы ўрад агражлае вашу асобу ад усякіх непрыемнасцей, якія могуць быць з боку рабочых і чэрні.

Марыя Фёдараўна. О, божа!

Нікалай II (*цяжка*). Пакутуе святая маці Расея, але праб'е час і рускі народ зноў паднімецца на ногі пасля падзення.

Гарадавы. Рускі народ галаву гатоў злажыць за веру, цара і айчызну.

Нікалай II. Маладзец!

Гарадавы. Рад старацца! Ур-р-ра-а-а!

Нікалай II (*да Марыі Фёдараўны*). Вось яны, верныя сыны зямлі рускай. (*Тры званкі*).

Аляксееў (*развітваючыся з Нікалаем II*). Народ абразуміцца і тады ён сапраўды падымецца на ногі пасля падзення. Знойдзецца вялікі чалавек, які выведзе рускі народ на шырокую дарогу. Хто будзе такім шчаслiўцам—невядома, але такі шчаслівец будзе.

(*Цягнік пайшоў*).

Гарадавы (*крычыць*) Ур-р-ра-а-а! (*да Аляксеева*). Народ бяжыць... (*Махнуў рукой*). Хай развітаецца з царом-бацюшкам...

Аляксееў (*напружана*). Што-о? Расквітаецца? От бесція! (*Уцякаючы*). Унясі ты, госпадзі, душу грэшную!

Голас.—А-а, апрычнік!

Гарадавы (*нерухома*). На маім участку ўсё спакойна... Ніякай смуты... Ніякай рэволюцыі...

## АКТ ПЕРШЫ

### КАРЦІНА I

Край густога бору. На світанні. Салдаты, што пчолы, кожны заняты сваёй работай. Нібы трутні, расхаджваюць афіцэры. Каля развесістага дуба адзінока стаіць вартавы. Ён змяняецца, на яго месца заступае другі. Пачуўся гарматны выстрал. Недалёка разарваўся снарад. Зняўся вартавы, заняў больш укрытае месца. Што мурашкі, разпаўзліся людзі па акопах.

А. Бушма. Эх-ха-ха! Цяжка на свеце жыць чалавеку. Чалавек нарадзіўся, каб жыць, ды жыць не даюць чалавеку.

Карпенка. Не журыся, Андрэю! Від людыны залежа жыць па люцку. (*пауза*). Знайсці-б толькі пункт апоры.

Іваноў. Братва! Знойдзена гэта самая точка апоры. (*Чытае „Акопную праўду“*). „Даволі здзекаў над чалавекам. Даволі матчыных і дзявочых слёз. Братайцеся з нямецкімі салдатамі. Кідайце фронт. Наш вораг...“ (*Угледзеў афіцэра, хавае газету*).

Святаполк-Мірскі (*падыходзячы хітра*). Хто наш вораг?

Іваноў. Так што, немцы, ваша благародзь!

Святаполк-Мірскі. Скаціна! (*Да Карпенкі*). Як я сказаў?

Карпенка *(моргае вачыма)*. Скаціна, ваша благародзь!
Святаполк-Мірскі *(Да Іванова)* За што служыш?
Іваноў. За веру, цара і айчызну!
Святаполк-Мірскі. Дурань! Казаў, што цара няма.
Іваноў. Цяжка забыцца пра гэтага звера людскога.
Святаполк-Мірскі *(растлумачваючы)*. Служым: за свабоду, роўнасць і брацтва. *(Да Іванова)*. Чуеш, за свабоду...
А. Бушма *(У бок)*. Адно ліха... як не было парадку, так і няма.
Святаполк-Мірскі *(Да ўсіх)*. Эй, вы, што раскіслі? Што прыўнылі чэрці!? Свабода... Танцуй, хлопцы, весяліся... *(Да А. Бушмы)*. Танцуй!
А. Бушма. Слухаю! *(Неахвотна танцуе)*.
Святаполк-Мірскі. „Лявоніху"! Ды весялей, весялей!
А. Бушма. Ваша благародзь!—ногі апухлі.
Святаполк-Мірскі *(моцна ўдарыў)*. Ах ты, бульба беларуская... *(Крычыць)* Карпенка!
Карпенка. Што прыкажэце?
Святаполк-Мірскі. „Гапака"!
Карпенка *(танцуючы)*. „Гоп мої грэчаныкі
Гоп мої ясны..."
Святаполк-Мірскі *(крычыць)* Іваноў!
Іваноў. Ёсць!
Святаполк-Мірскі. Хіба так танцуюць? А ну, пакажы расейскую удаль! Чаго стаіш, асталоп? „Казачка"! *(Да салдата)*. А ты давай „Лезгінку"! *(Усе танцуюць. А. Бушма ледзь-ледзь перастаўляе ногі)*.
А. Бушма *(танцуючы)*. „А Лявоніху Лявон палюбіў,
Лявонісі чаравічкі купіў..."
Святаполк-Мірскі *(задаволена)*. Свабода... Танцуй, хлопцы, весяліся...
Борух *(падыходзячы)*. Што пры цары, то без цара, як не было парадку, так і няма...
Святаполк-Мірскі (*да Боруха)*. А ты давай сваю... Ну, ну, жывей! Свабода... Танцуй, хлопцы, весяліся... *(Крычыць)*. Танцуй, хлопцы, весяліся... а там хоць трава не расці.
А. Бушма. Ваша благародзь! *(Ніцма ўпаў)*.
Святаполк-Мірскі *(праходзячы злосна)*. Не салдат, а баба...
Славін *(падыходзячы ў бок афіцэра)*. Ня-я-ма ў яго бабы: як нам жаніцца, то і ноч каратка...
А. Бушма (*аддае газету*). Чуць было не ўліп...
Славін (*усміхаючыся*). Тады ты быў-бы бабай...
Іваноў. І то не ён, а я...
Славін. Пахваліўся чым!
Карпенка (*да Славіна*). Скуль він узяўся?
Славін. Хто?
Карпенка. О ця дурныця... Святополк-Мірскі?..
Славін (*усміхаючыся*). Іх не сеюць і не жнуць...
А. Бушма (*да Славіна*) Як тыл? Што ў Піцеры?
Славін. У Піцеры не дрэмлюць... (*Дае газету*).
А. Бушма (*чытае*). „За што мы ваюем?" (*Угледзеў Святаполк-Мірскага, перадае газету Боруху*).
Святаполк-Мірскі. Андрэй Бушма!
А. Бушма. Я!
Святаполк-Мірскі *(абмацвае кругом)*. З выгляду, салдат рускай арміі, ды нутро...(*Спахваціўся*). Да-а, табе ліст.(*Дае*). Вілаць ад бабы?

А. Бушма. Няма ў мяне бабы.
Святаполк-Мірскі (*праходзячы злосна*). Пападзешся, галубчык!
Славін (*да А. Бушмы*). Ну, то што там піша, твая дарагая?
А. Бушма (*голасна чытае, усе слухаюць*). „Дарагі Андрэйка! Перш за ўсё, мой любы сынку, паведамляю цябе, што бацька твой, царства яму нябеснае і пухам яму зямля, прыказаў доўга жыць...

Алеська, сястрыца твая, засталася сіроцінкаю... Галосіць дзяўчынка... Кажуць, што вясна прышла, а мы яе і ў вочы не бачылі... Васіль наш у людзі выбіўся, афіцэрам стаў... Нейкіх ударнікаў набірае... А навошта, то хто яго ведае... Ага, ці чуў ты (можа начальства не кажа), што ў Піцеры рэволюцыя адбылася... Мікалая II са стаўкі ўзялі... Можа і нам цяпер можна ў Піцер?

Мой дарагі сынку, звярнуўся-ж з фронту Янка Кажамяка, гаруе, дзеткі, ён, бо, ведама, без рук застаўся... А гэтакі быў спрытны хлопец, дый майстра на ўсе рукі...

От што, во, калі я запыталася ў Васіля, навошта ён набірае ўдарнікаў, дык ён адказаў: „Абараняць маці Беларусь"...

І ўрэшце, як не сорамна мне, але мушу табе прызнацца, што маці твая дажыла да таго, хоць ты бяры кій ды торбу... Паздароў божа Банадыся, на запалкавай прыстроіў, то перабіваемся неяк з горам папалам...

Не крыўдуй. Пішы. Грышчыха".

Карпенка. Мій брат тэж збіраецца обороняты маты Украіну...
А. Бушма (*чухае патыліцу*). Эх-ха-ха! Цяжка на свеце жыць чалавеку. Чалавек нарадзіўся, каб жыць, ды жыць не даюць чалавеку.
Карпенка. Андрэю! Від чолавіка залэжа, жыць па чоловічу. (*Прыглядаецца*). О, чарцяка... На спацыр выйшла..
А. Бушма (*знімае вош*). Афіцэрша!?
Славін. Прыкладам бі! (*Чуваць перастрэлка*).
Карпенка. Шчо цэ значыць, што пачалося кашлянне гармат?
Івраноў. Гэта значыць, канец перадышцы.
А. Бушма (*да Славіна*). Канец аднаму, пачатак другому?
Славін. Правільна!
А. Бушма (*чытае*) „За што мы ваюем" (*Яго ўсе абкружаюць*).
Славін (*да А. Бушмы*). Толькі не будзь бабай! (*Пайшоў*).
1-шы салдат. Паўзе гадзюка!
2-гі салдат. Хто? Дзе?
1-шы салдат. Унь з-за дуба выглядае, змяя шыпучая...
2-гі салдат. Ага! Цэліцца, мяркуе ўжаліць...
Мюлер. Genossen! Russen!
Святаполк-Мірскі (*Падыходзячы камандуе*). Па ворагу...
Мюлер (*напалохана*). Die Deutschen Arbeiter und Bauern wollen keinen Krieg!
Святаполк-Мірскі. Ро-о-ота, плі!
А. Бушма (*да ўсіх*). Стой! не страляй!
Мюлер (*рад*). Es lebe die russische Revolution!
А. Бушма. Пачакай братка! (*да Святаполк-Мірскага*). Па аднаму чалавеку, ды ротай?! Эх вы, ваяка! (*Пауза*). Скажыце, за што мы ваюем?
Святаполк-Мірскі (*выхваціў рэвальвер, да яго павярнулася мора штыхоў*). Мы ваюем за тое, каб не даць немцам здзеквацца над зямлёй святой Русі. Вы не дапусціце, каб айчызна была разбіта, каб загінула свабода. Хто патурае збліжэнню з немцамі, той вораг рэволюцыі. Растрэльваць іх, як паганых сабак.

А. Бушма (*задрыжэў увесь, моцна сціснуў вінтоўку*). Мы патрабуем ад Часовага ўраду неадкладнага апублікавання тайных дагавароў, выпрацоўкі праграмы міра, неадкладнага ўдалення шкодных людзей з ураду і адказу на запытанні „за што мы ваюем?"

Іваноў. Досыць! Наскакаліся пад дудку саюзнікаў!

Карпенка. Больш не ўдасца пасылаць на забойства мільёны людзей... Не-е...

Іваноў. Паўстаў народ, а народ—вышэйшая ўлада на свеце.

Святаполк-Мірскі (*хітра*). Сябры мае! Не нам вырашаць лёс вайны. Армія не павінна гэтым займацца. Армія моцная тады, калі яна без палітыкі. Палітыка губіць армію.

Іваноў (*махнуў рукой*). Эй, немец! Брацішка! Хадзі сюды! Бачыш ашчаціненыя штыхі? Яны накіраваны супроць тых, хто хоча вайны.

Мюлер (*падыходзячы*). Guten Tag!

А. Бушма. Здароў, дружышча!

1-шы салдат. Каб не ён, крышка табе-б была...

2-гі салдат. Ага! Засталася-б жонка ўдавою, дзеці сіратамі.

Мюлер (*паціскае плячмі*). Крышка?

Карпенка. Укоцалы-б цябе, і амінь... памінай, як звалі. І кіндэркі-б твае плакалі...

Мюлер (*зразумеўшы*). Meine kleinen Kinder (*паказвае на слёзы*) плякаль... Ja, ja. (*да А. Бушмы*). Deutsche Soldaten bitten euch zu uns in den. Schütrengraben. Gut?

1-шы салдат. Цёмныя мы, браток, што бутэлькі. Не ведаем па вашаму.

А. Бушма (*да Мюлера*). Скажы, ты Леніна ведаеш?

Мюлер (*загарэліся вочы*). Ленін файны не хацель і мы яе не хацель.

Іваноў. Мы таксама вайны не хацель.

2-гі салдат. Немец, брацішка, давай закурым рускай махры.

Мюлер (*набівае люльку, закурвае*). Danke. (*Закашляўся*). Здорафа...

2-гі салдат. (*зацягваецца*). Што рускаму здарова, то немцу смерць... (*Смех*).

Мюлер. Ja, ja. (*Чуцен аэраплан*).

А. Бушма (*прыглядаецца*). Зляцелася груганне... Нібы галодныя ваўкі, выглядаюць падаль... мала напіліся крыві чалавечае.

Карпенка. Над борам кружыцца... (*Да Мюлера*). От што, немец, валяй, дружа, туды да сваіх і скажы ім, што рускія вайны не хочуць.

Мюлер (*устрывожана*). Russen! Wir wollen keinen Krieg! (*развітаючыся*). Auf Wiedersehen! (*Пайшоў*).

Святаполк-Мірскі. Панове!—афіцэры, салдаты. Нямецкія шпіёны снуюць павуціну для таго, каб уваабраць у свае брудныя лапы маці Расію. Колькі загінула храбрага рускага воінства ад рукі заклятага ворага. Няўжо ў такую цяжкую хвіліну для радзімы ўмесна братанне з заклятым ворагам. (*Пауза*). Вы ўжо ведаеце, што вайна пачалася затым, што Імператар Аўстрыі намерыўся падняволіць свабодную Сербію. Расія супярэчыла гэтаму ўчынку. Тады Нямеччына абвясціла вайну Расіі. Няўжо мы прасцім за нашых братоў, якія загінулі на полі брані? Ніколі! Мы давядзем вайну да пабеднага канца.

А. Бушма (*зласліва*). Бунт на каленях...

Святаполк Мірскі. Чый?

А. Бушма. Шутоў на троне...

**Іваноў.** Кроўю ісцякае Расія, а ім—вайна да пабеднага...

**Карпенка** (*да Святаполк-Мірскага*). Падывіся, атроддзе шутоўске, на мові рукі... Воны змійстрованы для таго, шчоб процюваты, а не ўбіваты няма ведама кого, няма ведама за шчо...

**Кабыльніцкі** (*падыходзячы, елейным голасам*). Нячыстая сіла, антыхрысты атручваюць вашы мазгі... Маці Расія ў агні...

**А. Бушма.** Мая маці з голаду пухне; дажыла да таго, хоць ты бяры кій ды торбу...

**Кабыльніцкі.** Хто ў такі грозны час выступае супроць вайны, той апынецца ў пеклі...

**Карпенка.** Пакутуе й мая старая маты, слепая вона, ёй й пры жыцці пекла...

**Кабыльніцкі.** О, вялікая, святая Русь... Сыны тваe, што блудныя авечкі...

**Іваноў** (*перарывае*). А маю маці зажыва ў рызы адзелі, святой зрабілі... Скінуць атрэп'е... (*Чуцён выбух скінутых з аэраплана бомб. Кабыльніцкі ўцякае*).

**А. Бушма.** Айцец Кабыльніцкі! Вы што-ж гэта, у такі грозны час лахі пад пахі, ды лататы!

**Іваноў** (*з усмешкай*). Стой, не ўляпётвай!?

**Кабыльніцкі.** Святая багародзіца, вынасі! (*Уцякаючы*). О, багахульнікі...

**Карпенка.** От, чэрцяка рыжы! (*Перастрэлка. Нясуць раненага*).

**Голас** (*раненага*). О божа, калі ты ёсць, спыні ты мукі чалавечыя...

**1-шы салдат** (*заглядае*). Без рук чалавек застаўся... Каму ён патрэбен... (*Нясуць другога раненага*).

**Голас** (*раненага*). Братцы, даколе будуць здзеквацца над людзьмі...

**А. Бушма.** Камедыянты, ім патрэбен Канстанцінопаль... а нам бы толькі хлеба, міру ды свабоды. (*Пачалася артылерыйская перастрэлка*).

**Святаполк-Мірскі.** Ой, цяжкі грэх... Нагаварылі таго, за што расстрэльваюць... Іскупіць віну перад краінай можна толькі на поле брані... (*Звоніць тэлефон*). Слухаю. Пры тэлефоне паручык Святаполк-Мірскі. Што? Полк у наступленне? Усім фронтам? У мяне... Так. Братанне. Слухаю! (*Кладзе трубку*). Панове афіцэры, да мяне!

**А. Бушма.** Што-о? У наступленне?

**Святаполк-Мірскі** (*цвёрда*). Так. (*Да афіцэраў, чотка*). Сёння ўсім фронтам пойдзем у наступленне. На наш полк выпала пачэсная задача лабавой атакай, пад прыкрыццём артылерыі, заняць перадавыя пазіцыі ворага. Палагаю, што афіцэрам зразумела важнасць ускладзенай задачы.

**Голас.** Так!

**Святаполк-Мірскі.** Падрыхтавацца і чакаць загаду. Вы вольны! (*Усе разыходзяцца, стральба павялічваецца*).

**А. Бушма.** А для салдат не зусім зразумела, гэта авантура...

**Святаполк-Мірскі.** Што-о? Вы баявы загад фронту лічыце авантурай? Мерзавец! Вы арыштаваны...

**А. Бушма.** (*цвёрда*). Таварышы салдаты, да мяне! (*З усіх канцоў бягуць салдаты*). Палагаю, што такое мерапрыемства, як наступленне па ўсяму фронту, варта было-б абмеркаваць з салдатамі. (*Пауза*). Мы не ведаем, за што ваюем, а таму адмаўляемся ваяваць.

**Іваноў.** Не трэба нам захват Арменіі, Галіцыі, Турцыі, не трэба нам аднясце Канстанцінопаля, не трэба новай заваёвы Польшчы, Курляндыі, Літоўскага края... нам трэба толькі хлеб, мір і свабода.

А. Бушма. Мы не хочам вайны!
Карпенка (*вылез з акопа, крычыць*). Немцы! Мы не хочам вайны!
Галасы. — Russen! Wir wollen keinen Krieg!
— Die Deutschen Arbeiter und Bauern wollen keinen Krieg!
А. Бушма. Далоў вайну! (*Выбягае з акопаў*). Абвяшчаем вайну вайне! (*Салдаты братаюцца. Чутны радасныя галасы, перастае страляць артылерыя*).
Святаполк-Мірскі. Зараза разрастаецца... трэба яе з карэннем вырываць. (*Звоніць па тэлефону*). Алё! Алё! Штаб палка? Салдаты ўзбунтаваліся. Братаюцца. Што? Страляць? Няма каму...

## КАРЦІНА II

Вагзал. Чутны свісткі стрэлачнікаў, гудкі манеўравых цягнікоў. Каля расчыненага акна, сядзіць начальнік пошты Саладуха, пазяхае, потым, нібы адчуўшы нейкую трывогу прыглядаецца. Увесь час працуе тэлеграфны апарат. На вагзале многа рознага народу: рабочыя, салдаты, жабракі, прастытуткі.

Галасы (*жабракоў*).
— Просім у бога!
— Хлеба!
— І солі!
— Долі!
— І волі!
— Просім у бога!
Кажамяка. У каго просіце? З яго, што з гуся вады...
Люся. Мілой! Прасяшчаму, ды не будзь адмоўлена.. (*Песціцца*). За цалкаш—мора пяшчот... (*Праходзіць*).
Галасы (*жабракоў*).
— Долі!
— І волі!
— Просім у бога!
Кастрыцкі. Сваімі рукамі трэба ўзяць!..
Кажамяка. Возьмеш, калі іх няма...
Кастрыцкі. Абы галава...
Кажамяка. Кастрыцкі! Здароў, дружа! (*Памкнуўся вітацца, балюча*). О, каб мне рукі... (*Да ўсіх*). Браточкі мае... (*Успамінае*). Тры дні і тры ночы стагналі гарматы, цурчэла чалавечая кроў, енчылі людзі... (*Пауза*). Афіцэр скамандаваў у атаку... Як дзікуны, што тыгры, рвануліся ўперад.. Ля калючага дроту асыпала буйным градам волава і чыгуна... Палымела ўсё навокал... І раптам стала горача і млосна, а далей... не помню.

О, каб мне рукі! Колькі ў полі палын-травы, быльняку развялося... Запрог-бы я гэта свайго Сіўку, узяў-бы аберуч плуг і пайшоў-бы прыхарашваць поле... Прыгарнуў-бы да сябе маю любую, моцна-б абняў, ускудлачыў яе русы-косы... Сына, Грышку-пястуна, падкінуў-бы вышэй сябе... Пачухаў-бы свінку, пагладзіў-бы Лыску... Э-эх, што чалавек без рук...
Кастрыцкі. Кажамяка! Дружышча! Абы галава... ды ногі. (*Успамінае*). Неяк, браце, на світанні, як засыплюць з дальнабойных, то, ці паверыце, пакроілі па частках і без таго параненыя грудзі зямлі... Узляталі ў паветра рукі, ногі чалавечыя... Цяжка ўспамінаць, ды самі думкі лезуць у галаву...

О, каб мне ногі! Пайшоў-бы я з хаты ў хату, з вёскі ў вёску апавядаць пра гора людское, пра горкую праўду... (*Пауза*). Вайна, каму яна патрэбна гэтакая вайна?

Грышчыха. Як каму! Людзі келіхамі п'юць, праз саломку смокчуць людскую кроў. Чалавек любіць чалавечую кроў. (*Пауза*). Людцы мае, скажыце, ці не бачылі вы часам маіх сыноў, Андрэя і Васіля Бушму?

Кастрыцкі (*здзіўлена глядзіць*). Вы маці Андрэя Бушмы?

Грышчыха. Але.

Кастрыцкі. Грышчыха?

Грышчыха. Так.

Кастрыцкі (*задаволена*). Слаўнага сына выгадавалі.

Саладуха (*праходзячы*). А Васіль Бушма куды спрытнейшы...

Грышчыха. Сыны мае родныя адцураліся старое маці... (*Да Кастрыцкага*). Ты не жартуеш, што ведаеш Андрэя?

Кастрыцкі. Ды не, бронь-божа... (*гамоняць паміж сабой*).

Саладуха (*да ўсіх*). Грамадзяне! Праснулася вялікая Расея. Паўстаў народ. Наступіла доўгачаканая свабода. (*Паправіў гальштук*). Але не даюць ёй жыць нашы ворагі немцы. Яны прыслалі ў запламбіраваным вагоне страшнага чалавека, які сее смуту на зямлі расейскай.

Галасы.— Гэта Ленін!

— Большэвік!

Кастрыцкі. Большы за Пятра Вялікага?

А. Бушма (*падыходзячы*). Куды там, хіба можна раўняць; кожнае слова Леніна—гэта бомба...

В. Бушма (*падыйшоўшы*). Замаўчы!

А. Бушма. На франтах, як мухі, гінуць людзі. Крывёю заліта зямля. Выйшлі з берагоў рэчкі, перапоўненыя чалавечаю крывёю. Там смерць, як здань, стаіць над чалавекам. (*Пауза*). Чалавек скаваны чалавекам; чалавек і скіне кайданы з чалавека.

Грышчыха (*падыходзячы*). Сынок мой, любы! (*Напужана*). Страшную байку баеш, дзеткі...

В. Бушма. Агіціруеш?

А. Бушма. Нікак нет, ваша благародзь! Чалавек скаваны чалавекам; чалавек і раскуе чалавека. Чалавек разаб'е чалавечыя кайданы.

В. Бушма. Немцам прадаўся...

А. Бушма. На гэтым коніку далёка не паедзеш, з'ездзіўся, падлападлаю.

В. Бушма (*да ўсіх*). Чорныя людзі, махляры, гандляры сусветныя, хочуць прадаць свабоду немцам, хочуць задушыць у муках народжаную рэволюцыю.

Грышчыха. То якая-ж, сынку, гэта рэволюцыя? (*Кашляе*). Ой не, няма парадку... (*Пауза*). Яно нібы й свабода, ды толькі праўды не відаць. Не-е... Няма праўды на свеце...

В. Бушма (*многазначна*). Праўды, шукаеце?! Ой, доўга прыдзецца шукаць, дый ці знойдзеце праўду!?

Грышчыха. Ой вы, сыны мае любыя, ды й вы людцы мілыя, паслухайце дзявочую горкую праўду. У гэнай праўдзе: радасць і слёзы, роспач і надзея, маладосць і сіла. Андрэйка! Васілёк! Сыны мае родныя, паслухайце Алеську, сястрыцу вашу, яна абодвых вас заве... абодвым рада...

Алеська (*спявае*). Прыедзь, прыедзь, братка, прыедзь, галубочак.
Прыедзь, галубочак, хоць раз у гадочак;
Прыедзь, галубочак, хоць раз у гадочак,
На адзін дзянёчак, хоць адзін часочак.

Грышчыха. Ды палыйдзіце вы да мяне, сыны мае...

А. Бушма (*падыйшоўшы*). Ну, як ты, маці?

Грышчыха. Працую, ды толькі з гэтай працы толку ніякага: хоць ты кій бяры ды торбу... Сілы не хапае на нагах трымацца... (*Пауза*). А ты як? Ці моцна на нагах стаіш?
А. Бушма. Ды так, нішто сабе: на абодвых.
Грышчыха (*аглядае, рада*). Прысадзісты...
А. Бушма. У прысцяжку непрыгодны.
Грышчыха. З норавам?
А. Бушма. І нораву ніякага.
Грышчыха (*песціць*). Па бацьку пайшоў, выліты Грышка... (*Да Васіля*). А ты, Васіль, не ведаю, па кім удаўся, зносак нейкі... (*Пауза*). Ах вы, галоўкі мае любыя... Ніколі не думала, што тут сустрэну... (*Пауза*). Пястуны мае любыя, успаіла, ускарміла аднымі грудзьмі, а цяпер ваўкамі глядзіце адзін на другога. (*Глядзіць на Васіля*). Ды падыйдзі ты, сысун, ла трох год матчыны грудзі смактаў... Ці мо' няёмка афіцэру, маці ў лахманах...
В. Бушма (*падыходзячы*). Ды што вы, мама?
Грышчыха. Як былінка, сынку, ты адзін адзінёханек... Глядзі, як скоса пазірае народ на цябе, панам стаў...
В. Бушма. Няпраўда!
А. Бушма. Праўда!
Грышчыха. Няпраўда з праўдай заўсёды ў сварцы... Сварыцеся, сынкі мае, толькі не з народам... Народ, што мядзведзь, любіць ласку; пасварышся з ім, хрыбет пераломіць... На чым баку праўда, на тым і народ... народ праўду любіць.
В. Бушма (*да А. Бушмы*). Здарова!
А. Бушма (*становіцца ва фронт*). Здравія жэлаем, ваша дзітства!
В. Бушма (*пакрыўджана*). Андрэй! Я думаў, што з цябе людзі выйдуць, аднож...
А. Бушма (*перабівае*). Васіль! І я думаў, што з цябе людзі выйдуць, аднож... афіцэр.
Саладуха (*да В. Бушмы*). Пан афіцэр! Вы забылі свой доўг перад краінай, перад рэволюцыяй. (*Да ўсіх*). На франтах фантанам льецца кроў храбрага рускага воінства... Я, можна сказаць, праз рэволюцыю зачыніў сваё паштовае ведамства... Я, як рэволюцыянер, выконваю свой доўг... Я...
Люся (*да Саладухі*). Сяргей Сяргеевіч! Няўжо вы забылі свой доўг! Ганіце манету!
Саладуха. Пачакай, Люсенька; я заняты рэволюцыяй... (*Да ўсіх*). На франтах льецца кроў...
А. Бушма. І за гэту кроў вы адказваеце...
В. Бушма. Так. Мы адказваем. Адказваюць усе тыя, каму дарага рэволюцыя, свабода, роўнасць, брацтва.
А. Бушма. Свабода?! Каму свабода, а каму кайданы... (*Да Саладухі*). Пане Саладуха, займаліся-б вы лепей сваім паштовым ведамствам, а не рэволюцыяй... А то ўчора з жандарам у абдымку...
Галасы.—А сёння з „Марсельезай“ на губе!
— І з чырвоным банцікам!
Саладуха. А сёння хоць з чортам лысым, ды не з вамі...
А. Бушма. І ўчора, і сёння як быў трутнем, так ім і застаўся.
Грышчыха. Прызнацца, Андрэй праўду кажа.
А. Бушма. І на фронце, і ў тылу кішмя-кішаць трутні, якія паядаюць здабытак чалавека. Зністажайце трутняў, лягчэй будзе жыць чалавеку.
Голас. Трэці званок! Цягнік ідзе на Менск!

Саладуха (*да В. Бушмы*). Дазвольце далажыць! У палку заўважана прысутнічанне большэвіцкіх агітатараў. Полк узбунтаваўся. Адмаўляецца ехаць на фронт.

В. Бушма. Зараза!

А. Бушма. Гэтай заразе няма межаў...

В. Бушма. Усяму ёсць мяжа. (*Выхватвае рэвольвер, да Андрэя*). Вы арыштаваны! (*Падыходзіць салдат з вінтоўкай напагатове. Вядзе Андрэя*).

Галасы.—Брат брата!

— На тое рэволюцыя!

— Трутні арудуюць!

Грышчыха. Сынок мой любы... Цар з завода ўзяў, пасадзіў, а потым на фронт паслаў, а цяпер брат садзіць... Мо' зноў на фронт? Не ідзі! Не пушчў!

В. Бушма. Адыйдзі, маці!

Грышчыха (*праз слёзы*). Хто з вас сын? Адракліся абодва, каму патрэбна старая маці... Хоць ты век укараці... (*Праз слёзы*). То хто мае рукі зложыць?.. То хто мае косці прыгорне?., Хто... (*З усіх канцоў бягуць рабочыя, салдаты, гоман павялічваецца*).

Кастрыцкі (*замахнуўся кастылём*). У-ух, ты! Дзяржыморда! На плячах пагоны, а на карку качан...

Генерал (*бяжыць наперад, ногі цягнуць назад*). Што-о? Бунт? Мяцеж? У-ух, бандзіты! (*Да салдата*). Вярні назад! Чуеш, каму кажу! (*Страляе*).

Кастрыцкі (*да генерала*). А гэтаму чучалу гарохаваму, галаву далоў... (*Падбягаюць салдаты, матросы*).

Галасы. — Іш ты, штабная крыса!

— Вядзі яго ў штаб!

— Што?

— Гроб яму тут!

Матрос (*падбягаючы, крычыць*). Сто-о-ой! (*Усе застанавіліся*). Брацішачкі! (*Усе загаманілі*). Прапаную... вывесці ў расход!

Галасы. У расход!!! (*Паднялі на штыхах генерала, другая група разбурае помнік. Саладуха трусліва ўцякае*).

Кажамяка (*адзін*). Э-эх, каб мне рукі...

В. Бушма. Разлічана з матэматычнай дакладнасцю. Геніяльна арганізаваны бунт. (*Да Андрэя*). Ну што-ж, арыштоўвай...

Грышчыха. Андрэйка! не трэба.

Голас (*рабочага*). Таварыш Крыленка з сваімі часткамі ўступае ў горад.

В. Бушма. Гм... Прыехалі маскоўскія камісары рэволюцыю рабіць... Не выйдзе...

Саладуха (*трусліва*). Васіль Рыгоравіч! Гэта-ж генерала Духоніна паднялі на штыхах... Я лічу, што мой доўг зачыніць паштовае ведамства... (*Чутна песня рэволюцыйных войск*).

Грышчыха. Як хараша спяваюць, ажно люба слухаць.

Саладуха (*да В. Бушмы*). Чуеце, як ціхім поступам крочаць сталёвыя каскі...

Грышчыха. Не сталёвыя каскі, а нейкія новыя людзі... Якая гордасць, непакорлівасць і сіла адчуваецца ў іхных песнях...

В. Бушма. Ды ну вас!.. (*Пайшоў, а за ім Саладуха*).

Грышчыха. Як не запрог, то не нукай... (*Адна*). На чым баку праўда, на тым і народ... народ праўду любіць.

### КАРЦІНА III

Маёнтак „Прысады". Садовыя прысады далёка ідуць у глыбіню. З расчыненага акна раскошнага старадаўняга замка даносіцца музыка, баль у разгары, гэта апошняя лебядзіная песня магнатаў. Расчыняецца шкляная веранда, відаць скульптурныя статуі, розныя мастацкія карціны, партрэты Гучкова і Мілюкова.

Радзівіл (*выходзіць на веранду*). О не, не! Ніяк не магу згадзіцца. Трэба было выкарыстаць ідэю братання, а не лезці на ражон... Так?

Святаполк-Мірскі (*нервуецца*), Як-жа так, калі сама ідэя мне чужая...

Радзівіл. Ідэя братання гэта толькі форма... Трэба было стаць на чале братання і выкарыстаць у сваіх мэтах... (*Пауза*). Чорт ведае, чаму толькі нас вучылі...

Радзівіліха (*нездаволена*). Казімір!

Радзівіл. Браніслава! (*Растлумачваючы*). На старасці год прыходзіцца браць зброю, іначай... хам'ё не дасць супакою. (*Крычыць*). Аркашка!

Аркашка (*увайшоўшы*). Што прыкажаце?

Радзівіл. Прынясі мой мундзір!

Радзівіліха (*напужана*). Казімір! Што скажа Стася? Дзе тваё слова? Ты абяцаў толькі на яе вяселлі адзець мундзір...

Радзівіл. Ідэя! Заадно і вяселле адгуляем... (*Да Святаполк-Мірскага*). Так?

Радзівіліха. О, божа!

Радзівіл (*цвёрда*). Прынясі мой мундзір!

Аркашка. Слухаю!

Саладуха. Вітаю мужнасць генерала! Я таксама зачыніў сваё паштовае ведамства...

Святаполк-Мірскі (*да Радзівіліхі*) Прашу благаславення...

Радзівіліха. О божа, міласцівы!.. Благаслаўляю...

Святаполк-Мірскі (*падыходзіць са Стасяю да Радзівіла*). Прашу рукі дачкі вашае...

Радзівіл. Галубчык, даўно пара...

Голас. Горка!

Аркашка (*выносіць мундзір і зброю*). Калі ласка!

Радзівіл (*адзяе мундзір*). А як клінок?

Аркашка. У поўнай спраўнасці!

Радзівіл (*узяўшы ў рукі клінок, камандуе*). Устаць! Сам гасудар імператар і самадзержац усерасійскі, цар польскі, вялікі князь фінляндскі, князь тмутараканскі і прочая, і прочая, і прочая, падараваў мне за ўдзел у падаўленні „вялікага мяцежа" пятага года.

В. Бушма. Казімір Вініамінавіч! Рэкамендую генеральскія адзнакі зняць, іначай...

Радзівіл (*махнуў рукой*). Не так страшан чорт, як яго малююць...

В. Бушма. Учора на вагзале, на маіх вачах, паднялі на штыхах генерала Духоніна...

Стася (*прыціскаецца да Святаполк-Мірскага*). О божа, якая дзікасць!

Радзівіл. Дзікая, але пачэсная смерць!

Аркашка (*увайшоўшы*). Генералы: Дзенікін, Карнілаў.

Радзівіл. Прасі! (*Выходзіць наперад*). А-а, калегі... (*Вітаецца*). Прашу садзіцца. Аркашка, кахецінскага!

Дзенікін (*да Радзівіла*). Пульсуе сэрца рускага салдата...

Радзівіл. Кроў загаварыла, мілы мой... Учора Духоніна, як гэта...

В. Бушма (*дапамагае*). Вывелі ў расход...

Радзівіл. Н-да... Вывелі ў расход... Духонін памёр, як салдат слаўнай рускай арміі... Панове! Пачцім памяць аб ім уставаннем... (*Усе ўстаюць*).

Карнілаў. У горад уступіў рэволюцыйны галоўкаверх Крыленка... Паглядзім, як ён накамандуе... Малакасос... Ха-ха-ха!

Саладуха (*падыходзіць да генералаў*). Дазвольце прадставіцца. Саладуха... (*Вітаючыся*). Гэта мая партыя падрыхтавала вам пабег з Быхаўскай турмы... Ну, а я, можна сказаць, праз рэволюцыю зачыніў сваё паштовае ведамства...

Карнілаў. Маладзец!

Саладуха. Рад старацца!

Карнілаў. Крыленка нарабіў спраў... Там, дзе ён прайшоў, узнялася хваля бунтаў, мецяжу...

Радзівіл (*налівае*). Эт... (*Заспяваў, усе падхвацілі: „Проведемте, друзья, эту ночь веселей“*).

Дзенікін. Сям'я наша, панове, хто ў лес, хто па дровы... А між тым, маці-святая Русь на валаску ад смерці...

В. Бушма. Дыягназ усім вядомы, ды чым лячыць?

Дзенікін. Рэцэпт адзін: бізун, ярмо і моцны дыктатар.

Карнілаў. Скалануць-бы Піцер, каб аж моташна стала... Чумы туды, ці што...

Аркашка (*ўвайшоўшы*). Пан Скірмунт!

Радзівіл. Прасі!

Скірмунт (*увайшоўшы*). Генерал Радзівіл у паход сабраўся... Віншую! (*Да Карнілава і Дзенікіна*). А-а, слаўныя палкаводцы зямлі рускай... Ведаеце, нам-бы цяпер Напалеона... Э, што Напалеон, свайго-б Леніна, такога, ведаеце, з мазгой чалавека... Іначай большэвікі, як мурашкі, распаўзуцца па ўсім свеце. О, гэта ленінскае племя, будзь яно праклята...

Радзівіл. Пане Скірмунт, сядайце!

Скірмунт (*садзіцца*). Цяпер не пан я, а жабрак...

Радзівіліха (*напужана*). Што вы?

Усе. Што здарылася?

В. Бушма (*зусім п'яны*). Мая маці даўно збіраецца кій ды торбу ўзяць. І хоць бы хны...

Радзівіліха. Васіль Рыгоравіч! Хны—гэта па французскі?

Саладуха (*растлумачваючы*). Ды не, па блатному...

Радзівіліха (*паглядзеўшы на В. Бушму*). О, божа...

Скірмунт. Застаўся, як стаю... Куды ісці і што рабіць, не ведаю... (*Пауза*). Як прайшоў Крыленка, то пачаўся грабеж, мой маёнтак раскідалі ўшчэнт... Узглаўляе банду нейкі Андрэй Бушма...

В. Бушма. Андрэй Бушма? Гм... Мой брат, стаў бандытам; ён горшы вораг мой...

Стася (*увaходзячы*) Будзем піць, весяліцца... На вяселлі не павінна быць суму... Музыкі! (*Зайгралі вальс, госці пайшлі танцаваць, у гэты час заходзіць Андрэй Бушма з групай былых салдат, старых і маладых сялян*)

А. Бушма. А-а, вось яно, асінае гняздо... (*Усе кінуліся ўцякаць, бягуць сяляне з косамі, сярпамі*).

Галасы.—Стой!
—Гады!
—Не ўцякай!
—Сто-о-ой!

Стары дзед (*убегшы*). Разбегліся... (*Садзіцца да стала, пачынае піць*).

Селянін (*набраў розных рэчаў, ледзь панесці, падыходзіць да статуі, хоча браць*). А гэта што за яна?
Аркашка (*растлумачваючы*). Венера Мілоская.
1-шы салдат. Бі яе гадаўку, каб не распаўсюджвала заразу...
Кастрыцкі (*угаварвае*). Не чапайце, хлопцы... А можа гэта мастацтва якое... Трэба Андрэя запытаць.
2-гі салдат. А красуня якая... Не была-б то Венера.
1-шы салдат (*зрывае партрэты Гучкова і Мілюкова*). У-ух, гады!..
Стары дзед (*прабуе з усіх бутэлек*). А, браткі, адна другой смачней... (*Усе ўсаджваюцца за стол, п'юць, закусваюць*).
Селянін. Аркашка, цягні сівухі!
Аркашка. Слухаю!
Селянін. Папробуй не паслухаць!
Стары дзед. Накінуліся, нібы галодныя ваўкі... Гэта-ж анархія...
Селянін. Енархія!? Пусці! Сам глынуў, дай другому...
Аркашка (*нясе гарэлку, закуску*). Піце, хлопцы!
1-шы салдат. Малайчына, Аркашка! (*Налівае*). Давай вып'ем!
Аркашка. Мы не п'ючшчыя...
Стары дзед (*з хітрасцю*). А хлебам макаючыя... Так, ці што?
Аркашка. Не-е...
Стары дзед (*паднімае чарку*). Па адной ..
Аркашка. Э, так і быць...
Стары дзед. Гэй, музыкі без'языкі, грайце.
Селянін. Грайце, а не—грошы аддайце!
(*Зайгралі „Лявоніху" ,усе пашлі танцаваць*).
Стары дзед (*танцуе, седзячы на кресле і прыпявае*).

„А Лявоніху Лявон палюбіў,
Лявонісі чаравічкі купіў..."

Грышчыха (*увайшоўшы, каля дзвярэй*). З дарогі збілася... бушуюць ветры буйныя, маланка бліскае, гром грыміць... боязна неяк у дарогу йсці.
Аркашка. Куды трымаеш шлях?
Грышчыха. На запалкавую... часам, ці няма работы.
Аркашка (*махнуў рукой*). Валяй! Заўсёды: з вялікага грому, малы дождж... Не да цябе тут..
Стары дзед (*як гаспадар*). Хто там?
Аркашка (*да Старога дзеда*). Нейкая ў лахманах; відаць жабрачка-с...
Грышчыха. Што-о?
Стары дзед. Прасі!
Аркашка (*да Грышчыхі*). Міласці просім да стала...
Грышчыха (*нясмела падыходзіць*). Не выпадае неяк...
Стары дзед (*важна*). Ты хто? Скуль будзеш?
Грышчыха. Тутэйшая я, паночку. (*Пауза*). Што ў лахманах, то так, ды толькі не жабрачка я.. з фабрыкі знялі, а жыць-жа хочацца...
Стары дзед (*хавае лапці, хацеў наліць чарку, але рукі адмаўляюцца служыць*). Аркашка! Налівай, гэта самая дарагая наша госця...
Аркашка (*налліваючы*). Слухаю!
Грышчыха (*да Старога дзеда*). Ты што-ж, госць ці гаспадар?
Стары дзед. Знацца, буду гаспадаром. Вось гэтыя палацы рабіў мой бацька, яго бацька.,. Унь той сад я садзіў... Хлеб ямо: ён таксама нашымі рукамі пасеян, зжаты і змалочан... Дык хто тут будзе, знацца, госць і хто гаспадар?
Селянін (*завіхаецца есці*). Выходзіць, што ты...

Стары дзед. Не ты, а мы... Мы тута, знацца, гаспадары... от што! А таму, знацца, садзіся і будзь сама сабе гаспадыней... Так, так. (*Да Грышчыхі*). А калі-б і жабрачка: кія і торбы не заракайся... (*Паказвае на селяніна*). Бачыш, накінуліся на ўласнае дабро, як галодныя ваўкі... Ён цягне, глуміць... я цягну, глумлю... А вось прыдзе, знацца, Андрэй Бушма, ён прапіша такую іжыцу...
Грышчыха (*рада*). Андрэй Бушма? Мой сын? Ён тут?
Стары дзед (*устае*). Што-о? Андрэй Бушма твой сын? Ты такі праўду кажаш?
Грышчыха. Праўду. Андрэй і Васіль—сыны мае, ды толькі непакорлівыя яны абодва... Найшла каса на камень... А хто з іх праў і хто вінават, то бог іх ведае...
Стары дзед. Цябе, знацца, за такога сына, як Андрэй, расцалаваць мала... За Андрэем ты будзеш, знацца, красавац на покуці... От што! (*пауза*). То просіма на покуць!
Усе. Просіма! Просіма!
Аркашка. Я мёду прынясу!
Стары дзед. Во!
Галасы— Куды дзенешся!
— Не ўцячэш!
— Ух, залатапагоннікі!
Стары дзед. Вядуць гадаў... (*Уваходзіць Андрэй Бушма з групай салдат і сялян; яны прывялі: Святаполк-Мірскага, В. Бушму, Скірмунта і Радзівіліху*).
А. Бушма (*да Старога дзеда*). Што гэта?
Стары дзед (*ледзь стаіць на нагах*). Так што, знацца, крыху падмацаваліся...
Аркашка (*да Радзівіліхі*). Я ні пры чым, мяне заставілі піць... Дый як не выпіць за маці Васіля Рыгоравіча.
Радзівіліха (*да В. Бушмы*). Гэта ваша маці?
В. Бушма (*цяжка*). Няма ў мяне маці..
Грышчыха. Сынку...
В. Бушма. Мая маці не такая...
Грышчыха. Васілёк, любы, сонейка маё, ты не пазнаў мяне?
В. Бушма. Мая маці, не папытаўшыся не возьме ў рукі чужога хлеба...
Грышчыха (*кладзе хлеб*). Дзеткі мае, ці паверыш, другі тыдзень ў вочы хлеба не бачыла, не каштавала... з фабрыкі-ж мяне знялі, бо маладзейшым ды спрытнейшым няма дзе рук прылажыць...
Стары дзед. Хто сказаў, што мы ямо чужы хлеб? Гэты хлеб наш, ён здабыты ось гэтымі рукамі.
В. Бушма. Дурніца! На чужы каравай рота не разяўляй...
Стары дзед (*замахнуўся*). Ах ты! (*Плюнуў*). Не хочацца толькі рук смуродзіць...
Радзівіліха (*да старога дзеда злосна*). Свінушнік тут, ці што?
Стары дзед. Маўчы!..
Грышчыха (*плача*). Ты адрокся свае маці?
В. Бушма. Чуеш, няма ў мяне маці... мая маці—мая ідэя...
А. Бушма (*да Грышчыхі*). Чуеш маці: ідэя—гэта бліжэйшая радня, яна зближае чалавека з чалавекам... (*Да В. Бушмы*). Ды толькі ў цябе няма ніякай ідэі. Твая ідэя—твая шкура; твая шкура даражэй усякай ідэі.
В. Бушма. Мая ідэя—мая маці.
Грышчыха. Сынок...
В. Бушма. Няма ў мяне маці... мая маці—мая ідэя.

А. Бушма (*да 1-га салдата*). Адвесці іх у павет!

1-шы салдат. Слухаю (*да арыштаваных*). Кругом! марш! (*Усе моўчкі выходзяць*).

А. Бушма. Вы, дзед, і ты мама, застанецеся тут гаспадарыць. І работы, і хлеба хопіць з вас; глядзіце, як за сваім. Мы хутка звернемся.

Грышчыха. Абы хлеб, а работа не страшна. (*Да Старога дзеда*). Хоць на старасці пажывом. (*Пауза*). Болей не пайду я па свеце цягацца.

А. Бушма. Ну... (*Глядзіць на селяніна*). Скажыце, навошта ўсё гэта вам?

Селянін (*п'яны*). Не чапай, маё! Пра чорны дзень... Запас бяды не чыніць. (*Смех*).

А. Бушма. Ну...а нам трэба генералаў злавіць, іначай, наробяць бяды.

Стары дзед. Ой, не! Так нікуды не годна. Хоць па чарцы...

А. Бушма. Так і быць... давай! Толькі не панскія аб'едкі...

Стары дзед. Тут і без аб'едкаў хваціць. . (*Налівае*). Музыкі! А каб, на вас немач.,. Грайце нашу (*Выпілі па чарцы*).

А. Бушма. То бывайце! Мы пайшлі... Трэба генералаў злавіць, іначай яны зноў вернуць бізун і ярмо, ды які-небудзь дурань паганяць будзе.

*Заслона.*



## АКТ ДРУГІ

### КАРЦІНА IV

Сутарэнні старога дома. Унізе размешчана друкарня, уверсе рэдакцыя газеты „Буревестник". Відаць сілуэты друкароў, якія набіраюць запальныя і неўміручыя словы большэвіцкае праўды. Славін праглядае пошту, удумліва ўчытваецца ў кожнае слова, падкрэслівае паасобныя сказы.

Борух (*увайшоўшы*). Першая старонка „Буревестника" зверстана.

Славін. А шапка дзе?

Борух. Шапкай пойдзе: „Уся ўлада Советам", „Вайна вайне" і „Мір хіжынам, вайна дварцам".

Славін. Добра.

Борух. Добрая галава, добрая й шапка. (*Пауза*). З „Правды" ўзяў.

Славін. А на фронце бурліць жыццё. (*Дае тэлеграму*).

Борух (*бегла чытае*). Франтавікі з намі. А „соцыялісты" розныя, як меншавікі, бундаўцы і прочая, і прочая, устаўляюць палкі.

Славін. Хто-ж бы дзятла пазнаў, каб не яго доўгі нос...

Борух. Толькі вёска дрэмле...

Славін. О, не! узварухнулі, браце, цаліну... Узнялі чарназём... Надоечы лавінай ішлі ў сялянскіх світках... О, не! Не верна, што вёска дрэмле... (*Пауза*). Але, як падумаю, работы, работы ў вёсцы...

Борух. Усё-ж, каб не падвялі гэтыя сялянскія світкі...

Славін. У світках розныя бываюць людзі... (Уваходзяць стары дзед і Грышчыха).

Стары дзед (*зняўшы шапку мнецца ля дзвярэй*). Рэўкому можна бачыць?

Борух (*усміхаючыся*). Якую табе рэўкому?

Грышчыха (*да Старога дзеда*). Чакай...

Стары дзед (*да Грышчыхі*). Пастой... Першае слова маю я, патаму, знацца, старшыня Камбеду...

Славін (*устае*). Старшыня Камбеду?

Стары дзед. А-а-ле!

Славін. Здароў стары!
Стары дзед (*вітаючыся*). Здароў, брацішка!
Славін (*усміхнуўшыся*). То, што скажаце? Брацішка?
Стары дзед. От што: народ вясковы вітае рэўкому, ад шчырага сэрца вітае. Толькі...
Славін. Што?
Стары дзед. Баіцца народ гэтай самай комуніі...
Славін. І ты, дзед, яе баішся?
Стары дзед (*мнецца*). Як той казаў... яно ведама .. (*Пауза*). Скажы, ты сапраўдная рэўкома, ці не?
Славін. Я рэдактар газеты „Буревестник".
Стары дзед. А-а-а... Так бы й казаў... (*Збіраецца выходзіць*). Тады няма чаго язык мазоліць...
Грышчыха (*да Старога дзеда*). Пачакай...
Стары дзед. Эт... Я, можна сказаць, рэволюцыю рабіў... (*Пауза*). А ён, падумаеш, рэдактар...
Борух. Рэволюцыю рабіў?
Стары дзед. Рабіў... Кіраваў намі Андрэй Бушма...
Грышчыха. Толькі вось, зайходзіць неяк да нас Васіль Бушма дый кажа, што: „Большэвікі пратрымаюцца не болей як месяц ці два, дый капут ім будзе", то скажыце вы мне, дарагі таварыш рэдактар, ці доўга вы думаеце трымацца дый каму верыць—Андрэю, ці Васілю?"
Борух. Большэвікі ўсур'ёз і надоўга ўзялі ўладу. Іначай—чаго пэцкацца...
Славін. Недачакацца Васілю, пакуль будзе „капут" большэвікам... Не-е...
Стары дзед. Недачакацца? От, гэта добра!
Славін (*да Грышчыхі*). Ён старшыня камбеду, а вы хто?
Грышчыха. На запалкавай працавала, ды потым звольнілі, узялі з маладзейшых, спрытнейшых... Дажылася да таго, што хоць ты бяры кій ды торбу... А цяпер, нібы гаспадыня...
Борух. На запалкавай?
Грышчыха. Ага. З тых пор, як памёр мой чалавек, Грышкам празвалі яго, то дрэнна мне стала, чалавеча, жыць на свеце, не люба ўсё і свет не міл; хацела, была, рукі налажыць, ды сорамна стала самой. Грышка мой меў залатыя рукі, ды чортаў характар; добрым быў парабкам, але не згібаўся перад панам, шапкі не знімаў.
Борух. Малайчына стары!
Грышчыха. Паехалі гэта мы з Грышкам ды дзеткамі малымі ў Піцер, работы шукаць.
Борух. Іш ты, дасціпны стары...
Грышчыха. На пуцілаўскім працавалі. Перабіваліся неяк з горам папалам, ды вось у час вайны знялі майго Грышку з працы разам з меншым сынам Андрэем, як крамольнікаў нейкіх ды смуцьянаў. Многа іх тады знялі. Андрэя, як ведама, на фронт, а старога, майго чалавека, на ўсе чатыры... І сталі мы, як той казаў, валацугамі. Доўга цягаліся па свеце, ледзь-ледзь, як той казаў, шоры цягалі, а як памёр мой стары, то яшчэ горш стала жыць на свеце. Горка ўспамінаць пра гора людское, горка і апавядаць пра яго, але як выльеш яго каму-небудзь, то неяк лягчэй становіцца на сэрцы, дый жыць весялей...
Борух. Правільна, старая!
Грышчыха. А цяпер аб дзецях. Хто дзяцей не мае, той гора не знае!

Борух. Э-эх, от яно што...
Славін. Ай-да старая...
Грышчыха. Трое іх у мяне: Андрэй, Васіль і Алеська. Афіцэра, Васіля Бушму, які біўся з атрадам Крыленка, напэўна, ведаеце?
Борух *(нездаволена)*. Чу-у-лі...
Грышчыха. Радавы-ж, Андрэй Бушма, што на пуцілаўскім слёсарам працаваў, паноў ды генералаў б'е. А хто з іх праў і хто вінават, то хто яго ведае?
Борух. Ясна, што Андрэй.
Грышчыха. Табе ясна, а мне не зусім.
Славін. Ну, пажывем далей, убачым болей... *(Пауза)*. Адно толькі я магу сказаць, што Андрэй усё робіць для таго, каб не было ні бедных, ні багатых... Каб усім, хто працуе, добра жылося...
Стары дзед. Яно так. Толькі вось комунія.
Славін. Комунія? Комунія, дзед, добрая справа.
Стары дзед. Дык і я-ж гэта кажу, толькі вось боязна неяк *(збіраецца выходзіць)*. Усё ж, дзе тут рэўкома?
Борух *(паказвае.)* Унь, на рагу! *(Выходзяць)*.
Славін. Заўтра даем паласу па сялянскаму пытанню.
Борух. Абавязкова!

(Уваходзяць Скірмунт, Рудштэйн, В. Бушма, Саладуха).

Скірмунт. Таварыш Славін! Схіляю галаву перад геніяльна арганізаванай змовай, але Беларуская соцыялістычная грамада вымушана пратэставаць супроць незаконнага захопу ўлады.
Славін *(усміхаючыся)*. Уладу ніхто не дае, уладу бяруць. *(Пауза)*. Уладу ўзялі рабочыя, яна ім належыць.
Рудштэйн. Хто даў вам права выступаць ад імя рабочых. Я пратэстую... Яўрэйскія рабочыя не давалі вам гэтага права... Самазванцы...
Борух. У-га-га... *(Чухае бараду)*. Мо зноў аб'яднанку майстраваць?
Скірмунт. Мы пратэстуем...
Рудштэйн. Яны выступаюць ад імя рабочых!?
Борух. Н-да... Скажыце, Рудштэйн, ад імя каго вы выступаеце?
Рудштэйн. Ад імя яўрэйскіх рабочых...
Борух *(да Славіна)*. Слухай, я пазваню... У вас, здаецца, на Бялэваку пацукі развяліся... хлеб цягаюць.
Рудштэйн. Што? Званіць? Я так і казаў, што яны будуць пужаць... *(Да Славіна)*. Слухайце! Вы оптам і ў розніцу прадаеце свабоду немцам... Сталёвыя каскі з маланкавай хуткасцю займаюць сёлы ды вёскі, мястэчкі ды гарады... Стогнуць людзі, стогнуць лясы і балоты, стогне маці свабода... Чуеце іх мерны, але цяжкі поступ...
В. Бушма. Маскалі,—як хочуць, а наш край павінен быць незалежнай старонкай; наш народ павінен стаць вольным... Ад імя майго народу, пасланцом якога і з'яўляюся я, выношу свой пратэст...
Скірмунт. Чуеце, ці вы аглухлі: наш край павінен быць вольным...
В. Бушма. Меншавікі расцэньваюць захоп улады большэвікамі, як змогу кучкі прахадзімцаў...
Саладуха. Эсэры далучаюцца да меншавікоў.
Рудштэйн. Бунд далучаецца да эсэраў.
Скірмунт. Грамада далучаецца да Бунду.
Борух *(паціскае плячмі)*. Бабка за дзедку, дзедка за ўнучку, ўнучка за Жучку... Ой, які вінігрэт...
Славін *(паглядзеў на ўсіх)*. Нутром вы псы, а звонку трусы.
Рудштэйн. Мы пратэстуем.

Славін. Жывыя пакойнікі, што на корані гніюць... За трыдзевяць зямель нясе смуродам псіны...
В. Бушма. Не хавайце раней смерці...
Славін. О, не! Вам на раду напісана доўга жыць... Каб з карэннем вырваць гэта пустазелле, трэба многа часу і турбот.
Скірмунт. Яшчэ паглядзім, хто будзе болей жыць...
Славін. Ого, вы ў целе: гаспадары вашы з мясам кідаюць вам костку.
Скірмунт. Вы майстра слоў...
Славін. І вы майстра спраў.
Скірмунт. Мы разыйшліся...
Славін. Гм... Ніколі не сыходзіліся... Дарогі нашы розныя...

(*Звоніць тэлефон*)

Борух. Алё! Слухаю. Каго? Славіна? Передаю трубку.
Славін. Я слухаю. Славін. Ну? Адкуль? Абласнога бюро? Што? Паседжанне пачалося. Што? Мае пытанні? Так. Ёсць. Ну добра Еду? Якія? Трэба пагаварыць аб буржуазных партыях. Дакуль мы будзем з імі цацкацца. Пустазелле з поля вон... (*Вешае трубку*). Наш шлях не лёгкі: то над крутым абрывам, то на цянькі, то паміж балот, лясоў кудравых... але мы дойдзем, бо ведаем, куды ідзем. (*Пауза*). Вы-ж—як былі лёкаямі, так імі і засталіся... А лёкайская група да соцыялізму тупа... Бывайце!
Усе (*выходзячы*). Мы пратэстуем...
Славін (*адзяючыся*). Усяго добрага!
Борух. І як іх толькі зямля носіць?
Славін (*выходзячы*). От носіць да пары, да часу.

КАРЦІНА V

Зала паседжанняў ураду БНР. На сцяне герб „Пагоня" упрыгожана вела-чырвона-белымі сцягамі, вылучаюцца лозунгі „За незалежнасць Беларусі", „Загляне сонца і ў наша ваконца". Чуваць музыка. Праходзяць палкі нямецкай конніцы. На балконе: Скірмунт, Радзівіл, В. Бушма, Саладуха і Святаполк-Мірскі

Скірмунт. Гарцуюць...
Радзівіл. А пасадка, адна пасадка чаго варта...
В. Бушма. Арлы...
Скірмунт. Культура ўсюды сказваецца...
В. Бушма. Ды што там, цывілізацыя...
Скірмунт. (*прыглядаецца*). Браткі, сам Шмідт!
Саладуха (*праціскаецца наперад*). Дзе?
Радзівіл (*не пускае*). Ды не лезь ты раней бацькі на віселіцу...
Саладуха. Каторы?
Скірмунт. Ун, на вараным...
Саладуха (*крычыць*). Віват!
Усе. Ві-ват! Ві-ва-а-ат!
Скірмунт. Застанавіўся...
Саладуха. Прыглядаецца...
В. Бушма. Падняў бізун...
Саладуха. Пастрашыў...
Скірмунт (*напужана*). Цэ цэ... Куды ён ківае?..
Саладуха. І памчаўся...,
Скірмунт. Цэ-цэ... Выходзіць, што з Берліна да Масквы бліжэй, чым з Масквы да Берліна... (*Садзіцца ў глыбокім крэсле, звоніць*).
Аркашка (*увайшоўшы*). Што прыкажаце?
Скірмунт. Пазаві пісара.

Аркашка. Слухаю!
Скірмунт (*разважаючы*). Адносна пазычкі, здаецца, разаслалі ўсім...
Пісар (*увайшоўшы*). Што, зноў пазычка?
Скірмунт (*уласным голасам*). Цэ цэ... Пішы...
Пісар. Ды нам што, мы можам пісаць.
Скірмунт. (*дзіктуе*). „Яго імператарскай вялікасці Вільгельму II. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, як выбранае прадстаўніцтва беларускага народу, звяртаецца да вашай імператарскай вялікасці са словамі глыбачайшай падзякі за вызваленне Беларусі нямецкім войскам з цяжкага ўціску чужога пануючага здзеку і анархіі... Толькі пад абаронаю Германскай імперыі бачыць край сваю добрую долю ў будучыне“...
Пісар. О, хіба гэта дапаможа...
Святаполк-Мірскі. Не-е... Лепей за ўсё, гэта—лес, пянька, шкло масла, гусі, лён, бульба... На гэта яны хутчэй паквапяцца... А іначай—недачакацца падтрымкі... (*Да пісара*). Усё ж прыпішы адносна пазычкі...
Аркашка (*увайшоўшы*) Дазвольце далажыць!
Скірмунт. Ну?
Аркашка (*паказвае пашыты гарнітур*). Бачыце?
Скірмунт. А ну, адзеньса.
Аркашка. Неяк сорамна... (*Адзяе*). Каб крыху, дык енерал, ці то мінісцер, ды толькі не слуга...
В. Бушма (*аглядае*). Люблю парадак!
Радзівіл (*да Аркашкі*). А як з прадуктамі?
Аркашка (*нездаволена*). Хіба даступішся за гэтай немчурой... Усё скупілі... а болей за ўсё так узялі. І ніякага табе ўраду, а ўсе слухаюць... О, гэта парадак!
Скірмунт (*устае*). А што калі яны візіт зробяць?
Радзівіл. Чаго добрага яшчэ дэлегацыю прышлюць.
Скірмунт. Тады мы ў галёшы...
Радзівіл. Аркашка, вывозь... а то могуць папсавацца дыпламатычныя ўзаемаадносіны.
Аркашка. Што я магу зрабіць, калі ніхто не дае напавер...
Скірмунт. А ты пазычку...
Святаполк-Мірскі. Аркашка! Беларусь—лес, пянька, запалкі і прочая, і прочая.
Аркашка. Э, тады другі інтарэс...
Святаполк-Мірскі. То, то! Старайся, у міністры выб'ешся...
Аркашка (*выходзячы*). Верай і праўдай служу...
Скірмунт (*да Радзівіла*). Ну як, дастане?
Радзівіл (*паціскае плячмі*). Павінен дастаць.
Скірмунт. Тады закоцім пір на ўвесь мір... Хай ведаюць немцы, пачом хунт ліха...
В. Бушма. А што, як не дастане?
Радзівіл. То што?
В. Бушма. Заспакойвацца нельга, вось што! (*піша і голасна чытае*).
„Тэлефонаграма. Булак-Балаховічу.

Гэтым маю гонар паведаміць вас, што Старшыня Рады міністраў БНР мяркуе ваш атрад прыняць у склад войска БНР і праізвесці вас у чын генерал-майёра.

Паведаміце, як у вас з давольсцвіем. У нас, у сувязі з прыходом немцаў, адбываюцца перабоі. Можа падкінеце што небудзь з рэквізаванага для пракармлення ўраду. Як можаце, то зрабіце сёння-ж і як найхутчэй.

Прыміце завярэнне ў вялікай да вас пашане
Палкоўнік В. Бушма".

Скірмунт (*задаволена*). Геніяльна! (*Звоніць*).
Пісар (*увайшоўшы*). Што прыкажаце?
В. Бушма. Зараз-жа дастаўце гэту тэлефонаграму.
Пісар (*выходзячы*). Слухаю!
Святаполк-Мірскі (*аглядае гарнітур*). З ім можна ў людзі выйсці... (*Прымярае*). Крыху цеснаваты...
Радзівіл (*прыглядаецца*). Ідуць...
Саладуха. Што ты кажаш?
Радзівіл. Ага! Афіцэр і два салдаты.
Скірмунт (*крычыць*). Аркашка!
Радзівіл. Аркашка! Аркашка! ой...
В. Бушма. Дзе-ж пісар?
Саладуха. Што ў воду кануў...
Святаполк-Мірскі. Ну, уліплі..
Скірмунт. Хоць ты сам швейцарам будзь.. (*Да В. Бушмы*). Братка, апраніся ды пастой крыху...
В. Бушма (*крывіцца*). Не ёмка неяк, міністру па вайсковых справах ды за швейцара...
Скірмунт (*упрашваючы*). Васіль Рыгоравіч! Айчызна маці Беларусь патрабуе афяр... (*Усе просяць*).
В. Бушма. Ды што вы, братцы... А як часам запытаюць, хто ў вас міністр па вайсковых справах? Ці можа трэба будзе выехаць прыняць парад?
Радзівіл. І гэта праўда.
Святаполк-Мірскі (*прабуе адзець*). Фу ты чорт, трашчыць...
Радзівіл. Мо на мяне ўзлезе?
Саладуха. Куды там...
В. Бушма. Міністру ды за лёкая... (*Кісла*). Толькі ў імя маці Беларусі, пакрыўджанае богам і людзьмі айчызны, я адзяю... (*Адзеўшы, становіцца ля дзвярэй*).
Скірмунт (*задаволена*). Народ не забудзе сваіх герояў.
Радзівіл (*прыглядаецца*). Яны...
В. Бушма. Ага... А колькі гордасці, вялічча...
Грышчыха (*падыходзіць, хоча прайсці, В. Бушма не пускае*). Пусці!
В. Бушма. Куды прэш?
Грышчыха. Мне да мінісцера па вайсковых справах.
В. Бушма. Няма яго...
Грышчыха. Эт, гародзіць нейкі азярод... Ня-я-ма...
В. Бушма (*уваходзіць у ролю*). Асадзі назад...
Грышчыха (*злосна*). Ды ну цябе...
В. Бушма (*адштурхоўвае*). Прыказана нікога не пускаць...
Саладуха (*дакладвае Скірмунту*). Нейкая старая, што свіння лезе, заплюшчыўшы вочы...
Грышчыха (*абурана*). Не свіння, а маці міністра па вайсковых справах... (*Усе здзіўлена глядзяць*).
В. Бушма. Няма ў мяне маці... Не, ёсць... мая маці—святая Беларусь...
Грышчыха (*пазнаўшы*). А-а-а... Сынку мой, любы, дарагі... Васілёк...
Скірмунт (*падыйшоўшы*). Гэта ваша маці? Прапусціце!
В. Бушма. Скуль вы цётка?
Грышчыха. Не пазнаеш мяне?
В. Бушма (*адштурхнуў*). Не-е!

Грышчыха (*кінулася на калені*). Васілёк! Табе сорамна, што твая маці ў лахманах? Так?
В. Бушма. Мая маці роўная паміж роўных... Яна болей не гне спіны ні перад кім... Яна вольная, як птаха...
Грышчыха. Птаха з падрэзанымі крыллямі... Сынку, твая „маці—Беларусь“ стала пасмешышчам для людзей... Паглядзі на сябе, кім ты стаў... Чучала, дый годзі!
В. Бушма. Праходзь, праходзь, старая!
Грышчыха (*сабалезнуючы*). А дзе-ж Андрэй? Кажуць, што арыштаваны, ці што?
В. Бушма. Які Андрэй?
Грышчыха. Брат твой!
В. Бушма. Няма ў мяне брата.
Грышчыха. І маці няма?
В. Бушма. Не, маці ёсць.
Грышчыха. Васілёк, сынок, ты адумаўся?
В. Бушма. Мая маці—Беларусь.
Грышчыха. А я? Не маці твая? Не-е?
В. Бушма. Адыйдзі, кажу, пакуль не позна... Вяр'ятка...
Грышчыха. Маці стала вар'яткаю... (*Застанавілася*). Васілёк, любы, дарагі, апомніся...
В. Бушма. Адыйдзі, назола, чаго прычапілася...
Грышчыха (*праз слёзы*). Сынку, што з табой? Ты хворы?
В. Бушма. Сыйдзі з маіх вачэй, чуеш, ці не?
Грышчыха (*цяжка ўздыхнула*). Чую, чую... (*Разважаючы*). Міністер... Навошта яму старая маці... (*Пайшла апусціўшы галаву*). Бог мой, бог... Як не сорамна, а прыдзецца браць кій ды торбу... (*Загаласіла*).

А мой жа-ж ты сынку даражэнькі!
А мой жа-ж ты залаценькі!
Якою-ж ты дарожанькай ды пайшоў?
Я-ж цябе насіла,
Я-ж цябе спавівала,
А ты-ж мне й дзякуй не сказаў!
Матульцы сваёй й скарыначкі не даў!
Як жа-ж мне гора-гараваць?

В. Бушма. Рана хаваеш... Маці Беларусь будзе доўга жыць...
Галасы (*жабракоў*).

— Просім у бога!
— Хлеба!
— І солі!
— Долі!
— І волі!
— Просім у бога!

В. Бушма (*прыглядаецца*). Іх вяліцтва, пасланцы кайзера... (*Усе захваляваліся*).
Скірмунт (*выходзіць наперад*). Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, у нашай асобе, палкоўнік, горача вітае найкультурнейшую, найцывілізаванейшую нямецкую нацыю...
Саладуха (*крычыць*). Віват!
Усе. Віват! Ві ва-а-ат!
Гелер. Guten tag!
Скірмунт. Guteu tag! Guten tag! (*Паказвае на ўсіх*) Міністры, краса і гордасць беларускага народу...

Гелер (*бегла абвёў вачыма, злосліва*). Міністры!? (*Да Скірмунта чотка*). Генераль Шмідт прыказаль вызваліць гэта памяшканне... Тут будзе штаб корпуса...
Скірмунт (*адразу сеў*). Што-о? (*здзіўлена глядзіць*).
Галасы. — Мы пратэстуем!
— Гэта здзек!
— Мы пратэстуем!
Скірмунт (*звоніць*). Абвяшчаю ўнечарговае паседжанне Рады... Слова мае міністр па вайсковых справах...
В. Бушма. Мы пратэстуем... Мы заставім размаўляць з намі, як роўны з роўнымі...
Гелер (*здзіўлена глядзіць*). Міністр па вайсковых справах!? Нічэфо не понімаль..
В. Бушма (*сканфузіўся скідае гарнітур швейцара*). Мы выставім палкі... Мы адстаім сваю незалежнасць...
Гелер. Дом карош, так і далажыль генералю Шмідту, а людзі сумашэдшы... (*Як гаспадар праходзіць па пакоях, за ім два салдаты*).
Скірмунт (*звоніць*). Мы пратэстуем...
Пісар (*уваходзячы*). Вось вам хамут і дуга, а я болей не слуга... (*Кідае ручку*). Чымся быць пісарам пры такім урадзе, то лепей ісці свіней пасвіць; хоць кусок хлеба будзе...
Святаполк-Мірскі (*да Скірмунта*). Прапаную прыняць адстаўку...
Стася (*убегшы, кідаецца на шыю пісара*). Мы пратэстуем...
Аркашка (*убягае*). Нідзе, ніхто, нічога, не дае... Кажуць, што і лес, і скіпідар, і лён не ваш... Давайце разлік...
Радзівіл. Прапаную прыняць адстаўку.
Радзівіліха (*убегшы*). Не, не! Аркашка, любы, дарагі, на каго-ж ты мяне пакідаеш... (*Цалуе*). А як-жа будзе тое ды гэта...
Аркашка (*вырываецца*). Абрыдла!
Радзівіл (*працірае вочы, глядзіць на Святаполк-Мірскага*). Што-о?
Скірмунт. Цэ... цэ... Няйначай змова... Рука Масквы арудуе...

## КАРЦІНА VI

Штаб польскага палка. У глыбокім крэсле сядзіць палкоўнік Вайцэхоўскі, напявае: „Яшчэ Польска не згінэла“. Паручнік Сланімскі дапрашвае А. Бушму. Падпаручнік Змудзінскі працуе над картаю.

Змудзінскі. Ад можа да можа. Адагнаць большэвікоў за межы 1772 року. (*Бярэцца за галаву*). Ой, боліць моя глова.
Вайцэхоўскі. Глупа твоя глова... Кеды маш зрэнкі, то паглядзі... (*Абводзіць алоўкам*). Масква ў плену...
Галасы (*жабракоў*).
— Просім у бога!
— Хлеба!
— І солі!
— Долі!
— І волі!
— Просім у бога!
Вайцэхоўскі (*прыслухоўваецца*). Цо то есць?
Змудзінскі (*глядзіць у вакно*). Жабракі, пане пулкоўніку!
Галасы (*жабракоў*).
— Долі!
— І волі!
— Просім у бога!
Вайцэхоўскі. Долі і волі? То бэндзе рэнка Москвы...

Змудзінскі (*напявае*). Ой, боліт моя глова, ой, болят моі рэнцы...
Вайцэхоўскі (*нездаволена*). Быдло... О, не! То есць агенты Москвы... (*Крычыць*) Пане падпаручнік!
Змудзінскі. Слухам, пане пулкоўніку!
Вацэхоўскі. Разагнаць! (*Пасля паузы*). Узяць!
Змудзінскі (*выходзячы*). Слухам!
Вайцэхоўскі. Прэнтка! (*Звоніць тэлефон*). Алё! Пры тэлефоне палкоўнік Вайцэхоўскі. Я. Так. А-а, пане Скірмунт... Цо? До мене? Проша! Проша! (*Вешае трубку*). Камедыянты.
Сланімскі. Камедыянтам, пане пулкоўніку не кожны можа быць... Трэба ўмець іграць. Яны-ж, хоць і дрэнныя акторы, але крыху навучыліся абез'янічаць...
Вайцэхоўскі (*задаволена*). Ага. Так, так.
Сланімскі. Атрад генерал-майёра Булак-Балаховіча, хоць і напамінае крыху бандзітаў, але-ж дапамог нам...
Вайцэхоўскі. Дапамог, як кашаль хваробе...
Сланімскі (*да А. Бушмы*). Значыць будзеш з-пад Слуцку?
А. Бушма. З пад Слуцка, паночак..
Сланімскі. Тутэйшы?
А. Бушма. Але.
Сланімскі. Пастухом, кажаш, быў?
А. Бушма. Не-е... Парабкам, паночку...
Сланімскі. Парабкам? (*Пауза*). А ты-ж казаў, пастухом...
А. Бушма. Гэта ў дзяцінстве было... Свіней пасвіў, накручваў ім хвасты... (*Пауза*). Пан паручнік, відаць, таксама гэтым займаўся...
Сланімскі (*абурана*). Прашу па сутнасці адказваць! (*Пауза*). Скажы. ты часам не знаем са Славіным?
А. Бушма. А хто ён такі?
Сланімскі. Ён... (*Крычыць*). Кінь у дурні гуляць?
А. Бушма. А што гэта за гульня?
Сланімскі (*замахнуўся хлыстом*). Зараз пакажу...
А. Бушма. А што, яго таксама ўзялі?
Сланімскі. О, каб мы яго ўвабралі.. Тады мне падвышэнне ў чыне, а цябе золатам азалацілі-б...
А. Бушма. А яму гамон? Так?
Сланімскі. Што? Які гамон?
А. Бушма. Эт, кіньце ў дурні гуляць...
Сланімскі (*моцна ўдарыў хлыстом*). Хто дурань?
А. Бушма (*скрывіўся ад болю*). Яны самі сябе паказваюць...
Сланімскі (*злосна*). Ваша прозвішча?
А. Бушма. Каторы раз вы мяне пытаеце?
Сланімскі (*павышаным тонам*). Ваша прозвішча?
А. Бушма. Бахрым.
Сланімскі (*заглядае ў вочы*). А не Бушма?
А. Бушма. Не.
Сланімскі. Імя?
А. Бушма. Ігнат.
Сланімскі. Па бацьку?
А. Бушма. Кандратаў.
Сланімскі (*пішучы*). Бахрым Ігнат Кандратаў.
Галасы (*жабракоў*). — Прыстаў, як п'яны да плоту!
— Адыйдзі!
— Адчапіся!
— Назола!

Змудзінскі (*крычыць*). Холера! Ходзь тутэй! (*Уваходзяць жабракі, з імі Грышчыха*).

Грышчыха. Андрэйка! Сынок мой! Ты жывы, мой любы. Што-ж ты стаіш, як укопаны? Не пазнаеш? Ці можа прыкра, што на вочы папалася? (*Тузае за рукі*). Андрэйка, ды я-ж толькі дзеля цябе ды Алескі на свеце жыву... (*Горка плача*). Васіль адчураўся маці... (*Радасна*). Ну, а ты ты-ж гэтага не зробіш?.. Не?... Кажы... (*Плача*). Ты што ж, і глух і нем... Сорамна прызнацца... (*Пауза*). Скажы хоць слова... Іначай.. (*Безнадзейна*). Засіліцца, ці што? О, не, не! Я жыць хачу!

Сланімскі (*задаволена*). Цяпер не ўлізнёш! (*Усміхаючыся*). Такі будзе гамон...

Грышчыха. Чуеш, ці не, я жыць хачу!

А. Бушма (*балюча*). Я таксама жыць хачу...

Сланімскі. От добра, што ты прывёў яе... Цяпер усё ясна... (*Да Грышчыхі*). Значыць, вы будзеце маці Андрэя Бушмы?

Грышчыха. Але. Так. (*Да Змудзінскага*). Дзякую табе, чалавеча, што ты мяне сюды прывёў. Тут я знайшла сваё шчасце і долю.

А. Бушма. Ды волю згубіла.

Грышчыха. Андрэйка! Сынок мой родны, як доўга я цябе шукала, дзіцятка маё. (*Пауза*). А ўчора вазьмі ды сасні цябе, дый бацьку твайго пакойніка, царства яму нябеснае. І як сасніла. (*Успамінае*). О, дай божа памяць... Ага! От, здаецца, быў нейкі пажар... Вялікі, вялікі пажар. Гарэлі сёлы, вёскі, мястэчкі і гарады. Нібы ўвесь свет гарэў. Гінуў народ, як мухі, ой, колькі загінула яго. Ты стаяў сярод многіх ды разам з імі падліваў масла ў агонь... Хто цешыўся пажару, а хто пеклам называў... (*Пауза*). А потым як нахлынулі пажарнікі, нібы з усяго свету паз'язджаліся... Тушылі, тушылі, ды полымя ўсё больш шугала... Так і не затушылі... А потым, нібы звяры лютыя, пачалі ганяцца за людзьмі... І цябе схвацілі разам з імі... На гэтым і праснулася, выбілася са сну, і так да раніцы не спала... (*Пауза*). Дык чаго-ж ты маўчыш, мо не люба слухаць?

Сланімскі (*да А. Бушмы*). Гэта ваша маці?

А. Бушма (*цяжка*). Не-е...

Грышчыха (*у роспачы*). Што ты чаўпеш?.. Ну паглядзі мне ў вочы... Сынок... (*Уваходзіць Скірмунт*).

Скірмунт (*да Вайцэхоўскага*). Пахвалёны Езус!

Вайцэхоўскі. На векі аман! (*Вітаючыся*). О, як я рад угледзецца з прэм'ерам, пасланцом божым на зямлі, вякамі прыгнечанага беларускага народу...

Грышчыха (*плача*). Сынку... Родненькі... Радасць мая...

Скірмунт (*глядзіць*). Гэта вар'ятка і сюды дапяла... (*Пауза*). От ведаеце, аднойчы, мо з год, ці болей таму назад, як прыстане яна да нашага міністра па вайсковых справах, то той, ці паверыце, ледзь адчапіўся ад яе...

Грышчыха (*у роспачы*). А можа я такі сапраўды вар'ятка? (*Да жабрачкі*). Разэля, ушчыпні... (*Крывіцца*). Мацней, мацней, мацней!

Сланімскі (*да Змудзінскага*). Выпшэвадзь іх!

Змудзінскі (*выводзячы*). Слухам!

Грышчыха (*праз слёзы*). Ой гора, маё гора, ой горкая ты доля... (*да А. Бушмы*). Васіль знайшоў другую маці—Беларусь... А ты каго? Хто твая маці? (*Тузае*). Маўчыш?

Сланімскі. Фанацікі! Яму партыя даражэй за маці...

Грышчыха (*выходзячы, безнадзейна*). Куды ісці і што рабіць?.. (*Цяжка*). Хто дзяцей не мае, той й гора не знае...
Вайцэхоўскі. То сядайце, суседзе!
Скірмунт (*садзіцца*). Дзякую (*Глядзіць*). А гэта хто?
Сланімскі. Арыштаваны, Андрэй Бушма, пасланец Кнорына...
Скірмунт (*прыглядаецца*). Хто? Андрэй Бушма? (*Падыходзіць*). Не е... Гэта не Андрэй Бушма... Таго я на свае вочы бачыў... О, каб ён мне папаўся... Разумееце, з прыходам войск Крыленкі ён заставіў мяне ні пры чым... Усё забраў... О, каб ён мне папаўся...
Сланімскі. Вы памыляецеся...
Скірмунт. О, не! Андрэй Бушма зусім не такі... О, той бандзіт, ён жыць нам не даваў... О, каб ён мне папаўся...
Сланімскі (*злосна*). Выпшэвадзіць! Холера! Шэсць дзён хлебам кармілі... (*Выводзяць А. Бушму*).
Вайцэхоўскі (*да Скірмунта*). Народы, польскі з беларускім, заўседы былі ў дружбе... (*Пауза*). Атрад Булак-Балаховіча аказаў нам выключную дапамогу... Спадзяюся, што агульнымі сіламі мы працярэбім шлях абодвум народам і выйдзем на гістарычную дарогу...
Скірмунт. Пане Вайцэхоўскі! Ад імя Ураду БНР, пасланцом якога я з'яўляюся, маю гонар запрасіць вас на ўрачыстую вечарыну, прысвечаную вашаму прыходу ў наш край. Прыміце завярэнне ў вялікай да вас пашане.
Вайцэхоўскі. Дзякую. Буду. (*Да Сланімскага*). Дакладвайце.
Сланімскі. У баі пад Менскам...
Вайцэхоўскі (*абрывае*). Больш клапаціцца аб жывых...
Сланімскі. З давольсцвіем...
Вайцэхоўскі. Запасаў няма, яны павінны быць. Патрэсці мужычка...
Скірмунт. Як грушу, ужо абтрэслі...
Вайцэхоўскі (*зласліва*). Патрэсці вярбу! Часамі і на вярбе бываюць грушы!
Скірмунт (*спяшаецца выйсці*). То міласці просім!
Вайцэхоўскі. Сказаў, што буду. (*Да Сланімскага растлумачваючы*). Пакуль яны патрэбны нам, а там паглядзім. (*Пауза*). Ну як, сазнаўся?
Сланімскі. Хто?
Вайцэхоўскі. Андрэй Бушма.
Сланімскі (*напалохана*). Пан Скірмунт...
Вайцэхоўскі (*злосна*). Вы поляк, як розуму не хопіць, то хітрыкай бярыце... (*Пауза*). Андрэй Бушма—апасны вораг, тым больш, што ім кіруе цвёрдая рука... (*Пауза*). Што скажаце на гэта?
Сланімскі (*становіцца ва фронт*). Вінават!
Вайцэхоўскі (*працягвае*). Каб Польшчы быць, не лішне часам і хвастом вільнуць, дзе трэба,—паўзці на жываце... (*Навучальна*). Не маеш сілы, хватай зубамі, крыху аперыўся, бяры за горла... (*Пауза*). Каб супыніць чуму, што ідзе з Усходу, турма патрэбна, у якой была-б гразою смерць...
Сланімскі (*хвалюючыся*). Мы-ж соцыялісты... Як быць з дэмакратыяй...
Вайцэхоўскі. Ха-ха! Наіўны вы, паручнік... Соцыялісты... Дэмакратыя... Усё гэта вуаль... каб аблагародзіць твар. (*Пауза*). Здаецца, мы разумеем адзін другога.
Сланімскі. Так.

Вайцэхоўскі (*спявае*). „Яшчэ Польска не згінэла,
Покі мы жыемы".
Сланімскі. Пане падпаручніку! Пане падпаручніку!
Змудзінскі (*да Сланімскага*). „Вы поляк, як розуму не хопіць, то хітрыкай бярыце..."
Сланімскі. Я такі дагадваўся, што гэта быў Андрэй Бушма...
Вайцэхоўскі (*зласліва*). Дагадваўся!?
Сланімскі. Увабраць, ва што-б там не стала... (*Хутка выходзіць, за ім Змудзінскі*).
Вайцэхоўскі. Убярэш!? Шукай ветра ў полі... (*Пауза*). А не ўбярэш, сам сядзеш. (*Пауза*). Жыццё суровае—суровыя й законы.

## КАРЦІНА VII

Вялікі пакой у Доме ураду БНР. На сценах невялічкія флажкі, „Пагоня", партрэты Скірмунта, Фр. Скарыны, К. Каліноўскага. Расхаджваюць госці. Сярод іх Усеслаў Крывічанскі. Слугі накрываюць сталы.

Скірмунт (*увайшоўшы*). Шчырае прывітанне вяшчуну вясны, песняру Усеславу Крывічанскаму, слаўнаму сыну найвялікшага ў свеце роду волатаў.
Усеслаў Крывічанскі (*вітаючыся*). Народзе мой, цябе я слаўлю.
Скірмунт. Іграйце леры, дудкі, слаўце свой народ... (*Зайграла музыка, час ад часу прабіваюцца галасы жабракоў*).
Галасы.—Просім у бога!
— Хлеба!
— І солі!
— Долі!
— І волі!
— Просім у бога!
Галасы (*жаўнераў*) „Яшчэ польска не згінэла,
Покі мы жыемы".
Саладуха (*нясе парася, кумпякі*). Чым багат, тым і рад...
Аркашка. Палкоўнік Вайцэхоўскі! (*Усе захваляваліся*).
Скірмунт. Пане Вайцэхоўскі! „Ужо шосты дзень, як мы жывем спакойным жыццём, развеяўся чырвоны туман, развеялася відзімо галоднай смерці. Гэты цуд ёсць справа гераічнага польскага войска, каторага вы ёсць начальнікам. Вітаю вас ад імя беларускіх дэлегацый, прадстаўляючых тутака беларускае насельніцтва, выслаўляю гарачую падзяку за вызваленне Менску і Меншчыны ад новага цяжкага нападу маскоўскага імперыялізма, які на гэты раз прыбраўся ў большэвіцкую вопратку... Але плачуць яшчэ маткі ў Віцебску, стогнуць людзі ў Магілеве, маўчыць безабаронны хаўтурны голас „абімшалых званіц Смаленску".
Голас. Нех жые пан Вайцэхоўскі!
Галасы. Ві-ва-а-ат! Ві-ва-а-ат!
Скірмунт. Прашу садзіцца! (*Усе садзяцца за стол, наліваюць*)
Вайцэхоўскі (*падняў келіх*). Панове! З гісторыі мы ведаем, як часам вялікія народы ніцма падалі; але не ведаем такіх выпадкаў, калі-б яны загінулі бясследна... (*Пауза*). Праходзілі гады, дзесяткі год, стагоддзі, народ высоўваў вялікага чалавека, які выводзіў нацыю да славы... Народ польскі і беларускі доўгія гады знаходзіўся ў ярме расійскага царызма... Люднасць польска і люднасць беларуска звязала паміж сабою свой лёс, свае пакуты... Белая Русь заўсёды працягвала рукі на Захад, у Варшаву, адкуль ішла культура, цывілізацыя, а не ў Маскву... Усход

спрадвеку славіўся суровым дэспатызмам, дзікім разгулам, азіятчынай... Каб падняцца і сокалам узвіцца ўвысь, патрэбен вялікі чалавек, які-б вывеў народы на гістарычную дарогу... Пю за вялікага чалавека, за беларускі народ...

Галасы. Ві-ват! Ві-ва-ат! Ві-ва-а-ат!

Галасы. — Просім у бога!
— Хлеба!
— І солі
— Долі!
— І волі!
— Просім у бога!

Галасы (*жаўнераў*). „Яшчэ польска не згінэла,
Покі мы жыемы".

Голас. Нех жые пан Вайцэхоўскі!

Голас. Ві-ва-а-а-ат!

Усеслаў Крывічанскі (*п'яны*). Ой, маці Беларусь, бедная старонка, колькі слёз і крыві праліта на тваёй зямельцы.. (*Пауза*). Ад крывіцкіх балотаў аж да тундраў Сібіру вядзе шлях курганоў... (*Ікае*). Там ляжаць буйны головы слаўных волатаў... (*Асоўваецца*)

В. Бушма. Усеслаў, што з табою?

Усеслаў Крывічанскі. Нічога...

Скірмунт. Аркашка!

Аркашка (*бярэ пад рукі*). Пойдзем, пройдземся..

Усеслаў Крывічанскі (*чуць на нагах трымаецца*). І прагуляемся па палёх родныхні ў Крывічанска... (*Зайграла музыка, некаторыя пайшлі танцаваць*).

Люся (*бярэ пад руку Саладуху*) Ці праўда, што Польшча на ўтрыманні Францыі?

Саладуха. Так.

Люся. А як-жа будзе з Беларуссю?

Саладуха. Не ведаю... (*Пачынаюць танцаваць*).

Святаполк-Мірскі. Пане Вайцэхоўскі! Сіла наша толькі ў еднасці... Я, як патрыёт беларускі, а вы польскі...

Вайцэхоўскі (*абрывае*). Гм.. Вы такі самы патрыёт, як і Булак-Балаховіч, сёння—беларус, заўтра—паляк, а паслязаўтра—рускі, а яшчэ паслязаўтра—негр... Ці не так?

Святаполк-Мірскі (*напалохана*). Вы-ж ведаеце, што патрыётам беларускім Булак-Балаховіч стаў тады, як яму прапанавалі стаць начальнікам дзяржавы беларускай.

Вайцэхоускі. Няхай толькі пасмее, тады не здабраваць яму. Разумееце, ці не?

Святаполк-Мірскі. А як-жа!

Вайцэхоўскі. (*падыходзіць да Скірмунта*). Вельмі ўдзячан вашаму прыёму.

Скірмунт. А як наконт пазычкі?

Вайцэхоўскі. Пазычкі?

Скірмунт. Так.

Вайцэхоўскі (*усміхаючыся*). Мы самі жывем з пазычак...

Скірмунт (*усміхаючыся*). Самі жывеце, дайце й другім жыць...

Вайцэхоускі. Як заслужыце, то памяркуемся... (*Выходзіць*)

Галасы (*жабракоў*).— Долі!
— І волі!
— Просім у бога!

*Заслона.*

## АКТ ТРЭЦІ

### КАРЦІНА VIII

Старая беларуская вёска. Гамоняць людзі, скардзяцца адзін другому на нядолю людскую. Стары дзед косіць, завіхаецца, з яго градам ліецца пот.

Бахрым (*падышоўшы з касой*). Памагай бог!
Стары дзед. Дзякую!
Бахрым. Чаго гэта вы, дзед, ні свет, ні зара ўспароліся?
Стары дзед (*кідае касу*). Прападзі ты пропадам такое жыццё! Працуеш, і смаку не чуеш... (*Садзіцца, закурвае*). Мо часам на пагодзе стане?
Бахрым (*садзіцца*). Дзе вы бачылі, кругом хмары ходзяць, а яны пагоды чакаюць...
Бахрым. Быць не можа, такі-ж павінна распагодзіцца...
Стары дзед. Толькі нешта не верыцца... От нейк бліснула сонейка, ды зноў за бор схавалася...
Алеська (*спявае*). Прыедзь, прыедзь, братка, прыедзь, галубочак.
Прыедзь, галубочак, хоць раз у гадочак;
Прыедзь, галубочак, хоць раз у гадочак,
На адзін дзянёчак, хоць адзін часочак.
Бахрым (*прыслухоўваецца*). Рана дзеванька спяваеш, увечар будзеш галасіць...
Стары дзед. Ой, колькі сілы, маладосці ў гэтай сіроцінкі...
Бахрым (*устрывожана*). Нешта-ж раптам змоўкла?
Стары дзед. Але, на поўслове абарвала... (*Закурвае*). Скажы, мо' чуў што пра яго?
Бахрым. Каго?
Стары дзед. Андрэя Бушму?
Бахрым. А-а-а, так бы й казаў. (*Пауза*). Толькі не Бушма ён цяпер, а Леванчук.
Алеська (*крычыць*). Людцы мілыя! Ра-туйце! (Бяжыць, а за ёю Сланімскі).
Бахрым (*забег наперад*). Паночку!..
Сланімскі (*замахнуўся*). У, пся мацы!
Стары дзед. Не туды... Ну ў той бок.. Да людзей бяжы... (*Адвярнуўшыся*). Не ўдалося пакрасаваць... О, бог, ты мой бог, ці ты бачыш мукі людскія, ці ты бачыш слёзы дзявочыя...
Бахрым. О, звеоы лютыя! (*Памкнуўся бегчы*). Сілы не хапае маўчаць...
Стары дзед. Не чапайся. Пашкадуй дзяцей... жонку... суседзяў.
Бахрым (*пабег*). Не магу!
Стары дзед. Пакутуе народ, а за што, за якія грахі? (*Падыходзяць сяляне*). Калісь у прыгонныя часы, кабеты, што ў няласцы былі, грудзьмі карміді панскіх шчанюкоў.
Голас (*дзяўчыны*). Гэта было пры цару гароху!
Стары дзед. І цяпер не лепей... У няласцы, дзеткі, наш народ... Паглядзіце вы кругом, падзівіцеся... Як не ўбачыце, то адчуеце гора дзявочае...
Галасы (*дзяўчат*).—А-ах!
—Алеська!
Стары дзед. Ой, гора быць у няласцы, ой гора быць у няволі!
1-ая дзяўчына. Увабраў...
2-ая дзяўчына. Вырвалася... Небарака, з сілы выбіваецца... Ніцма ўпала...
1-ая дзяўчына. Як коршун наляцеў... Разрывае цела па частках...

2-ая дзяўчына (*весялей*). Ігнат, ці што? Ага! За грудкі схваціліся...
Стары дзед. Ог, што будзе, то будзе... Спрадвеку-вечнага гнуў спіну пану, хоць на старасці разагну... (*Хутка пайшоў, а за ім сяляне, выходзіць В. Бушма*).
В. Бушма. Спрадвеку-вечнага так было і будзе так, каб не селі табе на спіну, сам садзіся другому... Яно неяк спраўней ехаць на чужым карку.
Сялянка (*бягучы*). Авэй, авэй! Спрадвеку-вечнага чалавек на чалавеку едзе, няўжо іначай нельга?
В. Бушма (*схваціў сялянку*). Як гэта чалавек на чалавеку?
Сялянка (*вырываецца*). А так, што чалавек чалавеку—горшы вораг. Звер люты, і той так не накінецца.
В. Бушма (*абнімаючы*). Ну і баба, не баба, а верашчака. Пульхная такая...
Сялянка. Авэй, авэй! (*Вырываецца*). Цьфу табе... (*Пабегла*).
В. Бушма (*выцірае вочы*). Маім абнімкам ты рада будзеш, ад іх нікуды не ўцячэш...
Алеська. Як быць у нялюбага ў абдымках, то лепей у вір... (*Кідаецца ў рэчку*)
Галасы (*дзяўчат*).— Ой ты, дзевынька!
— Ой, падружынька!
— Што-ж мы скажым ды матулячцы!
— Што-ж мы скажым ды братом тваім!
Стары дзед (*падбягае*). Што пасталі, разявакі, трэба дзеўку ратаваць.
Бахрым (*бяжыць, усе расступіліся*). На вачах гінуць людзі, а за што, каб хто запытаў?
Сялянка. Авэй! Авэй! Родненькая, бурбалкі пускае...
1-ая дзяўчына. Топіцца!
2-ая дзяўчына. Пайшла на дно!
Стары дзед. За валасы хватай! Во так, во-во!
Сялянка (*галосіць*). Алеська любая,мая ты сірацінка... Ты-ж і ранічкай, ты-ж і ўвечары маці сваю ў песнях апявала...
Стары дзед. Ціха ты, не захавай раней смерці...
Сялянка (*працягвае галасіць*). Клікала браточкаў на адзін дзянёчак, хоць адзін часочак.
Стары дзед (*абурана*). Сціхні, кажу!
В. Бушма (*дапамагае выцягваць*). Алеська! Сястрыца... (*Да Сланімскага*) Праз цябе яна загубіла жыццё маладое...
Сялянка (*да Алеські*). Авэй, авэй! Ды скажы ты хоць слова... (*Да Сланімскага*). Як загледзеў спадніцу дзявочую, то накінуўся, нібы галодны воўк...
Сланімскі. Ха-ха-ха! Хіба спадніца мне патрэбна? Не, не тое... Мне ад яе трэба даведацца пра брата, што па лясах туляецца ды страх наводзіць на людзей... Яна з ім звязана... Яна яму дапамагае... (*Усе здзіўлена глядзяць*). Напэўна чулі пра Леванчука.
Стары дзед. А як-жа, чулі, дык што з таго?
Сялянка. А мая-ж ты Алесячка, а мая-ж ты родненькая, ды што-ж гэта за напасць на нас прыйшла, ды што-ж гэта за назола прычапілася...
Алеська (*прыўстаючы, цяжка*). Не, плач, цётачка, не плач, мілая...
В. Бушма. Алеська, сястрыца, не пазнаеш мяне?
Алеська (*паціскае плячыма*). Неяк холадам нясе...

В. Бушма. Гэта-ж з усходу, з-за Нёмна, там сівер такі, што людзі, нібы мухі, гінуць...

Алеська (*паглядзела на В. Бушму*). Брр... Холадна... Нібы поруч ледзяная гара... (*Прыўстала*). Хочацца туды, дзе сонейка ўзышло, абагрэцца хочацца... бо тут трухляціна, смурод...

В. Бушма (*перарывае*). Няпраўда.

Стары дзед (*рэзка*). Праўда!

Алеська (*устае*). Няпраўда з праўдай, як людзі кажуць, заўсёды ў сварцы...

В. Бушма. Не людзі кажуць, а маці твая...

Алеська. І маці мая гэтак казала.

В. Бушма. Скажы мне, дзе Андрэй хаваецца?

Алеська. Не ведаю.

В. Бушма. Не ведаеш?

Алеська. Не.

В. Бушма. То не сястра ты мне...

Алеська (*перабівае*). А я цябе даўно за брата не лічу... Мой горшы вораг—гэта ты.

В. Бушма.. Ах, вось яно як!..

Сланімскі. Колькі тае дзяўчынкі, ды злосці поўны косці... Пойдзем, можа часам абразумішся... (*Алеська, сагнуўшыся пайшла, за ею В. Бушма і Сланімскі*).

## КАРЦІНА IX

Вясковая хата. Стол. Лавы. На покуці абразы. За сталом задумённа сядзіць В. Бушма разглядае карту, нешта запісвае.

Сялянка (*калыша дзіця, спявае*).

А-а-а-а, люлі,  
А-а-а-а люлі.  
Спі, сыночак міленькі,  
Галубочак сізанькі,  
Мой сыночак будзе спаць,  
А я буду калыхаць.  
А-а-а-а, люлі,  
А-а-а-а, люлі.  
На што, вецер, ты гудзеш,  
Спаць Міхаську не даеш,  
Спі, сыночак міленькі,  
Ай-да люлі, люленькі.  
А-а-а-а, люлі,  
А-а-а-а, люлі.  
Ўспомніш матку ты сваю,  
Як цябе люляла,  
Як табе у ноч не раз  
Песню я спявала.  
А-а-а-а, люлі  
А-а-а-а, люлі,  
Спі, сыночак міленькі,  
Галубочак сізанькі,  
Мой сыночак будзе спаць,  
А я буду калыхаць.  
А-а-а-а, люлі,  
А-а-а-а, люлі.

Бахрым (*увайшоўшы*). Нешта хмары ходзяць, і вецер узняўся, ці не будзе толькі буралом?

Сялянка. Авэй, авэй! Або-о! Сынок мой, што з табой?

Бахрым (*падышоўшы да калыскі*). Ты што-ж не спіш?

Сялянка. Бацьку пачуў...
Бахрым. Ах ты, лайдак!
Сялянка (*калышучы спявае*):

На што, вецер, ты гудзеш,
Спаць Міхаську не даеш.
Спі, сыночак міленькі,
Ай-да люлі, люленькі.
А-а-а-а, люлі,
А-а-а-а, люлі.

Бахрым (*да А. Бушмы*). Дрэнныя, браце, паперы... (*Пауза*). Сам не ўломак і жонка, што лялька, працаваць бы, ды гора не знаць... Эх-ха-ха! Няўжо ўвесь век так будзем жыць?
Грышчыха (*увайшоўшы*) Падайце міластыню...
Сялянка (*устае*). Хіба бульбінак, бо хлеба няма...
Грышчыха (*залілася слязмі*). Ведаю, дзеткі, што ў вас яго няма... (*Пауза*). А ў каго ён ёсць, той сабакамі праганяе...
А. Бушма. Мама!
Грышчыха (*працірае вочы*). Сынку... Родненькі... Сонейка мае... Дзе ты, мой сокал дарагі... (*Нясмела ідзе*). Аслепла, дзеткі, я, амаль зусім не бачу... (*Абнімаючы*). Сярод балот, у курнай хаце я знайшла сваё шчасце; цяпер не выпушчу яго і ні за што не аддам нікому.
А. Бушма. Калісьці ты, мама, пыталася ў мяне, хто мая маці, бо Васіль знайшоў другую... маці Беларусь.
Грышчыха. Пыталася, ды адказу не атрымала. Ты маўчаў, а ў мяне кроўю сэрца аблівалася. Крыўдна было. Ой, колькі выплакала, колькі слёз праліла, покуль дазналася, што ў цябе маці другая... Не крыўдуй, дзеткі, што я жабрачка, мо' хто часамі гэтым упікае цябе, але дарма... Жабравала, дык што з таго, праз ласку Васіля жабравала... Праўда, дзеткі, на тваім баку, а на чым баку праўда, на тым і народ... Народ праўду любіць. (*Пауза*). Болей не жабрачка я, не-е, а маці твая, твая-ж маці ніколі не будзе жабрачкай. (*Скідае верхнюю адзежу*). Ад Славіна... Апавядаў ён мне аб тым, што час трывожны і навальніца набліжаецца...
А. Бушма. Ма-ма!
Грышчыха (*цалуе*). Ой, ты шчасце маё! (*Пауза*). Андрэйка, ці праўда-ж, што Алеську ўзялі?
А. Бушма. Так.
Грышчыха. Ну, і як будзе?
А. Бушма. А хто яго ведае...
Сялянка. Вы маці Алеські?
Грышчыха. Але.
Сялянка. Авэй, авэй!
Грышчыха. Кажуць, што хлопцы на выручку Алеські пайшлі?
А. Бушма. Не ведаю.
Бахрым. Яшчэ цёмненька паехалі. Ёсць весткі, што ўдалося вырваць.
А. Бушма. Што-о?
Бахрым (*прыглядаецца*). Унь па дзядзінцы едуць... (*Чутна музыка: скрыпка, гармонік і бубен*).
А. Бушма. То гэта-ж вяселле нейкае...
Бахрым. Да Лунінца хто як, а з Лунінца з вяселлем, бо іначай дэфензіва...

Уваходзяць: Алеська ў вянку, а за ёю хлопцы чарадою. Смех, слёзы, радасць.

Дзявочы хор (*жартуючы*).

Павязлі Алеську, павязлі,
Аж на ёй панчошкі апаўзлі...

Алеска. А маманька, а родненькая, ды што-ж з табой сталася?
Грышчыха. Нічога такога: пастарэла, падурнела... (*Аглядае*). А ты, мае дзіцятка, расцвіла, як красачка?
Дзявочы хор (*жартуючы*). А ў нашага свата—саламяна хата.
Селянін (*усміхаючыся*). Хоць яна саламяна, ды вясёлая.
Дзявочы хор (*жартуючы*). Ага!

Бычкі ў смычкі йграюць,
А цялушачкі—у берасцяначкі,
А баранчыкі—у арганчыкі,
Старая каровіца забіла ў ладоніцы,
Свіння падзівілася—са смеху паваліліся,
Бочкай пакацілася.

Славін (*ўвайшоўшы-да ўсіх*). Весела ў вас... (*Да А. Бушмы*) Як, добра, што цябе застаў... (*Перадае пакет*). Хавай...
А. Бушма (*адчуўшы трывогу*). Што здарылася?
Славін (*кусае губу*). Правал.
А. Бушма. Хто выдаў?
Славін. Не ведаю.
А. Бушма. Дзе Борух?
Славін. Схвачан.
А. Бушма. Да-а...
Славін. А лоўка ты выхваціў Алеську...
А. Бушма. Не я, хлопцы... Нават мне не сказалі...
Славін. Ну?
А. Бушма. Дапраўды.
Стары дзед (*убегшы*). Кругом жаўнежы... Вёска ў палоне... Ужо з таго канца агнём пылае...
Славін. Табе трэба ў ва што-б ні стала на волі застацца... (*Усе захваляваліся*).
А. Бушма. Не-е... Чым быць закатаванымі, то лепей з чэсцю памерці...
Стары дзед. Гады, з другога запалілі! (*Бяжыць народ, крыкі, плач*).
Бахрым (*да А. Бушмы*). То што рабіць?
А. Бушма. Узбройвайся, хто чым!
Польскі салдат (*убягаючы*). Рэнцы да гуры!
А. Бушма (*страляе*). За мною! (*Усе бягуць*).
Грышчыха. І я з вамі: на чыім баку праўда, на тым і народ... Народ праўду любіць.

### КАРЦІНА X.

Густы бярозавы гай. Яшчэ гусцей устаўлены крыжы. Старыя могілкі. Лёгкі вецер пашавельвае кволыя лісткі бярэзін. Грымнуў гарматны выстрал, зашумеў гай. Уздрыганулася й сялянка, якая нічма ляжала на магіле.

Сялянка. Авэй, авей! (*Загаласіла*).

А мой-жа-ж ты галубочак!
А мой-жа-ж ты саколік!
Чаму-ж ты мяне пакінуў?
Без цябе мне свет загінуў.
Пазаўчора—ты касіў, араў,
А ўчора ўжо бараду задраў.
А сёння ляжыш у сырой зямельцы.

Грымнуў другі выстрал, трэці, заварушыўся бярозавы гай, затуманіў. Паднялася сялянка, пайшла, не ведаючы куды, зачым, пайшла з безнадзейна апушчанымі рукамі.

Галасы.—Па конях!
— У атаку!
— Агонь!

Паднялася страшэнная завіруха. Гарніст зайграў адбой. З маланкавай хуткасцю пад'ехаў аўтамабіль.

Сланімскі. За мною. (*Недалёка разарваўся снарад*). Бя-го-ом! (*Паволі ідуць закаваныя ў кайданы паўстанцы, сярод іх: Борух і Стары дзед, за імі напагатове польскія салдаты*). Сто-о-ой! (*Пауза*). Па ворагу, залпам!

Борух. Куды спяшаешся?... Нікуды не ўцячэш...

Стары дзед (*разглядае*). Свежая магіла, відаць Бахрым пахован...

Борух. Ага! (*Чытае*). Тут пахован паўстанец Бахрым... (*Знімаюць шапкі*).

Сланімскі. Агонь!

Борух. У-ух! Каты, надыйдзе час расплаты, не ўсядзець тады ў палацах...

Сланімскі. Жывучы... (*Страляе. Грузна асоўваецца Борух. Загудзеў матор, усе пабеглі да аўтамабіля. Стральба павялічваецца*).

Галасы.—А-а, наўцёкі!
— Смялей, сябры!
— Яшчэ адзін націск!
— Ур-а-ра-а-а!

Адстрэльваючыся, прабягаюць польскія салдаты. Сярод іх В. Бушма, Усеслаў Крывічанскі. За імі ўслед разам з чырвонаармейцамі наступаюць паўстанцы, сярод іх Грышчыха.

Грышчыха. З праўдай нідзе не прападзеш. (*Натыкаецца на растрэленых паўстанцаў*). А-ё-я-ёй, людцы мілыя, што гэта тварыцца на свеце... Ды колькі іх, герояў слаўных, злажыла буйныя галавы.. (Аглядае трупы). І дзед стары. І маладзіца... І падлетак, хлопчык... (*Складае рукі хлопчыку*). Дзіцятка мае, табе-ж бы толькі жыць ды красавацЬ... Родненькі мой, і портачкі садралі. Ой, бог, ты мой бог...

А. Бушма (*падбягае*). Такі паспелі расправіцца...

Грышчыха. Хто яны?

А. Бушма (*апусціў галаву*) Борух...

Грышчыха (*перабівае*). Каторы?

А. Бушма. Ось гэты. (*Пауза*). Служыў са мной у царскай арміі, а потым на заводзе быў рабочым і ўрэшце—працаўнік газеты „Буревестник"...

Грышчыха. Як прозвішча падлетка, хлопчыка, маладзіцы, старого дзеда, астатніх?

А. Бушма. Не ведаю.

Грышчыха (*чытае*). Тут пахован паўстанец Бахрым.

А. Бушма (*успамінаючы*). „Сам не ўломак, і жонка, што лялька, працаваць бы, ды гора не знаць..." Вось яна мужыцкая праўда. (*Заплакаў*).

Славін. Што з табой? Хіба падымем гэтым?

Чырвонаармеец. (*бягучы*). Таварышы! Што затрымаліся? На правым флангу белыя ля бору акапаліся, асыпаюць градам кулямётнага агню... (*Угледзеў растрэленых, мацней сціснуў вінтоўку, пабег*). Таварышы! Наперад!

Грышчыха (*радасна*). Таварышы! (*Хватае вінтоўку, моцна схвацілася за бок*).

А. Бушма. Ма-а-ма!

Грышчыха. (*грузна асоўваецца*), Я рада, сынку, што выбілася на дарогу... Калі і загіну, то ведаю за што...

А. Бушма. О не, матуля, ты будзеш жыць. (*Перавязваючы*). Ты павінна жыць. (*Стральба павялічваецца*).

Грышчыха. Не затрымлівайся, сынку, бяжы хутчэй!

А. Бушма (*канчае перавязваць*). Доўга ты, маці, блудзіла, усё-ж выбілася на дарогу... А цяпер бы толькі жыць! (*Схваціў вінтоўку, пабег*).

Грышчыха (*адна*). Ой, колькі блудзіла, пакуль выбілася на дарогу...

Алеська (*падбегшы*). Мама! Што з табою? Ты ранена?

Грышчыха. Дзеткі мае! (*пауза*). Бывала, пойдзеш на цянькі, ды ў дрыгве загразнеш...

Алеська. Ма-ма!

Грышчыха. Мая ты дачухна, мая ты любая, каб ты ведала, як я рада, што дажыла да сёнешняга дня, але заўтра—яшчэ прыгажэйшае... (*Пауза*). Учора—дзікія здзекі над чалавекам, а сёння чалавек—зямлі ўладар...

Алеська. Ма-а-а-ма! Ты ўся гарыш! Ты хворая?

Грышчыха (*моцна прыціскае да грудзей сцяг*). Алеська! Дзеткі мае! На чыім баку праўда, на тым і народ... народ праўду любіць. (*Асоўваецца*).

Алеська (*прыслухоўваецца, тузае*). Мама! Ма-а-ма! (*Цяжка*). Сканала... (*Праз слёзы*). Маці стала паўстанкай. (*Пауза*). А колькі блудзіла, покуль выбілася на дарогу... (*Бярэ сцяг, вецер развявае яго, ледзь не вырывае з рук*). Ой, не шумі ты гаю, не разнось ты жалю па нізінах ды прасторах нашых: бо і так у рэчках ды вазёрах і ў крынічаньках быстрых поўна слёз гаротных...

Скончыўся бой. Адчуваецца нейкая, небывалая дагэтуль радасць. Збягаюцца чырвонаармейцы, паўстанцы.

Славін (*чытае*). „Паўстаньце ўсе на абарону Соцыялістычнай Працоўнай Рэспублікі Беларусі, паўстаньце!“ (*Зайгралі аркестры, заспяваў народ*).

Алеська (*поўным голасам*). Праснуўся народ, паўстаў, разнясецца слава аб ім па ўсім свеце (*пауза*). Народ праўду любіць. На чыім баку праўда, на тым і народ... народ праўду любіць.

*Заслона.*

Снежань 1933 г.
Ліцвяны—Менск.

**ПЯТРО ГЛЕБКА**

## КАРА

Памяці члена ЦК комуністычнай партыі Польшчы тав. Рэдыко, забітага агентамі дэфензівы па дарозе ў мястэчка Влохі

Біце ў далоні.
        іграйце ў літаўры,
спраўляйце банкеты
        сваім героям,
нясіце вянкі ім,
        зялёныя лаўры,
золатам вышыйце
        іхнія строі,
смейцеся
        і весяліцеся, каты!
Вы не пачуеце
        нашых праклёнаў:
у нас надзвычайна
        вялікая страта,
і словы паэта
        належаць мільёнам.
Няхай яно скажа,
        як жыў і загінуў,
як з ворагам біўся
        таварыш Рэдыко,
і простая мова
        маіх успамінаў
пракоціцца клічам
да справы вялікай.
Нявольнікі працы
        адплацяць паўстаннем
за раннюю старасць,
        за слёзы маленства.
Так вырасце кара
        і грозная стане
найлепшым адказам
        на ваша шаленства.

* * *

Дарога ідзе на захад.
Цяжкі асядае пыл.
Суровыя дрэвы—

узмахам
сваіх шырачэзных крыл
трымаюць нязменна варту
над гэтым вячорным сном.
Адно чалавек упарта
спяшаецца недзе праз ноч.

Кашлатага ценю лапы
паўзуць на пярэймы з нізін,
кладуцца панура абапал
глыбокіх, як дол, каляін.

Куды-ж ты ідзеш,
таварыш?
Вярніся,
далёкі друг!
Дабрацца табе да Варшавы
не хопіць
ні ног,
ні рук,
тых ног,
што на кожнай грэблі
пакінулі босы след,
тых рук,
што дубовую меблю
рабілі на цэлы свет.
Вярніся!...
Вялікая стома,
цяжар не маленькі твой:
яшчэ у маленстве дома
цябе нагрузілі бядой.

Каб з голаду сёстры не мерлі,
каб грошы на хлеб былі,
на фабрыку гнутае меблі
цябе хлапчуком адвялі.

Ты гнуўся над працаю крукам,
а дні аднастайна ішлі,
твае аслабелыя рукі
раз'елі нашчэнт мазалі.

Крывавым абліўшыся потам,
ты ў стоме на дол прыпадаў,
а катаржны вынік работы
заўжды спажываў гаспадар.

—За чэрствы кавалак хлеба,
за шклянку халоднай вады—
хіба чалавеку трэба
гэтулькі зносіць бяды?

Упартае гэта пытанне
таміла цябе не раз.
Праўдзіваю мовай паўстання
табе адказаў твой клас.

І ты,
калі быў над Млавай
падняты чырвоны сцяг,
пайшоў ваяваць за права
на роўную долю жыцця.

Крутыя парогі рэўкома,
Чырвонае арміі шлях,
узмежкі дарог незнаёмых
твая маладосць прайшла.

Аб тым, як далёкі пошчак,
жывуць успаміны адны,
бо зноў над прасторамі Польшчы
пашлі паднявольныя дні.

Бо зноў на заводах Варшавы,
на роўных пазнанскіх палях,
на вуліцах роднае Млавы
бізун і прымус загуляў.

У глыб баявога падполля
адходзіць атрад змагароў,
і ты—
малады комсамолец
вядзеш сваіх юных сяброў.

І ты—
сакратар комсамола
чатыры вясны і зімы
праходзіш суровую школу
у сценах Варшаўскай турмы.

Вось так у змаганні нязменна
ты рос змагаром з хлапчука
І з важным цяпер даручэннем
Ідзеш ад самога ЦК.

Відаць,
што сягоння дзесьці
у цёмных закутках хат
чакаюць цябе
і дзейсных
наказаў тваіх і парад.

Чакаюць узрыўных, як міны,
тваіх большэвіцкіх слоў...
І ты,
мой таварыш,
няспынна
мінаеш сяло за сялом.

Я знаю—
ніякая сіла
не верне цябе назад.
Прайдзі ж над глыбокай магілай,
як вецер над строем прысад.

Як віхар прыходзіць над морам,
як птушкі ідуць над вадой,
як рэкі абходзяць горы—
міні свой смяротны дол.

Напэўна праведаў вораг,
згадаў па тваёй хадзе,
ў які ты імкнешся горад,
якою дарогай ідзеш,
якія агні паўстання
нявольнікам працы нясеш.

І вось ля мястэчка Влохі
рыхтуюць табе засад.
Спяшайся!
Стаміліся ногі?
Наважыў вярнуцца назад?

Цяпер раздумлёўваць па часе
і позна гадаць цяпер.
Няхай наша сіла класа
праз смерць правядзе цябе.

Імкніся!
Яшчэ два крокі,
і ты перашкоду мінеш.
Чаму-ж гэта цень твой высокі
Пашоў танцаваць у імгле?

Ты падаеш ніцма, дружа,
а стрэл, як шалёны завыў.
І вось паміж чорных лужын—
лужынка свежай крыві.

Далоняй у пыл урастае
жывая яшчэ рука,
і карай грыміць, вырастае
смерць вернага члена ЦК.
І вочы яго з дакорам
апошні агонь нясуць,
і вусны нямыя гавораць,
і мы выракаем прысуд:

Біце ў далоні,
іграйце ў літаўры,
спраўляйце банкеты
сваім героям,
нясіце вянкі ім,
зялёныя лаўры,
золатам вышыйце
іхнія строі,
смейцеся
і весяліцеся, каты!
Вы не пачуеце
нашых праклёнаў
Мы іншую вам

падрыхтуем расплату
за нашы пакуты,
за гора мільёнаў.
Вы бандай драпежнай
жыццё рабавалі
у тых, што мазольнаю
працай спрадвеку
і потам і кроўю
яго гадавалі,
як самы вялікасны
дар чалавеку.
Мы гэта прыпомнім!..
ярмо ваша скінем,
абломім ваш тоўсты
раскормлены карак,
мы пройдзем па ўсіх
паднявольных краінах
суроваю
і справядліваю карай.

15/IX—1933 г.
30/I—1934 г.

КУЗЬМА ЧОРНЫ

# ТРЫЦЦАЦЬ ГОД

(раман з двух частак)

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## ПАМЫЛКА НАТАЛІ ПАЎЛОЎСКАЙ*)

### 2

Яшчэ й да гэтых апошніх год захавалася была на павароце прысад у дробны гарадок старасвецкая будыніна: нізкая і доўгая хата, на шэсць акон у сцяне. Замест сянец, да яе была прыбудавана велізарная стадола, гарбатая і высокая напроці хаты, як вярблюд ля авечкі, так што здавалася, што хата ёсць дадатак да стадолы. Уся гэта надобіна калісьці накрыта была гонтамі. У часы вайны і рэвалюцыі, калі пад гэтым дахам перавярнулася бездань усялякага народу— каб траха, дык з усёй Еўропы, з усходу і захаду,—у дажджы вада лілася праз гэты дах неміласэрдна. Не памагаў і цвёрды мох, з-пад якога саміх гонтаў ужо шмат год не відаць было. Гаспадар, ратуючыся ад вады, накрыў хату саломаю пад колас, а стадолу пакінуў так дагніваць свой век. Да вайны з палякамі дах на стадоле зусім ужо згніў і праваліўся. Тырчалі толькі, як павывarочаныя рэбры, некалькі кроквaў, дах спусціўся ніжэй сцен, стварыўшы ў стадоле як-бы столь, няроўную і дзіравую.

Дзе стаяла гэтая карчма—было самае высокае месца тут. Гэта не быў узгорак з крутым якім-небудзь уз'ездам на яго. Уся мясцовасць як бы сыходзілася тут угару, пакрысе і неўзаметку. Адгэтуль разлегласць воку была вялікая. Проста па прысадах на захад, ледзь туманіліся абрысы дробнага гарадка. На ўсход таксама быў гарадок, але да яго было ўтройчы далей, як да першага, кілометраў пяцьдзесят. На поўнач ішлі лясы, а на поўдзень мясцовасць была чыстая, зусім адкрытая.

Калі дзьмуў вецер з поўначы, тут заўсёды пахла смалою, ішоў здаровы лясны імпат. Нават чуўся роўны шум хваёвых вершалін. Блізкая вёска была ад карчмы кілометраў з чатыры. Гасцінец паўз карчму быў адзіны шлях зносін паміж гарадкамі, чыгунка была далёка. Так што на гасцінцы раз-по-раз ляскацелі колы. Гасцінец жыў, але павольна, задумённа, як старасвецкі гаспадар, які ўпэўнены, што ўсё будзе гэткае, якое было і дагэтуль.

Зямля навокал была ўрадлівая, такая была ўся мясцовасць паміж гарадкамі. Парабкоў тут было многа, бо фальваркі і маёнткі былі багатыя.

---

*) Працяг, гл. „Полымя рэволюцыі“ № 2—1934 г.

Па гасцінцы часта чуваць бы свінячы крык: тут звозілі на бліжэйшую чыгуначную станцыю за гарадком на захадзе кормныя свінні з усёй акругі. Адтуль гэтае жывое сала ішло на Варшаву, а адтуль ужо лепшыя гатункі ў Нямеччыну і, нават, здаецца, далей. Свінні тут пладзіліся і карміліся добра, а каля іх выгадаваўся і забагацеў іхні-ж, свінячы, перакупшчык—Хурс („пане Хурс"), чалавек высокі, чарнявы, дробнатвары. Вельмі забагацеў на свіннях Хурс у вялікую вайну, на вайне ён зарабіў: цераз яго рукі свінні з усяе акругі пайшлі ў рускую армію. Жыў ён у гарадку на захадзе ад карчмы, і карчма пад сваею столлю часта яго бачыла.

Калі ён толькі яшчэ пачынаў багацець і шукаў багацця, яшчэ да вайны, прыстаў у прымы да поўпанскага фальварковага пакідзішча—да старое паненкі—худое, касцістае і бурклівае ведзьмы. І такім парадкам стаў ён гаспадар фальварка.

Навокал у маёнтках курыліся бравары. У гарадку быў вялікі завод, дзе пераганяўся і ачышчаўся спірытус з усіх навакольных бравароў. Можна сказаць, цераз кожныя тры дні на чацверты, гасцінцам у гарадок грукацеў абоз з неачышчаным спірытусам. Абозная папаска заўсёды была ў карчме на гасцінцы.

Ганка ў карчме не было. Проста ляжаў пад парогам сапсаваны камень з ветрака. Прызба па самыя вокны зарасла была лебядою і лопухам. За хатаю быў агарод, а перад хатаю да самага гасцінца (крокаў з трыццаць) буяў спарыш і трыпутнік. Карчомны рух найбольш быў у стадоле і перад ёю. Там трава не расла. Земля выцярушана была гноем, саломаю і сенам. Быў тут і кірмашны водыр: тхнула сенам, дзёгцем і гноем. Начамі, калі было ціха, чуваць тут быў грукат вадзякоў. Іх было некалькі на дробных рэчках на захадзе пад Гарадок. З усяго наваколлля яны перамолвалі жыта і належалі Хурсу. Ён іх паскупліваў у розных паноў і фальваркоўцаў. Хоць сам Хурс быў бітая штука, праныра на вялікіх маштабах, аднак-жа само жыццё вучыла яго млынароў красці з-пад сучкі яйца. Хітры і ўвішны чалавек, дзе-небудзь з боку завёўшы гішэфт з млынарамі, мог жывіцца. А без такога чалавека і самі млынары не маглі абыйсціся. Таксама без яго не маглі абыходзіцца і вінакуры ў маёнтках, і Хурсавы падручныя скупшчыкі свіней. Бывае, напрыклад, здарэнне, што з вялікага гурта купленых свіней пара самых сыцейшых захварэе, або якнебудзь скалечыцца. Трэба як мага хутчэй везці свінні на станцыю, дарога вялікая, а тут гэтую хворую пару хоць сярод дарогі кідай, бо от,-от здохне. Вядома, лепш-жа прадаць, хоць за бесцань, чым кідаць сабакам падлу. Ды і патрэбен гэтакі чалавек, каб адразу мог купіць. Вядома, гэты чалавек павінен ужо ведаць наперад у які дзень і ў якім месцы на гасцінцы захварэе свіння і на колькі пудоў вагою яна будзе. Але ўмеючы жыць на свеце, можна ўсё гэта ведаць і за паўгода наперад. Трэба адно варушыцца на свеце, не спаць у шапку, знацца з людзьмі, і як найшырэй, добра ведаць кожнага чалавека натуру, дагадзіць каму трэба, а каму не трэба, дык можна і не дагаджаць, нават пашкодзіць.

І от гэтакі падручны ўсім чалавек быў Сёмка Фартушнік—нясусветная праныра, увішны, як чорт. Сёмку Фартушніку належала карчма на гасцінцы. Карчма гэтая дайшла да свайго канчатковага заняпаду, калі была вайна з белапалякамі. Сёмка Фартушнік асеў тут перад пачаткам імперыялістычнай вайны. Родам ён быў з гарадка, і сын ён быў радавітага сальніка. З малых дзён сядзеў ён у бацькаўскай сальнай крамцы на гарадскім рынку. Кажуць, што вялікаму караблю—вялікае і плаванне. Дык Сёмка Фартушнік, як узбуяў добра, не стаў

вялікі карабель. На вялікую глыбіню ён нырца ніколі не даў, меў дробны ход. Ён быў увішны, як чорт, але гэта трэба разумець умоўна. Увішны—то ўвішны, але калі браць на маштабы, дык напроці яго Хурс, напрыклад, быў увішны не як чорт, а як сам старшыня ўсяго чартоўскага кодлішча.

Сёмка Фартушнік выбіваўся ў людзі з бруднае і цеснае бацькаўскае крамкі. Спачатку ён вучыўся. Бацька марыў вывесці яго за якога-небудзь адваката, ці хоць за якога-небудзь пісара, павятовага закулІснага заправілу.

Бацька ўмасціў яго ў гімназію. Але тут ён павучыўся ўсяго паўгода: быў нейкі царскі дзень, па ўсім гарадку вывешаны былі трохкаляровыя сцягі расійскай імперыі. На самай люднай вуліцы Сёмка дадумаўся зрабіць штуку. Ён нацэліўся з гумавае пускалкі каменьчыкам у царскі сцяг. Цалок ён быў не кепскі, каменьчык даўся ў сцяг, звярнуў яго на бок і ракашэтам уляцеў праз шыбу ў нейкую павятовую канцэлярыю. Паліцэйскі хапіў свавольніка за каўнер, і пачалася гісторыя. Па-першае, яго выкінулі з вучылішча, па-другое, гэта надоўга парушыла спакой у сям'і. На Сёмку сталі глядзець крыва, маці аплаквала загубленую сынаву кар'еру. Бацька тады пачаў як мае быць прывучаць сына да сальнае справы, думаючы ўтлумачыць сыну і на практыцы прышчапіць яму гандлярскую дыпламатыю, каб пасля ён мог павялічыць маштабы свайго фамільнага таленту. Але Сёмка не мірыўся з гэтым. Ён пацёрся ў вучылішчы сярод падпанскіх і так сабе панаватых сынкоў. Пасля—ён бачыў, як старэйшае пакаленне гэтых „сынкоў“ выходзіла ў людзі: мешчанчукі і падпанкі выходзілі за чыноўнікаў, зіхацелі гузікамі і цэшкамі. Такая-ж доля рыхтавалася і тым яго таварышом, якіх ён пакінуў у вучылішчы. А бацькоўская крамка смярдзела і ліпла брудам. Трэба было перарасці як-небудзь гэтую справу. І Сёмка Фартушнік пачаў кідацца па свеце. Ён спрабаваў зрабіць некалькі дробных (па сваёй кішэні і гадах) спекуляцый, падаўся для гэтага ў іншыя гарадкі. Справа ў яго пачала крыху ладзіцца, але аднойчы, калі трэба было вырашыць нейкі закручасты ход, не хапіла ў яго дыпламатычнае спрактыкаванасці, і ўсё ў адзін дзень ляснула марна. Ён вярнуўся ў свой гарадок і пачаў спачатку.

Малады Сёмка сфармаваўся ў прыгожага юнака. Адзяваўся гэты белатвары кучаравы малады чалавек па модзе. Любіў пярсцёнкі і залатыя гадзіннікі. У сваім-жа гарадку, занадта нешта рана, перажыў ён быў ужо два ці тры раманы з жанкамі немалых павятовых чыноўнікаў—і поспех гэты меў пад сабою тую прычыну, што хлапец быў вельмі прыгожы, страшна ў густе тых жанчын, да якіх ён меў дачыненне. Ды й сам быў хлопец не промах.

Чалавек гэты ўжо з самых маладых год сваіх меў як-бы два аблічча: кожны дзень ён быў заклапочаны і, здаецца, аніяк не браў на ўвагу ўсё, што не яго справа. Людзей, яму непатрэбных у яго справе, ён не заўважаў. Ён тады пачаў ужо прывыкаць да неахайнасці. Піджак яго быў абсыпаны мукою, калені ў нагавіцах у гліне, ці ў пяску—як-бы ён дзесьці на дварэ стаяў на каленах. Боты былі—дык адна халява падцягнена да калена, другая сціснута ўніз.

Але былі дні святыя, ці так вольныя яму. Тады яго не пазнаць было. Ён быў у дарагім гарнітуры, і гарнітур гэты сядзеў на ім вельмі спрытна. Пярсцёнак, залаты ланцужок ад гадзінніка, капялюш. Самы прыгожы і франтаваты юнак на ўвесь гарадок быў тады Сёмка Фартушнік. Зусім гэта не быў той чалавек, што круціўся каля смярдзючае крамкі.

знойдзеш. Мая Наталя даўно ўжо у маёнтку бульбу капае... У цябе-ж мусіць і есці няма чаго?

— Не, ёсць хлеб у торбе.

Але Паўлоўскі пасадзіў яго есці разам з сабою.

— Я ўспамінаю цяпер. Кастрыцкія жывуць побач з Хурсавым фальваркам. Я сам там жыў калісьці... Ну, пойдзеш работы шукаць?— смяяўся Паўлоўскі.

Валодзю Кастрыцкаму ў той дзень пашэнціла: у заезджым доме ён наняўся складаць дровы. Працаваў ён дацямна. На змроку ён вышаў на гарадскі рынак купіць сабе есці—ён ужо атрымаў за сваю работу некалькі медзякоў задатку. Ён купіў акраец сітніцы, але выбраў чарствейшы, каб было танней. Еў ён тут-жа, стоячы на рынку і прыглядаючыся да абтынкаванае камяніцы на два паверхі: там вучыцца Коля Высоцкі. Меркнуў дзень. У вокнах гарадка запальваліся агні. Гандляркі разыходзіліся з рынка.

Валодзя Кастрыцкі стаяў доўга, як падарожны на скрыжаванні незнаёмых дарог. Яму хацелася дадому, у сваю сям'ю. Ён сумаваў у гэты момант па сваіх блізкіх. Нават ён цяпер ужо з дрыжаннем сэрца думаў пра той, прыкры раней грыбны вобшыр, які заўсёды стаяў на лясістай дарозе пры яго хаце. Разам з тым яго мучыў белы дом, дзе вучыцца Коля Высоцкі. Ён зайздросціў Колю Высоцкаму. Усё было цяпер яму нядобра. З'еўшы хлеб, ён пайшоў назад у заезджы дом начаваць. Спаў ён на дрывах, паклаўшы туды сена і не раздзяваючыся. Устаў ён рана, каб хутчэй скончыць работу: згадзіўся ён за ўсё, а не ад дня.

Так прайшло яшчэ дзён два. Паўлоўскага ён не сустракаў. Але аднойчы ўбачыў на вуліцы Наталю. Яна першая пазнала яго. Яна здалася яму не такая цікавая, як тады вечарам: тады яна была прыадзеўшыся, цяпер у парванай і бруднай вопратцы. Яна ішла з работы.

—Што ты робіш дзе?—сказала яна.

— Сёння скончыў сваю работу.

— Хурс пачаў завод разбудоўваць. Я там сёння цэглу насіла

Назаўтра ён быў там. Яго паставілі з рыдлёўкай мясіць гліну і перадаваць яе мулярам. Рабіў як дарослы, але за меншую плату, і таму быў выгадны рабочы. Там ён на рабоце і астаўся.

Гэта было ўжо цераз тыдзень нешта пасля таго, як начаваў ён у Паўлоўскага. Гэты першы дзень работы Валодзі Кастрыцкага на Хурсавым прадпрыёмстве быў якраз той дзень, калі перад ім пачалі ўставаць няясныя абрысы новае, дагэтуль не веданае ім, грані жыцця. Гэта быў дзень не звычайны і многа новых думак абудзіў ён у Валодзі Кастрыцкага.

Праз поўгадзіны якое пасля таго, як пачалася праца—і на самым заводзе і на яго разбудове, хтосьці заўважыў прылепленую да паркана на заводскім двару паперку. Пасля пайшла чутка, што гэта праклямацыя. Людзі кінулі рабіць і пабеглі туды. Мала хто астаўся на месцы. Пачалі таксама выходзіць людзі і з самога завода.

Нічога на сцяне ўжо не было. Валодзя Кастрыцкі чуў у натоўпе рабочых, што ў праклямацыі, прыклеенай да сцяны, гаварылася так: кідаць работу і спыніць завод датуль, пакуль Хурс не заплаціць поўнае платы за той час, калі ён таргаваў завод. А ўсе, хто працуе на разбудове завода, няхай будуць салідарны з сваімі таварышамі і таксама кінуць работу.

Валодзя Кастрыцкі цёрся паміж людзей можа з гадзіну і бачыў, што работы няма. Не толькі гаварылі, не бяручыся за работу, што рабіць: „быць салідарнымі ці не", але яшчэ і іншыя гутаркі былі:

вайна пачнецца гэтымі днямі, бо прайшоў тэрмін міра, падпісанага паміж Расіяй і Японіяй. Але ўсё было недакладна, і ніхто нічога як мае быць не ведаў. Ясна было адно: на заводзе больш не робяць, завод ужо стаў. З будаўнікамі-ж справа была такая: каб быў там рашучы чалавек і сказаў кідаць работу, і можа работу кінулі-б. Не было каму скамандаваць. Камандзір прыйшоў гадзіны праз дзве. Гэта быў Рыгор Паўлоўскі. Валодзя ўбачыў, як ён стаяў на вуліцы, пакурваючы папяросу і, як заўсёды, стала адставіўшы нагу ў бок. Сам не ведаючы чаго, Валодзя пайшоў да яго.

— Робяць?— запытаў Паўлоўскі.

— Пачынаюць,—адказаў Валодзя.

Паўлоўскі азірнуўся навокал і падаўся туды. Ён убачыў у глыбіні заводскага двара чатырох паліцэйскіх і абышоў двор сцежкаю паўз рэчку.

— Вы яшчэ робіце? Эх, вы! Вас сцёбаюць дубцамі, а вы задніцу падстаўляеце. Кідайце работу!

Пайшоў гул галасоў. Разброд пачаўся поўны. Бадай што работу кінулі-б. Але ў гэты момант па вуліцы грунула палкавая музыка: з казармаў уязджаў у горад эскадрон кавалерыі. Праз пяць хвілін грукацела артылерыя. Рабочыя стаялі ўсе на тратуары, і Валодзя Кастрыцкі бачыў, як некалькі чалавек на месцы будоўлі павывaрочвалі з скрынь замешаную гліну і ўваткнулі ў гэту мокрую масу палку з надпісам на дошчачцы: „хто возьмецца за работу, будзе вораг свайму-ж брату рабочаму“.

Праз хвілін дзесяць Валодзя стаяў у вялікім натоўпе на рыначным гарадскім пляцы. Пасярэдзіне быў пусты чатырохкутнік, прыперты аднэй гранню сваею да белага дома. Злева стаяла шарэнга пяхоты, справа—кавалерыі, а проста—паліцыі. Артылерыя стаяла па вуліцы, злітай з пляцам. Пачаўся малебен „о ниспослании победы христолюбивому воинству“. Так стала вядома, што пачынаецца вайна з Германіяй.

Пасля малебна была патрыятычнае маніфестацыя. Валодзя Кастрыцкі бачыў Міхала Піліпоўскага ў шэрагах семінарыстаў. Ён адважна ступаў па бруку сваімі гамашамі з падбітымі пад абцасамі гумавымі кружкамі і не зводзіў прагнага позірку з кожнага, натрапленага на вочы, афіцэра. Колю Высоцкага таксама гналі ў шэрагах маніфестантаў. Валодзя і яго бачыў. А сам ён стараўся выбіцца бліжэй да цэнтра маніфестацыі. І гэта яму ўдалося: ён быў увесь у гразі і гліне і публіка давала яму месца, абы ад яго не запэцкацца. Пасля ён трапіў у натоўп горш адзетае публікі і тут ужо не баяліся яго гліны. Яго адапхнулі ў пустую вуліцу, адкуль ён і пайшоў туды, дзе начаваў апошнія дні—да Рыгора Паўлоўскага.

Да вечара было яшчэ гадзін тры. Ён сядзеў пасярод хаты на нізенькім зэдліку і цярпеў голад—грошай у яго ў той дзень не было а Паўлоўскі сам сланяўся з кута ў кут, чакаючы Наталі, каб разам палуднаваць. Нарэшце прышла Наталя. Яна адразу накінулася на Валодзю:

— Чаго ты сядзіш, ідзі вымыйся. Пасля работы трэба мыцца. Ты ўвесь у гліне, у зямлі.

Ён адкасаў нагавіцы і пайшоў на двор мыцца. Наталя выйшла паліць яму на рукі вады.

— А сама!—сказаў ён.—Чаму-ж ты сама не памылася?

— От паглядзіш, якая я зараз буду.

Няўмела, па дзявочаму, яна яму падміргнула і пашла даваць полудзень.

Яшчэ добра не ўмеркла, як у хату явіліся госці—чатыры паліцэйскія.Ператрэслі ўсю кватэру і забралі Паўлоўскага. Валодзя ўжо зусім астаўся на гэтай кватэры. Паўлоўскі прасядзеў пад арыштам да глыбокай зімы. Зімою яго пусцілі—не знайшлі выразных доказаў. Валодзя за ўвесь гэты час мала бываў дома—з Наталяю разам ён хадзіў на ўсялякую падзённую работу. Тут ён як бы знайшоў сабе другі дом.

Аднойчы ён сабраў сабе крыху грошай. Наталя навучыла яго што зрабіць: трэба яму прыадзецца крыху. Купляць адзежу ён пайшоў не адзін, а з спрактыкаваным усюды чалавекам—Паўлоўскім. Прыйшлі яны назад увечары, і Валодзя адразу ўздзеў новы гарнітур і боты. Гэта ў яго былі першыя ў жыцці боты і першы крамны гарнітур. Ён шмат разоў украдкі заглядаў у люстэрка. Наталя бачыла гэта, ёй было смешна з яго, але яна і выгляду не паказала. Назаўтра падвечар, прыйшоўшы з работы, яна сказала яму:

— Пераадзенься і хадзем з табою гуляць.

Ен увесь устрапянуўся ад радасці, але адказаў, стараючыся мець абыякавы выгляд:

— Куды ісці, нашто?

А сам баяўся, што яна згодзіцца і не пойдзе. Але яна бачыла яго навылёт і пацвялілася з ім:

— Ну добра, будзь дома. Я пайду адна.

Ён, здаецца, укусіў-бы сам сябе за язык. А яна сказала:

— Ну, пойдзем? Пераадзенься.

Ён моўчкі пераадзеўся і стаў перад люстэркам. Яна знячэўку намачыла яму рукою валасы, і цяпер ён ужо смела, не чырванеючы, зачасаў іх на бок. Так яны разам выйшлі з хаты. Але куды ісці—яна і сама не ведала. На вуліцы яна ўзяла яго нават пад руку, і ён страшэнна збянтэжыўся; усё думаў, ці добра ён трымае сваю руку ці зараз Наталя з яго зарагоча? Гэта першы раз ён так ішоў з жанчынаю, і Наталя з гэтае хвіліны заняла надоўга ўсе яго думкі. Ён не ведаў, што каб на месцы Наталі была іншая дзяўчына, ён таксама думаў-бы пра яе. Справа была не ў Наталі, а ў першай блізкасці жанчыны.

Яны спаткалі на вуліцы Лізавету. Тая іх пацягнула за сабою. Прыйшлі яны да нейкіх Лізавеціных знаёмых. Там збіралася моладзь на вечарынку. Пад гармонію танцавалі. Валодзя сядзеў у самым цёмным куце і з зайздрасцю і сарамлівасцю паглядаў на Наталю—яна многа танцавала. Раптам адчыніліся дзверы, і ўвайшло трое: кожны зіхацеў жоўтымі меднымі гузікамі на чорным пальце і цэшкаю на шапцы. Валодзя Кастрыцкі пазнаў двух: гэта былі—Міша Піліпоўскі і Коля Высоцкі. Валодзя аж рвануўся з месца, убачыўшы Колю. Ён адразу падбег да свайго друга. Той таксама быў рад. Валодзя трапіў у кола святла з лямпы. Як-бы добра не адчуваў ён сябе дагэтуль у сваёй новай крамнай адзежы, аднак-жа Коля ўжо выразна быў іншы чалавек у сваёй семінарскай форме. Старое пачуццё зайздрасці заварушылася ў Валодзі. Міша Піліпоўскі яго не так не пазнаў, як не хацеў пазнаць. Ва ўсялякім разе звысоку глядзеў на яго і ледзьве зрабіў ласку сказаць яму некалькі слоў. Валодзя здзівіўся: Коля Высоцкі вельмі спрытна танцаваў. Калі ён мог навучыцца? Міша Піліпоўскі не адыходзіў ад Лізаветы. Для Валодзі ў той вечар выявілася што яна зямлячка Мішы Піліпоўскага і толькі некалькі год, як пераехала з бацькамі ў гэты горад: бацька яе купіў тут каля самага горада тры дзесяціны зямлі і купіў хату на самым уездзе ў горад. Ішлі назад пасля танцаў разам: Піліпоўскі, Высоцкі, Наталя, Валодзя

і Лізавета. Міша Піліпоўскі яшчэ загадзя дастаў з кішэні манету. Коля растлумачыў Валодзю:

— Гэта трэба даць вартаўніку пры браме. Нам не можна выходзіць за сцены семінарыі і трэба падгадзіць вартаўніка.

— І за цябе ён плаціць?

— Ён мне так грошы дае.

— Як гэта?

— Я яму растлумачваю геаметрыю і ўсё іншае.

— Чаму?—нічога не разумеў Валодзя.

— Бо ён вельмі-ж тупіца.

— А як ты жывеш?

— Каб хутчэй дадому на лета.

— Чаму?—не верыў Валодзя і дзівіўся—як гэта можа быць?!

Тут яны развіталіся. Пасля гэтага выпадка Валодзя не бачыў Колі Высоцкага аж да лета, а ўлетку бачыўся з ім усяго два разы, калі быў дома. Першы раз яны спакойна пагаварылі, седзячы на жэрдзяным плоце, другі раз яны, можна сказаць, нічога паміж сабою не гаварылі, але былі разам доўга. От як гэта было. Валодзю наказалі, каб ён ішоў дадому. Ён перапалохаўся гэткае катэгарычнасці і нечаканасці і калі явіўся дадому, застаў усіх сумнымі, а маці ўсю ў слёзах. Бацьку бралі ў салдаты. Бацька начаваў дома тады апошнюю ноч. З самага ранку ўся сям'я праводзіла бацьку ў горад. Гэта была страшная хвіліна. Валодзя бачыў як вярнуўшыся дадому маці рвала на сабе валасы. У Валодзі слёз не было, але страшны смутак душыў яго. Ад яго не адыходзіў яго друг Коля Высоцкі. Ен усё гаварыў:

— Ціхэ. Пакінь. Чуеш?

Пасля яны моўчкі леглі спаць у Валодзевых сенцах, а назаўтра Валодзя пайшоў зноў у горад на работу. Калі раней ён частку заробленых грошай пакідаў сабе, то цяпер усё да капейкі аддаваў сваім. Заработак-жа яго быў невялікі.

У тысяча дзевяцьсот пятнаццатым годзе, цераз паўгода пасля пачатка вайны, Хурс ужо як мае быць дайшоў да думкі не пашыраць свайго скуранога завода. Можа быць ён нават цяпер шкадаваў, што купіў яго. Цяпер іншая справа яго займала. Гэта была вайна. Ён благаслаўляў той дзень, калі яна пачалася. Завод ён падправіў і пусціў так, як ішоў і раней, але прастояў ужо цяпер тут не было. Ён узяў вялікі падрад на выраб падэшвы для арміі, і яму важна было хутчэй гэты падрад зрабіць, бо наперадзе яму чуліся новыя падрады. Яму патрэбны былі людзі: рабочых з завода больш палавіны пайшло на вайну. Калі ён набіраў сабе людзей, астацца на заводзе ўдалося і Валодзю Кастрыцкаму. Паўлоўскі і Наталя асталіся туды пазней—у пачатку тысяча дзевяцьсот шаснаццатага года, калі сам Хурс на заводзе ўжо ніколі не бываў, а ўсю справу прыпаручыў новаму свайму заводскаму кіраўніку. Той не ведаў і не цікавіўся, завошта Паўлоўскага ўжо раз былі зволілі з завода. Хурс у гэтыя часы як-бы забыў пра такую драбязу, як гэты скураны заводзік. Ён цяпер па вушы сядзеў у сваёй роднай свінячай справе. Маштаб гэтае свае дзейнасці ён пашырыў яшчэ на адзін павет і лез яшчэ далей, збіваючы там з пазіцыі тамашняга свіннога купца. Справа была ў тым, што ён цэлымі эшалонамі пхаў свінныя тушы ў рускую армію. Маштабы яго прыбыткаў цяпер у шмат разоў выраслі паводле таго, калі ён яшчэ да вайны адпраўляў свіней у Варшаву. Тут і справа была большая, і інтэнданты на любілі таргавацца. Хурс цяпер цёрся каля ўсялякіх інтэнданцкіх кіраўніцтваў, каля армейскіх штабаў, але ні на хвіліну не спускаў вока з глухіх дарог, цёплых хутарскіх свінухоў, дзе

пладзілася і красавала свінное племя. Ён часта бываў у местачковых заездах, у карчомных стадолах, дзе яго падручныя вялі свінячы торг з непадатлівымі засцянкоўцамі і хутаранцамі.

Стадола і карчма! Знаёмыя нам словы с самага пачатку гэтай хронікі! Пяройдзем да справы бліжэй. Скажам прасцей—у той карчме, пра якую так шмат гаварылася ўжо раней, Хурс бываў часцей, як дзе ў іншых пунктах свае свінячае справы. Тут перад ім трапятаўся Сёмка Фартушнік. Сёмку Фартушніка сюды пасадзіў Хурс. Сёмка Фартушнік скупліваў і прымаў у гэтай карчомнай стадоле Хурсу свінні з цэлае воласці. Але гэта была толькі павярхоўнасць справы. Сярэдзіна была іншая. Там пахла не свінячым гандлем і не свінныя галасы там гучэлі. Там гучэў роспач Амілії Снацкае, там фармаваўся жах Клавы Снацкае, там Сёмка Фартушнік ішоў на дно галавою ўніз, лічачы сябе практыкам і майстрам жыць. Ён не заўважаў таго, што адзін год прыходзіць на змену другому, што калі з'явіўся на галаве адзін сівы волас, дык неўзабаве з'явіцца і другі. Ён нават не заўважыў таго, што з яго душы дашчэнту пачалі выветрывацца ўсялякія імкненні ў вялікія маштабы, а заместа гэтага асталася добра ўжо сфармаваная натура чалавека, які, чым мацней імчыцца падняць на дарозе капейку, тым больш вытрасае з свае кішэні рублі.

Гэта было яшчэ перад пачаткам вайны, калі Сёмка Фартушнік толькі што асеў у карчме. Увечары на сваёй параконнай брычцы явіўся пад карчму Хурс. Сёмка Фартушнік нічога асаблівага не адлюстраваў на сваім твары: няма нічога дзіўнага, калі гаспадар бывае там, дзе ён уладае справаю. Фартушнік думаў пра свінячую справу. Але з таго вечара ён пачаў глыбей думаць, пакуль не захлынуўся ў гэтых сваіх думках.

Хурс зрабіў у Сёмкі Фартушніка вячэру. Гэта было зроблена неўзаметку—нібыта ён зайшоў на хвілінку, перадыхнуць пасля прыёмкі свіней. Вячэра была з віном—усё гэта знайшлося ў Хурсавай брычцы. Пасля вячэры Хурс папрасіў Сёмку Фартушніка праехацца ў яго фальварак і сказаць жонцы, што ён паедзе не дадому, а ў горад, бо там вельмі выгадныя і неадкладныя справы. Ужо даўно Хурсава слова было для Фартушніка закон. І ён адразу сеў у Хурсаву брычку і паехаў. Хурс астаўся адзін з Аміляю. Яна вячэрала разам, але не сказала ні слова за цэлую гадзіну. Яна прывыкла ўжо бачыць тут часта Хурса, і праз каторы ўжо час яны не сказалі адно аднаму ні слова. Хурс толькі пры спатканні ёй кланяўся, і яна холаднаківала галавою. Такія дачыненні ўсталяваліся паміж імі.

— Аміля,—сказаў цяпер Хурс.

Аміля маўчала.

— Аміля, маё пачуццё да цябе асталася ранейшае. Я мучуся па табе.

— Ты смееш мне гаварыць гэта?

— Гэта пачуццё гаворыць.

— Ты загубіў мяне навек і цяпер выстаўляеш свае пачуцці? Цераз цябе я прымушана была пайсці замуж за гэтага Фартушніка!

— Чаму цераз мяне?—з'яхіднічаў ён, а сам падумаў: „Добра! яна адкрыта загаварыла мне пра свае пачуцці да мужа".

— Ты яшчэ пытаеш? Ты прыкідваешся нявінным хлопчыкам? Удава з дзецьмі магла быць шчаслівейшая за мяне тады. Я вымушана была ісці замуж за першага, хто пасватаўся.

— Чым-жа ён кепскі, твой муж?—выварочваў Аміліну душу Хурс.

Яна ўскочыла, сашчаміўшы кулакі. Гэта было падобна да таго, калі яна тады, даўно, нацкавала на яго сабаку. Ён гэта заўважыў і хістануўся да сцяны.

— Ты пытаеш? Ты нічога не ведаеш?—крычала Аміля, стоячы перад сталом.—Ты зрабіў з яго цацку, таксама як і з мяне!? І ён рад гэтаму. У яго душа гэткая, як і ў цябе! Я яму не жонка, а тавар. Ён увесь свет памераў-бы на аршыны і назначыў-бы цану на кожны аршын. Ён і мяне мог-бы прадаць каму хочаш і на які хочаш час, абы яму заплацілі. Калі яшчэ не было гэтага, дык можа быць! Я пазнала яго! Цераз яго я навек пахавала сябе ў гэтай карчомнай нары, з гэтым, з гэтым... (Яна не магла знайсці слова, каб даць мянюшку свайму мужу). Ён не той, якім умее прыкідвацца, ён цяпер такі, які ёсць, а не такі, які быў тады, калі першыя разы да мяне прыходзіў!..

Яна крычала доўга, ужо не бачачы перад сабою Хурса. Само сабою пайшло бушаваць і рваць яе абурэнне, агіда і роспач. Яна гаварыла пра неахайнасць Сёмкі Фартушніка, пра яго скнарыстасць, пра чорствасць, пра грубасць, пра нячуласць, пра гандлярскую хітрасць, пра капеечную блізарукасць, пра тое, што з кожным годам у яго выдоўжваецца нос і вырастае кадык; яна крычала пра агідны запах з яго пінжакоў і фуфаек. Хурс маўкліва ўсё гэта выслухоўваў, і гэтая вытрыманасць не перашкаджала яго радасці. Нарэшце ён устаў і паклаў руку Амілі на плячо. „Зараз закрычыць—вон!"— думаў ён.

— Вон!—крыкнула Аміля.

Ён апусціў руку і падумаў: „Зараз пабяжыць адгэтуль".

Аміля рванулася ў бакоўку і ляпнула за сабою дзверы. Ён пачакаў хвілін дваццаць і пайшоў туды. Аміля сядзела, уткнуўшыся тварам у падушку. Плечы яе пакідалі ўздрыгваць. Хурс сеў поплеч і пачаў гладзіць яе галаву. Яна нібы не чула. Праз хвілін пяць застукалі калёсы і пачуўся голас Сёмкі Фартушніка. Толькі цяпер Аміля адчула, што на яе галаве Хурсавы рукі.

— Вон!—закрычала яна.—Вы абое мне ненавідныя!

Хурс спакойна зняў рукі, заклаў іх у кішэні і выйшаў з бакоўкі. На парозе стаяў Сёмка Фартушнік. Ён і Амілін крык чуў і бачыў яе істэрычную разгневанасць. „Што гэта такое?" гаварыў яго позірк, накіраваны на Хурса. Хурс прайшоўся два разы ўздоўж стала і дастаў з кішэні пук грошай. Дэманстрацыйна ён паклаў іх на стол і вытрымаў паузу. Пасля адарваў трэцюю частку гэтага грашовага пука і паклаў Сёмку Фартушніку ў рукі:

— На гэтыя грошы я ў цябе буду абедаць, калі раз у месяц буду прыязджаць сюды.

Ён шпарка адзеўся і пайшоў. У парозе ён сказаў:

— Не, я перадумаў. Абедаць я буду дома ў сваім фальварку.

— А грошы?—скалынуўся Сёмка Фартушнік.

— Ерунда,—махнуў рукою Хурс, і праз хвіліну чутно было як фурман гукнуў на коняй.

Сёмка Фартушнік падаўся ў стадолу і запаліў там лямпачку. Ён пералічыў грошы і жахнуўся. Сотнямі мералася гэтая сума! Ён кінуўся ў свой пакой і замкнуў грошы ў стол туды, дзе ляжалі яго ўласныя пачкі. Ён доўга не мог заснуць: гэта ўжо было дзіва з Фартушнікам. Штосьці блізкае да чалавечага суму не давала яму спакою. Гэтае пачуццё рвалася наверх і патрабавала, каб ён кінуў назад Хурсу яго грошы. Але тут-жа выплыло другое пачуццё: яно было падобнае да тых пачуццяў, якімі ён жыў тады, калі яшчэ нежанаты рваўся ў шырокія маштабы. Перад гэтым другім пачуццём першае адступіла

і сплыло. Калі праз дзён дзесяць ізноў явіўся Хурс, у Фартушніка зноў заварушыўся смутак пры думцы аб Амілі, аднак-жа ён вельмі ўслужліва кінуўся Хурсу насустрач. На гэты раз Хурсу не ўдалося пагаварыць з Аміляю, ён адно кідаў на яе вельмі выразныя позіркі—на кожным кроку цёрся Сёмка Фартушнік. На ад'ездзе Хурс зноў пакінуў Сёмку Фартушніку грошай, выдумаўшы на гэта прычыну, але Сёмка ўжо ведаў, што гэтую прычыну трэба тут-жа забыць. Гэты раз Сёмка Фартушнік менш думаў, а больш падлічваў грошы і меркаваў, ці можна ўжо самому завесці якую-небудзь уласную справу. Ён пералічваў, якія ў рускай арміі могуць быць падрады, паводле яго кішэні. Так ён ні да чога і не дадумаўся. Трэці раз Хурс грошай не пакінуў, але намякнуў, што ці не пара Сёмку Фартушніку стаць кампаньёнам у якой-небудзь спекуляцыі. Хоць гэты намёк ні да чога Хурса і не абавязваў, але яго было даволі, каб Сёмка Фартушнік пакінуў Хурса з Аміляю адных. Цяпер Хурс дзейнічаў без усялякіх лішніх прадмоваў: ён заявіў Амілі рашуча, што не можа без яе жыць і зашчапіў на кручок дзверы. Сёмка Фартушнік калаціўся стоячы пад дзвярыма, а пасля не вытрымаў і падаўся ў стадолу. Як-бы нейкі пераварот адбыўся ў яго думках: ён пераадзеўся ў нейкі брызентавы гарнітур і пачаў падчышчаць у стадоле гной. Ён не выйшаў нават развітацца з Хурсам. За гэта Хурс у наступны раз намякнуў яму, што ўсялякія бываюць службоўцы ў вялікіх купцоў: адны да самае смерці пануюць, а другія могуць быць так пастаўлены ў жыцці, што дажываюць веку з жабрачымі торбамі. Хоць гэта і не гаварылася выразна пра Сёмку Фартушніка, хоць Хурс і „забыўся" на стале крыху грошай, аднак-жа Сёмка Фартушнік памагаў Хурсу сесці ў брычку. З гэтага дня Хурс пачаў бываць у карчме рэгулярна два разы на месяц і ўжо не „забываўся" на карчомным стале грошай. Сёмку было даволі і чакання, калі Хурс штурхане яго ў кампаньёны якое-небудзь спекуляцыі.

Праз некалькі год Клава шмат пра што з гэтых спраў расказвала Наталі: яна многа ведала, хоць яшчэ была, можна сказаць, дзіця. Яна, як рухавы звярок, кідалася з кутка ў куток, падглядала, падслухоўвала, бачыла, як Фартушнік лічыць грошы, чула, як маці ўздыхае і плача пасля кожнага Хурсавага візіта, і адзін раз выклікала маці на гаворку. От якую філасофію пачула яна з матчыных вуснаў: „Кожны чалавек створаны печаным гадам. І тое добрае, што ёсць у кожным чалавеку, вельмі мала, калі бярэ верх над злым. А той, у каго гэты добры пачатак задушыў злое, мала калі можа астацца вольны: на яго накідаецца навакольнае чалавечае звяр'ё, і такім парадкам зло перамагае. Слёзы, кроў—усё гэта вынік гэтага парадку светабудовы. І чалавечае шчасце ў тым, каб самому сабе змагацца з злом. Рэлігія? Гэта і ёсць шлях да чалавечае чыстаты і шчасця. Я радзілася хрысціянка? Дык я і памру ею. Любіць усіх пагалоўна? Можна, толькі не Хурса і Сёмку Фартушніка!"

Гэтая апошняя супярэчлівасць з хрысціянскаю мараллю не перашкаджала аднак Амілі Снацкай усё мацней і мацней усталёўвацца ў сваёй філасофіі.

— На! Бачыш?—паказала яна Клаве на двухкапеечную карціну ў рамцы.—Дзяўчына моліцца. Яна імкнецца ў чыстату ад чалавечага звяр'я.

І Клава ўчапіла на мадонну каралі.

— Бачыш?—паказала яна на свае маршчыны каля вачэй.—А я-ж яшчэ маладая!

Не ўсё Клава разумела тут. Яна была яшчэ дзіця. І гэта было не важна Амілі Снацкай. Ёй было важна хоць перад кім-небудзь пагаварыць. Клава-ж толькі адчувала той жах, які панаваў у яе маці.

Яны ўдвух хадзілі пад закарчомную ручаіну і глядзелі, як плыве вада. Гэта сузіральнасць легла ў аснову натуры маладое Клавы.

Месяцаў за чатыры да рэволюцыі, уночы, Паўлоўскі выканаў тое, што было яму даручана: ён атрымаў пракламацыі да рабочых і пусціў іх па руках. От што было сказана ў пракламацыях: „Хурс багацее на вайне. Нашы бацькі і браты на вайне ўміраюць. Мы галодныя робім на заводзе, каб Хурс багацеў. Далучымся да забастовак іншых гарадоў. Не выйдзем на работу, пакуль Хурс не павялічыць заработку. Установім васмігадзінны рабочы дзень“.

На чацверты дзень рабочага хвалявання сам Хурс быў на заводзе. Ён, пакуль шукаць вінаватых, сам прайшоў па натоўпе рабочых і зноў убачыў Паўлоўскага. Ён успомніў колішнюю гутарку з ім і цяпер нічога не гаварыў. Увечары Паўлоўскага звольнілі, а праз тры дні і Валодзю Кастрыцкага: хтосьці сказаў, што ён вельмі дзейна пускаў па руках пракламацыі.

Быў хмурны дзень. Снег быў мокры і неба нізкае. Паўлоўскі і Валодзя ўдвух рушылі з гарадка гасцінцам на ўсход—яны думалі пашукаць работы ў гарадку на ўсходзе. За гадзіны дзве яны падышлі да карчмы. Валодзя пацягнуў Паўлоўскага ў сваю хату, да сваіх—начаваць дома хацеў Валодзя. Пакуль звярнуць на палявую дарогу, яны ўвайшлі ў карчомныя сенцы, а пасля ў карчму. Было многа народу—сяляне фурманшчыкі і местачковыя мяшчане. Было страшна накурана і пахла мокраю воўнаю і селядцамі. За вялікім сталом пілі гарэлку. Валодзю зажадалася выпіць гарэлкі. Але пакуль ён збіраўся, зазвінелі на дварэ шамкі, і ляснулі абцасы аб падлогу ў сенцах. Адчыніліся дзверы, і на ўсю карчму бліснуў малады афіцэр. Валодзя падаўся ў кут к сцяне. Афіцэр акінуў вокам сялянскі натоўп і пашоў да карчомнае бакоўкі. Але выпадкова з бакоўкі выйшла Амілія Снацкая. Афіцэр хапіў Аміліну руку, паднёс да роту і адракамандаваўся:

— Прапаршчык Піліпоўскі.

— Калі-ж вы ўспелі?—здзівілася Амілія Снацкая,—ці даўно гэта было, што вы, едучы ў семінарыю і назад, заўсёды спыняліся тут з бацькам.

— Толькі што з ваеннае школы. Еду на дзесяць дзён у водпуск, пабачыцца з сваімі. А пасля—на фронт! На фронт!

Амілія Снацкая задумённа сказала:

— Як скора імчацца гады.

Міша Піліпоўскі невядома к чаму і да чаго сказаў:

— Судьба играет человеком.

Валодзя Кастрыцкі не вытрымаў:

— А Коля Высоцкі? запытаў ён, выходзячы з свайго кутка.

— Коля Высоцкі?—з пагардаю адказаў Міша Піліпоўскі, прыглядаючыся да Валодзі Кастрыцкага.—Коля Высоцкі? Гэты будзе спакойна настаўнічаць да канца дзён сваіх... А, гэта вы?—пазнаў ён Валодзю Кастрыцкага.—Што-ж вы?

Ён і сам не ведаў, што сказаць, бачачы перад сабою юнака ў вышмальцаванай вопратцы і з заскарузлымі рукамі. Пасля ён казырнуў Валодзю і пайшоў у бакоўку, смела і развязна. З гэтага моманта ў Валодзі Кастрыцкага нарадзілася і пачало ўсталёўвацца да Мішы Піліпоўскага пачуццё страшнае нянавісці. Больш ён яго ніколі ўжо і не бачыў, аж да тысяча дзевяцьсот трыццаць чацвертага года.

Валодзя з Паўлоўскім пайшлі з карчмы. Як толькі ўвайшлі яны ў Валодзіну хату, заплакала сястра Вера, загаласіла маці, закалаціўся меншы брат: ужо з самае раніцы на стале ляжала паведамленне, што бацька сканаў у акопах ад шрапнелевае раны ў жываце.

Гаварылі, што ў той самы вечар Міша Піліпоўскі вельмі весела піў у карчме разам з Хурсам. Хурсава віно і лез цалаваць рукі Амілі Снацкай. Пасля Хурс паехаў, а Міша Піліпоўскі пацалаваў руку ў вяртлявага звярка, бландыністага падростка—Клавы. А пасля Сёмка Фартушнік уклаў яго спаць і сам вельмі шчыра падкладаў яму пад галаву падушкі. Зранку-ж ён пазычыў у Сёмкі Фартушніка грошай на дарогу: у яго недзе дзеўся з кішэні партманет, але яму брыдка было прызнацца, і ён маўчаў. Сёмка-ж Фартушнік пазычыў яму грошы і нават вокам не міргнуў: ён пазычаў прапаршчыку яго-ж уласныя грошы.

Гэта было зімою. А як толькі сонца пайшло на вясну, у гарадку з ратушы быў збіты двухгаловы, бронзавы, цяжкі арол. Ён бразнуўся аб замакрэлы брук. І тады-ж Паўлоўскі сказаў у гарадку першую адкрытую рэвалюцыйную прамову. А цераз некалькі месяцаў Валодзя Кастрыцкі быў ужо ў Чырвонай гвардыі.

(*Працяг будзе*)

АНДРЭИ АЛЕКСАНДРОВІЧ

## ШЧАСЛІВАЯ ДАРОГА

###Ваўчанё пакідае нару...

Як на выспе адзінока,
Як дзікун краін далёкіх,
Рос на хутары ў зацішку
Сінявокі хлопчык Грышка.
Як выгнаннік, на адхоне,
У бярозавым палоне,
Без сяброў, без аднолетак
Так дзесятае ўжо лета
Рос куртатым, здэцца—ледзь
Непрыручаны мядзведзь.
Цішыня і глуш вакол....
Лес—высокі частакол—
Дзікай зараслю закуты,
Вартаваў кулацкі хутар.
Зрэдку зойдзе хто знаёмы,
Грышка моўчкі, староною,
Слухаў пільна свежы гоман
Пра жыццё быццё людское.
А часцей за ўсё заходзіць
З гушчы лесу, быццам злодзей,
Госцем злосным нежаданым
У бярлогу хутаранаў
Быстраногі шэры воўк.
І тады—ў двары трывога,
Крык гарэзны ў лес—дарогу
Мчыцца ўслед за быстраногім.
Неўзабаве сціхне зноў.
Зноў самотны Грышка гляне,
І, як сэрца хто параніць,
Лес маўчыць, маўчаць палі,
Толькі пчолы на паляне
Роем лёталі, гулі.
Ёсць у Грышкі і сястрыца
Маладзіца Палавіца.

Недаступная такая,
Усюды нос яна ўтыкае.
— Тут нядобра, дрэнна там,—
Дапякае батракам.
А парою з батракамі
Проста грызлася зубамі.
Да яе прыходзіў клер,
Выкшталцоны кавалер.
Вечна шэпчуцца, хітруюць,
Штось змаўляюцца, цікуюць.
Не па сэрцу Грышку гэта—
Усё сакрэт, усё сакрэты,
Нехта, нейдзе, нешта неяк,
Шыта-крыта, як зладзеі.
Грышка з ёй, ля году скора,
А ні слова не гавора.
І цікавасці ніякай,
А ні кроплі, а ні знаку.
Падружыць яму далося
З батраком—байкарам Лосем.
З ім праседжваў вечары.
Лось—мастак пагаварыць.
І заманліва! Пры гэтым
Бачыў ён не мала света.
За свае дзесяткі год
Перажыў ён шмат прыгод.
І калі папросіць Грышка
Расказаць што-небудзь, крышку,
Лось закурвае, міргне
І звычайна так пачне:
Быццам дудкай-самаграйкай,
Я цябе пацешу байкай.
За марамі, там дзе горы,
За гарамі, дзе вазёры,
За вазёрамі, пад сонцам,
У закінутай старонцы
Ёсць гара.
На тэй гары,
У дубовым гушчары
Жыў спакойна ўвесь свой век
Невядомы чалавек.
Жыў багатым жываглотам,
Працаваць не меў ахвоты.
Ад зары і да зары
Знемагалі за работай,
Пад крывавым, чорным потам
Толькі птушкі і звяры.
Сам не сеяў, не араў,
Ледзь нагой пераступаў,
А ўсяго яму ставала—
Хлеба, солі, круп і сала.
Свінні дзікія аралі,
Галкі ўслед баранавалі,
Бусел сеяў. Нават козы

Дзёрлі лыка з вербалозаў,
А мядзведзь каля кустоў
З тога лыка лапці плёў.
Як засцеле завіруха
Шлях-дарогу белым пухам,
Ці на захад ці на ўсход
Сабіраўся ў паход
Зверадавец-гаспадар
Прадаваць дабро-тавар.
Двор гудзеў перапалохам,
Усцілалі санкі мохам,
Кожны лётаў,
ахаў,
охаў—
Суматоха, суматоха...
Загудзеў мядзведзь у рог,
Што ласёў ужо запрог.
Гусі-лебедзі вароты
Адчыняюць жываглоту.
Дзятлы б'юць у барабан:
— Едзе,
едзе,
едзе—
Пан!
Вераб'і іграюць марш:
— Едзе,
едзе—
на кірмаш!..
Пан сядзіць і ў вус не дуе,
Едзе ноч—адну, другую.
Без канца, без перастанку,
Колькі сілы, цягнуць санкі
Цераз пушчы, цераз горы,
Праз даліны, праз вазёры,
Без дарогі, без шляхоў
Адзінаццаць пар ласёў.
А з бакоў бягуць ваўкі,
Як стральцы-вартаўнікі.
Караван стралой імчыцца,
Хмарай снежны пыл віхрыцца.
Пану—
мала, мала, мала;
Гоніць ход, страшэнны ход!
Зло ў ласёў забушавала,
Гневам кроў забунтавала:
— Эх, трымайся, жываглот!
Як рванулі, тузанулі,
Санкі ў бок перавярнулі.
Пан кручком перакуліўся,
І, як бочка, пакаціўся
З горкі—
уніз,
уніз,
уніз...

Пана снегам заваліла,
Курганом расла магіла.
— Будзе помніць, будзе знаць,
Як чужую кроў смактаць!
А ласі з ваўкамі ходу—
Ў лес!
На волю!
На свабоду!

Скончыць байку. Перадышка.
А здаволены быў Грышка,—
Грышка ўсцешан, Грышка рад:
Скача, быццам акрабат.
А бывае, як пачуе,
Што паны яшчэ шалеюць,
Грышка змоўкне, засумуе..
Лось тады журбу развее,
Прытуліўшы, скажа ласкай,
Як сыночку, як падпаску:
— Шмат чаго не разумееш,
А пара хоць трошкі ўмець,
Дзе ты, хто ты—разумець.

Што старэнькі Лось папросіць,
Грышка хутка зробіць Лосю.
Бацька—хай злуе, крычыць,
Грышка ўсё перацярпіць.
Раз хто просіць, гэта Лось быў,
Грышка выканае просьбы.

З бацькам ён даўно не ладзіць.
А хто ў памяці загладзіць,
Гэткі сорам, ганьбу?.. Эх!..
Грышку гора.
Хлопцам смех!
Справа ў тым: гурбой вясёлай
Дзетвара снуе ля школы.
Важны ў школе мітынг-сход:
Быў пісьмо прыслаў завод,
Каб наладзілі паход
Баявым сваім гуртом
Сабіраць жалезны лом.

— Каля кожнай хаты, дому,—
Колькі хочаш, таго лому.
Так што шмат не гаварылі,
А да справы прыступілі—
Раз патрэбен лом заводу—
Значыць, згода!
Згода!
Згода!

Грышка доўга і не думаў,
Ведаў, што й ля іхнай хаты

Ад вайны яшчэ багата
Ёсць раскіданага глуму.
Так з брыгадай ён ля саду
Стаў складаць сабраны лом.
Бацька ўгледзіў і калом
Прэч прагнаў з двара брыгаду,
Хто куды, каторы збег.
Грышку крыўдна,
Хлопцам смех!

І смяяліся заўсёды,
Што і лому для завода
Гад-кулак пашкадаваў.
Смех за Грышкам бег па пятках,
Грышка гыркаўся спачатку,
Потым моўчкі абмінаў.
Ён цярпець не ў сілах болей,
Раз'ядае раны соль.
Ён, як той чужак, у школе,
Ён і ў бацькі, што ў няволі,
Хто-ж суняць здалее боль?

Змрок гусцеў... Сышліся ў хату
Батракі і просяць плату.
А звычайна, хто багаты,
Батраку пачне круціць,
Каб як можна менш плаціць.
Лось цярпеў, цярпеў не мала,
Грудзі гнеўна злосць прарвала.
Ён крычаў:—Мы льем свой пот,
Каб табе нарос жывот?
—Мы тваёй не хочам лыжкі,
Мы ў цябе не просім лішкі,
А сваё, што мы ўтрудзілі,
Нам давай!
—Мы зарабілі!

Не ўцярпеў ад крыўды Грышка
З бацькам яра стаў спрачацца.
Бацька з Грышкі стаў смяяцца.
Грышка тут-жа, ўсё як след,
Напісаў у сельсовет.

Скупа слоў, а гнеў багаты:
Што ягоны родны тата,
Не плаціў даўно падатак,
Што таіў зямлю, скаціну,
Гаспадарчыя машыны,
Што глядзеў заўсёды гадам
На совецкую ўладу.
А назаўтра, ледзь світала,
Грышкі ў хаце ўжо не стала.

Дзе ні быў-бы Грышкаў тата,
Лаяў Грышку, кляў зацята.

Гаварыў на ўсю акругу:
—Грышка будзе валацугай.

Гаварыў, як звер, сярдзіта:
— Грыщка зробіцца бандытам.
А ці стане шкодным Грышка—
Нам раскажа гэта кніжка.

**Адкуль і куды на дарозе сляды?**

Грышка смела ўперад крочыць
Цераз рытвіны і кочкі.
Шлях балоцісты, сыры,
Крочыць Грышка, як стары.
Торбу ўспёр на паясніцу,
Закасаў ён нагавіцы,
Ў рукі ўзяў сукаты кій—
Як і ўсе вандраўнікі.

Хоць яму дзесяты год,
Смелы выбраў ён паход:
Стаць сумленным чалавекам
І без бацькавай апекі.
Сонца ўзнялася высока,
Пачынае мучыць спёка,
Смага точыць, і—бяда!—
Ёсць ды брудная вада.

Грышка ўзгорак бачыць справа,
Павярнуў туды рухава.
Пад узгоркам, як на шчасце,
Давяло яму напасці
Сярод зараслі балот
На крыніцу-быстраход.
— Эх, крынічка, піць хачу,—
Дай напіцца ўцекачу!
І крынічка напаіла,
Хлопцу сілы аднавіла
І шумліва льецца стужкай,
А над ёй крыляцца птушкі.
Грышка здзіўлен:
— Колькі дзічы,
Эх, каб я быў паляўнічы!

З'еў кавалак хлеба з салам,
Каб пад сэрцам не смактала.
А затым на горку ўзлез,
Недалёка ўбачыў лес.
А з-за лесу лезуць хмары,
І не дзіва, гэтак парыць!
Уцякае усе жывое,
Ў норы, ў ямы з неспакоем.
Вецер долу гне кусты,
Хмары, быццам дым густы.
Гром ударыў, Грышка ўздрогнуў,

І зямля ад грому стогне.
Дождж, нібы з вядра, лінуў,
Грышка скокнуў пад сасну
І сядзеў, як баравік,
Покуль буры крык не знік.

Сціхла бура. Ў цёмным лесе
Колькі звону, колькі песень,
Колькі радаснага руху!
Хто-ж не згодзіцца паслухаць?
Грышка ўстаў...
Адна-ж уцеха—
Белкі шчоўкаюць арэхі,
Каля нор шуршаць лісічкі,
Птушкі ўзнялі пераклічкv,
Нават зайчык-даляход
З жабай водзіць харавод.

Нельга ўсё-ж сядзець без меры,
Час пасоўвацца наперад.
Сонца коціцца на захад,
Грышка знаць не знае жаху:
Выйшаў з лесу, ўзяў напрамак
І пайшоў праз лужы, ямы.

Тут успомніў ён цяпер,
Верш пад назвай „Піонер“,
І, каб смутак свой развеяць,
Верш чытае сам сабе ён:

...Падрасту і ў комсамоле
Папрацую, яшчэ як!
Палюбіў я ў нашай школе
Комсамольскі маладняк.

Ёсць-жа хлопцы, як вароны,
То на плошчу, то на сквер.
А мне гальштук дай чырвоны,
Буду добры піонер!

Змрок павіс густой завесай,
Не відаць сяліб з-за лесу.
Лепш было б да сонцаўсходу
Быць сярод людзей, народу.
Але, што-ж, калі няма—
Хай прытуліць лес і цьма.
Каля вольхі, ў пухкі мох,
Грышка змораны прылёг,
Скурчыў ногі абручом
І заснуў салодкім сном.

### Вучоны сабака

Чуе Грышка, нехта будзіць,
Трасучы яго за грудзі.
І, праз сон, як загалосіць:

Бацька тут—яму здалося,
— Уставай, чаго гарланіш?

Ружавела ўжо світанне,
Праз галіны росных ёлак
Сонцу шлях цярэбіў золак.

— Уставай, хутчэй, бяздомак!
Грышка глянуў—незнаёмы
Перад ім стаіць армеец.
— Скуль, хлапчук, чаго гібееш?
— Я ўцякач... ад бацькі... ў гора...
Хутар Ліпы... блізка Горак...
— У-ця-кач?! Такая справа,
Што са мной ідзі ў заставу.
Я цябе ў заставе здам там,
Пагаворыш з камендантам.

І пайшлі... На ізгатоўку
Узяў патруль сваю вінтоўку.
Грышка звяў, стаў белы-белы,
Усё-ж спытаўся, хоць не смела:
— А якая гэта справа,
Што вядзеш мяне ў заставу?
— Як-жа так, дзе ты ляжаў,
Там якраз ідзе мяжа.
Бачыш, вунь, сядзібу тую?
Там яшчэ жывуць буржуі!

Хутка выйшлі на паляну,
Грышка, стомлены зусім,
Зноў у бок граніцы глянуў,
Як на злосць, і муць тумана
Слепіць вочы, быццам дым.

— Што тут выйшла, што такое?
Думаў Грышка з неспакоем;
— Што начальніку скажу,
Як папаў я на мяжу?
Доўга думаў і рашыў:
— Справа ў тым, што я зблудзіў,
І нічога мне не будзе,
Мала хто бывае блудзіць?
Больш за ўсё ў яго трывога—
Да бацькоў адвесці могуць.
Бацька—ведома, кулак—
Добра дасцца Грышку ў знак.

Начзаставы глянуў пільна,
Слухаць Грышку стаў прыхільна,
А расказваць Грышка можа—
Шчыра, горача, прыгожа.

— Так што з бацькам не ў ладох
Год прыблізна каля трох.
Кожны раз збярэ ўраджаі,

Ў яму ссыпле, захавае,
Стогне, скардзіцца штодзённа,
Што яму жывецца дрэнна.
Не сцярпеў я і знарок
Ад такога бацькі ўцёк.

На хлапца начальнік глянуў
Вокам вострым, гартаваным,
І падумаў:
— Вось дык справа,
Гэта-ж нават і цікава,
Каб падростак-кулачок,
І абмыты, і абуты,
Як ад здзеку, ад пакуты,
Ад сваіх бацькоў уцёк...
—Што-ж такога, хоць і рэдка,
Можа быць выпадак гэткі,
І тады грыміць, як гром
Слава дзецям!
Смерць бацьком!

— Як-жа быць з уцекачом?
Ёсць адвечны сказ народа:
Цягне ў лес ваўка заўсёды.
А калі на спробу ўзяць?
Мо', прайшоўшы нашым ходам,
Сам ваўкоў пачне знішчаць?...

Грышка ловіць, ловіць жвава
Зрок начальніка заставы.
Сэрца б'ецца палахліва
І чакае нецярпліва:
— Што ён скажа, як асудзіць?
Што тут будзе?.. Што тут будзе?

Выйшла гэтак: неўзабаве
Начзаставы сеў на лаве
З Грышкам, як арыштаваным,
І сказаў:—Відаць, адданы.
Што-ж тут доўга гаварыць,
Хочаш разам з намі жыць,
Вартаваць сваю краіну
Ад нападу сіл злачынных?

Заблішчэлі ў Грышкі вочы
І крычаць: „Ён хоча, хоча!
Шчыра дзякуй! шчыра дзякуй!
Будзе ўпорысты ваяка!"

— Вось і ўсё. А на бацькоў,
Як і іншых кулакоў,
Выйдуць з сілаю другою
Ў наступленне баявое.
Бачу я, што ты здаволен
Жыць, вучыцца ў нашай школе.

Пойдзем, я аддам загад,
Адвязуць цябе ў атрад.
Школа там і інтэрнат
Разам з школьнікамі, браце,
Будзеш жыць у інтэрнаце.

Грышка рад і не рад.
— Што такое інтэрнат?
Што рабіць са мной там будуць?
Зноў цярпець бяду-маруду?
Вось дык гора, вось дык гора,
Адпусціў-бы лепш у горад,
Працы там заўсёды шмат.
Не хачу я жыць у кратах,
Што мне тыя інтэрнаты,
Я ўцякаў не ў інтэрнат!
Я даўно імкнуся ў горад,
І... няхай пад градам куль,
Горад, горад!
Любы горад,
Я ўцяку, ўцяку адсюль!
Думкі ходарам хадзілі.
Не асмеліўся-ж сказаць,
Каб у горад адпусцілі,
А рашыў,—каб не скарылі,
Як на крыллях, уцякаць!

Шлях праверыў пільным вокам,
Непрыкметна, бокам-бокам—
Даў, як заяц, ла-та-ты
Праз дарогу—у кусты.
Каб не збіцца,
Не зблудзіцца,
Не папасці за граніцу,
Стаў, зірнуў на небакрай,
І—давай,
Давай,
Давай!
Бег, што сілы, голле хрушчыць,
Хруст гудзіць лясною гушчай.
Раптам—выскачыў з кустоў
І да Грышкі падбягае
І на Грышку нападае
Востразубы шэры воўк.
Грышка струсіў, здаў, заплакаў,
Хоць напаў зусім не воўк,
А муштраваны сабака
Пагранічнікаў-байцоў.
Падышоў патруль, адразу
Папытаў:—Куды, адкуль?
Грышка блытана расказваў.
— Штось хітрыць,—смікнуў патруль.
Грышка ўвесь збялеў і, нават
Не паспеў абцёрці слёз—
Зноў вядуць яго ў заставу,
Як злачынца, на дапрос.

### Комунізм—змяце граніцы

Як ніколі, ціха стала...
Апусціўшы галаву,
Ценъ сваю сасна кідала
На шаўковую траву.

Звонкіх птушак шум крылаты,
У кусты пакорна ўцёк:
Пад страхой зялёнай хаты
І не страшны сонцапёк!

Кветкі стомленыя вянуць,
Долу гнуцца каласы.
Шыр малінавай паляны
Просіць срэбнае расы...

Шмат няпужанае дзічы,
Моўчкі ткуцца ля крыніц...
Цішыня на пагранічча,
Баявы спакой граніц.

Грышка хмуры сеў на ўзлессі,
Галаву сваю павесіў
Ад тугі, журбы і дум.
Птушак многа ў звонкім лесе,
Хоць адной бы дружнай песняй
Разагналі ў Грышкі сум!

Грышка думаў, доўга думаў,
Ён баяўся кпін і глуму:
Хто не ўчуе пра пабег,
Узнімаць пачне на смех,
А найбольшай сілы гора—
Адчуваць пракляты сорам.

Сонца галай адступала
За лясы, за горы, скалы,
Налівацца стаў закат,
Як вішнёвым сокам сад.
Грышка ўстаў. Хоць і стамлёны,
Ён падаўся ў бок кардона,
Уявіў сабе, што ён
Сцерагчы ідзе кардон.

Што за поле, што за шлях там,
Дзе яшчэ пануе шляхта?
Выглядае падазронна:
— Мо крадуцца дзе шпіёны?

Арку ўбачыў недалёка,
Падышоў, прыжмурыў вока,
І чытае і дзівіцца.

КОМУНІЗМ—
ЗМЯЦЕ ГРАНІЦЫ.

А то й праўда, слуп і дрот
Працавіты наш народ

Падзяляе, што за дзіва,
На нявольных і шчаслівых...
Ідучы назад, ля ціра
Ён спаткаўся з камандзірам.
Селі ўдвох яны на ўзгорку,
Завязалася гаворка.
Грышка разам з камандзірам
Гаварылі доўга, шчыра:
— Ты малы, а ведаць мусіш,
Што ў Заходняй Беларусі
Беларускія жандары
З польскім разам гаспадараць.
Што не так, як трэба пану,
Значыць—ты арыштаваны.
Гаварыць там нашай мовай
Забаронена сурова.
Там і здзек і катаванні
Над нявольнымі братамі.
Хто-ж устане супраць катаў,
Гіне ў турмах-казематах.
Слухаў Грышка, слухаў моўчкі,
Бляскам дзіва з'ялі вочкі.
А калі адзін застаўся,
Помста ў сэрцы завілася,
І рашыў ён гэтай ноччу
Бліжкі шляхціца фальварак
Зруйнаваць агнём-пажарам.
— Падпалю і перад светам
На заўсёды давяду,
Што не йду супроць Саветаў,
А супроць паноў іду.

Непрыкметна вышаў з дому,
Ўзяў з сабою сноп саломы,
Ўзяў сярнічкі і... цішком
Бег спаліць шляхецкі дом.

— Хто такі? На месцы стой!
— Гэта я, таварыш, свой!
— Што ляціш так віраломам,
І нашто з сабой салома?

Грышка белы стаў, як снег.
— Што-ж маўчыш? Куды ты бег?..
— Гаварыць? А хто дасць веры,
Што з найлепшым бег намерам?
Зноў няўдача...
Амба! Крышка!..
Сноп пасыпаўся з-пад мышкі.
Застывала ў жылах кроў,
Як вялі ў заставу зноў.
А ў заставе злосна крышку
Павялі размову з Грышкам:
— Мы-ж цябе тут прытулілі,
За свайго цябе лічылі,
Як-жа так?

— Зусім не гэтак!
Я не йшоў супроць Советаў.
З поўвярсты, па той бок аркі
Ёсць два панскія фальваркі,
Іх хацеў я падпаліць,
Каб лягчэй было там жыць,
Каб не знацца з бізуном
Нашым змучаным братом!
— Малады яшчэ, зялёны,
А таму з такім разгонам
Бег, каб глупства нарабіць.
Біць вас трэба і вучыць.
Падпаліць адзін фальварак—
І гатова? Гэта мары,
Гэта толькі лятуценне,
А не бой за вызваленне.
Згуртаваўшы сілы разам,
Трэба ўсім паўстаць, адразу.
І тады ўжо скінуць з карку
Усе маёнткі, ўсе фальваркі,
Паскідаць у жар вагранкі
Усіх паноў і ўсіх поўпанкаў.

Выйшаў Грышка, як пабіты,
Чуў сябе не самавіта.
Дуты, злосны, чырванее:
— Я ніяк не разумею,
Ці-ж палякаў біць не можна?
Нашых ворагаў не можна?
Што такое?..
Лёг на ложак,
Злосць кіпіць, дасада, сорам.
А ляжаў ля Грышкі поруч
Гэтак сама камандзір
Пагранічнік Казімір.
Не сцярпеў, не змог стрываць,
Каб змаўчаць, не расказаць:
—Меркаваў дабро зрабіць,
А пачнуць смяяцца, кпіць.
Думаў, будзе мне падзяка,
Што пайшоў супроць палякаў,—
Так ад сэрца Грышка шчыра
Прызнаваўся Казіміру.
— Бачыш, справа ў нас такая,
Падрасцеш, дык сам пазнаеш;
У палякаў ёсць паны
І ў беларусаў ёсць яны,
А найбольш, калі знаць хочаш,
Ёсць і там і там рабочых.
А рабочыя з панамі
Век не могуць быць братамі.
Зараз Польшча ў завірусе,
І ў Заходняй Беларусі
Нарастае бура, гром—
Смерць раз'юшаным паном.

Думаў ты спаткаць падзяку,
Што пайшоў супроць палякаў?
Я—паляк, чырвонаармеец,
І чым горшы за цябе я?
І скажы, браток, за што-ж
Мне ўсадзіць збіраўся нож?
Ну, падумай, дружа браце,
Я твой вораг ці прыяцель?

Грышка змоўк. А гэтак жвава
Беглі думкі. Ён здзіўлёны:
—Што такое? У чым тут справа?
Біць палякаў—забарона?
Дык на што стаіць застава?
Што такое? Ў чым тут справа?..

(*Канец будзе*)

СЫМОН БАРАНАВЫХ

# ПАСТКА

(аповесць)

## Дзядзька Цімох

Да нас прыехаў дзядзька Цімох. Ён прыехаў аж здалёк. Яму да нас трэба ехаць нават чыгункаю.

Дзядзька Цімох сядзіць цяпер за сталом, на самым куце. Мой бацька разам з маткаю частуюць нашага дзядзьку.

— Бярыце гэту крошку, Цімох Савастыянавіч,—кажа бацька да нашага дзядзькі (бацька мой заве яго не Цімох, а Цімох Савастыянавіч).

Маці пасылала да Каленікавых, каб я пазычыў пяць яек. І я прынёс яйкі, а маці спякла для дзядзькі Цімоха цэлую яечню.

— Але-ж, бярыце,—талерку суне маці па абрусе, услед за бацькавымі словамі.—От бярыце, што ёсць...

А дзядзька Цімох—такі ў нізкім росце і з рыжымі вусамі. Ён вельмі павольна варушыць пашчэнкамі—жуе яечню. Здаецца, от яму памог-бы...

— Бладару,—кажа ён,—не турбуйся, Сяргей. (Гэта на майго бацьку.)

І кажа далей—ужо як праглынуў яечню:

— Гэта-ж і мой Казя хацеў ехаць са мною, але я не пусціў. Другую зіму ўжо вучыцца. Разбазыраны хлапец—вучыцца не хоча. От яму толькі гнёзды птушыныя пароць. Такі ўжо—што хай найгладчэйшая хвоя, а ўзлезе. І ў каго ён удаўся—не ведаю. Я і сваруся, і рады, проста, мала.

— Пасталее, патом, не будзе такі,—слова ўстаўляе матка.

Я думаў, яна скажа што-небудзь пра мяне, але ў мяне не дрэнная матка. Паглядзела толькі на мяне знячэўку ды ўсяго і сказала:

— Наш Піліп дык ужо вельмі-ж спакойны.

Ды ізноў да дзядзькі Цімоха:

— Ежце! Вы-ж здарожыліся, такі. А-а...

Я першы раз даведаўся, што ў нас ёсць такі дзядзька. Бацька то казаў неяк пра Цімоха, калі не было ў нас мукі на хлеб, што каб паехаў да яго, можа-б пуд які і агораў. Але бацькавы словы мне былі і няўцям.

Я цяпер пазіраю на дзядзьку і бачу яго як след, самога. Ён хоць сабе і ў нізкім росце, а патом чыста адзеты: у камізэльцы, у жакетцы і рубашка белая відаць з-пад камізэлькі. І нават пры гадзінніку. Ланцужок ад гадзінніка прашнураваны праз праразок і проста блішчыць—зіхаціць.

— От каб мне гэткі ланцужок папаўся,—думаю я.

А дзядзька Цімох усё закусвае і ўсё пра неевашта муляе.

Я стаю каля палка, а потым—чаго я буду стаяць дарэмна—сядаю на палок і пазіраю сабе на дзядзьку. Ён гамоніць з бацькам пасля Казіка пра сваю малатарню, кажа, што ў ёй зуб трэснуў, а потым—вусы распасцёр рукою, то сюды, то туды—на мяне кінуў зірк ды і кажа:

— Дык вы-ж мусіць не ведаеце чаго я да вас маю?

— Не, Цімох Савастыянавіч,—натапырана пазірае бацька.

А ён:

— От-жа я хацеў—ці можна, каб вы свайго Піліпа пусцілі да нас?

У мяне адразу сэрца заёкала. Я не ведаю, навошта я яму, а сэрца, дурное нейкае, калоціцца, як тая асіна.

Цімох у стол унурыўся—хлеба крошку мне ў пальцах ды і зноў:

— Вы-ж можаце ўправіцца і прытым—хай хлопец пагуляе. І хлеб цалейшы будзе ў бацькі.

Маці маўчыць, а бацька—ні то ён не памеркаваў, ні то каб не ўгнявіць, можа, дзядзьку Цімоха, патыліцу чухае і кажа:

— Да можна... Толькі, што ён у вас там будзе...

Дзядзька Цімох усё адно як скеміў пра вошта будзе пытаць бацька—кінуў скамечаную крошку хлеба пад стол—перапыніў:

— От нічога такоўскага рабіць ён у мяне не будзе. Кароў паглядзіць з Казікам у перамешку, от сёе-тое... Хлеба-ж у мяне хапае дзякаваць. Хай. І Казіку будзе ахвотней і яму. Юзіка ў мяне няма: свая сям'я—ніхто не пакрыўдзіць. Я яму і боты пашыю...

— Яно-ж гэтак,—кажа маці,—ён ботаў яшчэ не мае. Бацькавы поркі ўздзене на ногі, дык колькі радасці! Хай зарабіць едзе сабе на боты.

А бацька пра сваё:

— А як-жа вы, Цімох Савастыянавіч, без парабка?

Дзядзька Цімох моцна варушыцца на лаве: нібы сук муляе пад ім. У вочы бацьку, таксама, не пазірае, а на наш качарэжнік, здаецца, пазірае. Усёроўна, як нібыта яго мала і цікавіць, што з ім гавораць.

— Гм..—ухмылку пускае Цімох у рыжыя вусы.—От так і абыходзімся. З боку, бывае, то сёй, то той прыткнецца. Цяпер-жа вазьмі чужынца, дык не адкараскаешся... А так... Вось яно так і жывецца, як той казаў.

А я не ведаю, што робіцца ў маёй сярэдзіне. Там нешта пераліваецца, трасецца. Мне нават хочацца піць. Саскакваю з палка на цвёрдую зямлю, ды іду каб напіцца. Не відаць нідзе конаўкі, і я пытаюся ў маткі:

— Дзе гэта конаўка дзелася?

— Ну дык як-жа ты, Пілiпка?—замест каб сказаць дзе конаўка, ловіць мяне бацька сваім зіркам. А маці—нібы яна не хацела пачуць, што я скажу на бацькавы словы, і адразу:

— Глядзі, яна, здаецца, у сенцах на зэдліку.

Я выходжу з хаты і так і не ведаю, што мне адказаць на бацькава запытанне.

### Па дарозе

Можа і не паехаў-бы я з дзядзькам Цімохам, калі б ён нам не радня, і калі-б не боты. У мяне-ж ніколі не было ботаў. Яны-ж у мяне будуць некалькі гадоў. Я не буду насіць па будных днёх і абы дзе—па гразі не буду хадзіць. Буду абціраць, як скіну з ног, чыстаю анучай, і яны заўсёды будуць у мяне, як новыя. От няхай

тады ведае Антосяў Валодзя! Няхай тады перада мной рызыкі не выстаўляе, што ў яго ёсць боты:—што-то ён? А боты мае такія будуць... такія от—новыя... Добра, што наш дзядзька Цімох—наша радня. Чужы хто—канешне—не пашыў бы мне ботаў.

Ужо сонца перад захадам, а мы выехалі на ўсю ноч. Бацька запрог нашага Калашмана, і ён ідзе павольна.

— Няма куды спяшацца,—так сабе пугаю на поле круціць бацька.— Паспеем яшчэ, уга!

Калашман зрэдку махае хвастом і дастае, часамі, некаторую валаснёю мне па рубашцы. Валасня ў Калашмана вельмі пруткая. Калі чэпіць дзе па голым целе—баліць... Я тады ўсё сунуўся ад яго, каб ён не хвозаў.

Бацька з дзядзькам Цімохам гавораць сабе нешта пра зямлю... Цімох кажа, што да яго чэпіцца сельсовет з гэтаю зямлёю.

— Яны, каб прымелі—ой-ой! у лыжцы вады ўтапілі б,—кажа Цімох.— Усё мала з іх горла, давай ім, давай, і канца краю няма.

Калашман ідзе спакваля, і я не ведаю, чаму чэпяцца да дзядзькі Цімоха? Але што мне, урэшце, за такая цікавасць?

А сонца вот ужо зайшло за Дубовы лес. Туман вунь дзе ад поплава імжыць. Вечар ціхі, ціхі. Жукі марськаюць то сюды, то туды. Поле дрэмле цёплаю, ад цэлага дню, млявасцю. Ах, як добра, што я еду! Сяджу, сабе, на возе ў перадку і еду. Праўда, у маткі нават слёзы аж накруціліся, калі я ад'язджаў. Яна, такая, што вельмі шкадуе мяне. Яна, калі я сеў на воз, папраўляла пада мною сядзенне і гаварыла:

— Ты-ж, сынок, не дурэй там... Слухай дзядзькі, калі што трэба... Ён-жа табе і боты пашые...

А сама слёзы ўцірала. Я ёй казаў:

— От-бок... ну чаго ты, мама! Я-ж не маленькі... Няма ведама чаго ўздрыгвае...

Мне не так-та зручна сядзець у перадку. Нашы калёсы, можна сказаць,—гнаяўкі. Яны—толькі што лёсткі па баках; а ні перадок, ні задок—не мае заставак. Заместа заставак—бацька пераматаў задок повадам. Гэта каб зручней было сядзець Цімоху. А перадок—нічым не пераматаны. Дык я ўсё з'язджаю, і Калашман хвозае па мне хвастом.

— Сюды, бліжэй сядай, кажа Цімох, бачачы што я тарнуюся.

— Дарма-а,—пазіраю я на яго накідку з башлыком—нічавусенькі...— Сена падбіраю я пад сябе, каб вышай было сядзець.

Дзядзька Цімох цяпер увесь адзеты ў накідку. Ён нават башлык адзеў на шапку, каб яна, „варшаўка“, не запылілася. Яму цяпер пыл нічога не значыць. У такой накідцы можна ехаць хоць колькі хочаш вёрст. А бацька мой у адной світцы. У мяне—я таксама маю світку. Маці скідала мне яе з бацькавай старой. І вышлася яна, як і новая. Але яна каля мяне, а я еду ў адной рубашцы.

— Хай-бы і ў бацькі была такая накідка—пыльнік, як у дзядзькі Цімоха,—мяркую я сам сабе.—От яно як: у дзядзькі Цімоха ёсць, а ў бацькі і няма...

* * *

Мы прыехалі туды, дзе стрымліваецца цягнік. Бацька, калі мы пад'ехалі, сказаў:

— Вот і раз'езд...

Дык я сам сабе і падумаў:—Гэта-ж мы тут з бацькам і раз'едземся.

Я злез з драбінак і хутчэй пабег глядзець, які ён, гэты раз'езд. Я ўбачыў:

У пяць шароў—і роўна і адна цераз другую пакладзены тугія, гладкія жалезы (потым даведаўся я, што гэтыя жалезы завуцца—рэйкі. Іх выліваюць рабочыя ў горадзе, на заводзе). Рэйкі да таго вылізаны, ажно, не раўнуючы, як дзядзькаў ланцужок, блішчаць. Там, дзе яны крыжуюцца, стаяць ліхтары. Усе гэтыя рэйкі—на шпалах. Шпалы ляжаць адна за другою, і рэйкі папрыбіваны загваздкамі да іх. І гэтак праз усю дарогу, аж і канца не відаць—да-а-лё-о-ка...

— І як яно тут едзе без каня?

Мне здаецца, калі-б прымайстраваць нашы калёсы на гэткія гладкія рэйкі, яны-б каціліся; а не то што—няма ведама куды. А з боку, за пяць крокаў—чырвоным намалявана стаіць будыніна. Тут ёсць—к-а с-а-а—каса, прачытаў я. (Цімох потым плаціў касе, каб можна было ехаць цягнікам па рэйках).

А як усё я агледзеў,—быў падышоў да воза. Бацька з дзядзькам усё стаялі, гаманілі.

Бацька падкінуў Калашману сырой травы (гэта я ўдзень нажаў у выжарыне травы, каб было на дарогу). Ён хрумстаў траву, а бацька казаў да дзядзькі Цімоха:

— Мне пакуль мы ўжнём.... Пудзік які, другі пазычыць, і яно хопіць.

— Я-ж сказаў. Я дам: я не хочу, каб тваё пераходзіла. Ды што казаць... мы ўсётакі свае. Памяркуемся неяк, як той казаў.

Я адразу і скеміў сам сабе:

— Бацька ды пазычае ў дзядзькі Цімоха пуд, ці другі аржаной мукі... ці на зацірку, ці на скавэродніке... Мусіць дзядзька Цімох не тое што—(ён і ў накідцы),—а нам не раўня.

### Схованы склеп

Другі дзень жыву ў дзядзькі Цімоха, але не забыўся, як мне шкода было бацькі. Цягнік тады быў скора прыйшоў на раз'езд. Я ўбачыў здалёк два вокі і гэта быў цягнік. Ён соп, калі падыходзіў, вельмі-ж сярдзіты. І які-ж грузны, чорны ўвесь, як тоўстая вужака. (Я ніколі не бачыў цягніка.) Колькі тады было людзей—усе паўлазілі праз яго бакі ў вагоны. А ў вагонах цёпла, не пазнаеш—ці ў хаце, ці ў вагонах... Нават можна сядзець і спаць лежачы. І цёпла гэтак, як дома, ў сваёй хаце. Мне было весела, аж пакуль не прышло на памяць, што бацька цяпер недзе едзе адзін дадому. Ён, калі развітваўся са мною—сказаў быў:

— Ты-ж не маленькі... будзеш добрым, і да цябе будуць добрымі.

Ен сказаў мне, і Цімох не чуў яго слоў. Але бачу я, вочы ў яго, здаецца, замакрэліся.

— Усё-ж такі шкадуе... падумаў я тады.

А цяпер і я шкадаваў бацьку і найбольш—матку. Бацька—калі-ні-калі—хвазяне трапкачом, а матка ніколі, апрача—накрычыць. Бацька, бывала, і кажа на матку:

— Ты вось толькі языком... А каб узяла, ды перацягнула чым, дык-бы ён і ведаў.

І ў мяне цяпер дарма сабе, а сэрца па іх—трымціць; а таксама і нашай Насты шкода (яна толькі яшчэ ў тую зіму пачала хадзіць).

... Я калі прыехаў з Цімохам да яго хаты, злякнуўся: вельмі-ж сабака рабы вялікі на ланцугу. Ён і не брахаў, а толькі бурчэў, а мне было вусцішна. А хата Цімахова зроблена ў нямецкі вугал

і гонтамі накрыта, і па сцяне ад ганка расце шырокі вінаград. (Казік потым казаў мне, што гэта вінаград). Цётка Цімохава, калі я прыехаў, нават і не глянула, здаецца, на мяне. Вельмі яна нейкая насупістая была!

— І чаго яна?..—было ў маім меркаванні.—Я ж ёй ніякага ўрону не зрабіў?

Хата Цімахова ўся—на дзве хаты і пасярэдзіне сенцы. Я адразу зайшоў у тую хату, дзе ўсе жывуць. Яна такая прасторная і на падлозе. Печ не такая як у нас, а зграбнейшая—з ляжайкаю і ўсюды юшкі.

— У нас адна юшка і ляжайкі няма...—памысліў я.

А Цімох да мяне:

— Вот ты і будзеш тут спаць.—Цімох паказаў на палок каля ляжайкі.

Я крыху прыпёрся да палка, а потым выйшаў у сенцы. Казік выйшаў з другой хаты, і я сказаў яму:

— У вас аж дзве хаты... вот!

— Ага...—паглядзеў Казік на мяне.—Дзве. У нас, апрача хат, яшчэ нават ёсць і схованы склеп...—сказаў ён і нібы здрыгануўся: адразу змоўк.

Я нібы і не чуў, што сказаў Казік пра схованы склеп. Мяне цікавасць брала, якая там другая хата! Казік бачыў гэту маю цікавасць і ад радасці дадаў:

— Зірні!.. Паглядзі, якая наша другая хата,—сказаў ён. Але заходзіць табе няможна. Татка і Юзіка не пускалі сюды.

Казік дзверы хаты адчыніў, і я ўбачыў: стол быў увесь у вазонах. Каля сцяны стаяла мяккая лава. Казік сказаў мне, што гэта—канапа, і што яе тут не ўмеюць рабіць, а толькі робяць у горадзе.

— І люстэрка бацька прывезлі з горада,—сказаў Казік.

Я ўбачыў вялікае люстэрка: такое—ад падлогі ды да столі.

— От яко-ое!..—акінуў я вокам ды праказаў:—у нас ёсць, але Наста пабіла, дык толькі адзін кавалачак, татка голіцца ў яго.

— У вас няма такога!—зачыняючы дзверы, сказаў Казік.

Мы вышлі на вінаградны ганак. Я знячэўку адшчыпнуў лісток ад вінаграду, а потым зрабіў руку трубачкаю, паклаў лісток і—стрэліў.

— Не страляй!—крыкнуў Казік і аж спалохаўся.—Татка калі пачуюць—стрэляць табе... Будзе табе як лісток рваць...

— Не стрэ-эляць...—сышоў я з ганка на двор, а Казік за мною ішоў.

Двор—увесь у шчыкетах і вішнёвы сад з яблынамі вунь, у дзядзькі Цімоха, за шчыкетамі.

— Во то папаядаю я яблыкаў, вішань...—адразу я скеміў.

Казік не ведаў маіх думак, хоць ён і большы за мяне. А я акінуў вачыма Казіка з галавы да ног і ў сваіх думках:

— Ён хоць і большы, але сухарлявы. Я яго, каб пабарукацца ў накрыжкі, пабарукаў-бы...

Мы ішлі па двары—адзін з другім поплеч, і маўчалі. Ні адзін ні другі не ведалі, пра што кожны з нас думае. А Казік, мусіць, думаў пра тое, што і сказаў. Яшчэ два-тры крокі ступілі. Да варот падыходзілі ўжо, што адчыняюцца ў садок. І Казік раптам застанавіўся, стрымаў мяне сваім зрокам ды кажа:

— Ты... ты прыехаў баранаваць да нас?

— Не!—пазіраю я, нібы першым разам, на яго.

— Чаму не? У нас-жа няма ўжо Юзіка... Дык хто-ж будзе баранаваць. Мне-ж трэба вучыцца...

Я яшчэ пазіраю на ўсяго яго і сам не ведаю чаго я прыехаў. А потым кажу з неахвоты.

— Я прыехаў... от сёе тое—падсабіць... А баранаваць—я не ўмею.

— Гм...—зубы ён мне вышчырыў.—Гэта-ж лёгка. Толькі трэба ісці за коньмі, і больш нічога. Я от бачыў як Юзік баранаваў.

— А куды пайшоў Юзік?—пераступіў я з нагі на нагу.

— Ён цяпер у комуне. Ды нам ён,—кажуць татка,—не патрэбен. Татка кажуць, што праз Юзіка ўсё гора спадае на нашу галаву. Каб не было Юзіка адразу—мы-б і клопату не мелі.

— А хіба ён у вас краў?—пытаю я ў Казіка.

— Не-э... Ён быў за парабка ў нас. Ці нават і не за парабка, а за пастуха. Цяпер-жа за пастухоў трэба шмат плаціць сельсовету. Гэта за цябе мы не будзем плаціць. Татка кажуць, што ты будзеш у нас як радня. І да нас сельсовету не будзе як прычапіцца.

Ды рагоча.

Мне здаецца, што я з Казікам не магу весці хеўру. Ён усё абы што, дык—гі-гы-гы.

Няма, здаецца і з чаго, а ён—выскаляецца. І ўсёроўна, не раўнуючы, як дурны, ці што.

— А якая я радня?—пазіраю вось Казіку ў вочы.

— Татка кажуць, што ты мне брат у трэцяй стрэчы.

— У трэ-эцяй..—мяркуюць мае думкі самі сабе.

Ды ўслых:

— А на якой стрэчы будзе мой бацька з тваім бацькам?

Казік не ведае і маўчыць. Я таксама не ведаю, але думаю:

— Мусіць, можа, на чацвертай, ці яшчэ і больш... Трэба будзе запытацца у дзядзькі Цімоха.

## Дзядзькава злосць

Мне толькі сёння за абедам прышло на ўспамінак: як прыехаў я да дзядзькі Цімоха, дык мне не гэтак было, як дзядзьку Цімоху. Цімох прыехаў, а бацька мой, паколькі нам ён радня, пасадзіў Цімоха на куце. А мне, у той першы дзень, і нават сёння—усё даюць есці на палку. Яны самі—і дзядзька, і цётка, і баба, і Казік, і сястра Казікава Стэфа—абедаюць за сталом, а я адзін, як той воўк. І яны абедаюць паперадзе:—стол потым парожні гуляе. Мне, канешне, не зручна самому ісці да стала, і я ўжо ем на гэтым палку.

Цётка ў першы той дзень казала:

— Еж тут... Тут калі і накапаеш, дык нічагусенькі.

Але чаму-ж яны мяне ў першы дзень, паколькі я радня, не пасадзілі на кут? Я і не накапаў-бы... Гэта толькі наша Наста магла-б накапаць на абрус. Канечне, я не сказаў, нават, і Казіку, але падумаць пра „радню“ сам сабе, падумаў.

Учора і заўчора я пасу дзядзькавы каровы. Як прыганяю з раніцы—бараную папар. Яно то не цяжка ісці за коньмі, але вельмі шмат аваднёў, І коні сморгаюць то сюды, то туды, Дык увечары ногі, патом, як нехта паперабіваў—баляць і ныюць. І гэтак—праз два дні.

Папару ўжо засталося меншая палавіна, і я вырашыў цяпер, як прыгнаў з раніцы; яшчэ паспею забаранаваць.

Я ляжу на палку і пазіраю на шасток. Над маею галавою, на шастку, вісяць дзядзькавы боты. І сам сабе думаю: дзядзька Цімох ад нашай хаты і не намекае мне пра боты. Трэба будзе калі яму намяк-

нуць. Мо ён, забыўся, ці што? Хай-бы прыкройку рабіў ды паехаў у Ліпнікі прыфастрыгаваў-бы перады. А мо' ён мне шыць думае з выцяжак? Калі думае—тады, канечне, фастрыгаваць не патрэбна. Мае будуць не такія, як у дзядзькі Цімоха, кадаўбаны, па пуду...

І толькі я гэтак мяркую, а дзядзька Цімох уваходзіць у хату і да мяне:

— Ідзі, сынок Піліпка, запрагай коняй.

(Калі ён мяне заве „сынок"' я і сам не ведаю: ці мне гэтак лепш, ці няхай-бы зваў мяне адным Піліпкам? Мне здаецца, што ён, калі кажа „сынок", дык адбірае мяне ад майго бацькі. А я сам люблю— і цяпер яшчэ больш—свайго бацьку).

— Яны не галодныя,—кажа дзядзька Цімох на коні.

А я маўчу. Я і не ведаю, што мне рабіць? Як ляжаў—локаць паставіў—падпёр галаву, руку адну паклаў роўна ўздоўж сябе пазіраю, на дзядзьку ды і кажу:

— У мяне нага, мусіць, будзе нарываць. Стрэмку, ці што загнаў пад пазногаць. Я кажу так і не маню. Учора на яловай знянацку я такі мусіць засадзіў стрэмку, і нага мая цяпер аж торгае.

— Пакажы...—падыходзіць Цімох да нагі і рукою не бярэ, а толькі пазірае.—Э-э...—кажа ён,—нічога-ж няма. Ідзі, ідзі, сынок.

І адыходзячы ўжо ад палка:

— Трэба скончыць да нядзелі баранаваць.

— Хай-бы Казік...—пазіраю ўслед я на дзядзьку.

Дык ён адвярнуўся да мяне і як быў з усмешкаю ад гэтага „э-э"— адразу сцёр яе з твару. Насупіў твар і нават пачырванеў. Але, потым, нічога такога не сказаў (усё-ж такі і радня яму), а толькі:

— Казіка коні не слухаюць. Ён ім і рады не дасць. Ён супроць цябе—верабей.

Прастаяў, нібы нешта падумаў, паглядзеў на мяне, потым усё-роўна без усмешкі кажа:

— Ты-ж у мяне—маладзец, і коні цябе баяцца...

А я яму пад гэта (у сваіх думках):

— Казік не накапае на абрус, а я—накапаю, дык няхай ён і ідзе.

Ды ўслых:

— Не-э... І Казіка баяцца. От-жа нехай паспрабуе, а я пагляджу з боку.

Ён як атарапянеў ад маіх слоў. Яшчэ больш насупіўся. А твар зрабіўся поўны і такі чырвоны, як журавіна.

— Ты старэйшага слухай...—прыціснутым голасам сказаў.

— Дык-жа Казік... хоць адзін раз...

— Табе я кажу...—яшчэ прыціснуў голас дзядзька Цімох.

Я аж злякнуўся. Ён зусім вярнуўся і блізка падыходзіць да палка. Мяне яшчэ больш золкім праняло страхам. Я нават і локаць апусціў, і ногі падкурчыў—прытуліўся да самай пасцелі. Вось, вось схопіць Цімох сваімі дужымі пальцамі за мае вушы. Я не ведаю, як-бы яно было, што ён хацеў-бы, калі-а не зайшоў у хату, у гэты момант, сам Казік.

А Казік зайшоў у хату ды:

— Татка!..—падбег да самага бацькі і за рукаў узяў,—татка, а да нас, мусіць, з сельсовета прыехалі,—сказаў ён варушачы рукаў дзядзькавай кашулі.

Цімох, здаецца, з вады з халоднай выскачыў: гэтак ён скалануўся. І адразу адышоў ад мяне.

## Браты

Як выявілася, дык гэта і не прыехалі, а прышлі і не з сельсовета, а з комуны.

Комуна тут вось пад бокам. Праз поплаў, цераз грэблю, з Цімохавага гумна, як на далоні відаць.

Дзядзька Цімох тых, што прыйшлі, і не дапусціў у гэту хату, дзе мы бываем усе. Ён адразу адышоў ад мяне, у сенцах стрэў іх і сказаў:

— Калі ласка... вот сюды..—павёў іх у тую хату, дзе стаіць гарадская канапа.

А я праз дзверы і ўбачыў: прышлі—адзін малады, адна дзяўчына і такі з мяне (можа крышачку большы) з чырвоным гальштукам.

— Казя,—паклікаў я яго з сянец.

Але Казік не хацеў зайсці да мяне, і я сам выйшаў у сенцы.

— Чаго яны гэта?—рукі ў кішэнях штаноў трымаючы, запытаў я.

— Так... нечага,—адказаў Казік.

Мяне цікнула, што нечага не так, і я хацеў ісці ў тую хату.

— Не ідзі!—рашуча сказаў Казік.—Татка не любяць, каб швэндаліся дзеці, калі хто бывае чужы.

— Дык-жа там гэты, з чырвоным гальштукам...—засупярэчыў я.

Казік паглядзеў на мяне і нібы не ведаў, што адказаць, а потым:

— Ён-жа з імі прыйшоў... Ён піонер комунаўскі. Яму можна.

Я стаяў каля самых дзвярэй, і мне крыху было чуваць з хаты:

—... Ён у вас, кажаце, быў за пастушка? Ну хай сабе і за пастушка... Усёадно вы не павінны крыўдзіць. Трэба разлічыцца...

Казік таксама стаяў са мною, і я запытаў яго:

— Хто гэта быў за пастушка?

Мне здалося, што яны гавораць, не раўнуючы, як пра мяне. Бо я-ж мусіць лічуся за пастушка ў дзядзькі Цімоха, але Казік знехаця адказаў мне:

— Ат... Юзік быў за пастушка. Дык яны і пытаюцца...

— А хіба Юзік не вялікі, а малы?

Казік раззлаваўся на мяне, што я не ведаю Юзіка.

— Канечне, Юзік не раўня табе. Ён са мною аднагодкі.

У мяне крыўда разбеглася па серцы. Мне не было чаго на гэта сказаць Казіку, але я, патом, не сцярпеў:

— Няхай сабе.. як сабе ня было-б, а я таксама барануюю.

— У цябе вунь колькі ўзрэхаў, казалі татка. Гэта добра, што папар, дык хоць папсуеце—нічога.

Я, проста, за такія словы не мог-бы даравацъ Казіку: ён мяне вучыць! Ажно рыпнуў дзвярыма хлапец з чырвоным гальштукам і, чамусьці, да мяне перш-на-перш:

— Чаго ты тут?

Я здзіўлена паглядзеў яму ў вочы і ўжо хацеў сказаць, што Казік няпраў: я ўмею як мае быць баранаваць. Але Казік (ён нечага варты!) перабіў мае думкі:

— Ён прыехаў да нас у госці...—сказаў Казік.—Мы з ім свае... браты.

— Ага...—вочы апусціўшы на зямлю, ні з сяго ні з таго адказаў я з раптоўнасці.

## Піліп і Юзік

Казя чуў як бацька гаварыў і сказаў мне:

— Яны прыходзілі, каб мы Юзіка апранулі. Ён нагаварыў ім, што мы рабілі ўмову пашыць боты і світку. Дык-жа татка кажуць, што не так-та лёгка цяпер дастаць падэшвы. А тыя падэшвы, што ў нас

ёсць, татка будуць шыць мне боты і Стэфе чаравікі. Нічога і не астанецца. Татка кажуць, што і так абойдзецца: на паперы ў нас няма ніякае ўмовы. І суд, нават, нічога не зробіць.

Я ўвесь здрыгануўся ад гэтакіх слоў і праглынуў горкую, як палын, сліну. Хацеў сказаць Казіку пра свае боты, але ён—выбег ад мяне на двор. Тады я сам сабе развважыў:

„Казік нічога не ведае. Будзе Стэфе шыць, будзе яму шыць і мне пашые. Падэшвы—будуць. Будзе ў хаце шавец—дык за адным захадам... От які я дурны!—яшчэ і думаю: ён-жа мне сказаў, што пашые, і ён-жа дзядзька“.

А ўвечары, калі я прыгнаў з поля ды сядзеў на карыце, што ляжыць пад платом дзіравым дном дагары, раззуваў лапці з ног—да мяне падыйшоў дзядзька Цімох.

— Ты не выстаўляйся вельмі,—сказаў дзядзька.—Калі яны будуць, часамі, да цябе чапіцца дзе, скажы ім, што ты не парабак, а свой. Ты-ж свой. Я табе дакляраваў—увосень і боты пашыю, і нават капоту, сукно будзем ткаць—адрэжам кавалак.

Я цяпер толькі ўспомніў пра раннішнюю, дзядзькаву злосць. Увесь гэты дзень я думаў пра боты і зусім забыўся, што і ў мяне была злосць. Мне ўсё-ж такі нарывае нага, а яму абы ішоў, баранаваў. Але калі ён мне кажа гэтак—я рад. А ў сваіх думках думаю сваім розумам.

„Што было-б, каб яны не прышлі, як дзядзька Цімох набіраўся перада мною злосці? А так вот, цяпер ён і за папар не сварыцца. Дармо сабе, што я і не хадзіў яго баранаваць. І боты будзе шыць і світку нават...“

І мне думаецца:

— Дзядзька Цімох мусіць баіцца іх нечага?—Але і другое:—Я пазіраю на яго картовую камізэльку ў палосачкі. З-пад яе на грудзях відаць белая з прушчыны кашуля. Дзядзька Цімох, калі гэтакі, дык, ён выглядае, як рыдзель: твар яго чырвоны, вусы рыжыя—варушацца, а рукі—па пуду. Кулак, то, важкі і дужы. Я супраць яго, канечне, дзве жмені. Ды я і не ведаю нават, чаго баяцца яму, хоць бы сабе іх і трох. Мо' толькі таму, што яны не абы якія, а з самай комуны?

Я ўзняў галаву ад лапця—напамяць раскручваю абору з нагі ды пытаю:

— Вы і Юзіку ўвосень адрэжаце на світку кавалак?

Ён, здаецца, нібы здрыгануўся.

— Якому Юзіку?—зірнуў прарэзлівым вокам.

— Комунаўскаму...

— Адкуль ты ведаеш яго?

— Казік... мне казаў Казік...—нагі не разуваю, а пазіраю на яго вочы, не міргнуўшы.

На мае словы ён не сказаў нічога такога, змоўчаў і, вельмі заспакоена, нібы зусім думаў пра другое, сказаў потым:

— Адрэжам...

Адыходзіў і, не пазіраючы ўжо на мяне, яшчэ дадаў:

— Ты вот сябе глядзі, а не Юзіка.

Я не паспеў нават і атарнавацца з думкамі, калі зайшоў дзядзька Цімох у сенцы і там стрэў, відаць Казіка. Ніводнага слова не было чуваць, а Казік раптам залямантаваў на ўсе сенцы, і гэтак:

— Не казаў... я-а-а не каза-а-ў, та-атка...

І зноў не чуў я дзядзькавых слоў, але зразумеў: ён сморгае Казіка за вушы, на што сказаў той мне пра Юзіка.

Дзядзька Цімох усё такі, мусіць, баяўся, каб я не падумаў, што мне, гэтак як і Юзіку, гатоў не пашыць ботаў. А мо' другое: на што Казік кажа мне, што Юзік быў такога росту, як і я... Выходзіць— я замяняю цяпер таго Юзіка... як і не радня ўсё адно дзядзьку Цімоху.

— Каб ты цямілася...—сплюнуў я сам сабе пад ногі.—І на што я сказаў? Ах-ах-ах!

**Цяжкая світка**

Прыехаў мой бацька, каб дзядзька Цімох даў нам мукі, пакуль паспее наша жыта. От кожны раз у нас не хапае мукі. Пажнем ды пакуль адсеем на зіму, дык і з'ядзім. Бацька ўсё кажа:

— Век не выцерабішся з даўгоў.

А я ведаю цяпер, што можна было-б і выцерабіцца, каб гэтулькі было ў нас папару, як у Цімоха. А не—няхай сабе і не было-б папару, а каб мы жылі ў комуне, дзе Юзік жыве. Дзядзька Цімох казаў надоечы пра комуну цётцы, як прыехаў быў ад комунаўскага каваля: „Чэрці іх не бяруць, казаў, пазбіраліся адны, што былі бясхлебнікі, а паглядзі, як рызыдуюць. У іх і жыта тое, як сцяна і свінні кірпатыя і каровы самалёўскага заводу... малака таго, цэлыя бітоны—толькі гоняць ды гоняць яго на гэтых сапаратарах. Сыраў адных галандскіх—унь колькі! От табе і комуна, што казалі... не горш за цябе ядуць. І зводу няма на іх!“

— Дык і мой-жа бацька бясхлебнік! І мы маглі-б далучыцца да іх і на нас ніякага зводу не было б?

Мы стаім з вока на вока з бацькам каля падпаветкі, і яму раю:

— Ты, як маеш ездзіць блізкі свет па муку—тут-жа комуна ёсць. Схадзі да іхняга, што заведуе, і скажы яму, што мы бясхлебнікі, дык ён нас і прыме. Тамака-ж, што некалі былі адны бясхлебнікі, казаў дзядзька Цімох.

Калі я сказаў гэтак—бацька смеху напусціў повен свой твар і нават мяне за плячук узяў:

— Разумнік ты мой!—сказаў на мяне.—Ты не дрэнна раіш. Але мы і так хутка будзем з хлебам. У нас, у Брылёх, калгас робіцца, дык мы ў калгасе будзем, і хлеб будзе.

І прыцiснутым голасам дадаў:

— Дзядзьку Цімоху не трэба толькі казаць, што мы ў калгасе будзем. Ён цябе тады не будзе любіць.

Я ведаў, што калгас у Ліпніках ёсць і ў ім таксама ўсяго хапае, як і ў Дарашэвіцкай комуне. Мне, проста, так добра зрабілася... дык я бацьку і адразу пахваліўся:

— Я цяпер кароў і не пасу!—сказаў я.—Я хаджу сена разбіваць. Дзядзька кажа, і я нейкую капу награбу. Я і ў калгасе буду хадзіць на сена.

А бацька ўсмешку згубіў ды і пытае насупіста:

— А хто-ж каровы пасе?

— Казік... дзядзька Цімох кажа, што цяпер такая гарачая работа— няхай Казік папасе, а я—каб ішоў на сена.

— А чаму Казік не ідзе на сена?—пытае бацька.

— Цётка кажа, што Казік малакроўны, і яму не трэба ўганяцца за работай з самага маленства.

— Угу...—пазірае бацька на мяне і не хоча больш усміхацца. Мне ад нечага шкода стала бацькі: чаму ён і цяпер не ўсміхаецца гэтак, як усміхаўся, калі я казаў яму пра комуну?

Я калупаю цвікам гнілеш у падпаветцы, вочы апускаю на зямлю і, каб развесяліць бацьку, ізноў хвалюся.

— Дзядзька Цімох, апрача ботаў, яшчэ і світку пашые мне. Ён казаў, абы каб я спраўны быў.

— Канечне...—не зводзіць вачэй бацька з майго твару.

І так глядзі-ыць ён на мяне, усё адно як праз плач. А потым...

— Э-э-х... От будзем у калгасе, Піліп, абойдземся і без дзядзькавай світкі. Цяжкая вельмі світка гэтага дзядзькі.

— Чаму цяжкая?—пазіраю я на бацькаву капоту.—Ён мне будзе шыць не на кудзелі, як твая, а з аднаго сукна. Яна будзе і не цяжкая.

— Ат!—сплёўвае бацька на зямлю. Што з табою гаварыць... не світка тут вінавата, а наш дзядзька. Ён любіць гадаваць, як я пагля-дзеў, мазалі на чужых руках...

І яшчэ нешта муляюць бацькавы зубы, каб сказаць мне. Але мы бачым удвух: дзядзька Цімох ідзе да нас з свайго садка. Ён падыходзіць, я ведаю: вельмі-ж не любіць ён, каб з дарослым былі малыя.

— Я і не буду...—кідаю яшчэ адзін зірк на бацькаву світку ды павольна іду ад бацькі з думкаю:

— Чаму не світка вінавата?..

Падыходжу да паркана, нагу стаўлю на парканісты паз і цераз верх. За парканам гнаяўка-ігруша, і яе галлё шырокае над полем, над ячменем. Галаву ўздымаю да ігрушынага галля, каб знайсці жоўтацёмную ігрушу, ажно—куры аж укрылі ўсё галлё. Гэта-ж яны на седала селі ды будуць ігрушы цэлую ноч псаваць.

— А кыш-кыш-кыш!..—шпурляю на курэй аскабалак.—Каршуна няма на вас, каб вас...

Куры лапочуць, але не ляцяць. А я і не бачу: Казік з-за хаты ідзе ды на мяне:

— На што ты іх пудзіш? Хай ужо сабе сядзяць...

Другі дзень злуе на мяне Казік: на што я сказаў дзядзьку Цімоху пра Юзіка. Ён сустракаецца са мною—не гаворыць. Мне, канечне, не зручна, што я сказаў—бацька-ж тармасіў яго за вушы. Ды я і не ведаю, чаму дзядзька Цімох не хоча, каб я ведаў пра Юзіка? Я ізноў думаю: па мойму, тут нічога такога. Мусіць, можа, не зручна дзядзьку Цімоху перада мною, што я нібы-та замяняю Юзіка? Але чаго-ж тут? Я-ж ведаю, што Юзік мне не раўня: я дзядзьку Цімоху свой, а Юзік—так сабе.

— Ну, дакуль ты ўжо будзеш злаваць на мяне?—зачапіў я Казіка, калі ён хацеў мяне абмінуць.—Я-ж не хацеў...

— Не хацеў... табе трэба ведаць было... Добра, што я табе не сказаў пра склеп.

— Пра які склеп?

— Пра склеп. У нас ёсць схованы склеп. Але я не пакажу табе. Татка казалі мне, калі скажу пра склеп—яны заб'юць мяне.

Казік сказаў, а я і ўспомніў:

— Гэта-ж як прыехаў я, мне ён хату паказваў другую—гаварыў пра схованы склеп... Ай-яй! А мне было і няўцям!

Мне цяпер вельмі захацелася паглядзець, дзе той склеп. Я ведаю, канечне, што Казік не пакажа. Калі-б я пра Юзіка не гаварыў...

Але ўсё-такі я да Казіка пісчаніцаю:

—От-жа і не скажу... Ты думаеш, што я не магу сцярпець. Гэ-э... Унь у нашага таткі была кароста, я і нікому не сказаў! А пра Юзіка—я-ж не ведаў. Я табе магу, калі хочаш, хоць што даць.

— Не, не...—закрычаў Казік.—Нават сабе і не думай!

І пабег.

— Каб цябе агонь...—унурыста іду я на поўмежак.—Ну дзе-ж той склеп? На што ён патрэбен дзядзьку Цімоху? Што ён у ім там робіць?

Іду і гэтак думаю, аж раптам бяжыць назад, да мяне, Казік.

— Слухай! Ты-ы... глядзі, не кажы, нават, што ты і чуў пра склеп! Татка і за гэта ўсё адно заб'юць мяне.

— Не заб'е-э...—павесялеў я.—Ты толькі скажы, што ў ім. Я-ж нікому не скажу ні за якія грошы?

Казік пазірае на мяне баязлівымі вачыма. Ён ледзь не плача ад страху, а потым і кажа;

— Глядзі-ы-ж... калі толькі ты скажаш...

— От які ты чалавек... Што я розуму не маю, ці што? Дык дзе-ж ён?

— Гы-гы-гы...—раптам зарагатаў Казік.—Унь! Адчынены з картопляю... гы-гы-гы—глядзі-ж, не кажы тату!

—Дурны ён ці што?—незразумела пазіраю я на яго.—Дык гэты-ж склеп я і без яго бачу.

А нейдзе глыбока ў маім нутры, от як тая іскра ў торфе, тлее, рупіць:

— Не-э... Гэта мусіць не так, не так... Ну, нашто ён усё ўспамінае пра склеп?

## Кулакоў сын

Калі выганяць у поле і прыганяць з поля—я ведаю. Раніцаю—як толькі-толькі ўзыходзіць сонца, а ўвечары — як сонца зойдзе за Яловую граду.

А з раніцы прыганяць і выганяць на вечар—трэба глядзець на цень.

Дзядзька Цімох у першы той дзень, як да яго прыехаў, сказаў мне.

— Глядзі на цень. Па ценю і прыганяй каровы і выганяй.

Я так і раблю: калі мой цень на адзін шаг з ступнёю—па моему, пара гнаць з раніцы; а калі ён зменшыцца да аднаго шага і потым пачне расці ізноў і вырасце на два шагі—пара гнаць на вечар.

Дзядзька Цімох дык сказаў, каб я прыганяў каровы з раніцы, калі цень на адзін шаг. Але гэта-ж вельмі доўга трэба пасвіць. А есці як захочацца, дык не стрываеш. Мне-ж цётка дае ў торбу два яблыкі з адным хлебам. Гэта-ж усёадно, як і ўсухамятку. Дык я адразу, як выганю каровы—і з'ем і тады па-а-куль дачакаюся... Раз-за-разам усё мераю і мераю свой цень. Добра, што я не такога ўжо вялікага росту, дык ён усётакі, патом, і меншае хутчэй.

Сама лепш, калі сонца за хмарамі. Тады ў мяне ёсць перад дзядзькам Цімохам чым апраўдацца. Я тады прыганяю каровы, як толькі пачую, што вельмі ўжо захацеў есці ды і каровы—так сабе, ходзяць нехаця.

А калі скажа дзядзька Цімох, што трэба было яшчэ пасвіць я скажу:

— Яны—пасталі.

Дзядзька Цімох і на такія дні, калі сонца не свеціць, даў прыкмету.

— Калі пару нельга спазнаць,—сказаў ён,—гані з раніцы, як пачынаюць ужо станавіцца ка стойла.

Ну дык адкуль ён будзе ведаць: ці каровы хацелі стаяць, ці хацелі, каб яшчэ хадзіць.

Але сёння ў мяне другое...

Я дачуўся, што сёння ў комуне піонеры комунаўскія будуць ставіць спектакль. Мне вельмі хочацца паглядзець, дык я крышачку раней прыгнаў каровы з поля.

— Чаму ты іх яшчэ не пасвіў?—вароты адчыняючы, сказаў дзядзька Цімох.

А я яму:

— Яны пад'елі і лётаюць, лётаюць як апантаныя. Яны піць хочуць.

А Цімох:

— Ну дык хай нап'юцца, ды выгань хоць на іржышча—хай брэнкаюць.

У мяне, проста, пот выступіў ад гэтакіх слоў. Я, канечне, нічога не сказаў, але вырашыў: якраз палавіна сонца зайшло за кудзерку і скора ўсё зойдзе. Ну, на што іх выганяць на тое іржышча? Яны-ж не галодныя!

Цімох пайшоў на гумно, а я напаіў каровы ды—у загарадзі. Я, нават, і не вячэраў—проста цераз поле пайшоў: хаця каб не спазніцца.

У комуне я быў ужо адзін раз, але ўсе былі на рабоце. Я быў сустрэў таго самага з чырвоным гальштукам і нават сказаў яму:

— Не,—адказаў ён. Быў, але не я. А ты-ж адкуль?

— Гэта-ж ты быў у нас?

Я пазіраў на яго складаны нож: ён стругаў арэхавы пруцік, ад няма чаго рабіць. Нож, бачыў я, вельмі востры, як гад.

— Я—з хутара,—вачэй не зводзіў я з складанага нажа.

— Цімох—мой дзядзька. Я прыехаў да іх на цэлае лета.

Піонер паглядзеў на мяне і безахвотна. Ён, відаць, думаў нешта другое, але кінуў стругаць пруцік, сказаў пра першае.

— Не, гэта быў наш Сцёпа, а я—Міша.

Яшчэ адзін раз акінуў мяне Міша сваім вокам ды:

— Гэта-ж ты ёсць... дрэнна табе.

— Чаму?

— Ты-ж ёсць кулакоў сын!

Я ведаю, што ў нас жывуць кулакі, але-ж і другое я ведаю—мой бацька лічыцца як самы бядняк.

— Не,—рашуча я адказаў.—Я не кулак.

— А Цімох-жа кулак?

— Я не ведаю, але мой бацька не кулак.

— Дык чаму-ж ён табе дзядзька?

— Я не ведаю. Мы—свае. Казік лічыцца мне братам у трэцяй стрэчы.

Мы тады абодва маўчалі. Міша ішоў на поле—правёў мяне па дарозе. Як ішлі цераз комунарскі дзядзінец, бачыў я:

белыя, новыя хаты па бакох дзядзінца. У хатах гэтых—адно каля другога—густыя вокны. А праз вокны відаць вазоны. Хаты злучаюцца паміж сабою каштаннымі дарожкамі. Ідзеш ад хаты, і цень густы ад каштаноў, што ў рад, роўненька, як тая струна, растуць. А вуньдзе—за хатамі—доўгія хлявы для кароў, для коняй. І сырабойні—адна, другая, на водшыбе ад хлявоў. І ўсё яно—кожная будыніна, здавалася мне,—цешыцца сама сабою, усміхаецца, што новая яна, святочная. Толькі от нідзе яно не абгароджана. Дык па мойму не зручна гэтак стаяць будынкам, Мне здаецца, што нібыта сырабойні і хлявы ўночы баяцца стаяць без плота.

— Гэта-ж у вас весела ўсётакі,—сказаў тады я Мішу,—у вас—як у тым, мусіць, горадзе?

Міша нічога не сказаў. Ён усё глядзеў на мяне, нібы спатайка, і нешта думаў. А калі развіталіся за комунарскім садам, Міша сказаў, і словы яго былі мяккія, як вата:

— Прыходзь часцяком да нас,—сказаў Міша.—У нас піонерскі атрад. Прыходзіць будзеш да нас, дык мы спазнаем, хто ты, і табе будзе весела.

Я вельмі рад быў гэтым словам, але мне было прыкра: „Чаму ён падумаў на мяне, што я кулакоў сын? Настаўнік наш, Андрэй Мікалаевіч, казаў нам: Кулакі—гэта самыя злыя людзі. Яны-ж, як звяр'ё! Яны толькі глядзяць, каб тымі даўнейшымі панамі ім жыць, каб кроў смактаць з беднякоў для свайго панства. Настаўнік наш казаў, што праз кулакоў у беднякоў няма хлеба.

Я тады ішоў да дому і разважаў:

Я-то, канечне, ніколі не бачыў кулака. Яны мабыць недзе хаваюцца. Праўда, у нас, дзе мы жывем, ёсць Антось—яго лічаць за кулака. Але я не ведаю... І калі мне сказаў Міша-піонер, што Цімох, мой дзядзька, кулак—у мяне проста пашэрхла скура. Пасля таго я ўсё думаю і думаю і не даю веры: а мо' і праўда, што сказаў Міша? Бо і бацька, як прыязджаў пазычаць муку ў дзядзькі—мусіць злосны быў ад нечага на Цімоха. Чаму-ж ён не злюбіў дзядзькавай світкі і нават параіўся са мною, каб я не казаў Цімоху, што мы хутка будзем у калгасе? Мусіць дзядзька Цімох не любіць калгасаў? А кулакі, казаў Андрэй Мікалаевіч—усе кулакі вельмі не любяць калгасаў. Андрэй Мікалаевіч казаў, што калгасы для кулака—нож у іх сэрца. Калі будуць усюды калгасы, кулакам не будзе дзе браць парабкоў. А без чужых рук кулакі не могуць жыць.

Але-ж мо' і няпраўда, што дзядзька Цімох кулак? Які-ж ён кулак, мусіць, калі ён нам радня? І яшчэ: на што-б было майму бацьку садзіць на куце Цімоха, як ён прыязджаў па мяне, ды частаваць яечняю, калі ён кулак?

— Буду хадзіць у комуну,—вырашыў я,—дык піонеры комунаўскія (Міша вельмі кемлівы) растлумачаць мне, па якіх прыкметах пазнаваць кулака.

## Касцёр

Яшчэ не пачынаўся спектакль, калі я прыйшоў у комуну. Сонца то ўжо зайшло, і толькі адны вяршкі комунаўскіх бяроз былі як аблітыя меддзю: гэта-ж сонца ўгары яшчэ даставала сваім святлом. А на зямлі яно ўжо зайшло. Калі-б усё вышэй і вышэй лезці, як Андрэй Мікалаевіч казаў трэцяй групе, лезці аж да месяца, дык цэлы дзень і цэлую ноч было-б сонца. От як яно робіцца, калі зямля круціцца наўкол сонца.

... Мяне стрэў у калідоры комунарскага клуба адзін Сцёпа. Той Сцёпа, што прыходзіў да Цімоха ў камісіі. Ён нешта парадкаваў тут у другім пакоі ды ішоў у залу.

Я здзівіўся ажно: усё ціха кругом, і нідзе ані аднаго піонера.

— Не будзе спектакля?—запытаў я ў непаразуменні.

А Сцёпа:

— Ціха! Ідзі за мною. Каб трохі—спазніўся-б...

Выявілася, што і не спектакль быў у комуне, а піонерскі касцёр. Усе ўжо былі на сваім месцы, калі Сцёпа ды я зайшлі туды, дзе былі піонеры, Цёмна было ў залі, і я нічога ад надворку не ўбачыў, а толькі чуў як шушукаліся. Раз другі вачыма маргнуў.

— Усе піонеры сядзелі вялікім колам на падлозе. І так роўненька адзін каля другога—маўкліва нечага чакалі.

— Сядай...—прашаптаў Сцёпа да мяне.—Вось тут каля мяне, Пасунься, Саша... Хай—сядзе.

Той, што Сцёпа зваў Сашам, пасунуўся тужэй, а я—і сам не ведаю дзе я—сеў на тоўстую, квяцістую дыван-посцілку.

— Ай-яй!—вырвалася шэптам з маіх грудзей.—Што тут будзе такое...

І толькі прытарнаваўся я, ногі пад сябе падкурчыў, а дзверы адчыніліся і ўвайшоў рослы такі, над усімі піонерамі большы. Калі ўвайшоў ён—яшчэ большай ціхаты нанёс у залу. Ані не шушукаліся цяпер піонеры—чакалі нечага такога, такога...

Я прыглядзеўся на таго, што зайшоў, і ўбачыў: і ён з чырвоным гальштукам на шыі.

— Вот які вялікі піонер...—прабегла думка ў мяне.

А Сцёпа, збоку седзячы, сказаў сцішка:

— Наш важаты. Комсамолец Зміцер. Ён заўсёды з намі разам. Мы яго вельмі любім. Ён гаворыць нам як і што рабіць. І мы разам робім. От ён зараз...

— Ціха!—Сцёпу пад бок штурхануў Саша.—Не перашкаджай слухаць.

А Зміцер выйшаў на сярэдзіну піонерскага круга, паглядзеў па ўсім кругу ды:

— Будзем, рабята, запальваць касцёр. Усе сабраліся?

— Усе!—адным голасам адказалі піонеры.

А ён:

— Касцёр наш гарыць—гэта ўсё адно, як і наша пролетарская рэволюцыя. Наш касцёр запалены ўжо. Ён загарэўся, калі прыйшоў да нас наш Кастрычнік. Ён гарыць безліччу агнёў і разгарыцца на ўвесь свет. Касцер наш—гэта-ж рэволюцыя. Мы нашым піонерскім кастром напамінаем толькі, што гарыць сусветны касцёр вызвалення. Мы сёння святкуем, каля нашага кастра, дзень вызвалення Беларусі ад белапалякаў. І так, рабята, я—запальваю...

Лупнуў агонь, і я на момант заплюшчыў вочы. Усе сядзелі на сваім месцы, а касцёр гарэў. Языкі чырвонага агню абдымалі дровы на сярэдзіне круга, але нікому не было горача ад агню.

— Як-жа гэта?..—вырвалася ў мяне праз шэпт.

Сцёпа чуў мой шэпт і да мяне:

— Электрычнасць... Бачыш дрова ляжаць кастром, а там—электрычныя, чырвоныя лямпачкі. Яны гараць, і выходзіць яно, як і агонь гарыць. Папера чырвоная варушыцца ад матора і языкі полымя—во-во—бачыш... У нас-жа ў комуне ёсць электрычнасць...

— Ціха ты!—ізноў штурхануў Саша Сцёпу.

А Зміцер гаварыў:

— У гэты дзень некаторыя з нас былі зусім малыя, некаторых не было на свеце, і вы не памятаеце гэтага дня. У гэты дзень, калі армія Чырвоная гнала паноў-белапалякаў—паны палілі вёскі, палілі лес, запальвалі збожжа на полі. Маткі нашы, бацькі крычалі немым голасам, галасілі, уцякалі, хаваліся. Усё было ў агні, усё было захутана дымам. А паны былі, як тыя звяры.

І яшчэ гаварыў. І яшчэ шмат гаварыў Зміцер. Я слухаў Змітра з сціснутым дыханнем; так ён добра гаварыў! Слухаў, і вачэй не зводзіў з кастра: „Ах-ах, як было ў іх весела і як добра!"

Я забыўся, дзе цяпер жыву. Век-бы слухаў, і хай-бы заўсёды гарэў гэты касцёр.

Але скончыў Зміцер, і яны ўсе ўсталі з дывана і пелі. Усе піонеры ўмелі пець, а я і не ўмеў. Крыўда вялікая агарнула маё нутро: от

я—не ўмею памагчы ім. Прыслухаўся да слоў, і чуў—адзін, другі раз былі ў песні тыя самыя словы, я пераняў іх, і калі трэцім разам трэ' было пець—запеў:

Гэта бой наш астатні
За працоўны народ
Каб у злучнасці братняй
Узняўся людскі род!

Прапеў разам з піонерамі і ўспомніў: я-ж чуў гэту песню! Андрэй Мікалаевіч казаў, што гэта песня – Інтэрнацыянал—песня працоўных усяго света. І на сходзе ў Брылёх пелі..

— Дык гэта-ж і ў іх спяваюць... Вот як яно добра!

Потым як спелі, Зміцер сказаў:

— Цяпер зробім перапынак. Гэта была наша ўрачыстая частка каля піонерскага кастра. А цяпер павячэраем і будзем гуляць каля кастра ў гульні, будзем дэкламаваць, спяваць і адгадваць загадкі.

Я ўвесь быў у вялікай радасці. Мне хацелася гаварыць усім піонерам пра сваю радасць і шмат, шмат гаварыць.

Агонь лупнуў па ўсёй столі ў залі клуба: гэта загарэліся электрычныя лямпачкі. Я ўсіх адразу і ўбачыў: сыйшлі ўсе з сваіх месц—гаманілі, былі вясёлыя. Некаторыя падыходзілі да мяне, нібы вочы іхныя гаварылі—„Хто ён?“ А Сцёпа проста ўжо, не аглядаючы мяне, гаварыў:

— Наш клуб—не аднаго нашага атрада, а ўсёй комуны. Мы ў ім усё робім—і ў шашкі, і ў шахматы гуляем. У нас тут ёсць усё жыццё Владзіміра Ільіча Леніна. Ад самога яго маленства і як ён рос і гадаваўся. Ты-ж, мусіць, ведаеш пра Леніна?—запытаў Сцёпа.

— Ведаю,—няўпэўненым голасам адказаў я. А Сцёпа ўсёроўна як зразумеў мой голас ды:

— Ну, хто-ж такі Ленін?

Я ўвесь пачырванеў за адзін раз. Я то ведаю, нам казаў Андрэй Мікалаевіч, што Ленін—вялікі настаўнік працоўных усяго свету. Ён вызваліў нас ад капіталістаў, буржуяў. Але я не ўмею сказаць Сцёпу гэтак, як нам казаў Андрэй Мікалаевіч. І я яму кажу:

— У нас, у майго бацькі ёсць партрэт Леніна. Бацьку даў дзядзька Лявон. Наш дзядзька Лявон—членам выбраны ў сельсовет, дык ён, мусіць, узяў у сельсовеце і даў.

Калі я гэтак кажу, да нас падыходзіць Міша, а з ім яшчэ адзін піонер. Але большы за Мішу.

— І ты прыйшоў,—Міша кажа на мяне—перапыняе маю думку пра Леніна.

— Прыйшоў...—гляджу я на большага піонера, што з Мішам.

А Міша ўбачыў, што я пільна, мусіць, прыглядаюся, і не чакаў пакуль запытаю:

— Гэта-ж Юзік...—пераступіў ён з нагі на другую нагу.

— Вот як...—і мне неяк нязручна зрабілася перад Юзікам. Я і сам не ведаю ад чаго?

А ён, як даўно знаёмы са мною:

— Дык ты цяпер на маім месцы?—За парабка ў Цімоха?

Сцёпа пазірае на мяне і мусіць не рад Мішу, што нам ён перашкодзіў—не даў скончыць гаворку.

— Не. Я не за парабка!—Няўпэўнены голас у мяне.—Мне Цімох прыходзіцца як дзядзька...

Юзік сплюнуў языком праз зубы—пппц—у бок. Ён рукі трымаў у кішэні, дык мусіць нязручна было яму, каб проста ўзяць і сплю-

нуць. І так вось бокам памадыгаваўся—здаецца плячмі, як ад нейкага холаду, цялёпнуў ды запытаў:

— А дзе твой бацька?

— Дома,—адразу адказаў я (нібы і чакаў я, што гэтак запытае). А ён, як тая смала шавецкая:

— Дзе-ж гэта дом твой?

— Што ты, не ведаеш?..—акінуў я яго ад ног да галавы.

— Мы жывём у Брылёх. Я з Брылёў.

— Што-ж твой бацька робіць?

Я сам сабе ўрэшце не сцерпеў,—памысліў: навошта ты мяне распытваеш: што ты мой спрос, ці што? Але патом сказаў яму (Юзік мне неяк спадабаўся, ён, здаецца, вельмі смелы):

— Бацька мой косіць у Антося,—сказаў я.—У нас мала сенажаці, дык ён на трацяк косіць у Антося.

А Міша, як пачуў, што мой бацька косіць на трацяк—да самага мяне падышоў.

— Дык ты, мусіць, і не кулакоў сын?—зазіраючы ў мае вочы сказаў ён.

У мяне, здаецца, скура звяла ад Мішавых слоў: усё маё цела аблілося радасцю.

— Я-ж табе казаў... канечне, я не кулакоў...—адказаў я сцішка, апускаючы свае вочы на Мішавы чаравікі. Мяне нібы ад нечага агарнуў, здаецца, сорам. Калі я зірнуў на Мішавы чаравікі—я нікога не бачыў, бо ўсе маўчалі. А потым, калі я праз момант узняў вочы,—радасная ўсмешка была на Сцёпавым, на Юзікавым тварах.

— От... у цябе новыя чаравікі—нехта купіў табе... сказаў я на Мішу.

А ў сваіх думках:

— Ну, канечна, гэта-ж і дзядзька Цімох не кулак! Ага. От як добра, што мы яму радня.

## Ніхто не заступіўся

Дзядзька Цімох сказаў мне:

— Калі ты, Піліпка, будзеш хадзіць да гэтых нехрысцяў—нага твая не будзе на маім парозе! Хай толькі я яшчэ раз даведаюся... Ты ў мяне, хлопец, пазнаеш...

Ён сказаў мне назаўтра раніцаю. Якраз снедаў я, і калі ён сказаў—слёзы накруціліся на маіх вачах.

Што яму шкода маіх ног, ці што?—Загатавалася ўсё ў маёй сярэдзіне.

А ён:

— Гэта-ж звадыяшы. Ты гэта ведаеш? Іх-жа бацькі і яны ў бога не вераць. Ты-ж, калі будзеш хадзіць, будзеш бязбожнікам. І як гэта табе ўзбрыло ў галаву? Распуснік ты, стыднік—ах-ах... А яшчэ завецца маім пляменнікам!

— Я вот і не хаджу...—Казік уваткнуў свой язык.

Мне хацелася абараніць усіх піонераў. Я адчуваў, што дзядзька Цімох дарэмна злуецца на іх. Мо' за тое, што яны Юзіка прынялі ды яшчэ хочуць боты з світкаю адсудзіць ад дзядзькі? Мусіць-жа... Я проста не сцерпеў і сказаў:

— Яны не дурныя... Яны і касцёр умеюць рабіць і вячэра ў іх—якая! Яны вунь нават і кулакоў не любяць.

Бачыў я ў гэты момант твар дзядзькі Цімоха: ён увесь задрыжэў, і мне зрабілася вусцішна.

А дзядзька кулакі пакамячыў, і так туга, туга пакамячыў іх, ды падступіўся да мяне, што мне з вялікага страху здалося:

кулакі дзядзькі Цімоха былі падобныя на кулацкія. І мне здалося на момант, што перада мною быў не дзядзька Цімох, а кулак. Я то не ведаю, які кулак, але, мусіць, у яго такія кулакі: цвёрдыя і важкія і вельмі-ж спусцістыя.

Ад страху я заплюшчыў вочы і чакаў: вось-вось дзядзька Цімох аплявушыць мне—моцна моцна вытне.

— А-ай...—ад спуду крыкнуў я, але мне нідзе не балела.

Я толькі чуў: дзядзька Цімох тупаў ад злосці каля мяне, і, здаецца, яго кулакі былі каля самага майго носа. Бо цэлымі пырскамі выкідаў ён сліну з рота і вельмі-ж гарачую.

— Ужо... ужо адукавалі!.. адукавалі... паспеў... перахрысцілі ўжо! га? М-маўчыш? Га? Кажы мне, што яны гаварылі на мяне? Кажы!... Гавару, табе, кажы.

Ён тузянуў мне за рукаў, і я адплюшчыў вочы:

— Ні-ыч-ычч-ога не гаварылі... яны,—праз слёзы праказаў я.

— Ага!... нічога!..—ізноў пырскаў слінаю,—кажаш, нічога... Падвучалі нябось... казалі што я-а куллак... казалі, вужака ты! шчанюк... я цябе нахаджу! Я табе так нахаджу, што свету больш не ўбачыш! Галетра ты, абібок, дрэнь, жаба слізкая!...

І на момант спыніўся, змоўчаў. Нібы ў яго горле парваўся голас. Чуваць толькі было—зубы аб зубы заскрыгацелі ў дзядзькі Цімоха. І вось гэтак гук вырваўся з вуснаў—уумммы... А праз момант і „уумммы" не было чуваць. Толькі соп ён моцна ад усёй, здаецца, сілы. Нібы вялікую калоду зрушыў ён з месца, так соп, каля мяне стоячы. А потым, і не змеціў я, раптоўна тузянуўся ад мяне і сеў цяжка каля самага стала.

Цётка поркалася каля шафы—маўчала ціха, а Стэфа ладавала свае падушкі на ложку, цэлаю сціртаю. Казік рукамі ашчарэпіў лаву—сядзеў на лаве і ківаў зрэдку адно нагою. Бабы зусім не было дома. І ніхто, каб хто словам адным абазваўся за мяне, што няма чаго тут сваркі ўздымаць. Мая міска, з булёнам, стаяла адна сама сабе, на палку. Калі пачаў сварку дзядзька Цімох, я адсунуўся аж у самы куток палка. Кошка-рыска скеміла цяпер, што каля міскі няма нікога, і з ляжайкі—скок ды тыц чмысікамі ў забелены булён.

„Хай есць сабе",—ад злосці думка прабегла ў мяне. І калі яна хлёбнула разы два, паказала ружовы язык, я патом не сцярпеў—псікнуў на яе.

— Каб ты здохла!—Сказаў я ў голас.—Апсічка.

Я цяпер смялейшы быў і выціраў свае слёзы. Цэлы момант гэтак, нібы-та была маўклівасць у хаце, а потым мне ні то здалося, ні то я і сам не ведаю: усёроўна, як дзядзька Цімох уздрыгваў.

— Ці не плача ён...—толькі я гэта хацеў падумаць... Нават, здаецца, шкода мне падыходзіла да сэрца. І толькі вось гэтак як кажу, пашкадаваў я, а ён—джваг! З усяе сілы кулаком па стале, і ўстаў з лаўкі.

— Не дажджыце, ліха вашай матары!—сказаў ён, плюнуў і выйшаў з хаты. Я толькі цяпер і падумаў:

„А можа ён і не радня нам і ніякі не дзядзька?"—Калі гэтак...—І цяжка, усімі грудзьмі, моцна ўздыхнуў.

### Збуцвелы частакол

Я адзін на начлезе. Але я блізка ад хаты, і нікога не баюся. Унь коні мае—Буланы і сівая кабыла—ходзяць з сваім жарабём. Яны вельмі з смакам скубуць мурог. Ведама, мурог з расою. А вот і хата дзядзькі Цімоха, а гэта—яго лужок. Дык чаго-ж тут баяцца?

Заўтра дзядзька Цімох паедзе з Стэфаю ў Шабуны на фэст. Ён мне і сказаў:

— Пасі да раніцы... А ўдзень, як прыгоніш каровы з раніцы,— паспіш.

— Няўжо-ж, пасплю,— думаю я,— ведама, цэлую ноч і цэлую раніцу не спаўшы. Але-ж мне добра было, каб схадзіць і ў комуну, да хлопцаў... Якраз і дзядзькі не будзе дома.

Хоць мне і даўся ў знакі ад дзядзькі Цімоха комунаўскі спектакль, але я ўсё-ж калі-не-калі сустракаюся з Юзікам у полі. З Юзікам дык я і здружыўся. Ён мяне вельмі шкадуе і кажа, каб пабачыў майго бацьку—ён шмат-бы мне дапамог.

Юзік кажа мне:

— Ён (Цімох) цябе закуцае работаю. У яго-ж, як я быў, атхлання няма ад гэтай работы. Ведама—кулак.

— Але ён мне-ж, мусіць,—я і сам не ведаю—дзядзькам прыходзіцца,—сказаў я Юзіку. Дык Юзік і на гэта мне адказаў:

— А ты дзе ясі?—Калі ён дзядзька?

У мяне тады набегла поўны твар сораму. Я не чакаў, што ён запытае гэтак. Я, нават, не ведаў, што мне сказаць і хацеў змоўчаць.

А Юзік:

— Ты-ж там ясі, дзе і я еў: на палку?— Проста пазіраючы на мае вочы так і сказаў.

І да мяне адразу быў прышоў мой першы дзень у дзядзькі. У самдзеле: чаму ён мяне не пасадзіў на куце? Я-ж-бы, у чужых людзях, ніколі не накапаў на абрус. Лыжку так-бы абцёр аб бераг міскі і асцярожна ў рот узяў-бы...

Толькі вось бацька мой усё-ж такі пусціў мяне да яго. Я проста не ведаю, што мне рабіць? Хай-бы прыехаў цяпер бацька мой, і я расказаў-бы яму пра сварку і пра ўсё. Мо' і праўду кажа Юзік?

І я сяджу зараз каля агню і пра ўсё гэтак думаю, думаю...

Ноч не такая ўжо і цёмная, але неба ўсё такі выквацана чорным квачом. Зоры некаторыя блішчаць, а некаторыя замурзаны і ледзь свецяцца. Каля маіх ног—агонь тлее. Ляжыць мурлаты Палкан каля агню. Яго спускаюць на ноч з ланцуга, але ён мяне ўжо даўно ведае— асвойчыўся.

— Ляжыш вось,—кажу я на Палкана,—а агонь тухне... Схадзіў-бы ды прынёс дроў!

Ён толькі вачыма-зрэнкамі паварушыў: то ўверх схаваў зрэнкі, і тады—адны яблыкі засталіся, то ізноў ўніз... І хвастом-бічам пацялёпкаў—нібы-та ён і згодзен.

Мне і весела, што Палкан дае згоду ісці па дровы. Няхай сабе ён і не ідзе, але маладзец, што выказаў сваю ахвоту да мяне.

— Ну, дык ты ляжы,—кажу я на Палкана,—а я сам пайду па частакол.

Частакол збуцвелы ў садку, і яго можна, па мойму, набраць. Бо тых пяць пален, што даў дзядзька Цімох ад старой вішні— вот-жа дагарваюць. А яшчэ-ж і не думае зарэць.

Кабыла падняла галаву, паглядзела, што я іду ды ізноў пачала скубці. Мне хацелася сказаць кабыле „скубі, скубі". Але я ўспомніў, што іду па частакол і не сказаў: хаця, каб не пачуў дзядзька Цімох, што я іду ў садок.

Пад нагамі шамечацца росная трава. Ногі мае босыя, і я, ад роснай золкасці, ідучы, курчу на нагах пальцы.

— Золка ўсё-ж... ды нага ў мяне—пята патрэскалася... Пакуль размокнуць расою патрэсканыя шчарбіны на пяце—коле, даходзіць

аж да сэрца. А трава—востры сівец. Калі пападзе ў жывую шчарбіну—нехаця прысядзеш з раптоўнай болі. Каб цябе...

Але вось я і падышоў да садка, вот і відаць частакол...

— Хаця-б каб ціха?

І другое:

— Ен цяпер унь як храпе...

Асцярожна прайшоў праз вароты ў садку і падышоў да частакола. Ён ляжыць цэлаю кучаю, як непатрэбны. Дзядзька Цімох плот загарадзіў яшчэ да мяне з новага частаколу, а гэты—каторы збуцвеў, у некаторага канцы адгнілі—склаў у кучу на дрова. Калі частакол убачыў я—пасмялеў нават. Вось зараз і набяру, і будзе ціха, і агонь будзе. Ах, якога я назыру зараз агню! І вось толькі-толькі нагінаюся гэтак браць, аж чую: нешта не наўмысле зашапацела...

У мяне аж холад прабег па скуры! Я з усёй сілы прыціснуўся да частакола і... гляджу, гляджу. А за пяць крокаў ад мяне, пад вішняю чорнае нешта. А потым з гэтага чорнага лезе, лезе—галава, плечы і—увесь чалавек.

— А-а!..—дзікі голас вырваўся з маіх грудзей; але калі я прыслухаўся—голас мой застраг у горле, заціснуўся, заткнуўся і не вырваўся на двор ані адною кропляю.

— Гэта-ж я ад страху не мог крыкнуць!

Яшчэ больш прыціснуўся да частаколу, зніταваўся з ім, зрабіўся частаколінаю я. Вочы то плюшчыў, то расплюшчваў, і не мог быў зразумець, што гэта? Хто гэта?

А чалавек павольна вылез з чорнай прорвы з-пад вішні, з зямлі, палажыў нешта на траву, а потым—ні адсюль, ні адтуль—стуліў чорную прорву зялёнаю травою—як і не было нічога.

І пайшоў.

У мяне толькі цяпер, здаецца, пачало тахкаць сэрца. Я не даў веры таму, што было перад маімі вачыма!

— А мо' я сніў?...—церабіў я сам сябе.—Не! Я не сніў. Я сядзеў каля частаколу і ўсё бачыў: гэта-ж быў дзядзька Цімох, Цімох... Ай-ай-ай... Каб ён-жа ўбачыў, што я прышоў браць часта-а-кол... ай-ай!

Я чуў, як зачыніліся вароты ў садку, як потым бразнула клямка і шарахнула ў сенцах засаўка. Я цяпер уздыхнуў усімі грудзьмі.

— Што-ж ён рабіў?

Я ўзняўся на ногі і падышоў да вішні, туды, дзе было чорнае. І ўсё ніяк не мог зразумець: дзе-ж дзелася чорнае і адкуль узяўся дзядзька Цімох?

Тупаў вось гэтак па траве каля вішні і меркаваў: можа гэта быў вывернуты кажух, каб раса не апала, і дзядзька Цімох спаў пад ім...

Вось гэтак тупаю, тупаю, і нешта-нібы жалеза пад нагою.

— А-а а...—згубіў, мусіць...

Нагнуўся і хацеў падняць круглае, як прабой, жалеза. Узяў ужо ў рукі, а жалеза малое—адразу падымаю. А яно— у зямлю ўрасло і не рушыцца нават з месца.

— Каб цябе!..—Яшчэ раз смаргануў і зразумеў: гэта-ж мусіць, дзверцы... з травы... а пад імі... Ай-ай-ай!.. Пад імі, той схованы склеп, што Казік не сказаў мне.

## Прысяга

Да самай раніцы я нават і вокам не самгнуў. Я ўвесь дрыжэў і не ведаў, што мне рабіць? Гэта-ж напараўчыўся на схованы склеп. Кальцо было ўкручана ў дзверы, каб льга было адчыняць. А я на дзвярах стаяў нагамі, і кальцо—як у зямлі расло, з травы не відаць.

Я тады саступіў і падняў быў дзверцы: яны малыя такія, як аднаму чалавеку пралезці. Я зірнуў у чорную процьму і жахнуўся: дзе-ж гэта відана туды лезці.

Раніцою прыйшоў дзядзька Цімох і, як ні ў чым не бывала, сказаў мне, каб я вёў Сівую ў запражку ды гнаў наранiцу каровы. Каб гэта так прайшла ноч—я хацеў-бы ўнь як спаць! А то—і нічагусенькі.

А дзядзька насупісты і на мяне, нават, не пазірае. Ён, канечне, і не ведае нічога. От каб узяў ды сказаў яму... І калі я так падумаў—холадна зрабілася мне.

У мяне от уся ноч прайшла ў клапатлівых думках: што мне рабіць? Як я пагляджу, што там? Гэта-ж проста дзіва! Але я ні за якія грошы адзін не палезу. Дык як-жа будзе?

Дзядзька Цімох паехаў з Стэфаю на фэст, а дома—цётка з Казікам і бабка.

— Можа каб сказаць Казіку ды ўдвох?—памеркаваў і я ўспомніў: Казік-жа не сказаў мне, дык і я яму не скажу. Ну, а як-жа я пагляджу? Каб хаця можна было днём, я б мо' і не баяўся. Дык-жа па цэлых днях бабка сядзіць у садку і пільнуе, каб не зляцеў рой. Пчолы цяпер вельмі рояцца, і раі высыпаюцца ледзь не кожны дзень. Вядома гэтулькі вуллёў у дзядзькі Цімоха!

— Што-ж мне рабіць?

Каровы мае падышлі да самага комунаўскага поля, і я ўжо хацеў завярнуць іх пад дом, як убачыў: Юзік пасвіў з старым Кнышам, на тым баку, комунаўскія свінні.

— Ю-узік...—ні з таго, ні з сяго гукнуў і я памахаў рукою:—хадзі сюды!...

Калі памахаў рукою, тады толькі падумаў:

— Што я гэта яму буду казаць, ці што? Ён-жа ўсётакі—не свой...

Але ізноў упоперак думак паўстала ў мяне пытанне:

— Дык што, што-ж рабіць?

Юзік ішоў да мяне і збіваў пугаю белы дзятлік, а я думаў:

— Юзік... Ён і не дрэнны, дарма сабе, што мне не свой. Ён не раўнуючы, як родны брат. І нават шкадуе мяне. І пра кулакоў раз-казвае. А якая карысць Юзіку, калі ён каму скажа пра склеп? Ён і не скажа...

— Пасеш...—падыходзячы да мяне, сказаў Юзік.

— Ага... нашы паехалі на фэст, дык я і пасу.

І спяшаючыся дадаў:

— Быў цэлую ноч на начлезе, а цяпер—пасу.

— Чаму-ж ты не прыходзіш да нас? Учора ў нас спектакль ставілі комсамольцы. Вой—як весела як было!..

— Я-ж табе кажу—быў на начлезе...

Мне карціць, і я не ведаю: скажу... не скажу... скажу... Вось тут і рабі, як хочаш—ах!

— Ты мне скажы, што кладуць у склеп?—з хітрыкамі запытаў я Юзіка.

— Чаму ты пытаеш?

Так. Ну, вось, скажам, склеп, дык што там можа быць?

Юзік здзіўлена пазірае на мяне ды кажа:

— Гледзячы, які склеп: можна бульбу ссыпаць... у нас, у комуне ёсць склеп—мы ставім малако... сыры тамака галандскія вылежваюцца і масла стаіць...

— А ў схаваным склепе, што можна класці.

— Я такіх скляпоў не бачыў,—кажа Юзік.

Тады я і сам не ведаю, што мне рабіць? Калі Юзік гаворыць, што не бачыў—мне і няма чаго гаварыць яму.

— Канечне, не трэба казаць...—вырашаю я, мала што можа быць.

А Юзік пад маю думку:

— Ты гэта мяне клікаў, каб запытаць толькі, што кладуць у склепе?—смяецца Юзік. І дадае:—дзівак!

— Я—не дзівак!—загараецца мой твар.—Ты не ведаеш вось, што тут...

Юзік натапырыў свой слых, а я, каб давесці яму, але патом з асцярогаю, сказаў:

— Прысягні... Прысягні, што нікому не скажаш, дык я скажу нешта.

— Ха-ха-ха...—смяецца Юзік.—Як-жа я прысягну? Я-ж не ўмею! Я магу табе даць толькі піонерскае слова.

— Ну, давай сабе слова,—кажу яму.

Мне вось хацелася, каб хутчэй выказаць усё: хай не думае ён, што я паклікаў яго і так сабе пытаю пра скляпы.

І ён прысягаў. Трымаў руку па піонерску і гаварыў:

— Даю справядлівае маё піонерскае слова, што я нікому не скажу таго, што ён мне скажа, калі справа не будзе чапаць пролетарскай нашай рэволюцыі.

— Нікога не будзе чапаць! Дзіўны ты!—сказаў я ды з спешкаю апавядаў Юзіку пра ўсю мінулую ноч.

## Пад зямлёю

Ужо змерклася, а дзядзькі Цімоха не было з фэсту. Я вельмі клапаціўся, хаця-б каб ён не наехаў, пакуль мы паглядзім!

А з Юзікам мы ўмовіліся гэтак: ён прыдзе на цямочку ў садок, а я яго ўжо буду чакаць.

Калі казаў я Юзіку пра ўсё, ён быў мяняўся ў твары. Больш за мяне неяк ні то спалохаўся, ні то—хто яго ведае, што з ім. Потым ён сказаў мне:

— Гэта справа, канечне... Чаго ж гэта хто без дай рацыі будзе лазіць ночы па скляпах?

Ён выказаў думку, што скажа яшчэ каму і з большым гуртам, каб смялей было—паглядзім.

— Я сказаў:

— Ты-ж прысягнуў.

— Толькі-ж вось што прысягнуў...—нездаволена сказаў ён і дадаў:—чакай, як змеркнецца.

— Цётка ўжо і агонь запаліла ў хаце, а Юзіка няма. Я сяджу пад вішняю (не пад тою, дзе склеп)—і чакаю Юзіка. Ён павінен ісці цераз выган. Мне проста надакучыла яго чакаць.

— От-бок чалавек—гаворыць адно, а робіць табе другое.

З нецярплівасці я ўздымаюся, праходжу па садку, адным вокам кідаю зірк на тое месца дзе склеп, ды ізноў іду, як і не было нідзе нічога.

— Добра-ж, каб яны шчэ не прыехалі,—мяркую ў сваіх думках.—Хай-бы сабе пазніўся Юзік, а так...

Вечар вільготны ад туману. Сама больш туману на дзядзькавым лужку. У лужку—копанка, дык туману шмат бярэцца з копанкі. І ён, як тыя мошкі-мушкі, дробны, дробны. Здаецца, што яго нехта на густое рэшата сее.

Водблескі ад заходу сонца яшчэ не зусім патухлі, і на небе—паджураная хмара. Такая тоўстая, тлустая, як мядзведзь, хмара. Калі-б такая хмара скінулася, от-бы нарабіла вады! І як яно так: уся хмара з вады, а вада цяжкая не кідаецца далоў? А мо‘ там і кідаецца, ды адгэтуль не відаць?

— Ну, і дзе-ж ён дзеўся? Ах-ах...

— А мо‘ збаяўся ісці адзін цераз грэблю? Тутака-ж, казалі, ваўкі нават праходзяць часамі.

Кошка-рыска прабегла каля мяне ды застанавілася: пазірае, чаго я сяджу.

— Каці-каці-каці...—пакацікаў я, але яна, як счула голас,—пайшла пад азярод ад мяне.

Хай ідзе... Там у гэтых кулёх пэўна ёсць мышы... пазіраю я, куды пайшла кошка-Рыска..

— Не... я больш не буду яго чакаць!—вырашаю я і ўздымаюся на ногі.—Я адчыню і палезу адзін. От! Хай ведае, што я і не вельмі баюся. А то гатоў дзядзька зараз наехаць. Пакуль ён прыедзе—я і пагляджу. І калі што якое, нават і скажу яму: ніякага склепа схована няма. Я, вось проста, скажу, хацеў, каб ты прыйшоў увечара да мяне гуляць. Канечне... Мяне-ж Казік гэтак і абдурыў. Прагаварыўся быў, а потым і не сказаў. А я і ў галаве не меў. Дапраўды! Дурны, што я гэтулькі чакаў дарэмна. Ну чаго-ж там баяцца? Вунь і кошка ходзіць па садку... Я азіраюся па бакох, настаўляю свой слых—нідзе нікога не чуваць.

Асцярожна падыходжу пад тую вішню і абмацваю ў густой траве кальцо (трава тут большая, як дзе!)

Цяжкавата, але я патом з усёю сілаю ўздзіраю дзверцы. Але што-ж мне рабіць? Хто-ж будзе трымаць дзверы? Яны-ж зачыняцца, калі падлезу пад іх? Цэлы момант думаю, што рабіць і ўрэшце скеміў: распяразваюся і папружкаю працягваю праз кальцо. Тады ізноў прывязаў іх папружкаю за вішню.

— Цяпер не адкінуцца.

Нешта было шаснула, калі я нагнуўся ды глядзеў у чорную яму. Я страпянуўся, узняў галаву, натапырыў слых, і—Юзіка не было відаць.

— Хай цяпер сабе і не ідзе...—Падумаў я сам сабе ды пачаў мацаць, каб як туды лезці.

На цэлую нагу (як дастаць зверху) стаяла драбіна. Я асцярожна ступіў на драбіну і—раз, два, тры, пяць, сем...—злез аж на дно, на падлогу.

Зрабілася так неяк, што ў мяне аніякага страху. Стаяў каля драбіны і глянуў уверх—кавалачак неба. І зоры, здаецца, ярчэй на ім міргаюць. Цэлую хвіліну пастаяў—усё адно, як ніколі зорак тых не бачыў. А потым апамятаўся—пачаў хутчэй аглядаць склеп.

Ад надворку, зверху, ледзь тышчыцца хоць сабе і змрок, але віднейшы, як у склепе. Вобмацкам іду каля сцяны, а яна каменная, каструбаватая.

— Нешта! Нейкая скрыня ці што?

Мацаю рукою і не ведаю, што гэта. Тады толькі успомніў, што ў мяне ў кішэні, яшчэ ад начлегу, запалкі.

Я спяшаючыся дастаў пачак з кішэні, дастаў запалку, і ніяк не магу запаліць: ці то рукі ў мяне дрыжаць ад начлега, ці то запалка адсырэла? Узяў другую—шэрг-шэрг—запаліў.

Агонь рынуўся мне ў самыя вочы, і я перш нічога не ўбачыў, а потым паволі пачаў углядацца і дзіву даўся:

Каля сцен стаяць тры вялікія скрыні, а ў кутку—вялікая шафа. Я падыйшоў да адной скрыні—парожняя. Але відаць, што ў ёй было жыта: калівы жытнія засталіся на дне. Падыйшоў да другой—парожняя.

Запалка мая стухла, і я запаліў другую. Падыходжу да трэцяй, што з другога боку ад дзвярэй, а там палавіна скрыні гароху. Тады я падыйшоў да шафы... Яна зачынена, і я думаў, што замкнёна. Я ўзяў за дзверы, дык яна і адчынілася. За самаю шафай, як адчыняў я—нешта забарабаніла—ту-ту-ту... Я зразумеў: гэта-ж пацук. І ў мяне ізноў не было аніякага страху.

А калі зусім шафу адчыніў, убачыў і аслупянеў:

Адкуль дзядзька Цімох набраў гэтулькі вінтовак? Поўная шафа адных вінтовак... а ўнізе жалезныя бутэлькі. Якраз такія, што былі з імі праязджалі праз Брылі чырвонаармейцы.

— На што яны яму?—прабегла думка, а за ёю другая:—мусіць каб ваяваць? Дзядзька Цімох хоча вайны... ён, як тыя буржуі, што пра іх казаў Юзік... ой, ой!..

Запалка стухла, і я пайшоў да дзвярэй. Мяне цяпер апанаваў жах ад гэтых вінтовак. Яны такія сур'ёзныя, маўклівыя, і, здаецца, каб да іх дакрануўся—стрэляць. І стрэляць усе за адзін раз.

— Ах, ах! Што сабе думае дзядзька! Я не скажу Юзіку, не, не! Юзік не сцерпіць і каму-небудзь скажа, а дзядзька тады заб'е мяне насмерць! Што сабе думае дзядзька—а-я-яй!

Падыйшоў да драбіны і ўзняўся, каб хутчэй, хутчэй вылезці наверх. Неяк знячэўку, калі лез, узняў галаву і ўбачыў: на куркішках быў каля дзвярэй, Казік. Ён мяне, здаецца, не бачыў; усё прыглядаўся і нешта трымаў у руцэ.

— Не зачыняй!..—крыкнуў я яму, і мой голас згубіўся, рассыпаўся па склепе. (Я не ведаю, чаму ў мяне быў такі ціхі голас цяпер). Я рынуўся даверху па драбіне і яшчэ:

— Не зачыняй... бра-а-тт...

...Нешта кінулася на галаву і так моцна, што я сцяў зубы. А потым цёмна, цёмна зрабілася. Здаецца, зачыніліліся земляныя дзверцы.

## Юзік

Калі я ўспамінаю што са мною было потым—валасы мае на галаве здаецца, робяцца як дрот—дыба становяцца, Ай, ай... Гэта было вельмі-ж такое, што я не забудуся—колькі буду жыць!

А з Юзікам, дык вось як яно вышлася... Ён мне потым і ўсім нам, як мае быць, расказаў. (Які ўжо, які ён добры, мой гэты Юзік!)

Дык яно было вось што.

Калі на полі я пагукаў на Юзіка ён падышоў да мяне, збіваючы дзятлік, а я расказаў яму пра схованы Цімахоў склеп—ён адразу і скеміў:

— Гэта не так сабе. Я-ж служыў у Цімоха і ведаю: Цімох гэта-ж як той воўк, Пра яго, нават, чуткі былі, што ён хаваў бандытаў. І шукалі аднойчы, калі служыў я, нічога толькі такога не знайшлі. Піліп не будзе маніць пра склеп. Толькі ўдвух вось боязна ісці глядзець.

Юзік вырашыў быў:

— А мо' скажу пад сакрэтам нашаму комунаўскаму Змітру, і пойдзем увечары ўдвух? Зміцер схаваецца ў вішняку, а мы тады смела будзем глядзець. Калі нічога такога—дык і нічога. Нібы я адзін толькі і ведаю.

Але ўспомніў сваю перада мною прысягу, і сорам апанаваў. Думаў сам сабе: „усё-ж такі маё піонерскае слова... Я-ж буду перад Піліпам і усіх піонераў рабіць падманшчыкамі... Хай сабе ён і не будзе ведаць, але-ж маё піонерскае сумленне...“

— Пайду адзін!—вырашыў Юзік.—Чаго там... Мне-ж уся сядзіба Цімахова вядома. Агледзім, і калі што—тады скажу Змітру. Бо калі нічога няма—толькі сорамна будзе перад Змітрам.

І чакаў з нецярплівасцю вечара—нікому не казаў.

А калі надыйшоў вечар-агонь запальвалі ў комуне—выйшаў з дому. Ад комуны да Цімоха зусім блізка. І Юзік за пяць хвілін зайшоў-бы, каб не затрымаўся на грэблі. Выйшаў на грэблю, а дзядзька Цімох едзе.

— Ах-ах, каб цябе... гэтак,—сціснуў Юзік зубы.

Усёроўна як адчуваў нейкую віну перад дзядзькам Цімохам—баяўся з ім стрэцца. А каб абыйсці грэблю—няма-ж кудою. Дзядзька Цімох паехаў, а Юзік чакаў, пакуль з'едзе з грэблі ды паедзе каля балота да свайго хутара.

Юзік ведаў: дзядзьку Цімоху даехаць дадому трэба шмат часу. Пехатою, дык можна цераз поплаў—адразу-ж, як мінеш грэблю—напрамік. А з канём—трэба аб'ехаць мокры поплаў вялікім кругам.

І Юзік меркаваў:

— Пакуль аб'едзе—буду доўга ўжо ў Цімохавым садку. І Піліпу скажу, што едзе от ужо Цімох з фэсту. Давядзецца цяпер чакаць, пакуль спаць не ляжа гаспадар.

Цімох пераехаў грэблю, і Юзік пайшоў па ёй. Быстрымі крокамі перамераў яе і нацянькі да хутара ішоў подбегам. Здалёк на водшыбе бачыў, як павольна ехаў дзядзька Цімох. Той за ўзгорак схаваўся—паехаў цераз масток, што на канаве, а Юзік ужо ў садку.

— Дзе-ж тут той Піліп?—спыніўся каля вішэнніку, шукаў мяне і разважаў.—Нешта-ж не відаць.. Можа яшчэ ў хаце? Можа якую работу робіць—Цімашыха загадала?

Хацеў-быў злёгку нават свіснуць а потым вырашыў:

— Не трэба. Пачакаю тут. Усё адно, пакуль не прыедзе зусім Цімох ды не ляжа спаць—глядзець не будзем.

І гэтак прысеў каля вішнёвых атожылкаў, акінуў вокам дзядзькава гумно, выган за гумном...

Юзіку ўсё тут знаёма да кроплі. Ён меў на сваіх думках: вось у гэтых падстрэшках дзядзькавых ён мякіну аржаную ў цабры кожны вечар таптаў каровам на паранку. Цабры цяжкія—два. Натопча іх Юзік, а потым ледзь-ледзь узбавіць на санлчкі-каркі. І вязе іх пад варыўню. У варыўні кацёл умураваны, там грэецца вада, і ён, Юзік, вялікімі каўшамі вару аблівае амецце. А вось гэта кола перад токам: гэта-ж ён усё паганяў коні, калі малацілі, і круг вытаптаны—конскімі ды яго нагамі. Колькі, колькі разоў абыйшоў Юзік па гэтым кругу колу! Мо' тысячу кілометраў было-б, каб скласці ўсе крокі ды выпрастаць у доўгую стужку-дарогу!

А вось цераз гэтыя вароты, казаў ён, уцякаў ад Цімоха. Хацеў набіць дзядзька Цімох, што заснуў быў Юзік на начлезе і кабыла з жарабём улезла ў авёс. Варота гэтыя высокія вельмі, дык як уцякаў-пералазіў, ледзь не злавіў Цімох за рубашку. Да вечара тады не ішоў блізка да Цімоха, пакуль не адышла яго злосць... А гэты азярод...

І не паспеў патом акінуць азяродныя рэбры, як счуў: нехта кашлянуў нехта, нехта замармытаў, зашамацеў. Адразу на мяне і падумаў:

— Пілiп ідзе...—і раптам узняўся на ногі. Але прыглядзеўся, і нікога нідзе наўкол. Тады сыйшоў з месца і каля вішняку асцярожнымі крокамі пачаў ісці. Яшчэ і яшчэ ступіў два-тры крокі і ледзь не азваўся поўголасам.

— Гэта ты...—хацеў сказаць на мяне, але спыніў крокі і голас. Стуліўся за старою вішняю, за каранікам каля вішні і ўбачыў: адчынена яма пад вішняю. Здаецца зямля разявіла сваю ляпу і хочаневашта глытаць. А перад ею—Казік. На куркішках прысеў, руку адвёў, а потым з усяго размаху, здалося, усю руку кінуў у яму:—гах!

Юзік чуў:

там нешта охнула, пакацілася, заенчала нечалавечым голасам, і так вусцішна жадасна было зрабілася яму...

Як маргнуць вокам, і Юзік схапіў-бы Казіка, з усяго размаху шпурнуў-бы... Ой, як паляцеў-бы ён сторч носам у чорную процьму! Але не паспеў быў з месца рушыцца, як кінуўся Казік на двор.

— Стой!..—пачуў Юзік голас Цімоха.—Тпру!.. Адчыні, Пілiп... Ах, гэта ты, Казя...

Рыпнулі варота, і калёса едуць у садок, І Юзік зразумеў (ён ведае Цімоха па голасе): п'яны сёння Цімох.

— Што-ж мне рабіць?...—шэпчуць Юзікавы вусны.—Што-ж гэта?...

Хацеў бегчы невядома куды і чаго. Ужо і памкнуўся, а потым, нібы ўявіў нешта, спыніўся ізноў за вішняю, за каранікам.

А Казік падбег да бацькі, і Юзік чуў—казаў ён спешным дрыжачым голасам:

— Злодзей!... Злодзей...

Не мог прагаварыць ад страху быў. Бацька не зразумеў адразу сына, а потым:

— Дзе той злодзей?.. што ты плявузгаеш?

— У склепе... пад вішняю... я яго каменем, ён і не вылез. Ён там...

Цімох кінуў каня і атарапянеў,—яму здалося, што ён не дачуў і ён перапытаў:

— Дзе... кажаш, пад вішняю?

Ага...—ледзь чутна пераказаў Казік.

Тады чуваць было:

узяў нешта Цімох з саломы і цвёрда шырокімі крокамі пайшоў з сынам да вішні.

— Я яго каменем,—пераказваў Казік поўголасам нахаду.—Ён вылазіў, а я яго і скропіў.

А дзядзька Цімох, як не чуў сына:

падышоў да вішні, руку ўперад выставіў і праказваў у чорную пастку:

— Хто тут?!

— Ціха, татка!—крыкнуў шэптам Казік—папярэдзіў бацьку.—Ён гатоў стрэліць...

— Мы стрэлім!...—пачуў Юзік дзядзькаў голас і здрыгануўся.

— Заб'е... Ён-жа можа і жывы яшчэ... А-ах, заб'е... Што-ж будзе?..

За валасы ўхапіўся аберучкамі і сам не ведаў, што ён робіць (абы каб вырataваць мяне! А мо' каб не бачыць гэтага жаху)—кінуўся з-пад вішні за другі каранік, за трэці... І зноў за вішню, за хлеў... падбег да плоту і хацеў пералезці на двор.—Вось,. вось будзе страляць Цімох—думаў Юзік,—і, канечне, заб'е... А а мо' яшчэ і жывы Пілiп ад каменя?

Юзік вырашыў у адзін момант: ён пералезе на двор—нібыта ё прышоў з комуны—крыкне на ўвесь голас: „Дзядзька Цімох!“ Той збянтэжыцца ад чужога крыку і мо' не будзе страляць.

Юзік не ведаў, што ён скажа дзядзьку Цімоху, калі сустрэнецца на дварэ.

„Скажу, што прыслалі мяне, каб ішоў ён нечага ў нашу комуну“.

І толькі ўзняўся на плот, як глухі стрэл аддаўся з зямлі.

— Ужо...—праказаў Юзік. І, голас і сэрца сціскаючы, рынуўся на поле, бягом да комуны.

---

...Добра што Юзік не паказаў сябе. Калі-б убачыў дзядзька Цімох Юзіка, забіў-бы яго. Ён-жа вельмі злосны на Юзіка, што той на яго скардзіцца комуне, камісіі прысылае, калоціць яго нутро—сысквае з яго боты з світкаю.

— Вырадак, валацуга піонерава...—не раз казаў перада мною ў вочы дзядзька Цімох на Юзіка. Трапіш ты ў мае рукі, усёадно я цябе збаёдаю. Мае жыццё і так ператрасаецца, а ён яго комуне тыцкае. Ды хаця-ж каб хто людскі, а то сабачанё зброднае!

Юзік, дык не лічыў, што ёсць тут якая крыўда. Вінен дзядзька Цімох яму, як угоджваліся, боты і капоту, і няхай аддае.

І калі-б трапіўся Юзік тады Цімоху пад п'яную руку, ды яшчэ з такім здарэннем, як склеп—канцы Юзіку былі-б... канечне! Юзік цяпер толькі гэта адчуў, зразумеў. Бо, як потым гэта выявілася, Цімох не аднойчы разважаў сам сабе:

— Той хто дазнаецца пра мой склеп—дазнаецца пра сваю смерць. Хіба шмат дазнаецца іх, дык я тады не дам рады. Тады мне смерць. Але мой склеп,—смерць маіх ворагаў. А як усё ўжо было вядома—усе ведалі і вот што:

Пабудаваўся Цімахоў склеп, калі прагналі белапалякаў. Цімох не ведаў, што яму рабіць: белыя палякі былі ўвесь яго апірак. Пасля белапалякаў у Цімоха засталася адна надзея.—Кручонак з сваёю шайкаю. Цімох меркаваў: Кручонкава шайка будзе расці і вырасце ў цэлае войска. Тады войска гэта прагоніць, нашчэнт выража большэвікоў. Вось і прыдзе да дзядзькі Цімоха Савастыянавіча ізноў яго жыццё.

Але белая шайка Кручонка неяк не расла, а ўжо надыходзілі асеннія замаразкі. Уночы і раніцамі добра такі холадам прабірала у лесе Кручонкаву шайку. Кручонак сам быў настойлівы—мог бы цярпець і не такі холад, а нават увесь холад цэлай зімы за адзін раз. Ды толькі яго шайка пачала скардзіцца на холад. Тады, аднойчы, прыйшоў Кручонак з лесу да дзядзькі Цімоха і кажа: „Давай прытулак мне і маім хлопцам. Нічога не будзе—холад шчыпле“.

І доўга меркаваў дзядзька Цімох з Кручонкам, а потым і вырашылі: пабудаваць на зіму ў цімаховым садку склеп.

— Хлопцы-ж мае цэлымі днямі нічога не робяць, дык хай працуюць уночы,—казаў Кручонак. Для цябе-ж...

І за нейкіх дзве ночы быў ужо, як мае быць, склеп.

Цэлую зіму белая банда жыла ў склепе. Цімох і карміў іх і апранаў. А калі вясна надыйшла—ізноў пайшлі ў лес.

На адыходзе Кручонак сказаў Цімоху:

— Пакідаем табе на схоўку гэтыя вінтоўкі і бомбы. Тут вінтовак семнаццаць, а бомбаў—дзевяць. Хай ляжаць і чакаюць нас. Гэта будзе наша база.

От з таго часу і стаіць склеп. Дзядзька Цімох хаваў у ім збожжа і ўсё, што трэба, каб не было на відавоку. І чакаў дзядзька Кручонка... А ён, як у ваду кануў. Чуткі былі дайшлі да Цімоха, нібыта злавіла Кручонка ГПУ, а яго шайка разбрылася па сабе. Дзядзька Цімох не даваў веры гэтым чуткам, ён разважаў: Кручонак жывым у рукі нікому і ніколі не дасца... так, як і ён, мой дзядзька, ці так, як любіць ён каб называлі яго—Цімох Савастыянавіч Гурбановіч.

---

Юзік апавядаў:

Ён усю сілу сваю згубіў, пакуль дабег да комуны. Сэрца яго, здавалася, як не вырвецца з грудзей. І страх апанаваў яго, што такога звера—чалавека убачыў ён, як дзядзька Цімох, і жаль ахапіў, што ўжо не жыве, нейдзе, яго Піліп.

Юзік не мог дараваць сабе таго, чаму ён не сказаў Змітру альбо яшчэ каму-небудзь, ці нават і ўсёй комуне. Тады-б і я, думаў ён, жыў быў, і яму не было-б ніякага страху.

У комуне, калі прыбег Юзік, яшчэ не спалі. Шмат было агнёў у вокнах, і ён не ведаў, да каго першага бегчы, сказаць.

Адзін момант не ведаў, а потым успомніў:

— Змітру скажу... ён такі дужы... наш важаты...

І кінуўся да Змітравай хаты. А яго і пераняў нехта з змроку:

— Куды ты, як апантаны?

— Хто гэта?—спыніўся Юзік і спазнаў: ішоў яму насустрач Карпей Дзянісік—комунаўскі заўхоз.

— Чаго ты такі?...—падышоў Карпей да Юзіка.

А Юзік і сам не ведаў сябе: аж калаціўся ўвесь і слова не мог прагаварыць.

— Кажы, што такое?—пазіраў Карпей на Юзіка.

Тады Юзік схамянуўся, адсапнуўся ўсімі грудзьмі і расказаў з большага ўсё, як яно было. Карпей і не даслухаў яшчэ Юзікавай гаворкі, а рынуўся адразу ў клуб. Там быў сход комунарскі, і ўсе комунары былі на сходзе. Шуму-верхалу Карпей не рабіў. Сяму-таму з хлопцаў сказаў, каб хутчэй выйшлі на двор. І калі сабралася на дварэ чалавек дзесяць комунарцаў—паведаміў ім так, як Юзік: хутка-хутка пра Цімоха.

— А я даўно казаў, што ў нас пад бокам жыве вужака,—сказаў адзін з комунараўцаў.

— Яшчэ-ж і якая—сыкаўка!

Карпей перапыніў галасы:

— Ціха... пайшлі...

І, ужо ідучы, дадаў:

— Знайшлі калі гаворкі разводзіць...

Юзік паперадзе ішоў перш, а потым—разам—паміж хлопцаў, і ўсё апавядаў, як яно было ад самага пачатку.

— Я бо гляджу,—то аднаму, то другому ў твар зазіраў Юзік і не глядзеў, як ідзе,—я бо гляджу,—рукою размахваючы казаў,—як служыў я ў Цімоха, дык ён мяне ўсё не пускае ў садок. Абы я ў садок, ды ён убачыць—і сварыцца на мяне, кажа: „Чаго ты тут швэндаешся—пчолы ганяеш? Ідзі, ідзі, адгэтуль!“ Мне гэта і ўцям не прышло: мала што, думаю, мо' і пчолы...

Юзік адчуваў цяпер у сябе змешаную асалоду. Ён не збаяўся і ночы і Цімаховага страху, ён, як мог, ратаваў маё жыццё. Цяпер у піонерскім атрадзе якая павага будзе Юзіку! „Толькі-ж каб жыў быў Піліп,—думаў ён.

Калі надыходзіў такі ўспамін, круціліся горкія слёзы.

— Лягчэй, каб нічога не думаць. Што, што нарабі-ылася...

З грэблі сыходзілі, і Карпей, як ішоў паперадзе, так і стаў. Але-ж і ўслупянеў на адным месцы.

— Чаго ты?—нехта запытаў з гурту.

А ён:

— Ціха, ціха... во-о... ціха!

Усе склалі разам свой слых. Здавалася, быў ён вялікі-вялікі і вельмі-ж ціхі. І з усяго таго слыху нехта перш на-перш:

— Ёдзе... Чуеце, колы?..

— Ціха..

— Жалезныя колы...—прашаптаў Юзік.

— Не колы, а восі...—паправіў нехта з комунараўцаў Юзіка. Карпей скеміў:

— Трэба стуліцца, хлопцы!—Шэптам праказаў ён.—Хавайцеся за кусты! І калі што—я свісну.

Ноч была мяккая. Раса буйнымі кроплямі мачыла ў кустох калені. Юзік захінуўся на водшыбе ад грэблі за ракітавым кустом. Чуў, як б'ецца, тахкае яго сэрца. Здавалася Юзіку—можа нехта пачуць, як яно б'ецца ў грудзях. Тады павольным рухам ракітніку глушыў вострый стук сэрца. А колы ўсё бліжэй і бліжэй—тах-тра-тах-тах... Вот ужо і дуга і конь відаць з-за калена палявой дарогі.

Юзік напружана расхінуў сваім зіркам змрок ночы. Убачыў-быў, але не даў веры: церазмерная пільнасць мітусіла выязджаючую фурманку. Яшчэ ды яшчэ глядзеў праз куст і ўбачыў: ехаў сам Цімох.

— Куды?.. Ці не Піліпа забітага?..—вырвалася дрыжачая думка.— Калі-ж свісне Карпей?—шаптаў усім сваім нутром. Але наўкол было ціха. Нават, здаецца, кусты натапырылі вушы-лісты.

Да самай грэблі дзядзька Цімох пад'ехаў, ды лейцамі, без слоў, каня спыніў. Паправіў нешта чорнае на возе і поўголасам на каня:

— Но...

І раптам:

і свіст і крыкі...

Здаецца, сама ноч загалёкала на ўсё поўнае горла.

### Піліпава папружка

...Ну, а са мною ў склепе было гэтакае:

Шпурнуў Казік камень і лучыў мне ў галаву, каля самага вуха. Не раўнуючы, як з крэсіва агонь, гэтак іскры жуханулі ў меня з вачэй, а тады стухлі іскры і так цёмна, цёмна зрабілася... І я не ведаю, дзе гэта так цёмна. Я асунуўся каля драбіны на падлогу—на цэлы момант страціў сваю прытомнасць.

І мне здалося, калі я ачухаўся пасля ўдара, што я доўга недзе сплю і вот цяперака прачнуўся. Не ведаў быў адразу, што гэта са мною: ці сню я, ці яшчэ думаю, каб сніць? Але чую—пячэ нешта. Галава мая шуміць, як у бары хвойнік. Рукою мацаю галаву, дзе больш пячэ агнём, ажно нешта мокра на маіх пальцах.

— Ага...—цяпер я раскатурхаўся.—Гэта-ж Казік каменем...

А ў вачах што раз, дык усё відней і відней. Нібы развідніваецца ўвачавідкі перада мною ўся ноч.

Тады ўзняўся на локці, галаву падняў з падлогі.

— Дапраўды—відно! Гэта-ж дзверцы ў склепе адчынены,—убачыў я.—Дзе-ж Казік?

На ногі ўзняўся, а мокрае цячэ на шыю. Хацеў на драбіну ступіць, каб вылезці, і ўвесь утрупеў: гах-гах-гах—ідзе нехта. І гоман рэдкі, неразборчавы. Я—бокам, бокам—за сцяну, а ў думках:

— Можа Казік пазваў Стэфу...

Яшчэ ўсё адыходжу задам, і аж у скрыню плячыма.

А яны (нехта) падыйшлі ды:

— Хто тут?

Мне здаецца, на мяне нехта насыпаў шмат мурашак, і яны драпаюць па скуры: адразу я спазнаў дзядзькаў голас.

— Ой, ой...—шапчу нутром.—Што цяпер будзе?

А дзядзька Цімох ізноў:

— Хто тут?!

І Казік нешта гаворыць, і цэлую крыху гаворыць а потым—пстрык, пстрык, і раптам—бах!

На момант повен склеп налілося агню. І так відно, відно зрабілася ў склепе... А я—не ведаю як—а ўжо толькі не каля скрыні. Гарох пада мною моцна шамечыцца, дык я аж млею:

— Хацяб каб не счулі!

Усё цела сваё цісную у камяк, слых увесь выправіў на двор, і раптам:

— Татка... папружка... не страляйце... гэта-ж Пілiпава папружка! Вось, вось ён прывязаў ею дзверцы. Я забыўся, што яго няма ў хаце...

І мне ізноў цёмна зрабілася ў вачах. Гэта-ж Казік пазнаў маю папружку! Што нарабіў я!

І адразу ўсё сціхла. Мусіць, дзядзька Цімох глядзеў маей папружкі. Цэлы век, здаецца, маўчала ўсё. От-жа доўга! Гарох толькі ўсё пад мяне сыпаўся, а я лез, каб аж на дно скрыні, нават каб і на скрозь зямлі... Хай-бы лепш я памёр...

Дзядзька Цімох змоўчаў і нейкім вельмі хрыпатым голасам:

— Пілiпава... кажаш, Пілiпава! Ён адважыўся гэта зрабіць?! Ён—гэта паскуда, гэты комунаўскі прыхвасцень... заб'ю!

Я чуў: здаецца дзядзька Цімох нагою ступіў на драбіну. Яна нібы заскрыпела ад дзядзькі. У мяне моцна было стукала сэрца, а цяпер, калі зразумеў, што лезе дзядзька ў склеп—стала маё сэрца.

А мо' я і не чуў яго стуку, бо:

рраaз!..—ізноў повен склеп агню.

Я сціснуў моцна вочы, гарохам хацеў заткнуць свае вушы, каб не чуць стуку, не бачыць агню.

Але не мог.

Нямы крык вырваўся з маіх грудзей. Я ўжо хацеў прасіць ратунку. Я хацеў кінуцца да дзядзькавых ног—прасіць, каб ён не забіваў мяне.

— Што я яму зрабі... зрабіў?

І:

— Мусіць уцёк...—пачуў я, праказаў дзядзька Цімох.—Вужака! Прынясі мне, Казік, запалкі.

### Дзікі звер

Я ляжу і думаю:

— От я ўжо зараз і не буду жыць. Бацька прыедзе да мяне, а мяне і не будзе. Матка мая вельмі будзе плакаць: яна-ж шкадуе мяне і вунь як! І Насты я не ўбачу... Яна малая, а будзе жыць, а я—не буду. І хаты нашай не ўбачу. На што мяне выправіў бацька да гэтакага дзядзькі? На што ён выправіў?

Але я не палезу з скрыні ўсёадно. Хай дзядзька Цімох сам дастае мяне.

Мяне вунь які ахопліваў жаль! Мне ўсіх цяпер было шкода. І Юзіка было шкода. Ён-жа здружыўся са мною. У яго няма свайго бацькі і нікога няма. Ен застаўся ад бежанцаў. Хай-бы я быў Юзік бежанец, мяне і не забіў-бы дзядзька Цімох. Я цяпер быў-бы ў комуне...

...Усё мітусіцца разам у маёй галаве. Яна мне вельмі баліць. Чую я, што гарох макрэецца ад маёй галавы.

Гэта-ж ідзе яшчэ мая кроў. От як доўга цячэ гэта кроў...

І чую, але не бачу: у склепе і агонь ужо і ходзіць па склепе дзядзька Цімох—туп, туп, туп...

От зараз і ўбачыць мяне, скажа:

— Ага, дык ты вось дзе... вылазь-жа!

Але ізноў: туп, туп, туп... Вось ён ужо і лезе, зараз штурхане мяне ў бок.

Мне ўсёадно: мне так хочацца спаць! Няхай сабе і бачыць і бярэ мяне, абы каб я паспаў. Так хочацца спаць...

І ізноў: туп, туп, туп...

Няўжо ён мяне не кране? А мо' думае што я ўжо і не жывы? Хай лепш думае, абы каб я паспаў да раніцы.

І ўсё ціха. Не чуваць больш Цімаховых крокаў. Агню, мусіць, няма ў склепе.

Зірнуць ці не? Не! Калі я расплюшчу вочы—гатоў ён мяне ўбачыць. Але чаму-ж ціха? Мусіць ён прытуліўся ды слухае, чакае пакуль я расплюшчу вочы, а я і не расплюшчу: хай чакае. Я спаць, так хачу спаць!..

А галава мая, як сто пудоў. Яе цяпер не скранеш з месца. От-жа вялікая галава, цяжкая! Уся поўна-налітая жалезам. Здаецца, каб страсянуў яе моцна ды вытрас жалеза, што там цяжкое, дык і спаць не хацеў-бы, можа.

Дык чаму-ж я не сплю? От ужо і буду спаць... Ну вось і сплю. Хай сабе ён мяне чакае, а я не расплюшчу вачэй.

— Не!.. Ізноў ідзе Цімох? Гамоніць, мусіць, з Казікам... Яны яшчэ наверсе, але сюды ідуць. Вось і тое самае „туп", але не такое, як у склепе.

— І чаму мне ён не дасць паспаць?

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Звер стаіць. Я яго бачу сваімі вачыма. Вялікі звер. Я не ведаю, які гэта звер, я ніколі не бачыў дзікага звера. У яго з ляпы кідаецца густая пена. Не, не пена, а цэлымі камякамі кідаецца яго злосць. Ен зараз рынецца на мяне, а я і не баюся. Я от вазьму рукамі за ляпу і раздзяру папалам яе, аж да горла.

— Ах!..

...Агонь. Гэта-ж гарыць нашага бацькі хата. Няхай сабе і гарыць. Вот ужо згарэла салома з зялёным мохам—адны драбы засталіся ад паплёту. Мы будзем цяпер у новай хаце: я-ж раздзяру звераву ляпу.

—...Не плач мама! Я-ж дужы. Я паб'ю ўсіх гэтых зьвяроў, і яны цябе нават і не крануць.

—...Паглядзі ты, паглядзі, маці, як дзядзька Цімох есць папоўніцы нашу яешню. Але я не пайду больш пазычаць яек.

— ...Гэта-ж і не звер, а дзядзька Цімох. У яго вунь якія поўныя рукі. Ты думаеш, што я баюся гэтых тваіх рук? Во, во,—гэта-ж рукі твае ў крыві. Дзе ты іх, аб што пазбіваў?

—...Ах якая вялікая ў мяне галава! Юзік, ты будзеш мой брат. У мяне няма брата, а ёсць адна Наста. Ты, Юзік, жыві ў майго бацькі,

дык і будзеш маім братам. А не, дык я ў цябе буду жыць. Мы будзем хадзіць з табою па суніцы.

—...Дакуль-жа будзе расці мая галава? Ах, ах, ах—як яна вырасла за гэты дзень! Вот аж якая, і смешная галава. Бачыш дзядзька Цімох, якая ў мяне галава? Ты рагочаш з мяне, а я-ж табе радня...

—...Юзік, бяры з шафы вінтоўку. Ты бачыш колькі тут шмат вінтовак! Мы будзем страляць на дзядзькавым дубе маладых сояк. Яны прыляцяць абіраць жалуды на дубе, а мы—бях! бах! А дзе-ж гэта наш Міша? Ен-жа ўсё спявае, што піонеры вясёлыя хлопцы.

—...Няхай сабе спявае, а я каля піонерскага кастра буду, дык мне цётка Зося дасць гэтакі гальштук, як у Зьмітра.

...Вось ізноў: „туп, туп"... Чаму ён не дае мяне паспаць?

...Ого! Дзядзька Цімох хоча мяне забіць адным кулаком. Не-э, я—дужы. Ага, дык у цябе і стрэльба з патронамі! Ты хочаш забіць з стрэльбы, а я і не баюся. Твае-ж патроны без пораху. Я павысыпаў з іх увесь порах. Я ве-э-даў, што ты хочаш мяне забіць! На, вось паглядзі—порах твой у маей шапцы!

### Шклянка з вадою

Я расплюшчыў вочы і аж сумеўся: перада мною стаіць Мішава сястра Зося. Яна пазірае на мяне, а на вуснах у яе малая ўсмешка.

— Чаму вы тут...—шавялю я губамі, і мой голас вельмі ціхі. Чаму такі ціхі ў мяне голас? Я пазіраю далей вачыма і бачу: гэта-ж я на ложку і ў нейчай хаце.

А Зося да мяне:

— Ты прачнуўся... Табе баліць галава?

— А дзе-ж я?—быстра пазіраю на Зосю.

— Не бойся,—кажа на мяне Зося.—Ты ў нас.

— У вас!..

— Табе не можна гаварыць. Ты хворы. Фэльчар сказаў, каб ты не варушыў галавою.

Я цяпер толькі ўспомніў пра сваю галаву. Я адчуў яе і зразумеў: мая галава ўся абвязана марляю.

— Я хачу піць...—папрасіў я ў Зосі вады. Яна і не адыходзіла ад ложка, а з століка ўзяла шклянку з вадою.

— Вот як... Тут і вада блізка...—прайшло праз мае думкі.

Зося падлажыла пад маю патыліцу руку, і я напіўся вады. У маім роце ад вады аж павесялела.

— Дзе-ж Юзік, альбо Міша?—запытаў я ў Зосі.

А яна папраўіла марлю на маей галаве і тады ўжо сказала:

— Яны былі тут. Як ты спаў. І Юзік быў, і Міша, і яшчэ былі піонеры. Яны прыдуць... Ты ўвесь быў, як у агні. У цябе разбіта галава, і шмат крыві выцекла. Увесь гарох быў мокры ад крыві, калі нашы знайшлі цябе. Ты гаварыў немаведама што і кідаўся на ложку. У цябе была гарачка. Вось усё ты гаварыў пра звера... І казаў, што вы пайдзеце з Юзікам па суніцы. Табе-ж можа баліць галава, калі ты гаворыш?

— Не...—адказаў я,—мне толькі ў роце сохне. Калі-ж я вылез з склепа? Як гэта я уцёк ад Цімоха?

Зося ўсмешку рассыпала па ўсім твары, коўдру падкладае пад мой бок і кажа:

— Каб не Юзік, ты-б і не ўцёк. Цімох цябе шукаў у склепе і не знайшоў. Ён думаў, што ты ўцёк з склепа.

— Ён мяне хацеў застрэліць!—перапыніў я Зосю.—Цётка Зося! Каб не боты, нічога-б і не было. А так—з гэтых ботаў загарэўся ўвесь свет. Цімох мне казаў, што пашые боты, і я паехаў да яго.

— Ты не цяміш, Піліпка, таго што кажаш,—і зноў правіць Зося на мне коўдру,—а ты праўду кажаш. Каб у цябе былі боты ды ў Юзіка былі боты—вы і не працавалі-б на Цімоха. Але-ж Цімох хітры. Ён апошнюю нават дзіцячую сілу забіраў для сваёй карысці. Абы каб яму толькі жылося было ў выгодзе. Цяпер гэтак небудзе яму...

Зося маўчыць цэлую хвіліну і нешта думае. Я ні то не разумею, што сказала яна, ні то разумею. Мо' і не разумею, але адчуваю ўсё-ж, што Зося вельмі складна ўмее гаварыць.

— А дзе-ж Цімох?—перапыняю нашу маўклівасць.—Што ён робіць?

Зося ўстрапянулася ад сваіх думак, глядзіць на мой твар ды:

— Дык вось-жа.. Ты быў увесь у гаросе, і ён цябе не знайшоў. А Юзік бачыў, як ён шукаў цябе і нам прыбег сказаў. Нашы хлопцы пайшлі і стрэлі Цімоха на грэблі. Ён вінтоўкі і бомбы, што былі ў шафе ад бандытаў, вёз на возе. Ён думаў, што ты ўцёк з склепа і раскажаш усім пра вінтоўкі. Ён хацеў іх схаваць. А нашы камунараўцы яго і злавілі.

У мяне аж заблішчэлі вочы ад радасці, і я да яе:

— Цётка Зося, Цімох мне і не радня і не дзядзька. Я не хачу ботаў яго нават і бачыць! Я, цётка Зося, не, не хачу-у...

А яна больш яшчэ смяецца ды кажа:

— Які ты... канечне, не радня! Тваею раднею нашы піонеры— Юзік, Міша і ўвесь атрад. А Цімох— не тое што, а пастка для цябе. Я-ж кажу, ён хацеў, каб ты яму дарам працаваў і каб не ведаў пра гэта. І ты трапіў у гэту пастку. Ён-жа кулак, бандыт. У яго жылі бандыты—ён сам прызнаўся. І вінтоўкі пакінулі яму. Міліцыя яго забрала і ўсіх іх забралі.

— А хто-ж цяпер там?—пазіраю на Зосіны вочы.—І Казіка забралі?

— І Казіка і ўсіх выслалі з хутара. А ўсё яго будзе ў нас, у комуне.

— І я ў вас буду, цётка Зося?—вачэй не зводжу з Зосі.—Я-ж ужо і баранаваць умею нават! Бацька мне дазволіць быць... Вы такая добрая, цётка Зося! Як і мая матка... Вы скажаце, каб я быў у вас?

— Будзеш, скажу, Піліпка, і боты нават пашыем...—гладзіць яна рукою па марлі, але лёгка: гэта-ж каб не балела мне.

10-31-VIII-33 г.
к-с „Росквіт комунізма“

---

БАРЫС МІКУЛІЧ

# ДУЖАСЦЬ

*Частка трэцяя* [1])

...Тады, у абледзянелым, абснежаным і абветраным стэпу небакрай быў далёка, небакрая небыло, бо—як вокам кінуць—снег, снег... І крычаў Краўчанка, як было сілы, на поўны голас, і не было рэха, хоць-бы слабенькага рэха,—вецер, вецер, вецер... І таварыш сказаў: „Выбіцца! Мы мусім выбіцца!"—І напружаны цяглiцы, сцяты зубы, да максімальнай шпаркасці працуе мозаг, і б'ецца па венах кроў, гарачая, жывая кроў...

...Гэта было даўно, праз напластаванні наступных гадоў у памяці праступаюць асобныя акраўкі ўспамінаў, хочацца прыпомніць дэталі, аднавіць перад вачыма цэльны малюнак, а ён расплываецца, цяжка ўлавіць усю кампазіцыю яго. У памяці застаўся гострага бляску снег і гэтае надзвычай цяжкае адчуванне выключнай напружанасці ўсяго арганізма:

„Выбіцца! Мы мусім выбіцца!"

І яшчэ ўзнікае пры ўспамінах усеўладная радасць ад таго, што пульсацыя крыві ў арганізме—гэткая-ж напружаная, біцэпсы моцныя, розум ясны. Сілы многа, а сілы родзяць волю, воля „бярэ гарады", воля нясе праз бар'еры надзвычай цяжкія, бар'ер за бар'ерам бярэцца з непаслабнай спрытнасцю.

Калі раніцай — разам з сонцам — ён узнімаецца з ложка, шумна расчыняе вакно і ў яго моцнай стромай урываецца прахладнае ранішняе паветра, ён, як гарэзны дзіцёнак, затойвае дыханне, застывае на месцы і адно кратаюцца пругка ноздры ягонага буйнага носа. Так стаіць ён хвіліну нярухова ўпіваючыся багаццямі асвежанай за ноч прыроды. Потым рэзка зрываецца з месца, бяжыць у ванную і срэбраныя пырскі душа пачынаюць калоць, ласкатаць ягонае ладнае цела. Ён фыркае, ён танцуе пад тонкімі і частымі струмочкамі вады, усё яго цела прыводзіцца ў нейкі выключны рух, цела ружавее, наліваецца прыемнай свежасцю.

Ён выбягае на балкон і, камандуючы сам сабе, робіць ранішнюю фізкультзарадку: бяручыся рукамі ў бакі, ён прысядае на дыбках, або робіць на руках стойку, і, перапоўнены хлапечым задзёрам, ён вырабляе са сваім трэніраваным целам выключныя выверты.

І тады, завяршаючы раніцу, узнікае воддаль—спачатку няпэўны, потым мацнейшы—гуд сірэны. У чыстым лёгкім паветры гэты гуд афармляецца ў нешта мэталёва-акруглае. Доўгі час сірэна гудзіць адна, на аднэй ноце, узвялічана і ўпэўнена. Потым у пэўны момант

---

[1]) Працяг, гл. Полымя рэволюцыі №№ 11, 12—1933 г., № 2—1934 г.

у гуд сірэны ўрываюцца новыя галасы, і тады над ранішняй зямлёй выростае выключны па нечаканых адценнях, багаты на галасы розных тэмбраў дысананс.

Пачынаецца дзень, і ён, у шэрай касаваротцы, у белых палатняных пантоплях, лёгка бяжыць з гары, насустрач дысанансу, вецер урываецца ў ягонае чорнае—з сінім адлівам—валоссе, гэтае валоссе, падхопленае ветрам, здаецца, ляціць перад ім. На завароце дарогі, калі выростае перад ім кручкастая перадача рудадрабільнай, ён сцішае крок, адкідае назад рукой ускудлачанае ветрам валоссе, услухоўваецца ў сімфонію гукаў і ў яго раптам узнікае жаданне пастаяць колькі часу на месцы і падзівіцца разгорнутай перад яго вачыма панарамай.

Ён перабірае ў памяці ўсё, што трэба зрабіць за дзень, у думках ушчыльняе час, некалькі хвілінак—зусім, зусім мала—можна вырваць на гэтае „пасіўнае сузіранне". Ён шырака ўсміхаецца. Нічога не зробіш, гэта ў яго слабасць гэткая—перад прыходам у калектыў, штораніцы агледзець, хоць вокамгненна, даўно знаёмае, перадумаць, адзін-на адзін некаторыя закавырыстыя пытанні, пераканаць сябе ў тым, у чым узнікаюць сумненні, вызначыць самому сабе чарговыя задачы.

Проста перад ім разгортваецца пляцоўка камбіната. Чатыры домны сваімі грамадамі падпіраюць неба, і, здаецца, што без іх не ўтрымацца небу і з шалёным грукатам яно чмякнецца аб зямлю. Тры домны працуюць, чацвертая яшчэ аплецена складаным мярэжывам рыштавання. Далей—лятуць угору стромкія коміны мартэнаў. Крышку воддаль густыя цяжкія хмары дыму агортваюць батарэі коксахіму. А вось справа, нездалёк ад яго, на гары, разрываюць паветра аманалавыя выбухі—гэта рвуць руду. За цёплаэлектрацэнтраллю ярка паблісквае пад ранішнімі промнямі сонца велізарны вадзяны басейн, вырыты людзьмі. Раптам ён чуе гудок аўтамабільнага ражка. Ён крута паварочваецца, адбягае ўбок. Аўто спыняецца, і чалавек з нізка падстрыжаным сівым ёжыкам галавы, з перакрэсленым зморшчынамі тварам, падыходзяць да яго.

— У калектыў, Краўчанка?

— У калектыў. Куды гэтак рана выбраўся, Стары?

Стары махае рукой і неяк вінавата пазірае на шофера.

— Трэба ў горад. Па грошы. Нашым французам трэба плаціць неўзабаве. Самому ўсё рабіць прыходзіцца, хоць ты рады прасі. А ты... от добра, што сустрэў. Там на рудніку непаладкі, Краўчанка, ты правер.

— Я гэта ведаю.

— Дык правер. Кажуць, якасці няма. А якасць гэта—усё, Краўчанка.

— Сёння займуся гэтым.

— Дык займіся. Ну, а мы паехалі. Да дванаццаці ўправімся?— гэта да шофера.—Там забрукавалі каля ваданасоснай?

Шофер бярэцца за руль. Ён адказвае:

— У аб'езд прыдзецца. Але да дванаццаці ўправімся.

Машына лёгка бярэ з месца, і неўзабаве за густым белым пылам яе ўжо не відаць. Краўчанка апошні раз кідае позірк на дарогу і ідзе ў напрамку да рудадрабільнай. „Сіла якая ў гэтым старым",— думае ён.—„І ўсюды ён, чорт сівы!"—усміхаецца ён, узнімаючыся на гару.

Сонца паўзе за ім.

---

Цэпкія прыгаршчы экскаватара ўрэзваюцца ў пароду, яны моцна, трывала заціскаюць яе, і вось—з барабанным боем—раздробленая парода асыпаецца на платформу. Гэты барабанны бой, сігнальныя свісткі, аманалавыя выбухі, скупыя людскія крыкі і гуд, гуд, які пануе над зямлёй (і здаецца, што гэта гудзіць катаклізмамі сама зямля),—усё гэта афармляецца ў магутную строму гукаў, сіла якіх перакрывае ранішнюю пераклічку сірэн і гудкоў.

Сонца стаіць над першым гарызонтам, і пад самае сонца, угору ідуць два чалавекі, лавіруючы паміж экскаватараў, цягнікоў, пад'ёмнікаў. Адзін з іх—Краўчанка, сакратар парткалектыва рудніка, другі—зусім малады, з тварам, густа пакрытым дробным рабаціннем, нібы сонца праліла на яго гарачы дождж, у сінім рабочым гарнітуры—зменны інжынер Бурдзюк.

— Ты ўбачыш, як яны лоўка робяць,—кажа ён, рукой абціраючы пот з твару.—У гэтым месяцы яны канешне абгоняць амерыканскі экскаватар.

— Гэта і важна,—кажа ў адказ Краўчанка, косячы вочы на Бурдзюка.—Нешта ты схудаў, Саня? Вясна, га?

Бурдзюкоў твар яшчэ больш пакрываецца потам, кроплі яго—буйныя, як гарошыны—коцяцца па носе, і Бурдзюк нечакана чхае. Краўчанка смяецца.

— Вясна!..—у Бурдзюковым галасе і радасць, і здзіўленне, і недаўменне гучыць.—Вясна! А сонца, як у нас у жніво. Гарачае будзе лета.

— Гарачае,—зноў смяецца Краўчанка, біручы інжынера пад локаць.

Яны прыпыняюцца перад экскаватарам, абодвым кідаецца ў вочы даўно знаёмы надпіс—„Марыон 2“, у абодвых загараюцца—зусім, зусім непрыкметна—нейкай асаблівая дбайнай зацікаўленасцю вочы. Краўчанка трымае пад локаць інжынера, і гэтак яны стаяць, моўчкі сочаць за работай. Потым пастка экскаватара крута застывае на месцы, і з машыніставай будкі выходзіць дзяўчына ў сінім камбінезоне. У дзяўчыны, па-праўдзе, дужа ладны стан (Краўчанка гэта прыкмячае неяк паўз волю), але камбінезон крышку шыракаваты для яе: як ідзе, яна падобна да цацачнага медзвяжонка. У дзяўчыны дужа цікавы твар: траха раскосыя вочы тояць у сваёй зеленаватай перспектыве багата смеху, сілы і цяплыні, тонкі нос ледзь-ледзь прыўзняты ўгору і ад гэтага надае твару выраз трапяткой маладосці, невялікі рот, здаецца, перапоўнены лёгкім прывабным жартам.

— Валька,—кажа Бурдзюк і вызваляе свой локаць з Краўчанкавых рук.—Добрага дня, Валька!

— Здароў будзь, Косцік,—яна працягвае інжынеру руку, і яны вітаюцца, як старыя таварышы.

— Круціш? Багата накруцілі?

Вальчыны вочы сустракаюцца з Краўчанкавымі. Дзёрскасці ў гэтым позірку няма, ёсць у ім багата дапытлівасці, нібы абмацвае гэты позірк усяго. Але вось Валька чырванее, і вочы ўтароплівае долу, Краўчанка смяецца.

— Сто адзін процант,—адказвае Валька і спехам адыходзіць ад іх. І ўжо воддаль спыняючыся, яна кідае:

— Сакратар рэдка ў нас бывае!—і зноў абдае Краўчанку пытлівым позіркам.

— Отздорава!—загараецца Бурдзюк.—У гэтым месяцы яны канешне абгоняць амерыканскі экскаватар.

Яны ідуць далей. Па дарозе, нібы няўпрыкмет, Краўчанка пытаецца ў інжынера:

— Як прозвішча гэтай дзяўчыны?

— Берзынь,—кажа той.

Краўчанка кідае позірк на яго, нібы баіцца, што той няпраўду кажа, і ў раздум'і паўтарае:

— Берзынь. Дзіўнае якое прозвішча.

І тут іх перапыняе хлапец. Ён без кашулі, цела яго наліта сонечным загарам і біцэпсы на ім падобны да кавалкаў руды.

— Таварыш Бурдзюк,—кажа рабочы,—што не кажы, а так рабіць не варта. З рудадрабільнай зноў прыходзілі, там народ бунтуе, а мы маўчым.

— Чаму бунтуюць?—прыўзнімае Краўчанка бровы.

Бурдзюк двума пальцамі бярэцца за каўнер і рыўком расшпільвае кашулю,—яму робіцца горача. Бурдзюк кажа:

— Рудадрабілка патрабуе чыстай руды, а ў нас многа пустой пароды. Начальнік даў загад, каб адгружалі і яе.

— Як гэта так?

— І мы пытаемся, таварыш сакратар, чаму гэткі загад дадзены. Не па-правільнаму робіцца гэта. Трэба разабрацца.

— Правільна. І разбярэмся. Сёння мне аб гэтым і Далматаў казаў. Пойдзем у кантору.

Кантора знаходзіцца за выступам гары, адкуль добра відаць прасторны бяскрайні стэп. Ён укрыты травой, сакавітай травой, якую яшчэ не паспела спаліць сонца. Вецер ідзе па стэпу і—адсюль з гары—здаецца, што трава цячэ, трава—як хвалі. Густое зялёнае мора хвалюецца наўкола. Так і хочацца кінуцца ў яго. Спехам зробленая хацінка за выступам скалы—гэта ўсё адно, як прыстанне Фаустава на Гарцы. Тут пустынна і ціха, гукі і шум работы разбіваюцца аб выступ гары, гара-ж дае густы цень.

Краўчанка, кажучы проста, не любіць сюды хадзіць. Ён з нейкай незразумелай часам непрыязню ставіцца да гэтай хаціны. Тут працуе Берднікаў, тэхнічны начальнік рудніка, чалавек да жудасці агідны, з заўсёднай чорнай пальчаткай на правай руцэ. Як вітаецца ён, адчуваеш склізкі халадок пальчаткі. Краўчанку прыходзіцца стрымоўваць агіду да яго,—сваю недаверлівасць да інжынера ён намагаецца ўсімі сіламі не выказаць хоць-бы якой дробяззю, але тон іхнай гаворкі заўсёды афіцыйны.

Краўчанку не падабаецца і тое, што Берднікаў і ў гэтай, пастаўленай на кароткі час хацінцы, стварыў камфартабельны габінет: канапа і дыван над ёй, цяжкія шторы сталёвага колеру і амерыканская качалка замест рабочага крэсла. Краўчанка ў гэтым габінеце адчувае сябе чужым, спутаным па руках і нагах, афіцыйна-сухім.

— Ёсць справа, таварыш Берднікаў,—уваходзіць Краўчанка да інжынера, не вітаючыся.

І гэтую маленькую нетактоўнасць дужа тактоўна заўважае Берднікаў—ён узнімаецца насустрач сакратару і з усмешкай прыемнасці, якая хутчэй за ўсё падобна да сатыравай грымасы, кажа:

— Калі ласка, калі ласка! Добрага дня. Бярыце крэсла.

— Дзякую,—нечакана злуе Краўчанка.—Я па справе.

Берднікаў трымае ў руцэ, на якой уздзета чорная пальчатка, тонкую, набіваную самім папяросу. Ад папяросы ўзнімаецца ўгору пахучы струмок дыму, ён хвалямі расплываецца па пакоі і напаўняе яго даўкім, саладкаватым пахам. Краўчанку гэта, напэўна, здаецца, але яму цяжка дыхаць, і ён густа чырванее.

— Чаму адгружаюць пустую пароду?—хрыпла пытаецца ён і пераводзіць вочы з папяросы на інжынераў твар.

— Ааа!.. Гэта ўсіх дзівіць і ўсіх хвалюе!—зноў вычварная ўсмешка паяўляецца на твары Берднікава.—Даруйце; але мне абрыдзела тлумачыць гэта кожнаму. Ну, хто, скажыце, таварыш Краўчанка, давёў, што гэта пустая парода? Так, я не скажу, што ў ёй 70—80 працантаў жалеза, але яно не адсутнічае. Наша краіна не такая багатая, каб раскідацца багаццямі? Ці не праўда?.

Тое, што кажа інжынер, бясспрэчная праўда, Краўчанка адразу разумее, што... па сутнасці спрачацца з інжынерам яму няма як. Ён у думках дакарае сябе тым, што сам бяссільны пакуль што праверыць словы спеца і прыходзіцца іх цяпер браць напавер.

— Але пустая парода псуе механізмы рудадрабільнай,—апошні аргумент пускаецца ў ход.

Берднікаў разводзіць рукамі і паціскае плячыма, а на ягоным твары—выраз бездапаможнасці і здзіўлення. Голас яго робіцца ціхім і пераканальным:

— Трэба—выбіраць адно з двух. Машыну лёгка набыць, а руда, наш хлеб, так сказаць, будзе ляжаць нездабыты. Эканоміка?

— Так, трэба выбіраць адно з двух. Але гэтае адно павінна ўлічыць і найменшую амартызацыю рудадрабільнай і поўнае выкананне планаў рудніка. Вы падумайце. А я займуся гэтым. Па прыездзе Далматава сустрэнемся ў яго. Бывайце.

Ён спехам падае яму руку і, як заўсёды пры гэтым, крывіцца ад дотыку слізкай халоднай пальчаткі. Як выходзіць ён, Берднікаў пільна глядзіць у яго спіну. У Берднікава не сыходзіць з твару ўсмешка— ці іроніі, ці спачування, разабрацца цяжка.

І покуль Краўчанка бяжыць па сцежках уніз, з гарызонта на гарызонт, Берднікаў у сваім габінеце застывае нерухома ў качалцы. Склаўшы на каленях рукі, ён утаропіў позірк у дзверы, павялічаныя зрэнкі, здаецца, зрабіліся шклянымі, і ў іх, як у люстры, паўстала ўся неўтрапенная нерухомасць габінета.

Нарэшце яму верaць,—так думае Берднікаў,—нарэшце ён зможа вярнуць страчанае, змыць з свайго імя ўсе плямы і плямачкі, апраўдаць давер'е. Яго калегі, мусіць, думаюць тое самае, але сярод іх—гэта факт!—ёсць простыя дурні, і яму, Берднікаву, гэта не зусім падабаецца. Яшчэ два-тры „паходы ў народ" (акамянелы твар крывіцца), і ён моцна стане абодвума нагамі ў грунт. Толькі сачыць за сабой, толькі не памыліцца, толькі глушыць унутры варожае.

...Гоман, рогат, дым папяросны сумятня нясецца з дзвярэй калектыва насустрач Краўчанку. Ён ведае, што як толькі адчыніць дзверы, яго закідаюць справамі, скаргамі, просьбамі і патрабаваннямі. Ён, як плывун перад палётам у хвалі, адчуваючы прыемную сцюдзёнасць вады, затоена ўсміхаецца,—ён адчыняе дзверы ўпэўнена, ён любіць гэтыя хвалі, аж жмурыцца.

— Здарова!

— Хадзі сюды, Краўчанка.

— Пазвані ў гарком, разоў пяць пыталіся!

— Падпішы гэта. Што? Вынятка з пратакола.

І раней, чым дайсці да свайго стала, ён робіць сотні спраў, дзе жартам, дзе сур'ёзна адказвае на дзесяткі запытанняў. Звычкі сакратара ўжо ведаюць—калі ён садзіцца за стол, дык тут застаюцца толькі сур'ёзныя справы. Краўчанка дабіраецца, нарэшце, да свайго крэсла, бярэ ў рукі аловак і спярша аднатоўвае ў настольным блакноце патрэбнае. Потым уздымае вочы на людзей, вочы, напоўненыя цеплынёй і жартам, і кажа да бліжэйшага:

— Ну... валі!

— Ды ў нас гэткая справа, таварыш сакратар, што адным выдыхам за сталом не вырашыць. Пойдзем да нас, на рудадрабілку. Усе чыста наказалі, каб цябе абавязкова прывесці, хоць сілком.

— Ааа! Зноў рудадрабілка,—бровы сыходзяцца ў адну рысу. От толькі разбяруся з астатнімі, і адразу-ж прыду. Там здорава ў вас накруцілі?

— Ды ўбачыш ужо, чаго там.

— Бунтуюцца кажаш?—смяецца сакратар, пытлівага позірку не зводзячы з рабочага.—„Гэты гарачкі пароць не будзе, гэты свой да звання",—мільгае думка.

— Дзе там бунт! Адна справядлівасць. Дык я пачакаю. Яшчэ да комсамольцаў зайдуся, справы.

Краўчанка плыве ўпэўнена, рассякае хвалі моцнымі ўдарамі ладных сваіх рук, хвалі скараюцца яму. Ён дужа лоўка кіруе сваім целам. Але... але строма робіцца гарачай, і бег яе ўсё ўзмацняецца і ўзмацняецца, хвалі ўздымаюцца вышэй і вышэй. На хвілінку трэба стрымацца, легчы на ваду і чакаць гэтак дзевятага вала. Ён прыдзе з напорам. Адбіць яго трэба.—„Выбіцца! Мы мусім выбіцца!..

На рудадрабільнай—у перапынак—ён, абкружаны рабочымі, уважна слухае іхныя скаргі, узважвае іх, ацэньвае, распытвае больш—і тады пачынае разумець, што нехта (кантора? Берднікаў?) тут памыліўся. што нехта... Ён чырванее, густа і ўраз. Ён адкладае свае развэжанні на іншы час, калі будзе сам-на-сам, але развэжанні моцна ўрэпіліся за разбой думак, не адкараскацца ад іх ніяк. І яго ўвага падзяляецца на-пал: ён слухае калектыўную інфармацыю рудадрабільнікаў і разам з гэтым сочыць за ходой сваіх развэжанняў. І вось гэтыя развэжанні прыходзяць да лагічнага канца: тут не толькі памылка, тут робіцца надумысля.

— Вось добрая прапанова,—падтрымлівае ён маладога рабочага—арганізаваць паход на руднік. Вось няхай комсамольцы возьмуцца за гэтую справу. Толькі сёння-ж, пасля змены. Будзе тады ўсё ясна.

Малады рабочы, атрымаўшы згоду, зрываецца з месца. Засталося зусім мала часу да канца перапынку, а трэба паспець арганізаваць спрытную брыгаду, каб увечары адправіцца ў рэйд.

Якасць.

Вось чаго будзе дамагацца комсамольская брыгада ад рудніка. Якасць.

Вось што павінна быць законам для ўсіх участкаў вялікага і складанага заводскага арганізма. Хто гэтага не разумее—павінен зразумець.

І ўвечары таго-ж дня брыгада ідзе на руднік, і ў гэты-ж самы час адбываюцца дзве размовы, дзве размовы розных людзей.

Краўчанка прыходзіць да Далматава, які толькі што прыехаў з горада. Далматаў хоць і зморany, але ў яго выключнага ўздыму настой. І вось ён—гэткая ў Старога прывычка—абняўшы рукой Краўчанкавы плечы, ходзіць за ім па пакоі і засыпае стромай слоў.

Д а л м а т а ў (зазірае ў вочы сакратара). Прыязджаю, разумееш, і проста да начальніка. Ты хочаш, кажу, каб нашы французы ўзбунтаваліся? Разумееш, паставіў пытанне і маўчу, чакаю. А ён, мілы мой, спалохаўся. Шчырае слова, спалохаўся! І гэтак рэзалюцыю наўкос паперкі і чырк. (Ён заліваецца смехам, і ад гэтага сграбрысты ёжык ягонай галавы пачынае смешна варушыцца—от так і хочацца ўсімі пальцамі заехаць у яго. Потым, супакойваючыся, Далматаў робіць вочы загадкавымі). І, ведаеш, што было далей?

К р а ў ч а н к а. Ну?

Далматаў. Я падзякаваў яго за валюту, а потым сказаў, што нельга быць гэткім уступчывым. Трэба мець кулак. Ён аж загарэўся!

„Як малы ўсёадно“,—думае з усмешкай Краўчанка.—„Зрабіў такі справу і радуецца. Ну і стары!“

— На руднік, Стары, пашлі камсамольцы рудадрабільні,—кажа потым ён.—Я прышоў параіцца з табой. Ёсць сумненні, і выслухай.

Далматаў зазірае Краўчанку ў вочы і ўсміхаецца—гэтак прыветна, шчыра. У гэтым позірку выразна відаць, што Стары любіць Краўчанку, верыць яму.

— Кажы, сакратар, кажы. Можа і разбярэмся ў тваіх сумненнях.

Краўчанка перайшоў да справы адразу. Ён расказаў старому пра тое, як шмат разоў у ягоным жыцці прыходзілася падазрона ставіцца да людзей, людзей якія лічыліся сваімі, нават былі блізкімі таварышамі, як гінула гэтае сяброўства і адно заставалася ад яго варожасць. Сціпла ён перадаў гісторыю са Станіславам Юткевічам і, апавядаючы бачыў: то загараюцца, то гаснуць, робяцца непранікнёнымі вочы Старога. Сябры рабіліся ворагамі, ворагі—сябрамі. У складанай жыццёвай барацьбе ён навучыўся ставіцца з асцярогай да людзей, ён, як паляўнічы, набыў нюх.

І хіба цяпер тут, у гэтай барацьбе за соцыялістычную індустрыю, у барацьбе, да якой вяло яго жыццё, вяло загартоўваючы, ён памыляецца? Стары не разумее ў чым справа. Краўчанка кажа пра Берднікава. Так, так, ён разумее, што нельга проста біць па галаве, калі няма для гэтага сур'ёзных падстаў. Але быць асцярожным, быць пільным, быць уважлівым і чулым трэба абавязкова.

— Ты, Барыс, не разумееш нашай лініі,—кажа мякка Далматаў,—ты досыць добра практычна праводзіш яе, але не ўмееш іншы час глядзець глыбей, глядзець у перспектыву. Пэўная група старой тэхнічнай інтэлігенцыі з усёй катастрафічнасцю адчула аднойчы, што клас, якому яна некалі служыла гіне, што лінія гэтага класа—не прагрэс, а рэгрэс. Што павінна рабіць гэтая група, Барыс?

— Не, не пра гэта, Стары, я кажу. Гэты паварот лепшых людзей іх класа я разумею. Але сярод лепшых могуць быць і „лепшыя“, лепшыя ў двухкоссі, з агаворкай.

— Правільна, сакратар! Якраз гэтая акалічнасць і ёсць складаная сітуацыя нашага змагання. Але твая пастаноўка пытання адмаўляе ўсякую магчымасць перавыхавання, пераходу. Вось, канкрэтна, Берднікаў. Ён спец досыць салідны, ён умее працаваць з намі, ён уважліва прыслухоўваецца да нашага голасу. Пачакай. Я не адмаўляю таго, што недзе ў глыбіні яго псіхікі могуць мець месца затоеныя варожыя помыслы. Гэта зусім натуральна. Але нам Бердніковы цяпер патрэбны, у нас мала сваіх спецыялістаў. Яны растуць, але іх яшчэ не хапае. Вось у чым аснова асноў.

— А факты адгрузкі пустой пароды? Гэта-ж усё абгрунтоўваецца ім навукова!

Далматаў далонню правёў па калену, разгладзіў складку на ім. Ён колькі хвілін маўчаў, нешта абмяркоўваючы, а потым рэзка ўзняўся з месца і ўзяў Краўчанку за плечы.

— Гэта мы яшчэ раз праверым. Бурдзюка прышпілі да гэтай справы, няхай займецца, вывучыць. Ды, ведаеш, трэба і Берднікава выклікаць, няхай растлумачыць.

У гэтую-ж самую хвіліну, на другім канцы пасёлка ў готэлі для спецыялістаў, скончылася таварыская гутарка двух інжынераў—Берднікава і Васільева. Яны, напэўна, горача спрачаліся і прышлі да згоды пасля вялікай барацьбы. Але згода ўсё-ж адбылася. І цяпер

твары іх ззялі ўзбуджанасцю. У Берднікава была заўсёдная ягоная грымаса, а тонкія, нібы высечаныя з слановай косці, рысы Васільевага твару, здавалася, крычалі гэтай узбуджанасцю.

— Вы пойдзеце і скажаце, што памыліліся ў тэхнічным разліку і гатовы яго выправіць. Згадзіцеся, калега, гэта выключная вынаходка.

— Я даўно казаў, што з вашай галавой трэба быць сенатарам.

— Сенатарам?—рысы твару Васільева зрабіліся надзвычай вострымі, дакраніся—як лязо.—Сенатарам?

Яны зірнулі адзін на аднаго і зарагаталі. Рогат у Васільева быў тонкі, фальцэтны, з высокімі, траха не сапранавымі пералівамі. Гэта быў не рогат, а музычная гама, не адна, а цэлы ланцуг. Сапрана пераходзіла ў каларатуру. І, як дысананс, на басах—сыпаўся рогат Берднікава. Ён увесь чыста калаціўся. Ён хапаўся рукамі за жывот. Яго твар быў падобны да твару псіхічнахворага. Рогат крывіў яго ўсяго. Як прыступ Віттавай пляскі.

— Сенатар?!

Ізноў пакой напаўняўся гэтай незвычайнай весялосцю двух паджылых людзей. Нешта зразумелае толькі ім адным, нешта надзвычай парадаксальнае, як пікантны анекдот, выклікала гэты гамерычны рогат.

— Хопіць!—тоненька маліў Васільеў.—Хопіць!—Ён трохкутнай ручкай зацiскаў свой рот, рот капрызнага гарэзы-дзіцёнка.—Так можна без жывата застацца, Берднікаў. Я не магу. Змарылі, зусім змарылі!

Бердніказ насоўкай абмахнуў свой твар, уздрыгі рогату яшчэ два-тры разы перакрывілі ягоную постаць, і пасля гэтага ён сабраўся выходзіць.

— Вазьміце акуляры, вецер узняўся, пыл ідзе сцяной.

Бяручы з рук Васільева супроцьпылавыя акуляры, Бердніказ, ураз ахрыпшы, сказаў:

— Вы ідзіце ў амерыканскі гарадок. Руда правалілася. Запішыце мінус. Ну, ад'е!

Пыл ішоў сцяной. Пад ліхтарамі пыл, асыпаючыся, пабліскваў, як дробненькі снег у завею. Густыя пласты гэтага пылу, узнятыя моцным напорам ветра, рухаліся ўздоўж дарогі няспынна. Сціхаў на хвіліну вецер, і пыл асядаў, каб сарвацца з месца зноў і закружыцца ў шалёным вар'яцкім гульбішчы. Пыл набіваў рот і вушы, біў аб шкло акуляраў, балюча калоў твар. На цэнтральным шосе Бердніказ заспеў групу людзей. Прапусціўшы іх наперад, пайшоў следам,важачыся праз выццё ветру разабраць іхную гаворку.

— Лета!—сказаў высокі жаночы голас.—Гэтак у нашым краі прыходзіць лета. Пыл будзе існі колькі начэй узапар. А ў дзень будзе горача.

— Няшчасце!—азваўся хлапечы голас.—Ён багата шкодзіць, гэты пыл. У стэпу гэткай парой пачынае гарэць кавыль.

Бердніказ наважыўся быў перагнаць іх, але новы—трэці—голас прымусіў яго сцішыць крок.

— Ён менш шкодзіць, чым людзі. А ўсё-ж, што вы думаеце пра руднік? Мы былі там, убачылі, што руднік працуе дрэнна. А ці падумалі мы, чаму адгружаюць пустую пароду і хто яе адгружае?

Бердніказ успацеў і, правёўшы рукой па твары, адчуў, што пыл перамяшаўся з потам на ім. Новы напор ветру густой заслонай пылу аддзяліў яго ад групы людзей. Ён напружыў слых.

— Ясна!—зноў уступіў у гаворку жаночы голас.—Усё ясна!

Бердніказ спыніўся. Рой думак шпарчэй за вецер прамільгнуў у ягонай галаве. Трэба было дзейнічаць рашуча і безадкладна,

дзейнічаць, покуль комсамольская брыгада, што вось ідзе з рэйда, не апярэдзіла яго. Ён сышоў з цэнтральнага шасе і пайшоў проста на вецер. Каля інтэрната кіруючых работнікаў ён спыніўся, абышоў будынак і, стаіўшыся, зазірнуў у асветленае акно. У ім ён убачыў узбуджаную постаць Краўчанкі.

— Тым лепш,—ціха прашаптаў Берднікаў.—Адным махам.

Ён вярнуўся да ўваходных дзвярэй і тры разы націснуў на кнопку званка. Праз хвіліну да яго вышаў Далматаў і, захінаючы рукой вочы, здзіўлена запытаўся:

— Таварыш Берднікаў? У гэткі час! Ну, заходзьце, заходзьце.

Суха павітаўшыся з Краўчанкам, інжынер сказаў да Далматава:

— Я прыйшоў па справе. Я прыйшоў заявіць, што... памыліўся ў тэхнічным разліку.

На твары Далматава ўзнікла трывога і срабрысты ёжык ягонай галавы напырсціўся.

— У чым вы памыліліся?

— Я няправільна вырашыў з адгрузкай адкідной, сумежнай пароды. Перааапрацоўка яе патрэбна, але не цяпер. У нас ёсць руда прамысловая, якую трэба перааапрацоўваць у першую чаргу.

— Ааа!—уздыхнуў Далматаў і ваяўніча зірнуў на Краўчанку. Той нерухома стаяў ля кніжнае паліцы.

— Я прашу вас не разглядаць гэты факт,—ціха доўжыў Берднікаў, нэрвова кратаючы пальцамі,—як прадуманае злачынства. Гэта памылка, паверце мне, таварыш Далматаў.

Далматаў адвёў вочы ад Краўчанкі і зірнуў упіркі на інжынера. Але роўным і спакойным заставаўся твар Берднікава, і па гэтаму можна было меркаваць, што ён кажа шчыра. Толькі адно нэрвова краталіся пальцы на руках, але і гэта можна было тлумачыць звычайна і проста.

— Заўтра-ж адмяніце загад. Добра, што вы ў час агледзеліся. У нас мог быць вялікі прастой рудадрабільні, а гэта—мільёны рублёў. Ну, сакратар, што ты скажаш аб гэтым? Садзіцеся, таварыш Берднікаў.

Краўчанка выцягнуў з кішэні акуляры і ўзяўся за шапку.

— Нічога не скажу,—хрыпла адказаў ён.—Я пайду, на руднік хадзілі комсамольцы рудадрабілкі, напэўна, вярнуліся ўжо.

— Я іх сустрэў,—гэтак-жа ціха сказаў Берднікаў.—Але яшчэ раней я зразумеў сваю памылку, пасля вашага прыхода ў кантору, таварыш Краўчанка,—ён ледзь-ледзь пачырванеў.

Далматаў узяў Краўчанку за плечы і, па прывычцы зазіраючы ў вочы, мякка сказаў:

— Ты-б застаўся, Барыс... На дварэ вецер разгуляўся,—ён акінуў позіркам інжынераву постаць, спрэс укрытую пылам, затрымаў позірк на брудным твары і ўсміхнуўся.

— Не, я пайду.

Пыл ішоў сцяной. Шматлікія ліхтары камбіната і пасёлкаў, як ватай, ахутваліся плоймай яго. Ураз змяніў гэты вецер і пыл усё навакольнае. Усе бляскі індустрыяльнай начы ён памножыў ззяннем варухлівых пясчынак. Россып электразваркі пературвараецца ў феерверк. Агні электразваркі рассыпаюцца, як бенгальскія агні. Зарыва над камбінацкай пляцоўкай зрабілася гусцейшае ад пылу. Дзе пачынаецца дым, дзе пачынаецца пыл—нельга разабраць. І дым і пыл змяшаліся ў адну тугую заслону, якая ахінула неба, якая знішчыла мяжу паміж змрокам зямлі і чарнатой цяжкіх даўкіх хмар. Усё прышло ў рух, усё страціла сваё месца, змяніліся кірункі.

Зачараваны гэтай дзівоснай, але разам з тым—грознай казкай, якую разгортвае гэтая вар'яцкая ноч, Краўчанка застыў на месцы. Яму хацелася дзёрзка крыкнуць, але так крыкнуць, каб абавязкова перакрыць ветравы гуд, перакрыць магутны кансананс камбіната. Гэтая магутная ноч, уліваючы ў яго арганізм невымерную дужасць, сцішыла хваляванне, якое толькі-толькі прымусіла яго траха што не бегчы з кватэры Далматава. У вычварным ігрышчы ветру прыходзіў спакой, вярталася роўнавага. Ён стаяў на ўзгорку, падстаўляючы сваё цела ветру. Ён быў гарды сваёй дужасцю. Яго душа крычала аб гэтым. Ён спяваў гімн гэтай дужасці. Яму прагна захацелася мець гэткага-ж дужага паплечніка ў змаганні са стыхіямі начы. Ён напружыў зрок.

І раптам, крыху ніжэй, паўз яго прайшла жанчына. Яна ішла проста, адкрыўшы свой твар ветру. Яна не хавалася ад яго. Уся яе постаць пружынілася маладосцю. Краўчанка рвануўся з месца. Нейкае падсвядомае пачуццё, здавалася, скранула яго з месца, і ён наўгад, гучна, але няўпэўнена, крыкнуў:

— Берзынь!

Жанчына спынілася. Памылкі не было. Некалькімі крокамі ён апынуўся ля яе.

— Не памыліўся!—з непрыхаванай радасцю прашаптаў ён.

Яны пашлі побач, збіліся з дарогі, прыпыніліся каля драцяной агарожы і засмяяліся. Ён нахіліўся над яе тварам і іхныя вочы сустрэліся.

— Ты што хацеў сказаць, сакратар?—з ледзь улоўнымі смяшынкамі ў голасе спыталася Валька.

З гэткім-жа смехам, перапоўніўшым яго раптам усяго, адказаў:

— Цікава ведаць, як вы амерыканцаў пераганяеце і ці пераганіце хаця?!

Жанчына не паспела адказаць. Моцны ветравы парыў ірвануў яе хусцінку, і яна палящела за агарожу. Краўчанка кінуўся за ёю. „Як школьнік!"—мільганула думка, і зрабілася яшчэ весялей. Аднэй нагой прыціснуўшы да зямлі дрот, Валька пералезла цераз агарожу і ўдвух яны пачалі ўпоцемку шукаць хусцінку. Ён паспрабаваў быў запаліць запалку, але яна ўмомант згасла. Раптам нездалёк ад іх успыхнуў феерверк электразваркі. Яны інстынктыўна прыціснуліся адзін да аднаго і застылі на месцы. Абодвы яны ўчулі ўзбуджаны стукат сваіх сэрцаў. Ім было радасна і лёгка ў гэтую дзівосную ноч.

— Не знойдзеш, пакінь,—ціха сказала Валька і адчула, як Краўчанка сціснуў яе руку.

Феерверк асыпаўся, пакінуўшы на вокамгненне белы водблеск. Потым вочы прызвычаіліся да цемры, і яны—адзін каля аднаго—пайшлі выбівацца на шасе.

— А амерыканцаў мы перагонім!—голасна сказала яна, і вецер загудзеў каля іх, нібы падмацоўваючы гэтыя словы.

Яны выбіліся на цэнтральнае шасе амаль каля чыгуначных станцый. Пасёлкі былі далёка. Наўкола быў стэп, ахутаны ветрам. Вецер разносіў водыр паленае травы. Яны пайшлі ўздоўж шасе, сухая трава шамацела пад іхнымі нагамі.

— Лета!..—сказала яна, і ён ва ўнісон паўтарыў:—Лета...

Потым яна раптам вызваліла сваю руку ад яго, адышлася і сказала:

— Заўтра выходны дзень. Нашы едуць на масоўку. Я там буду.— І спехам пашла ў цемру.

І ўжо здалёк, праз гармідарнасць ветру, да яго далящела:

— Тады і пра амерыканцаў раскажу!

Пастаяўшы хвіліну на месцы, Краўчанка пакрочыў па шасе. Вецер біў у твар, з шумам асыпаўся пясок. Пыл узнімаўся плоймай. А ён ішоў, рубячы паветра ўзмахамі рук, і сам сабе ўсміхаўся.

— Берзынь...—прашаптаў ён.—Дзіўнае якое прозвішча!

---

Зялёнае аўто мякка ішло па шасе. Ранішняе сонца пераліваласяспектрам у адпаліраваным кузаве яго. Машына абганяла фурманкі, лавіравала паміж грузавікоў, даючы кароткія сігналы.

За стырном сядзеў Краўчанка. Ён на-хаду перакідваўся са сваімі седакамі фразамі, бесперапынку сыпаў жартамі. Седакоў было трое: Далматаў, Тася і Слаўка. Ён ёрзаў на Тасіных каленях , задаваў бязліч самых нечаканых запытанняў, па-сяброўску казаў да Далматава „ты" і падганяў Краўчанку. Не толькі Слаўка спяшаўся на масоўку. Спяшалася больш за ўсіх Тася. У яе было багата клопату. У арганізацыі масоўкі ёй па праву належыла пачэснае месца. Яна была маткай, як празваў яе Слаўка, чатырох тысяч рабочых: яна загадвала ўсім, што тычылася харчавання.

— Ці нельга паспяшацца, Барыс?—часта пыталася яна, стрымліваючы непакорнага Слаўку.—Ты баішся прыехаць раней? Ты мяне толькі высадзіш і можаш ехаць катаць Слаўку. Вызвалі ты мяне хоць на гадзіну ад яго, усе калені паадбіваў.

Слаўка з немай просьбай паглядзеў на Далматава, той міргнуў, і хлопчык перабраўся на калені да Старога.

— Высадзі яе, Барыс,—смешна хмурачы бровы, папрасіў Слаўка.— Высадзі, няхай.

— От сынок!—засмяяўся Далматаў і пачаў казлытаць хлопчыка. Той заліўся рогатам, рукамі адбіваючыся ад Далматава.

У гэты самы момант машына рэзка спынілася.

— Заходзь,—устаючы з месца, казаў Краўчанка да дзяўчыны з зеленаватымі, крышачку раскосымі вачыма.—Садзіся са мной, падвязём.

Калі дзяўчына, ледзь-ледзь пачырванеўшы, села побач з ім, Краўчанка павярнуўся да седакоў і сказаў:

— Знаёмцеся. Гэта Валенціна Берзынь, лепшая наша ўдарніца.

— І я таксама ўдарнік!—першы працягнуў руку Слаўка.—Я ў садзе абед увесь чыста з'ядаю.

— Ну, здароў тады!—паціснула дзіцячую руку.—Гэта твой сын?— ціха запыталася ў Краўчанкі.

Націскаючы на сігнальную ігрушу, Краўчанка кінуў:

— Не, гэта жончын сын.

— Аа!... сказала Валька і зноў пачырванела.

Каму-каму, а Слаўку ўдарніца спадабалася. Не паспелі праехаць і поўкілометра, як ён апынуўся ўжо на яе каленах і завёў даўгую гаворку пра дзіцячы сад.

Машына прайшла праз чыгуначнае палатно і выехала на прасёлкавую дарогу. Тонкі пыл абвеяў яе.

— Пасля ўчарашняй начы, ды гэткі ясны дзень!—неўпрыкмет заначыў Краўчанка.—Хто-б гэта мог думаць.

Яна не адказала і занялася гаворкай з Слаўкам. Аўто ішло па дарозе, якая ляжала раўналежна да чыгункі. Аўто нагнала цягнік, на якім ехалі на масоўку рабочыя. Песні, смех, гучная гамана вырываліся з вагонаў. Уздоўж іх было пачэплена велізарнае чырвонае палатно з лозунгам і малюнкам. Ладны хлопец з насіленым тварам адкінуўся ў кіданні гранаты, а над яго галавой белымі літарамі—

надпіс: „Гатоў да працы і абароны“! Цягнік застаўся ззаду. Мільгала рэдзенькае купаўе, праплылі хаты вёскі, аўто адлюстравалася ў тупаватых бычыных вачах.

— Падгані, падгані, Барысі—крычала за спіной Тася, і Краўчанка ўсміхаючыся, павялічваў шпаркасць аўто.

Неўзабаве яны паехалі па ўзлессі, сустрэлі комсамольцаў з сігнальнымі сцяжкамі, і Тася папрасіла спыніць машыну. Далматаў вылез з ёю і за ім пацягнуўся Слаўка, зацікаўлены рознакаляровымі сцяжкамі сігнальшчыкаў. Яго здалі на рукі Далматава.

Удваіх яны паехалі далей.

Ён краем вачэй зірнуў на яе.

— Добры хлопчык,—сказала Берзынь.—Яго бацька, мусіць, дужа прыгожы.

— На жаль, гэта была адзіная яго якасць,—на хвілінку хмурачыся, адказаў Краўчанка.

Яна не распытвала далей, зразумеўшы, што гэтая справа непрыемная для яго. Але жаночая цікавасць усё-ж брала сваё. І яна ціха, нібы сама сабе, заўважыла:

— Твая жонка—добры работнік. Я яе ведаю.

— Так, яна харошы таварыш,—згадзіўся ён.

Яны выехалі на вялікую паляну, усеяную палявымі кветкамі. Пасля шэрага і аднатоннага стэпу гэтая паляна была сапраўдным оазісам. Яна дакранулася да яго рукі.

— Спыніся. Я да сваіх пайду. Сёння ў спаборніцтве ўдзел бяру. Прыходзь глядзець.

З непрыхаваным расчараваннем ён высадзіў яе з аўто і паволі павёў яго на край лесу, дзе ўжо стаяла некалькі машын розных марак,

— Олл райт!—павітаўся з ім інжынер-амерыканец, „самы цыбаты француз“, як клікаў яго Далматаў, усіх замежных спецаў камбіната аддаючы чамусьці французскай нацыі.

— Вітанне! Вітанне, містэр Рой! Цягнік прышоў?

— Не!—адказаў амерыканец, камічна перакручваючы мову.—Спазніўся, містэр Краўчанка.—Ён прозвішча сакратарова вымаўляў „Крррафч“ і потым ужо дадаваў канчатак—„анка“.—Мы свежае паветра..—і ён паказваў, як яны дыхаюць свежым паветрам.

— Ну, ну!—скапіраваў яго рухі Краўчанка.—Дыхайце, дыхайце. Гэткага паветра нідзе няма. Аб заклад б'юся!

Ён накаса рэзаў паляну.

У розных кірунках перасякалі яе асмужаныя ладныя і мажныя фізкультурнікі. Праз колькі часу пачнуцца спортспаборніцтвы, замільгаюць белыя і сінія трусы, бронза цягліц, барвовыя, жоўтыя, зялёныя майкі. Зырка загарыцца ў сонечных промнях мядзяны дыск. Эластычна ўзляціць у бяздумнае і неўтрапенае неба баскетбольны мяч. Будуць рэзаць, напружана падаўшыся наперад усім корпусам, гарачае паветра бягуны. Будзе яркае ззянне колераў. І ў Краўчанкі раптам узнікае жаданне пабегчы таксама, забыцца на ўсё, толькі браць у гэтай юнацкай весялосці хоць які ўдзел, пабегчы і грудзьмі перарваць істужку фініша. „Ну,—прыходзіць следам другая—паважная—думка.—„Табе-ж за трыццаць, мілы мой. Ты ўзлезь на трыбуну і з пакорлівай і дабратлівай усмешкай сачы. Гэта ўсё, што засталося табе“. Фальшывая думка. Краўчанка прыспешвае крок і падыходзіць да трыбуны.

На трыбуне—грудок людзей. У цэнтры яго—маленькі, рухавы, гаваркі чалавек у белай, з закасанымі рукавамі, касаваротцы. Ён ладна скроены, гэты чалавек, ён падобен да баксёра. Ён энергічнымі

кулакамі размахвае ў паветры, і ад гэтага словы яго нібы большай набываюць важкасці. Гэта—сакратар райкома партыі.

— Вось і наш партызан!—сустракае ён вясёлым усклікам Краўчанку.—Паглядзіце, таварышы, на яго. Ён памаладзеў, шчырае слова!

— А ты думаеш, табе аднаму маладзець? Не выйдзе.

Паляну густа пачаў заліваць народ. Да сакратара райкома падбег высокі, цыбаты хлопец і, перадаючы чырвоны сцяжок, спехам прагаварыў:

— Вы дадзіце сігнал. Усе сабраліся, можна пачынаць. Хто будзе гаварыць?

— Мілы!—сакратар ухапіўся за хлапцову кашулю.—Перадайце каму-небудзь іншаму. Краўчанка, вазьмі ты. А прамоў не трэба, досыць і так гаворым.

— Не, не!—запратэставаў Краўчанка.—Табе па-праву належыць. Я тут не прычым.

Краўчанку дружна падтрымалі, і сакратар, густа ўспацеўшы, узяў сцяжок у свае рукі. Каля трыбуны размясціўся аркестр і капельмейстар утаропіў вочы ў сакратара. У руках цыбатага хлапца апынуўся бляшаны рупар і, прыставіўшы яго да вуснаў, ён загудзеў:

— Таварышы! Перш за ўсё мы правядзём спаборніцтва бягуноў. Забег на тысячу метраў. Удзельнічаюць пераможцы, што ўзялі першынства ў сваіх камандах.

Краўчанка, далонню прыкрыўшы вочы ад сонца, паглядзеў на край лесу, дзе, падрыхтаваўшыся, стаялі ўдзельнікі спаборніцтва. Іх было дванаццаць чалавек—восем хлапцоў і чатыры дзяўчыны. Тузіна была, як на падбор: ладныя і бадзёрыя, яны былі ўвасабленнем маладосці. І сярод дванаццаці Краўчанка ўбачыў Вальку Берзынь. У блакітнай майцы, у сініх трусах. Сонца заліло спрэс яе цела. І цела яе, здавалася, усё цягнулася насустрач сонечным промням. Краўчанка глядзеў, не адрываючыся. Гэта была феерыя маладосці.

Сакратар даў старт. Грымнуў аркестр, спачатку магутна, потым цішэй і цішэй, перайшоў у лёгкую вясёлую, забаўную мелодыю.

Бягуны пабеглі. Спачатку яны беглі разам, потым некаторыя пачалі адставаць, бягуны расцягнуліся і можна было цяпер сачыць за кожным з іх паасобку. Берзынь бегла трэцяй. Па перадзе яе былі два хлапцы—адзін у белай, другі ў чырвонай майцы. Было зразумела, што гэтыя тры—прэтэндэнты на першынства. Краўчанка бачыў, як, напружыўшы ўсе свае сілы, Берзынь прыспешыла бег, як яна пачала абганяць хлапца ў чырвонай майцы, як гэты хлапец, адчуўшы саперніцу, адным скокам аперадзіў яе зноў. І нібы смяючыся з яе, выхваляючыся сваёю недасягнутай яшчэ перамогай, гэты хлапец павярнуўся да яе і раптам, спатыкнуўшыся, расцягнуўся на зямлі. Дружны рогат і апладысменты, як выбух, узніклі над пляцоўкай. Берзынь абагнала хлапца ў чырвонай майцы і пачала набліжацца да першага—у белай. Фініш быў блізка. Перад вачыма мільгала малінавая істужка. Яна вабіла. Яна прыцягвала, як магнэс. Яна была жаданай мэтай.

Было зразумела ўсім, што першым прыдзе хлапец у белай майцы, што дзяўчына возьме другое месца. Як і ўсе, Краўчанка бачыў, што рытм бегу спартсменкі пачынае даваць перабоі, што яна не абгоніць хлапца, што на гэта засталося вельмі мала месца і часу. Фініш быў блізка. Яшчэ некалькі хвілін і мускулістыя грудзі хлапца абарвуць малінавую істужку. І ў тую хвіліну, калі хлапец павінен быў некалькімі крокамі заваяваць сваё першынства, ён спыніўся. Шматтысячная аўдыторыя прыціхла. Берзынь была каля хлапца. Вось яны параўняліся.

І тады хлапец схапіў дзяўчыну за руку і ўдваіх яны прыбеглі да фініша. Зноў дружны рогат, зноў строма галасоў перарвала цішыню.

— Тактычны малец!—сказаў каля Краўчанкі нехта, і ён, нечакана ўздрыгануўшы, паглядзеў на суседа: гэта быў цыбаты хлапец з рупарам.

— Хто гэта?—кіўнуў Краўчанка ў напрамку фініша.

Вочы цыбатага хлапца наліліся цяплынёй і нейкай затоенай смяшлівасцю.

— Гэта—Яша Аверын, новы наш культпроп!—з нейкім гонарам адрапартаваў хлапец.

І тут аркестр сыпануў туш. Улад яму—узніклі апладысменты. Людзі ўзняліся з месцаў, гоманам напоўнілася паветра. Людзі рушыліся да фініша, дзе рэферы пацiскалі рукі Аверыну і Берзынь. А яны па-ранейшаму стаялі адзін каля аднаго, моцна трымаючыся за рукі. Яны шчасліва ўсміхаліся. Сакратар райкома схапіў Краўчанку за рукаў і пацягнуў да фініша.

— От, якая наша моладзь!—сыпаў сакратар, узбуджана захліпаючыся гаворкай.—А жанчыны нашы. Краўчанка, га? Байцы шчырае слова. Не саступяць! Слабы пол, шчырае слова, га?

Калі яны падышлі да фініша, людзі раздаліся і сакратар райкома горача пачаў віншаваць рэкордсменаў.

— Таварышы,—сказаў сакратар,—з гэткімі комсамольцамі мы можам варочаць горы.—Ён любіў гіпербалы, гэты радасны чалавек.— Школа! Цэлая спартсменская школа, якая не снілася буржуазіі. Краўчанка, скажы хоць ты, шчырае слова!

Краўчанкавы вочы ўзняліся і стрэліся з вачыма Аверына. У Краўчанкавым позірку было ледзь улоўнае запытанне, але Яша зразумеў яго і скасіў адно вока ў бок Берзынь. Краўчанка зразумеў і кіўнуў галавой.

— Я магу толькі вітаць!—сказаў ён.—Вітаць з пераконаннем, што сёнешнія пераможцы будуць першымі заўсёды і ўсюды.

— Правільна!—падхапіў сакратар.—Вы, моладзь, вы можаце ўсё!— Ён пагразіў пальцам, і ўсе наўкола зарагаталі.

Вясёлы, узбуджаны народ разышоўся па пляцоўцы. З грузавікоў раздавалі абед. Моладзь наладзіла калектыўныя танцы. Пабраўшыся за рукі—у ланцуг—людзі сочаць за танцорам. У адным месцы грузін ліха вытанцоўвае лязгінку, лоўка праходзіць ён па кругу на абцасах сваіх вастраносых ботаў. Жвава хапае на хаду з зямлі папаху. Дружным рогатам і крыкамі, выяўленнем захаплення сустракаюць гледачы новыя і новыя выверты танцора. У другім месцы хлопец у чырвонай майцы, спрэс мокры ад буйнога поту, падае ў рупар каманду. Потым рупар адлятае ў бок. Чырвонамайкавы хлапец лёгка разводзіць рукамі, чоткія нескладаныя адлічвае „па“, і людзі ў ланцугу пачынаюць прытанцоўваць на месцы.

Жоўтае сонца, белыя і сінія трусы, бронза цягліц, блакітныя, барвовыя, жоўтыя, зялёныя майкі. Медзяны дыск зырка гарыць у сонечных промнях. Эластычна ўзлятае ў бяздумнае і неўтрапеннае неба баскетбольны мяч, рытмічна паскрыпваюць штангі турніка. Густа льецца марш. У розных напрамках перарэзваюць пляцоўку людзі. Рух, гоман, рогат. Над дашчатай эстрадай хвалюецца, як полымя, яркае плотнішча: „Гатоў да працы і абароны.“

Вялікі натаўп перад эстрадай. Маладыя трамаўцы—баяніст і баяністка - вядуць вясёлыя частушкі пра справы камбінацкія. Гулліва залівающца пад спрактыкаванымі пальцамі гармонікавыя лады. На змену ім паяўляецца артыст татарскага тэатра. Сакавітым тэнарам ён

спявае рэволюцыйныя песні. Яго змяняе фагатыст-башкір. Квартэт спявае украінскія народныя песні—пра тое, як магутны Дняпро скарыўся чалавеку.

Краўчанка падыходзіць да эстрады і сустракаецца з Далматавым.

Дырэктар выглядае сёння запраўскім дачнікам, які выкарыстоўвае лета на ўсе сто. І, як у запраўскага дачніка, у яго крышачку аб'ехалі штаны, кашуля расшпілена і сівое валоссе на грудзях, здаецца, усё чыста выцягнулася насустрач сонцу. Задаволенасцю і прыемнасцю прамяніцца дырэктарава постаць. Промні-зморшчыны на твары здаецца згладзіліся. Ён увесь неяк памаладзеў.

— Мацуемся, Стары?—з усмешкай спытаўся Краўчанка.—Раз за год, кажаш?

— Але. Я, ведаеш, як глядзеў спаборніцтва, траха што і сам не пабег. Гэткі спрыт!

— Бачыш ты!—у тон заўважыў Краўчанка.—Ты, ды наш сакратар, ды яшчэ Бердпікаў у прыдачу, ну, і я—слаўная была-б каманда!

Твар Далматава расплываецца ў хітраватую, але дабратлівую грымаску. Ён грозіць пальцам, а палец крышку сагнуўся кручочкам.

— Табе ў старыя рана, сакратар. У твае гады бывала...

— Горы варочаў?—чамусьці ўспомніў Краўчанка словы сакратара райкома.

— Не тое, каб так, а тачку з вугалем з другога разу пераварочваў. От так, возьмешся, упрэшся нагамі, напружышся, і гатова. Наша! Або на фронце быў. Таварыша паранілі. Ведаеш, душа ў душу жылі. А санітараў няма, ведаеш, усякае прыходзілася. Тут у адступленне ўдарылі. Дык я яго ўзвалок на плечы і зачасаў. Дзевяць вёрст валок. І хоць-бы што. А гэтая дзяўчына... ты-б падзаняўся ёю.

— Дурасць у галаву лезе, Стары!—заірдзеўся, як малы, Краўчанка.— А дзе мае?—пераключыўся на іншае і яшчэ больш зачырванеўся.

Далматаў узяў Краўчанку за плячо і, ківаючы галавой, са смехам працягнуў:

—А-га! На сваіх успомніў, дымавую заслону пусціць хочаш? Ты прызнайся ўжо, не тойся.

Краўчанка махнуў рукой і павярнуўся да трыбуны.

— З табой не згаворышся. Ты ўвабраў у галаву, і ўсё тут. Нагледзеўся на маладых, Стары.

На эстрадзе тыя ж самыя трамаўцы спявалі рускую народную песню. Многа было жарту ў ёй, заліхвацкай разгулістасці, быў плясавы рытм, маладосць і бадзёрасць. Выканаўцы крышку перадавалі праз край, але аўдыторыя сустракала кожны новы куплет гэтай песні стрыманым рогатам, аўдыторыя падбадзёрвала актораў.

І раптам—над песняй, над смехам, над гоманам, над весялосцю людзей—працяжна, як сковыт параненае звярыны, узнік аддалены гуд.

Краўчанка зірнуў на Далматава і яны абодвы прыслухаліся.

Гуд нёсся з камбіната. Адлегласць змяншала трывожны крык сірэн, глушачы яго. Але праз гэта гуд набываў куды большую трагічнасць.

На эстрадзе скончылі, і, як адгрымелі апладысменты, усе прысутныя пачулі гэты далёкі заклік аб паратунку. Людзі на-момант. здавалася, прыраслі да месца, важачыся разгадаць сэнс гэтага закліка гудкоў і сірэн. І ў надышоўшым аняменні—гуд, здавалася, павялічыўся пашырыўся, авалодваў прасторам.

— На цягнік!—ад усяе сілы крыкнуў Далматаў і першы сарваўся з месца.

Людзі пабеглі.

У поўным маўчанні беглі яны. Як на фронце. Як на ворага, каб хаця той не паспеў адумацца. У гэтым безе людзей усе былі роўныя, і моладзь, і старыя, і мужчыны, і жанчыны. Перад людзьмі беглі іхныя доўгія цені.

Каля цягніка быў ужо сакратар райкома і кароткімі сухімі рэплікамі наводзіў парадак. Чатыры тысячы чалавек пагрузілася за пяць-дзесяць хвілін. Людзьмі кіравала імкненне—быць як мага хутчэй.

Краўчанка нагрузіўшы на сваё аўто комсамольцаў, першы выехаў з лесу. Яшчэ не адышоў цягнік, яшчэ голас сакратара райкома аддаваў распараджэнні. Гэта нагадвала падрыхтоўку да бою.

У поўным маўчанні выехалі на шасе. Пад'язджаючы да пераезда, усе ўраз убачылі—над пляцоўкай камбіната стаіць воблака дыму. Быў пажар. На поўны голас раўлі сірэны. Што гарэла—нельга было разабраць, і трывога людзей у аўто павялічылася.

Воблака разрасталася.

Гарэла рамонтнае дэпо, куды паставілі на сёнешні дзень экскаватары.

Вялікі натаўп людзей гудзеў наўкола пажару. У промнях заходзячага сонца паблісквалі каскі пажарнікаў. Навыперадкі сыпанулі ад машыны—першымі дабеглі, узяўшы і тут пяршынства, Аверын і Берзынь. Моладзь адразу-ж увязалася ў работу. Паявіліся сякеры, струменні вады, як гадзюкі, узвіліся ў паветры.

Першы, хто кінуўся ў вочы Краўчанку, быў Берднікаў. Ён, з вычварным выразам твару, аброслага чорнай шчэццю, вёў людзей у наступ на пажар. На хвіліну Краўчанка затрымаў на ім позірк, але раптам трывожная думка ўрэзалася ў мозаг. Ён праціскаўся праз натаўп і апынуўся каля Аверына, які наводзіў пажарны рукаў на вароты дэпо.

— Яша, мілы! Машыны-ж там, марыончыкі.

І да варот ірванулася Валька Берзынь.

— Стой!...—густа вылаяўся Аверын, але Берзынь, з пашыранымі ад жаху вачыма, у нейкай усеўладнай, неадольнай рашучасці кінулася да варот.

Вада зашыпела на агні. Круччакастыя воблакі дыму ахуталі вароты дэпо, і постаць Берзынь знікла за імі. Аверын зрабіў крок наперад, але стрымаўся; у руках у яго быў рукаў, з якога напорна біла вада.

— Ідзі! Сам спраўлюся,—прахрыпеў Краўчанка, напружваючы цягліцы рук.

Ён падаўся долу пад цяжарам рукава, але выпрастаўся і ўпарта пашоў на агонь. Перад ім мільгануў Аверын. Да слыху даляцеў голас Берднікава:

— Ламіце дзверы, разявы! Паддайцеся, ну.

Колькі чалавек прынесла бервяно і, раскачаўшы, стукнулі ім у вароты. Пачуўся сухі трэск. Раптам з гары абваліліся гаручыя дошкі, адсечаныя пажарнікамі. Дошкі, падаючы, запалілі бервяно. Яно запалала, як свяча. Краўчанка перавёў рукаў на людзей, што зноў і зноў раскачвалі бервяно. З'едлівы дым падступіў да яго і ён ледзь не захлынуўся ім. Праз куродым ён раптам убачыў, як паддаліся вароты і праз некалькі хвілін з дыму паказаўся экскаватар. На зялёнай кабінцы яго быў надпіс: „Марыон 2“.

— Есць!—сам сабе крыкнуў Краўчанка і паддаўся назад.

„Марыоны“ выходзілі з дыму адзін за адным і першым ішоў „Марыон 2“. Яго вяла Валька Берзынь. Людзі, што стаялі на рэйках, разбегліся, і „Марыон 2“, мерна ўздрыгваючы, спыніўся. І тут—людзі

адступілі. Услед за Валькай перад імі паявіўся Аверын, нясучы на руках акрываўлены труп вартавога дэпо. Абрывак вяроўкі матляўся на шыі.

Зайшло сонца.

Зямля афарбавалася ў водбліскі пажара.

Над зямлёй пашлі цяжкія, даўкія, хмары.

Зноў можна было чакаць уначы на вецер і трэба было ліквідаваць пажар, як мага хутчэй.

Людзі пашлі заступаць на начную змену, а тыя, што адпрацавалі, заступілі на іх месца.

Акрываўлены труп вартавога ляжаў у габінеце начальніка ДПУ. Складаўся пратакол. Тут былі, апрача работнікаў Палітуправы, Далматаў, сакратар райкома, Краўчанка і Аверын.

Тася, падтрымліваючы Вальку Берзынь, сілком вяла яе на сваю кватэру.

А там—перад вакном, з якога добра было глядзець на пажар—спаў трывожным сном Слаўка, уткнуўшыся. тварам у падваконнік. Ён праз сон усхліпваў, раз-по-раз уздрыгваючы

Ішлі над зямлёй хмары. На стэповых дарогах узнікалі першыя пясчаныя віхры.

---

Аверын паглядзеў у залу, якая напаўнялася вясёлай гаварлівай моладдзю, рукой прымяў шэрую сваю фасоністую кепку і задумаўся. Побач з ім за сталом сядзеў Краўчанка і размашыстым почаркам запісваў мерапрыемствы. Рука хадзіла шпарка і ўпэўнена, думкі клаліся ў радкі сцісла і выразна. Аверын перавёў вочы на Краўчанку і сказаў:

— Зараз можна будзе пачынаць. Сёння нашы акуратныя,—ён зірнуў на гадзіннік.

У гэтую самую хвіліну ў залу увайшла Валька Берзынь з гуртом дзяўчат. У Валькі была перавязана рука свежым бінтам. Аверын праводзіў яе позіркам і, матнуўшы галавой, усміхнуўся. Пазваніў і гамана сціхла.

— Сход наш будзе кароткі, таварышы!—сказаў культпроп райкома.— Нам трэба зрабіць адно—перавесці нашу работу на баявыя рэйкі. Даю слова таварышу Краўчанку.

Цішыня была напоўнена пругкай увагай, напружаннем. Краўчанка гаварыў пра пажар дэпо і забойства вартавога, пра невідочную руку ворага, якога не ўдалося выкрыць, але якога выкрыць трэба. Ён свежымі фактамі напоўніў сваю прамову. Ён расказаў пра тое, як пры прыёмцы загружачных вагонаў машыністамі Сімковым і Гарачкіным было высветлена, што ў адным з вагонаў былі з'едзены ўкладышы падшыпніка,—вагон не быў змазаны. У другім вагоне ў бункеры была знойдзена чыгуніна, якая пакрывіла пакрыўку бункера і вагар, што прыводзіць у рух яе.

Гэта было пасля змены майстра Навасельцава. Перад шабашом, на запытанне майстра наступнай змены, Навасельцаў, шырока разводзячы рукамі, ззяючы дабратлівай усмешкай, адказаў:

— Прымай, голуб, усё! Як венікам падмецена—парадачак. Шкельца, а не парадак, таварыш Варатыленка!

І яшчэ высветлілася: пап-саваны ўсе вёдры для заліўкі лапорт і бак для замесу гліны, якую нагатавалі на заліўку люкаў. І тады маўклівы ў звычайныя часы Варатыленка густа заліўся чыр-

ванню, жылы напружыліся на ўпартым ягоным ілбе і—дужым матам сакануўшы з пляча—ён панес свой буйны гнеў да начальніка цэха.

Кінуліся на росшукі Навасельцава, забілі трывогу, але ён знік, і вось ужо другі дзень яго няма на камбінаце.

А сёння—на мантыроўцы пракатнага цэха—прыступаючы да мантыроўкі пад'ёмных крантаў, раптам высветлілася, што няма рабочых рысункаў. Брыгадзір мантажнай брыгады комсамолец Свішч ад імя ўсіх сваіх брыгаднікаў заявіў, што краны змантыраваны будуць, што ў дошку разаб'юцца, а зробяць сваё.

Трывога.

Тут, у нашай працоўнай сям'і, ходзіць вораг. Трэба натрапіць на яго след. Трэба быць асцярожнымі і пільнымі. Краўчанка, канчаючы прапануе арганізоўваць комсамольскія дазоры. Краўчанка заклікае працаваць і працаваць, каб моцным быў камбінат, каб асвоіць тэхніку, каб нашыя дасягненні былі скрышальным ударам па ворагу.

Шумна, зацята спрачаючыся, перасыпаючы шматгалосы гуд смехам, разыходзіліся комсамольцы са сходу. Аверын, Краўчанка і Берзынь ішлі разам. Аверын расказваў:

— Далі, разумееш, гэтаму хлапцу мантаж станка, а рысункаў, як і сёння, няма. Тут мы маем актыўнае шкодніцтва, а чаму не было ў гэтым выпадку рысункаў—не ведаю. Хлапец пыжыўся, пыжыўся—і ні з месца. Ведаеш, там гэткі амерыканец, у клетачку штонікі ў яго. Дык ён, як загарыцца, ды як закрычыць: „Я адмаўляюся браць на сябе адказнасць за работу гэтага хлапчука“. І гэтак, ведаеш, шуміць. Як прымус. Шыпіць, аж страшна. „Няма, кажа, спрактыкаваных рабочых, дык і будаваць не трэба“. А малец мой, прыкусіўшы язык, пацее. Я штодня тады хадзіў на пракатны, гаварыў з ім, падбадзёрваў, распытваў. І аднойчы, прыйшоўшы ў цэх, я ўбачыў наўкола хлапца грудок людзей. А амерыканец гэты бегае і крычыць: „О' кэй! О' кэй!“ Што тут робіцца, думаю. Падыходжу, і аж падскочыў. Станок, станок сабраў, сукін сын!

— Сабраў?—запаліліся зялёныя вочы Валькі Берзынь.

— Сабраў!—схапіў Аверын Краўчанку за локаць.—І гэткім гусем па цэху прахаджваецца і крычыць амерыканцу: „Ша, сэр“.

— Ша, сэр!—засмяяўся Краўчанкм.—Лоўка. Чысты англічанін.

— І не кажы. Англічанін!

Каля інтэрната яны развіталіся. Узнімаючыся па ўсходцах, Краўчанка сустракаецца з Тасяй.

— Ты надоўга?

— У тэатр,—на хвіліну затрымліваецца Тася.—Даўно не была. Слаўку я выправіла з хаты, ты таксама свабодны, Барыс. Пойдзем можа разам?

— Не. Я пачытаю. Змарыўся за дзень.

Ноч прыходзіць на камбінацкую пляцоўку ва ўсім бляску свайго ўбрання. Змрок палыхае безліччу водбліскаў. Зямля, як магутны матор, мерна гудзіць адным—густым—тэмбрам. У гэты час зменьваюцца комсамольскія варты. У гэты-ж час малады татарын Шаліма прыходзіць у інтэрнат. Тут усё спакойна і звычайна.

На суседнім ложку ляжыць былы вораг, кулацкі нахлебнік, якога выкрыла дыктатура, душу якога перававырылі, як брудную бялізну, у велізарным катле, і чалавек зразумеў, што быў ён на краю круцізны.

Шаліма ва ўсіх дэталях ведае гісторыю свайго суседа.

Заможны сваяк яму зычыў сытнае жыццё. Ён паверыў. Ён пралез у калгас (недзе ў далёкай Беларусі, на Мазыршчыне, пра якую

Шаліма толькі чуў з гаворак), ён лоўка і спрытна выслугоўваўся, яго зрабілі конюхам. Галоўная шасцярня мазырскага калгаса—коні—была ў ягоных руках. І потым яго накрылі, прыцiснулі да сценкі тады, калі ён намагаўся атруціць заводскага прыгажуна-жарабца. Яго выслалі, асудзіўшы на пяць гадоў. Яго прывезлі ў эшалоне сюды ў стэп, яго ўзялі ў пераплёт, далі ў рукі рыдлёўку, далі месца ў бараку і далі—ён гэтага па праўдзе, не чакаў—хлеб. Норму хлеба, якую даюць рабочаму. Першыя дні ён працаваў на пракладцы каналізацыі, працаваў з аглядкай. Прыглядаўся да парадкаў, да „рэжыма". Гэты „рэжым" уразіў яго сваёю дэмакратычнасцю: у іхнай арцелі правадыром быў гэткі-ж, як і ён, „свой". Мазырчанін працаваў як след. Усё заахвочвала на гэта. І—спачатку нясмела, а потым неадчэпна і настойліва—мазырчаніну захацелася быць роўным сярод роўных. Яго прэміявалі і, нарэшце, перавялі разам з таварышом, „корышам" у інтэрнат рабочых.

Здымаючы засаленую спецоўку, Шаліма, пабліскваючы белымі роўнымі зубамі, спытаўся ў суседа:

— Дзе твой „корыш"?

Той адказаў, лена пацягваючыся на ложку:

— Гуляць пайшоў.

— А ты?

— Я?

— Ага!

— Змарыўся. Ды не хочацца.

Шаліма раздзеўся, і пашоў у калідор мыцца. Там ён бразгаў умывальнікам, разліваючы наўкола сябе ваду. Вада пабліскваліа на тугім асмужаным яго целе. Мокры, з велізарным махнатым рушніком, ён вярнуўся ў пакой і ў гэтую-ж самую хвіліну на парозе паявіўся „корыш".

— Ужо з гулянкі?—абціраючыся, кінуў Шаліма.

„Корыш" ледзь хіснуся ў бок, падышоў да яго і ўтаропіўся ў Шалімавы грудзі вачыма. Па грудзях сцякаў тонкі ручаёчак вады, і вось рушнік перарэзаў яму дарогу, сцер яго. „Корыш" вочы перавёў на Шалімаў твар.

— Ды ты з градусамі,—усмешкай бліснулі Шалімавы зубы.—Даўно з табой не было гэткага.

„Корыш", зноў пахіснуўшыся, раптам выпрастаў перад сабою руку і ўдарыў татарына. Шаліма здзіўлена зірнуў на яго і крыху адышоўся.

— Здурэў ты,—адно сказаў ён.

Тады „корыш" кінуўся на яго і з дзікім крыкам—„Татарская морда!"—ударыў татарына з усяе сілы. Шаліма пахіснуўся, але на нагах утрымаўся. Яго цела напружылася, кулакі ён сціснуў туга, ён наважыўся адбіць удар. „Корыш" нібы ўзважваў: біць хлапца, ці не. Трэці з прысутных, мазырчанін, ускапіўся з месца і застыў каля ложка, нэрвова перабіраючы пальцамі. Ён важыўся нешта сказаць, гэты ціха замкнёны ў сабе чалавек, але „корышаў" грозны выгляд скаваў ягоны парыў.

У вакне мільгнуў твар, барада прыліпла да шыбіны і праз шкло—з падхіхікваннем, з падбухторваннем—голас:

— Рускі чалавек, а татарву не адужае!

Як стаеннік, раздзьмухваў ноздры „корыш", важачыся зноў кінуцца на татарына. Чырвань абліла Шалімаву постаць. Ён сціснуў зубы, каб стрымацца, каб не паказаць на вочы п'янага „корыша" свайго гневу. Ён ірвануўся наперад. Ён адным ударам адкінуў ворага ў бок і кінуўся ў дзверы. Ён бег напрост, абмінаючы баракі, і чуў, як за

спіной, наўздагон яму неслася ўлюлюканне, рогат і лаянка. Ён бег і вырашаў, куды кінуцца спярша. І тут у памяці ўзнікла Краўчанкава постаць на трыбуне, голас яго—малады, мужны гэткі, энергічныя яго гэсты. І ўзнікшая тады на комсамольскім сходзе таварыскасць да Краўчанкі, кінула Шаліму да яго.

Задыхаючыся ад злобы і шпаркай бягі, блытаючы мову, ён расказаў Краўчанку пра тое, як спрабавалі справакаваць яго. Краўчанка стукнуў кулаком аб стол, спехам апрануўся і яны пайшлі да Далматава. Каб скараціць дарогу, яны пайшлі цераз пустыр, пакінушы ў баку шасе. Краўчанка маўчаў. Абурэнне перашкаджала гаворцы. Ён рабіў вялікія крокі, упартыя, як здалося Шаліму. І ў гэтым адчуў Шаліма раптам моцную ўпэўненасць.

У гэты-ж час „корыш“, пагражаючы мазырчаніну, загадваў яму маўчаць. Мазырчанін у дробнай дрыготцы, хутаўся ў коўдру і адноківаў галавой. Мазырчаніну мірсцілася мінулае.

І ў гэты-ж самы час, пад аховай начы, у стэпу, прапахлым паленым кавылём, сядзеў чалавек. Ён сядзеў нерухома, глядзеў на жоўтыя агні камбіната, напружана слухаў прыхлупленыя адлегласцю гуды індустрыяльнай начы. Адна пякучая думка, як свідрам, праціната мозаг: „На паветра! На паветра! Усё чыста прахам!“ Потым у нейкай атупеласці чалавек кінуўся на зямлю, скроб пальцамі, ірваў цвярдую плоць яе. Потым нешта ўладнае і няўхільнае ўзняло яго з месца, і чалавек ад усіх сіл кінуўся ў кірунку да камбіната.

— Сволачы—выціснуў Краўчанка, расшпільваючы каўнер.—Вось школа, Шаліма, га?—Ён нэрвова зарагатаў.

— Школа,—азваўся з цемры Шаліма.

І раптам ззаду нешта насунулася на Краўчанку, цэпкія рукі заціснулі рот, скруцілі ўсяго яго і кінулі вобзем. Нешта цяжкае ўдарыла ў галаву, і ён, раней, чым страціць прытомнасць, адчуў, як цела падае ў бяздонне.

---

Над стэпам, авеяным пахам пажоўклага кавыля, над лысымі ўзгоркамі на якіх час-ад-часу нерухома застывалі на месцы галодныя стэповыя ваўкі, над мутнай роўняддзю ракі—узнікаючы за грамадамі домнаў, над усёй пляцоўкай камбіната, над пасёлкамі, што далёка ў стэп выставілі свае баракі, над будоўлямі кварталаў соцыялістычнага горада—плыў гуд сірэны. Уставала сонца, і сірэна вітала яго. Пачыналася раніца, і зямля ахаладалася за ноч, нібы лясны звер, падстаўляла бакі свае насустрач сонцу.

Вокны, паблісквеючы ў сонечных промнях, расчыняліся з шумам, гучнагаварыцелі крычалі над вулічнай сціхотай, у вокнах паяўляліся людзі—хто лена выцягваўся, зганяючы санлівасць, хто з застыўшай на твары ўсмешкай глядзеў на сонца, хто выпроствау рукі ў бакі, пругкасць уліваючы ў сваё цела фізкультзарадкай. Ноч, ахутаная пылам, прадыктаваная разгулам вятроў, прайшла—і над зямлёй стаяла пяшчотная цяплынь раніцы, прасторы, ахутаныя сіняй дымкай, праступалі рэльефней. Над зямлёй плыў голас сірэны, упэўнены, нязрушны, спакойны. Дзень выдаваўся на славу.

І вось першы грузавік пайшоў па цэнтральнаму шасе, на вакзал да прыходу кур'ерскага цягніка. Ён сустрэў, гэты грузавік, грудок рабочых, што вярталіся з начной змены. Шофер грузавіка, малады хлапец з наіўнымі сінімі вачыма, з порсткімі рукамі, убачыў, як па рэйках, у баку ад шасе, ішоў „Марыон“,—шофер разглядзеў номер яго і ўсміхнуўся. Іскрамётным веерам асыпаліся на шасе струмы вады. Дзе-нідзе стаялі ўваткнутыя ў зямлю мётлы. Гэта валтузіліся дворнікі.

Раніца заспела Далматава за работай. Ен мусіў-бы праверыць за ноч вялікія і досыць блытаныя слупкі лічбаў, якія таілі ў сабе важныя для вытворчасці вынікі. Далматаў, адпіваючы маленькімі глыткамі халодны чай, спяшаўся скончыць падлік.

Інжынер Васільеў, у сваім пакоі, ловячы рукой накрухмалены каўнер, што павіс на спіну, танцаваў перад люстрам. Каўнер не паддаваўся, потым, калі кончык яго трапіў такі у рукі, упала запанка, і прыходзілася пачынаць усё спачатку. Інжынер Васільеў злаваў, і на тонкім геаметрычным ягоным твары паўставала пакута.

Косцік Бурдзюк прымаў дзяжурства на рудніку. Ён бегаў ад брыгады да брыгады вітаўся, сыпаў жарты, затрымаўся каля групы амерыканскіх рабочых, перакінуўся з імі двумя-трымя англійскімі фразамі, і пабег да „Марыона 2". Тут ён сустрэў Вальку Берзынь і горача пачаў ёй выкладаць лічбы здабычы руды на змену.

Тонкі сонечны прамень выбіўся з-пад ваконнае шторы і слізнуў на ложак, дзе спаў інжынер Бярднікаў. Інжынер прачнуўся, але колькі хвілін ляжаў нерухома, нібы прыслухоўваўся да ранішняй музыкі. Потым па твары яго прабегла грымаса—то незадаволенасці, то спалоху, то хітрасці. Ён шырака расчыніў вочы і ўсхапіўся. Не падымаючы шторы, ён спачатку нацягнуў на пакалечаную руку пальчатку і потым ужо ленавата пачаў апранацца.

Слаўка прачнуўся першы. Ен ціхенька, каб не пабудзіць маткі, памыўся і апрануўся. Ён хадзіў з сур'ёзным выглядам па хаце, нібы гаспадар. Ніхто не замінаў яму, і заклапочанасць была ў яго шэрых вачанятах. Ён паглядзеў на матку, потым на дыбках падышоў да Краўчанкавага пакоя і зазірнуў у дзверы. Звычайна ў гэткі час Краўчанка рабіў зарадку, і малому гэта дужа падабалася. Але ў пакоі было ціха, і— крышку расчараваны—Слаўка выбег на вуліцу.

Рып дзвярэй абудзіў Тасю. Яна ўсхапілася, і першай думкай, што прарезала мозаг, было: учарашні прыход устурбаванага татарына. Тася спехам сабралася і пабегла па ўсходцах.

Над светам, над зямлёй гула сірэна.

Тася праводзіла вачыма Слаўку, які са сваімі аднагодкамі, дурэючы, пабег у дзіцячы сад. Паглядзела на маленькі гадзіннік і рашуча пашла на руднік.

У канторы кіраўніцтва яе сустрэў Далматаў, які толькі-толькі прышоў сюды, і, убачыўшы яе, наважыўся быў гаварыць аб непаладках у рудніковай сталоўцы. Але яна апярэдзіла яго запытаннем пра Краўчанку. Далматаў здзівіўся, і яны абое ўзняліся на трэці паверх, у парткалектыў. Тут чакалі Краўчанку людзі, тут была гара спраў. Ен не прыходзіў. І тады Тася, не стрымліваючы хвалявання, адвяла Старога ў бок і перадала ўчарашняе здарэнне. Далматаў увесь неяк устрапянуўся і адразу-ж кінуўся да тэлефона. У райком, на руднік (там ля тэлефона паявіўся ветлівы Бярднікаў), у праўленне камбіната. Адказвалі—Краўчанкі не было.

— Без панікі, Вашкевіч,—суха сказаў тады Далматаў.—Ідзі на работу, а я падшукаю. Праваліцца ён не мог.

У гэтую хвіліну безліч здагадак прамільгнула ў дырэктара рудніка, было сярод іх і тое, што Краўчанка мог застацца ў якім-небудзь бараку, ці—тут нават Далматаў ледзь-ледзь усміхнуўся—ён мог правесці ноч... у любым месцы, нарэшце! Ён узяўся быў за работу, але яна не клеілася, нешта падмывала яго сарвацца з месца. Раптам ён перахапіў самога сябе, што зараз-жа трэба даведацца, чым-жа скончылася гісторыя з гэтым безыменным татарынам, і ён паехаў у райком.

Краўчанка нідзе не паяўляўся.

— Ну, што тут можа быць?—пытаўся Далматаў у сакратара райкома.—У якім гэта бараку было—ніхто не ведае, а дзе гэты татарын—чорт яго, даруй, нарэшце, унёс!

— Але на ўсякі выпадак...—сакратар пацягнуўся па тэлефонную трубку, але тэлефон зазваніў.—Ало!—сказаў сакратар у трубку.—Ну, ну, я слухаю. Так, так, ля тэлефона Крымковіч. Ага! Ну, ну! Што? Каго знайшлі? Дзе, дзе! Каля звалкі?

Далматаў прыслухаўся.

Кароткія рэплікі ў тэлефонную трубку выклікалі трывогу.

— Так. Едзем. Хто? Я і Далматаў. Добра. Добра!—Трубка павісла.—Краўчанку і Шаліму знайшлі ў звалачнай яме.

— Забітыя?—усхапіўся Далматаў.

Крымковіч хвіліну маўчаў, пазіраючы на Далматава, і потым сказаў:

— Не зразумеў я.—Кіўнуў на тэлефон.—Паедзем. Твая машына тут?

...нешта цяжкае ўдарыла ў галаву. Ён хацеў крыкнуць, але рот быў моцна заціснуты рукамі. Яго кінулі на зямлю і ўдарылі ўдругое. Зашчымела сэрца, боль у галаве азваўся па ўсім целе, нібы дзеўбанулі долатам. Раней, чым страціць прытомнасць, ён адчуў, як цела падае ў бяздонне...

Над светам, над зямлёй плыла сірэна.

*(Канец будзе)*

М. СЯДНЕЎ

## РЫГОРАВА ПРЫСЯГА

Засланілі хмару ў небе дальнім зоры,
Ноч драмала ціха на грудзях зямлі,
Не драмалі толькі на палях дазоры,—
Яны кожны колас пільна берaглі.

Бераглі, як вока... Па дарозе змрочнай
Брыгадзір падходзіў пост іх прасачыць,
А таго не ведаў, што ўсё вораг крочыць
Па слядах ягоных з цемені начы.

Ён таго не ведаў... І агнёвым стрэлам
Яго так раптоўна вораг падкасіў,—
Паляцела долу снопам яго цела
І вачэй растала ў гэтым змроку сінь.

Знае вораг чорны, хмуры, нібы восень,
Што апошняй славы дзень яго пагас:
Дзе яго быў хутар, там шуміць калоссе
Пра машынны грукат ды пра свой калгас.

Ты крыві напіўся. Бо ён першы смела—
Твой батрак учора—асудзіў цябе,
Бо не хіляць галаў коласам паспелым
Табе ў пояс нізка, як калісь, даўней.

— З кім-жа засталіся мы цяпер у хаце?—
Плач горна жонка,—з кім-жа, на каго?..
— Ах, не плач ты гэтак, не раняй слёз маці,—
Суцяшаў журботны яе сын Рыгор.

— Перастань!.. Пакінь ты...—А ў самога слёзы
Падаюць расою, кроплямі з вачэй,
Ныюць грудзі болем у нямой трывозе,
Нібы там дазвання ўсё агнём пячэ.

... А пад вечар ў хату па калгасным полі
Шлі з брыгад ударных сябры, як адзін.
— Працаваць не будзеш ты ўжо з намі болей,
Наш адважны, стойкі, мужны брыгадзір.

— Мы цябе запомнім. Добра каб жылося
Тваёй жонцы, дзеткам, не пакінем іх...
У палях бязмежных буйнае калоссе
Цябе славіць будзе ў гутарках жывых.

Так сказалі разам. Хоць-жа ім, вядома,
Не былі пачуты жалю галасы...
І, змяніўшы маці ад гнятучай стомы,
Стаў ля бацькі побач комсамолец-сын.

— Спі, мой тата любы... Я сягоння-ж стану
На твой пост адказны дужым, маладым.
Веру, тата мілы, што наш шлях змагання
Прывядзе ў комуну—слаўныя гады.

1934 г.

А. УСС

# СУПРОЦЬ НАЦДЭМАЎШЧЫНЫ І ФАРМАЛІЗМА Ў БЕЛАРУСКІМ ВЫЯЎЛЕНЧЫМ МАСТАЦТВЕ

Шпаркі рост і разгортванне соцыялістычнага будаўніцтва ў Совецкай краіне і на базе гэтага развіцця і росту ліквідацыя рэштак чужых, варожых пролетарыяту элементаў,—выклікае абвостранасць класавай барацьбы, актывізацыю кулацтва, нацдэмаўшчыны і ўсіх іншых антысовецкіх элементаў і настрояў. Гэта ўзмоцненасць класавай барацьбы наглядаецца і на ідэалагічным фронце, яна мае месца і ў галіне выяўленчага мастацтва.

Бурны рост соцыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне падняў і палітыка-культурны ўзровень працоўных мас і ў галіне ідэалагічнай барацьбы на фронце мастацтва высунуў лозунг „за соцыялістычны рэалізм", і цяпер пад гэтым лозунгам паміж рэалістамі і фармалістамі ідзе ўзмоцненая барацьба. Па ўсім фронце мастацтва наглядаецца актывізацыя буржуазных фармалістаў, якія свае яўна буржуазныя, варожыя пролетарыяту тэндэнцыі спрабуюць падаць масам пад соусам пролетарскага мастацтва „жывапіснага майстэрства", „тэхнікі" і т. д.

Таму цяпер патрэбна ўзмоцненая класавая пільнасць на ідэалагічным фронце; неабходна разгарнуць бязлітасную барацьбу з варожымі ўплывамі і ў выяўленчым мастацтве, з фармалізмам, які блытаецца пад нагамі совецкага мастацтва, цягне яго ў балота містыкі і ідэалізма.

Я тут паспрабую даць некаторыя гістарычныя карэнні буржуазнага рэакцыйнага мастацтва, якое ішло пад знакам формы, пад знакам „чыстага" мастацтва і якое зрабіла ўплыў і паслужыла творчай перадумовай для фармалізма ў нашым сучасным мастацтве.

## I

Значны ўплыў на беларускае выяўленчае мастацтва зрабіла рускае буржуазнае дэкадэнцтва. Прадстаўнік „Мира исскуства", рускага дэкадэнцтва Дабужынскі зрабіў нямалы ўплыў на беларускую мастацкую моладзь, асабліва ў той час, калі ён кіраваў Віцебскім мастацкім Інстытутам (1919-1921 гг.)

У асобе Дабужынскага, у яго мастацкай творчасці злучаўся рускі вялікадзяржаўны шавінізм з беларускім контррэволюцыйным нацыянал-дэмакратызмам. Уплывы сімбалізма і рэтраспектывізма на беларускую мастацкую моладзь зрабілі асабліва ў першыя гады НЭП'а ў той час, калі пачала ўзмацняцца дзейнасць беларускай гарадской буржуазіі і вясковага кулацтва і іх ідэолагаў—буржуазных інтэлігентаў, нацыянал-дэмакратаў, якія імкнуліся ў сваёй тэорыі і на практыцы праводзіць свае рэстаўратарскія контррэволюцыйныя мэты. Для гэтага яны стараліся і выкарыстаць выяўленчае мастацтва на

Беларусі, і таму ім лепш за ўсё да густу падыходзіў рускі буржуазны рэтраспектывізм, агляд назад, у мінулае. Па іх думцы толькі ў мінулым Беларусі, у яе старажытных рысах можна знайсці нацыянальную „самабытнасць“, нацыянальны стыль. „Як можа здзейсніцца праўдзівае адраджэнне,—гаворыць Шчакаціхін у сваім артыкуле „Наша сучаснае мастацтва і нацыянальны стыль“,—нашай нацыянальнай мастацкай культуры, калі адмовіцца ад мінулых яе дасягненняў, калі не мець пад сабой нейкай пэўнай і цвёрдай базы—вынікаў шматліковай народнай нацыянальна-мастацкай творчасці? Нацыянальны стыль не ствараецца, не прыдумываецца, ён расце арганічна, ускладняючыся ў новых соцыялістычных умовах, ён паступова перарабляе ў сабе старыя формы“ [1]).

Нацдэмы для сваіх контррэволюцыйных мэт, у сваіх рэакцыйных поглядах шукалі для сябе прыхільнікаў пераважна сярод моладзі. Шчакаціхін у сваім другім артыкуле „На шляхох да новага беларускага мастацтва“, змешчаным у „Полымі“ за 1927 г. № 2, пішучы аб першай мастацкай беларускай выстаўцы, бядуе, што на выстаўцы мала нацдэмаўскіх экспанатаў. „У масе рознастайных выставачных экспанатаў, піша Шчакаціхін, так мала было вытвораў чыста нацыянальных, свядома, мы сказалі-б, нацыянальных і па тэматыцы сваёй і па апрацоўцы. Большасць прац з'яўлялася ўсё-ж выпадковай, часам „агульна-мастацкай“, часам з беларускім сюжэтам, але абраным не наўмысля, а як і кожны іншы аднолькава абыякі сюжэт. Пасля гэтай выстаўкі мы ўбачылі, што хоць у межах Савецкай Беларусі, ды і нават у адным Менску, і ёсць параўнальна значны лік мастакоў, але большасць з іх з'яўляецца для нас чужой, не звязанай шчыльна з беларускай глебай, часта нават зусім ад яе адарванай, не гледзячы на сваё беларускае паходжанне, альбо ў кожным выпадку зусім не зацікаўленай у справе нашага нацыянальнага культурнага будаўніцтва, далёкай ад нашых сучасных імкненняў, мэт, задач. Становішча нашага сучаснага мастацтва выявілася тут зусім ясна. Прышлося прызнаць, што ласне большасць нашых мастацкіх сіл не можа ў далейшым граць колькі-небудзь важнае ролі ў справе афармлення і стварэння нашага новага мастацтва (трэба разумець мастацтва нацдэмаўскага—А. У.). Зразумела, частку іх можна выкарыстаць, як гэта ўжо і робіцца, для выканання пэўных канкрэтных заданняў, дзе мастак, фактычна, з'яўляецца толькі тэхнічным выканаўцам той ці іншай думкі, паданай яму з боку заказчыка (трэба разумець з боку Савецкай улады—А. У.), разам з дакладна азначанымі сюжэтамі і стылістычнымі вымаганнямі, але гэта не ёсць новая беларуская мастацкая творчасць“. З гэтага мы бачым, што на выяўленчае Савецкае масавае мастацтва афармлення гарадоў і на вырашэнне Савецкай тэматыкі Шчакаціхін глядзіць як на неадхільнае зло. Трэба займацца мастацкай афармленчай працай, савецкім пытаннем, бо гэтага патрабуе заказчык, патрабуе Савецкая ўлада, але такая праца мастака магчыма, па думцы Шчакаціхіна, не з'яўляецца нацыянальным беларускім мастацтвам. Ён тут адкрыта патрабуе ад беларускага мастацтва, каб яно было нацдэмаўскім. Далей ён гаворыць і аб тым, што беларускія мастакі не маюць належнай нацдэмаўскай падрыхтоўкі. „Выказваліся думкі, піша ён, што тут магло-б дапамагчы пэўнае перавыхаванне іх (мастакоў—А. У.) у пажаданым напрамку (у напрамку нацдэмаўшчыны—А. У.), накіраванае ў бок абуджэння нацыянальнай свядомасці, або ў бок, гэтак кажучы, мастацкае „беларусізацыі“, часткова і мы трымаемся такога погляду“.

[1]) Трыбуна мастацтва за 1925 г. № 1-3.

Але далей ён гаворыць: „Не трэба забывацца на тое, што не заўсёды гэтакае перавыхаванне зможа даць належныя вынікі: прымусова яго не правядзеш; мастака не прымусіш перавыхоўвацца, калі ён сам таго не захоча; але шмат хто напэўна не захоча,—гэта выявілася цяпер ужо бясспрэчна, дый цяжка, можа, закончанаму мастаку раптам сыйсці з свайго ранейшага шляху і раптам запаліцца тым маладым і моцным энтузіязмам, без якога ў галіне нацыянальнага адраджэння, у галіне адбудовы прыгнечанай раней культуры працаваць з пэўным поспехам, безумоўна, нельга. На нашую думку, асабліва значных вынікаў тут не будзе, можа толькі частковыя; і ў кожным выпадку не на гэтых „перавыхаваных" майстроў мы ўскладаем надзеі ў справе далейшага развіцця нашага новага беларускага мастацтва. Тут слова належыць моладзі, тым маладым творчым сілам, якія паступова выходзяць з шырокіх гушчаў беларускага працоўнага народу, якія нясуць з сабою, апроч неразвітых яшчэ і цалкам невыяўленых здольнасцей,—яшчэ і глыбокае замілаванне да роднага края „І далей гаворыць: „Таму з асаблівай цікавасцю і ўвагай сочым мы за кожнай такой новай сілай, калі яна пачынае сябе выяўляць у нашай мастацкай творчасці". Вось цэлая праграма нацдэмаўскіх поглядаў і імкненняў у выяўленчым мастацтве. Яны пераважна бралі стаўку на моладзь. Нацдэмы ў сваіх імкненнях, вышуках беларускага „нацыянальнага стылю" стараліся абаперціся на мастацкую моладзь і адцягнуць яе ад сучаснасці, ад рэволюцыйных падзей, адарваць ад Совецкай улады і перацягнуць яе ў свой бок, у бок рэакцыі, контррэволюцыі. І ў значнай ступені яны гэтага дабіліся. Ім удалося некаторую частку мастацкай моладзі перацягнуць да сябе. Мінін, Юдовіч, Філіповіч у сваім светапоглядзе цалкам стаялі на пазіцыях нацдэмаўшчыны і ў мастацтве прапагандавалі яго контррэволюцыйныя, рэакцыйныя ідэі. Гэтыя-ж мастакі мэтадалагічна блізка стаялі і да рускіх дэкадэнтаў, рэтраспектывістаў. Тут беларуская нацдэмаўшчына ідэйна блізка сутыкалася з тэндэнцыямі рускага вялікадзяржаўнага шавінізма. Мастакі Мінін, Філіповіч, падобна Бенуа, у сваёй творчасці ўцякаюць у мінулае, у старадаўні фэадальны быт, у эпоху рыцарства, рэлігійнага экзатызма і фанатызма. Мінін у сваёй творчасці захапляецца папскім рэакцыйным бароко, касцельнай архітэктурай часоў XVI-XVII века—„Касцёл Антона" (гравюра на дрэве—1927 г.) „Віды Віцебска з ракі Віцьбы": з цыклю „Стары Віцебск". Тут аўтар ідэалізуе пераважна старадаўнюю касцельную архітэктуру. „Стары Віцебск"—перад гледачом кулісы ў біблейным стылі. З левага боку—дрэва, з правага—паўразваліўшаяся старая хата, пасярэдзіне—вельмі прыгожа ўкамплектаваны малюнак—вежы цэнтральнай часткі Віцебска згрупаваны ў адно месца. Усё навакол валіцца, распаўзаецца (хаты), стаіць толькі дрэва ў біблейным стылі ды група касцёльных вежаў, якія вызначаюцца кампазіцыйна; і ўсё паўстае перад гледачом, як суцэльны рэлігійны архітэктурны замкнёны ў сабе пейзаж. Увагу Мініна прыцягваюць да сябе цэрквы, папская рэакцыйная касцёльная барокавая архітэктура часоў XVI-XVII века. Усе яго пейзажы ўпрыгожаны раскіданымі формамі барокавай касцёльнай архітэктуры, якую мастак ідэалізуе ў сваёй творчасці. Яго цікавіць рыцарства з сваімі атрыбутамі і сярэднявяковым спратам.

Калі Мінін буржуазныя нацдэмаўскія тэндэнцыі адлюстроўваў у графіцы, у гравюрах, дык у жывапісі гэтыя нацдэмаўскія тэндэнцыі адлюстроўвалі другія мастакі: Кастэлянскі, Філіповіч. Калі мы паглядзім на тэматыку мастака Філіповіча, дык без асаблівай цяжкасці заўважым, што ён надзвычайна моцна выражаў у сваёй твор-

часці нацдэмаўскую ідэалогію, кулацкія нацдэмаўскія тэндэнцыі „Байкі на Нямізе“, „Плач Яраслаўны“; „не адзін раз, піша Шчакаціхін, ён (Філіповіч—А. У.) звярачаецца да тэмы Менскага „Замчышча“ у стромкіх кручах і пачарнелых, напалову зруйнаваных халупках якога ён быццам шукае незахаваных слядоў далёкага—старадаўняга жыцця. Серыя пейзажных эскізаў канчаецца тут надзвычайна цікаўнай фантазіяй—спробай інтуіцыйнай рэканструкцыі старога Менскага замка, дзе асабліва выразна выяўляецца ўласцівае Філіповічу глыбокае стылістычна афармленае пачуццё старасвеччыны“. [1]) Апрача гістарычных тэм, Філіповіч дае тэмы быту, але таксама быту мінулага. „Дудар“, „Група лірнікаў на кірмашы“, „На Купале“, „Іван прастачок“ і інш. Але ўсе гэтыя тэмы, як гістарычнага, так і бытавога парадку вядуць гледача ў мінулае, у былое. Мастака Філіповіча, як і рэтраспектывістаў, больш за ўсё цікавіць старажытны сялянскі быт, быт заможных сялян (кулацтва). Яго цікавяць унешнія формы гэтага быту, стары сялянскі патрыархальны арнамент, сялянскія лапці, вопратка—усё гэта ён успрыймае павярхоўна, фармалістычна, дэкаратыўна У гэтым фармалізме, у гэтай патрыархальнай дэкаратыўнасці нацдэмы бачылі ўвесь сэнс творчасці Філіповіча. „Беларускі побыт, піша Шчакаціхін, цікавіць Філіповіча, галоўным чынам, з боку надворных форм свайго выяўлення; тут няма чаго шукаць „нутраных“, пабудаваных на пэўным змесце, сюжэтаў, мастацтва Філіповіча надзвычайна далёка ад „літаратурнасці“, ад псіхалагізма, ён падыходзіць да кожнага жыццёвага факта, як да крыніцы таго маляўнічага ўражання, якое можа яскрава і сцісла перадаць дэкарацыйнасцю фарб; так выяўляецца ў сваім надворным, асаблівым абліччы тая Беларусь, якая яшчэ існуе цяпер, але якой мо' ужо хутка не будзе, якая была, але якой ужо цяпер няма“. І сапраўды, мастак у сваіх творах паказвае тую Беларусь, якая даўно аджыла і адышла ў мінулае, у прошлае, але яна яшчэ мілая нацдэмам, яна вабіць іх да сябе і аб якой яны плачуць, якую хацелася-б ім вярнуць, а разам з гэтай старой Беларуссю—вярнуць стары буржуазны парадак. Вось таму і любы ім усе гэтыя старыя закавулкі, закуткі, якія адбівалі і цяпер адбіваюць у сваім мастацтве Мінін, Філіповіч, бо на гэтых закавулках, закутках, на гэтым старым сялянскім і мяшчанскім быце і трымаўся і мог трымацца панскі і буржуазны гнёт. Вось прычыны таго, чаму так нацдэмы—буржуазныя рэстаўратары захапляюцца феадальным старадаўнім беларускім, пераважна сялянскім бытам.

Мастак Кастэлянскі, які раней аддаў вялікую даніну нацдэмаўшчыне, цяпер нібы перабудоўваецца, прыстасоўваецца да нашай сучаснай совецкай рэчаіснасці, але гэта перабудова яго толькі павярхоўнае прыстасаванне нацдэмаўскіх ідэй і пачуццяў да совецкай рэчаіснасці, да совецкай тэматыкі. Цяпер ён нібы адмаўляецца ад тэматыкі старога местачковага жыцця і пераходзіць да сучаснай совецкай тэматыкі. Ён нібы цікавіцца нашым сучасным совецкім жыццём, паказвае прадпрыемствы, ударнікаў на прадпрыемствах, але паказвае іх як нешта непрывабнае, варожае, разбуранае, чужое. Глядзіць на совецкую рэчаіснасць вачыма не совецкага гледача, а вачыма чужымі, варожымі для пролетарыята. Калі Мінін у сваім мастацтве ўцякае ад сучаснай совецкай рэчаіснасці, дык Кастэлянскі больш хітра падыходзіць да справы паказу. Ён паказвае сучасную совецкую рэчаіснасць, але паказвае яе так, што нам трэба ўцякаць ад яе і хавацца. Напрыклад:

---

[1]) „Полымя“, 1927 г. № 2, стр. 176.

„Яўрэі калгаснікі“, альбо яго карціна „Ударнікі Варашылаўскага завода“ (V-я Усебеларуская выстаўка). Рабочы на карціне Кастэлянскага—гэта не змагар, не будаўнік новага, здаровага радаснага совецкага жыцця. Рабочыя на карціне мастака Кастэлянскага прыдушаны, прыціснуты жалезнымі катламі, скалечаны социялістычным будаўніцтвам. Вось нацдэмаўская ідэя паказу нашых совецкіх ударнікаў. Вось якое ўражанне атрымоўваецца ад тэй вобразнай нацдэмаўскай фармалістычнай трактоўкі тыпаў рабочых. Вобраз рабочага ў мастака Кастэлянскага атрымоўваецца не праўдзівы, не адпавядаючы совецкай рэчаіснасці. Кастэлянскі дае такі вобраз совецкага рабочага, які можа паслужыць для замежнага антысовецкага друку, што вядзе супроць нас шалёную агітацыю, гаворыць, што ў нас ёсць прыгнечаны рабскі труд і т. д. Вобраз рабочых у Кастэлянскага такі, які нашымі класавымі ворагамі можа быць выкарыстаны, вытлумачаны супроць нас саміх. А чаму так атрымалася ў мастака Кастэлянскага? Таму што Кастэлянскі і да гэтага часу яшчэ не пазбавіўся ад варожых настрояў, ён і цяпер яшчэ па самыя вушы сядзіць у палоне нацдэмаўскай ідэалогіі, той ідэалогіі, якая не ўспрыймае і не можа ўспрыняць праўдзіва совецкай рэчаіснасці і паказвае яе праз варожыя нам нацдэмаўскія акуляры. Мастак Кастэлянскі адмаўляе здаровую рэалістычную совецкую рэчаіснасць і хаваецца ў містыку, у фармалізм. Фармалізм мастака Кастэлянскага ёсць схованы, замаскаваны нацдэмізм. Такія мастакі фармалісты, як Кастэлянскі ставяць сваёй мэтай адцягнуць мастака, а таксама і гледача ад праўдзівага паказу і ад праўдзівага ўспрыняцця совецкага социялістычнага будаўніцтва. Таму моцны ўдар нашай мастацкай крытыкі павінен быць накіраваны супроць фармалізму ў нашым беларускім мастацтве, як асабліваго віда нацдэмізма.

Адным з прадстаўнікоў яўрэйскага нацыянал-шавінізма ў беларускім мастацтве з'яўляецца С. Юдовін. Яўрэйскі шавінізм праз мастацтва Юдовіна моцна звязваецца з беларускім нацыянал-дэмакратызмам, а таксама з рускім рэтраспектывізмам, з вялікадзяржаўным шавінізмам. Яго тэматыка: „Акраіна Віцебска“, „Дворык“, „Задворкі“, Старая сінагога“, „Да старой сінагогі“. „Пахаванне“ і т. д. З гэтай тэматыкі мы ўжо бачым, што Юдовін вельмі блізка наближаецца як да беларускіх нацыянал-дэмакратаў, так і да рускіх вялікадзяржаўных рэтраспектывістаў. Юдовін таксама ўцякае ад сучаснасці і хаваецца ў мінулае, у далёкае прошлае. Яго вабяць да сябе старыя яўрэйскія мястэчкі, задворкі, рэлігійны арнамент, сінагога, і асабліва яго вабіць да сябе тэма „Пахаванне“.

Ён вельмі любіць стары рэлігійны яўрэйскі абрад, таму ён у сваіх гравюрах часта звярочваецца да такіх тэм, як „Пахаванне“, „Ля могілак“ і т. д. Ён у гэтых тэмах разлучаецца з старым яўрэйскім жыццём, у сваіх творах ён яго аплаквае, расстаецца з ім з болем у сэрцы. У гравюрах „Пахаванне“ (1926-27 гг.), а таксама „Ля могілак“—мастак улажыў глыбокі жаль і жудасць, але разам з гэтым ён ідэалізуе і абрад па заветах продкаў. Яму любы мястэчкі Віцебшчыны, глухія вуліцы, закавулкі, убогія хаты яўрэйскай беднаты,—аб гэтым ён пяе, гэта ён ідэалізуе. Мастак у сваіх гравюрах перадае не толькі дробязі, рысы местачковага быту, ён перадае і атмасферу, нават само паветра ў яго прасякнута рэлігійнымі традыцыямі, забабонамі, але ўсё гэта абвеяна паэзіяй, ідэалізавана. Мастак гэта старое, аджываючае жыццё не адкідае, а ўспрыймае, захапляецца ім. Усе рэчы, якія мастак адлюстроўвае, ён ідэалізуе іх пад старадаўны рэлігійны стыль, надае ім рэлігійна-містычны сэнс. Глухое, асуджанае жыццё ідзе

ў мінулае, новы быт, новыя ідэі, узаемаадносіны ідуць у мястэчка, шпарка прыходзяць на месца старых. Героі Юдовіна з зморшчанымі старымі тварамі, з скалечанымі сутулымі фігурамі баязліва прыслухоўваюцца да новага жыцця, але з нейкім страхам, з нейкімі незразумелымі пачуццямі ідуць за старым жыццём у мінулае. Традыцыя аджываючага, уміраючага мястэчковага мяшчанскага быту цісне на мозг Юдовіна. Вобразы старога жыцця скажаюцца, але настойліва жывуць у псіхіцы мастака—дробнага буржуа. Глухія вуліцы, завулкі, старыя пакрывіўшыяся домікі, усё жыццё мястэчак устае перад гледачом. Сярод гаману і сумятні ў нейкім жудасным выглядзе ў рысунку, у гравюры бытавая рэалістычная тэматыка густа афарбоўваецца ў нейкія псіхалагічныя балючыя тоны. Зломы графічных форм, лініі, іх размеркаванне ў прасторы—гэта планы, распарадак балючага, унутранага гледжання, гэта сугуба інтымная, суб'ектыўная лірыка, якая іграе на вобразах старога яўрэйскага быту, старога жыцця. Гэта альбо бяссільныя застыўшыя моманты мінулага, бязвольныя, задумлівыя, імпрэсіяністычныя вобразы, альбо крыклівыя сударжныя імпрэсіяністычныя пачуцці ўміраючага мяшчанства, дробнай буржуазіі.

У ідэалогіі контррэвалюцыйных буржуазных нацыянал-дэмакратаў займала вялікае месца рэакцыйная буржуазная ідэя „адраджанізма". Гэта ідэя і знайшла сабе месца ў рэакцыйным мастацтве. Амаль усё мастацтва мастакоў нацыянал-дэмакратаў прасякнута духам рэакцыйнага буржуазнага адраджанізма. У гэтыя часы ў беларускім нацдэмаўскім мастацтве з'яўляецца і культывуецца нацдэмаўскі, так званы „нацыянальна-беларускі экс-лібрыс".

„Сучаснае адраджэнне беларускай культуры, піша Шлюбскі, адбіваецца і на беларускім экс-лібрысе, якому прыдаюцца нацыянальныя формы не толькі надпісамі, але і зместам і ідэяй малюнка"[1]). Рад мастакоў займаецца гэтай справай, робяць экс-лібрысы для нацдэмаўскіх ідэолагаў, навуковых супрацоўнікаў, у якіх ідэалізуецца беларускі арнамент, архаічнасць, або ўсходняя экзотыка. Мастак Тычына стварае серыю „беларускіх экс-лібрысаў" для нацдэмаўскіх дзеячоў. Экс-лібрыс Залуцкага, на якім у ідэалізаваным выглядзе прадстаўлена сярэдневяковая „старадаўная брама на ніжнім рынку Менска", экс-лібрыс Шчакаціхіна. Гэты нацдэмаўскі навуковы дзеяч паданы мастаком у выглядзе вобраза Венеры Мілоскай, якая абвіта скарпіонам; з правага боку праз вакно віднеецца старадаўняя барокавая архітэктура Менска—ратуша. Увесь экс-лібрыс стылізаваны пад матывы слуцкіх паясоў.

Экс-лібрыс Фідоўскай—таксама ідэалізацыя сярэдневяковага арнамента гатычнай архітэктуры, на фоне якой сядзіць у задум'і Фауст і марыць аб чымсьці далёкім, мінулым[2]). Усё гэта цягне гледача ў сярэдневяковую экзотыку, у рэлігійную містыку. Апрача гэтага, мы маем спробу нацдэмаўскіх мастакоў звязаць нашу савецкую сучаснасць з нацдэмаўскай рамантыкай, з мінулым. Такі экс-лібрыс Мініна—„Віцебскага Дзяржаўнага Музея" (1932 г.), які сабой нагадвае верш рускага вялікадзяржаўніка сімбаліста Владзіміра Салаўёва:

Пойте про ярые грозы—
В ярой грозе мы покой обретаем...
Белую лилию с розой,
С алой розой мы сочетаем...

---

[1]) А. Шлюбскі—„Экс-лібрысы А. Тычыны". Менск, 1928 г., стар. 6.

[2]) А. Шлюбскі—„Экс-лібрысы А. Тычыны". Менск, 1928 год.

Мінін, падобна сімбалісту Салэўёву, у гэтым экс-лібрысе стараецца злучыць „белую лилию с розой“, стараецца звязаць нашу рэволюцыйную совецкую сучаснасць з рэакцыйнай фантастыкай аб мінулым, з старымі рэакцыйнымі часамі. Малюючы атрыбуты нашай сучаснай совецкай рэчаіснасці (фабрычны комін, бюст Маркса і Леніна), Мінін зацягвае іх флёрам рэакцыйнай рамантыкі, дымком мінулага, вядзе гледача ад нашай сучаснай сапраўднасці ў рэакцыйныя нацдэмаўскія ідэалы, у эпоху рыцарства, у эпоху сярэдневяковай экзотыкі і рэлігійнай містыкі. У гэтых сваіх рэакцыйных тэндэнцыях, імкненнях да феадалізма, да містыка-рэлігійных ідэй—нацыянал-дэмакраты сутыкаліся з рускім рэтраспектывізмам, выразнікамі ідэй рускага вялікадзяржаўнага шавінізма. „Лига русской культуры“, у якую ўваходзілі контррэволюцыянеры, містыкі, ідэалісты, махровыя русіфікатары-шавіністы: Бердзяеў, Булгакоў, Струве, Мережкоўскі і інш., якія ў жніўні 1917 г. заклікалі „рускую моладзь“, каб тая далучылася да справы „адраджэння“ рускай нацыянальнай самасвядомасці, яны пісалі: „Патриотически любите и дерзновенно отстаивайте национальный лик родной культуры, которую своим духовным подвигом готовили и древние подвижники веры, и великие писатели Земли Русской, и самоотверженные борцы за свободу,—той культуры, которую в смирении и упорстве создавали бесчисленные ряды поколений русских людей, строивших русское государство“.

Як руская буржуазія ў сваёй контррэволюцыйнай барацьбе супроць рабочага класа шукала апоры ў манархіі, шукала ідэй містыкі ў мінулым, у манархічна-дваранскай уладзе, а яе мастакі рэтраспектывісты ідэалізавалі гэтыя буржуазныя тэндэнцыі, рэлігійную містыку і сваімі думамі ляцелі ў Версаль Людовіка XIV, у Пецяргоф, у эпоху Пятра, Кацярыны II і ідэалізавалі гэта мінулае,—так і беларускія буржуазныя нацыянал- дэмакраты, якія пераважна апіраліся на кулацтва і якія ставілі сваёй мэтай стварыць „адзіную“ буржазную Беларусь, таксама шукалі нацыянальнашавіністычных прыкладаў у мінулым Беларусі, совецкаму рабочаму рэволюцыйнаму інтэрнацыяналізму высоўвалі і супроцьстаўлялі буржуазны вузкі нацыянальны шавінізм. Мастацтва ідэалізавала мінулае Беларусі і прыймала нацыянальна-шавіністычны характар. Шчакаціхін у сваёй кніжцы „Нарысы па гісторыі беларускага мастацтва“ піша: „Па нашай думцы ў першую чаргу трэба высветліць характар найбольш старадаўняга перыяда гістарычнага развіцця мастацкіх форм на тэрыторыі Беларусі, каб адшукаць тыя асноўныя сувязі, у комплексе якіх з'явіліся і выявіліся першапачатковыя тыпавыя рысы беларускай мастацкай манеры“.

Якія тут класавыя тэндэнцыі кладуцца ў аснову гэтага імкнення нацдэмаў да мінулага? Гэта той-жа самы рэтраспектывізм, якім жылі і дыхалі буржуазныя мастакі эпохі імперыялізма. Гэта вышукі соцыяльных пунктаў апоры ў мінулым, імкненне вярнуцца хоць у марах да часоў распаду фэадалізма і нараджэння буржуазнага грамадства. Гэта імкненне да мінулага, да дзён буржуазнага росквіту—характэрна для ідэйна спустошанай атмасферы эпохі гніючага капіталізма. Вось таму і беларускія нацдэмаўскія тэарэтыкі завуць назад мастакоў, цягнуць іх у мінуўшчыну, у прошлае, ідэалізуюць стары гнілы быт беларускага кулацтва, беларускай патрыархальшчыны. Ленін пісаў: „Диктатура пролетариата есть упорная борьба, кровавая и бескровная, насильственная и мирная, военная и хозяйственная, педагогическая и административная, против сил и традиций старого общества“[1]).

---

[1]) Ленин, том XXV, стр. 191.

Трэба зазначыць, што рэакцыйныя нацдэмаўскія тэндэнцыі ў выяўленчым беларускім мастацтве ў значнай ступені падтрымліваліся і абгрунтоўваліся буржуазнай расавай тэорыяй „Віталія Вольскага. У артыкуле, змешчаным ва „Ўзвышшы" № 5, 1929 года „Мірзаджан Байкееў" Вольскі пісаў наступнае: Вялікую цікавасць у даследчыка павінен выклікаць у дачыненні да формы бюст прафесара О. Ф. Вальдгаура, дырэктара аддзела старажытнасцяў эрмітажа, немца па паходжанні. Зроблены гэты бюст у 1928 годзе. На гэтай разбярнай працы яскрава адбіліся рысы, уласцівыя нацыянальнай прыналежнасці самаго мастака. Гэта адчуваецца і ў агульнай манеры, у якой зроблена праца, і ў характары вачэй, скіўц і знадворнага аблічча твару. Глядач бачыць перад сабою твар еўрапейца, але адчувае ў ім нейкія ўсходнія рысы. Своеадменны адбітак ляжыць на ўсім гэтым разбярным творы і яскрава сведчыць аб тым, што, калі не сам увображаны, дык безумоўна мастак належыць да цюрска-татарскай расы. Рысы, характэрныя для свае нацыі, мастак мімавольна перанёс на ўяўленне чалавека арыйскай расы". (Падкрэслена мною—А. У.). Вольскі гэтым сваім рэакцыйным палажэннем спрабаваў угрунтаваць думку нацдэмаўскіх тэарэтыкаў, што Беларусь і жыццё беларускага народу можа выяўляць мастак толькі беларус, бо другі мастак, калі ён будзе маляваць жыццё беларускага народу, дык ён заўсёды будзе пераносіць рысы свае нацыянальнасці ў беларускае мастацтва, і тагды гэтае мастацтва не будзе беларускім. Гэта нацдэмаўская тэорыя ў выказваннях Шчакаціхіна і Вольскага шчыльна сутыкаецца з меншавіцкай пераверзеўскай тэорыяй „Переодевания". „Художник, говорил Переверзев, переносясь в разные миры, переносясь на различные планеты, облекаясь в различные исторические костюмы, в конце концов всегда перемещает только знакомые ему характеры,—это значит что художник замкнут в определенном мире, что за пределы этого мира он не в силах вырваться" [1]).

Пераверзеў, як механіст і рэлятывіст, уяўляе сабе справу так, што мастак здольны нарысаваць, раскрыць сутнасць, вобраз, характар толькі свайго класа, а вобраз, характар другога класа ён пазнаць, зразумець, раскрыць не можа.

Вольскі ў сваёй расавай рэакцыйнай тэорыі ідзе далей за Пераверзева. Ён гаворыць, што мастак у сваёй творчасці можа раскрыць рысы толькі сваёй нацыі, сваёй „расы". Такім чынам, Вольскі тут адкідае класавы падыход да мастацтва і становіцца на нацдэмаўскі, анты-інтэрнацыяналістычны пункт гледжання на мастацтва. Вольскі ўжо не маскуе, як Пераверзеў, гэту тэорыю ў марксісцкую фразеялогію, а проста выступае з буржуазных пазіцый і контррэволюцыйную пераверзеўскую тэорыю ўмацоўвае прынцыпамі буржуазнай расавай тэорыі.

Далей гаворыць Вольскі: „Татарскі народ не мае сваіх традыцый у галіне прасторавага мастацтва. Імкненні да мастацтва бязлітасна забіваліся на працягу многіх стагоддзяў, і таму зусім зразумела, што ў крыві Байкеева не могуць мець месца элементы мастацкай спадчыннасці" [2]). Як бачым і тут Вольскі па пытанню перавыхавання людзей стаіць на пункце погляду біалагічнай буржуазнай расавай тэорыі, якая ніякім чынам, па думцы Вольскага, не дапускае перавыхавання мастака, пераход яго з адных ідэалагічных пазіцый на другія, з пазіцый буржуазных і дробна-буржуазных на пазіцыі пролетарскія, бо ў аснове гэтай расавай тэорыі ляжыць біалагічны закон, праз які ніхто не можа пераступіць.

[1]) Зборнік артыкулаў аб дыскусіі з Пераверзевым; выд. Ком. Акад. 1930 г., стар. 54.
[2]) „Узвышша", 1929 г. № 5, стар. 101.

Гэта рэакцыйна буржуазная расавая тэорыя навукова няверная, няправільная, а прыдумана буржуазнымі лакеямі ад навукі для падтрымання і апраўдання імперыялістычнага ўціску над каланіяльнымі народамі, за гэтую ж тэорыю хапаліся і беларускія нацдэмы, якія хацелі Совецкую Беларусь адцягнуць ад Совецкага Саюза, гаворачы, што Беларусь па сваёй прыродзе не мае нічога агульнага з рускімі і г. д, Гэтая тэорыя служыла на руку нашым ворагам, на руку польскаму фашызму.

II.

На беларускіх мастакоў зрабілі значны ўплыў мастакі „Бубнового валета“, прадстаўнікі так званага „рускага сезанізма“ Фальк[1]), Канчалоўскі, Шэўчанка і інш., якія сабою прадстаўлялі нейкую як-бы супроцьлегласць мастакам сімбалістам, рэтраспектывістам. Гэтымі мастакамі сезанізм быў успрыняты як цэльная стройная жывапісная сістэма, як асобная галіна ў выяўленчым мастацтве, якая вядзе да адраджэння жывапіснай культуры, жывапіснага майстэрства і г. д.

Жывапісная культура так званых рускіх сэзаністаў, стыль жывапіснай прадметнасці выклікала сабою перавагу карцін натурмортаў і пейзажных матываў, якія будаваліся імі на прынцыпах геаметрыі. Разам з рацыяналістычным успрыйманнем свету ў творчай установцы гэтых мастакоў ёсць наяўнасць момантаў гаданізма і сенсуалізма ў адрозненне ад рацыяналістычнай аб'ектнасці французскага сезанізма.

Пад уплыў гэтых рускіх сезаністаў падпалі нашы беларускія мастакі, такія, як Красоўскі, Забораў, Філіповіч, часткова Ахрэмчык і інш. Рускі сезанізм у гэтых нашых беларускіх мастакоў з'яўляецца асабліва прыкметным у іх мастацкай практыцы. Асноўная творчая лінія гэтых мастакоў—гэта ўмацаванне рэчаіснасці ў яе паслядоўных рэалістычных формах, у іншых—адыход у бок дэфармацыі (Красоўскі, Філіповіч). У характары іх рэалізма значна заўважаюцца вядомыя рысы залежнасці ад манеры рускага сезанізма ў сэнсе збліжэння фармальных і каларыстычных задач, разам з імкненнем да выяўлення пэўнай формы. У гэтых мастакоў, у кожнага з іх ёсць тэндэнцыя да сезанаўскай чыстай маляўнічасці. Але ў іх таксама ў кожнага ў той ці іншай ступені наглядаецца адсутнасць школы, закончаннасці. У іх адчуваецца яшчэ нейкая няўстойлівасць палітры, а гэта часта выводзіць мастака з узятага ім асноўнага тону, з асноўнай фарбавай гамы ў рознагалоссе грубых вуглаватых каляровых дысанансаў, што асабліва лёгка заўважаецца ў мала распрацаваных, пасpackхавых эскізах. Часта механічнае перайманне каляровых сезанаўскіх тэндэнцый прыводзіць мастакоў да каляровай беднасці і вузасці, абмежаванасці палітры, як напрыклад эскіз Ахрэмчыка „II з'езд РСДРП“, які кампазіцыйна надзвычайна моцна пабудаваны ў тэндэнцыі свайго развіцця, мае размах, але каляровая пабудова эскіза, якая ідзе ад сезанаўскіх традыцый, звужаная і не мае магчымасці больш шырока разгарнуцца і больш поўна выявіць сутнасць самой тэмы.

Сезанн з'яўляецца выразнікам ідэалогіі буйнай індустрыяльнай буржуазіі. Для яго ідэалогіі, а адгэтуль і для творчых тэндэнцый, імкненняў, характэрным з'яўляецца ўсё узрастаючы „рацыяналізм“.

„Новыя рухаючыя сілы,—піша Зомбарт,—новыя дзяржаўныя ўтварэнні, новыя тэхнічныя веды і дасягненні з'яўляюцца той асновай, на

[1]) Фальк, як і Дабужынскі, у першыя гады рэволюцыі працаваў у Віцебскім Мастацкім Інстытуце.

якой ніколі раней не існаваўшая, як-бы нечакана вырасла з зямлі маса людзей і рэчаў і рынуліся да гіганцкай работы. Я асабліва імкнуўся уразумець своеасаблівасць гэтай работы, утварэнне і хацеў абрысаваць той велізарны космас, які ўяўляе сабой капіталістычнае гаспадарства. Бо ў тым, што апошняе з'яўляецца сапраўды дзіўнай арганізацыяй, усе часткі якой умела прыстасованы адна да другой, у гэтым не можа сумнявацца ні адзін чалавек, які яе вывучаў. Арганізацыя гэта тым больш дзіўная, што яна стварылася без усякай разумнай свядомасці, ператвараючай і кіруючай волі—выключна дзякуючы дзейнасці паасобных гаспадарак, дзе кожнае з іх імкнецца да сваіх асабістых інтарэсаў. Якое значэнне мае выпадковая трасаніна, збурэнне (разумеецца, сюды не адносіцца такое збурэнне, якое напрыклад, выклікала сусветная вайна) разам з тым вялікім фактам, што капіталістычная гаспадарка з нічога зрабіла сістэму, якая дае магчымасць карміць сотні мільёнаў растучага насельніцтва, адзяваць іх, размяшчаць іх у памяшканнях, упрыгожваць іх усялякімі цацкамі і кожны вечар забаўляць. Можна бачыць у гэтым наперад устаноўленую згоду (гармонію), альбо нутраную захопленасць, альбо цуд: як-бы мы яго ні называлі, мы не можам не захапляцца гэтай творчай сілай чалавечага духу"[1]). І далей Зомбарт кажа: „у гэтым свеце лічбаў пануе неабходнасць, аднастайнасць адзінства". З гэтай сугуба-буржуазнай, ультра-індустрыйнай ідэалогіі і з'явілася мастацтва Сезана, яго мастацкі „рацыяналізм". Сезан у сваім мастацтве імкнецца адлюстраваць, паказаць гэтую індустрыйную структурнасць, заканамернасць, згоду арганізаванага капіталізма. Мастацтва ў Сезана разумеецца, як укараненне „парадка", „згоды" у жыцці, як фармаванне светапогляда людзей і іх успрыняцця рэчаіснасці. Сезанаўскі рацыяналізм і лёг у аснову рускага „Бубновага валета" і кубістаў. Але калі кубісты ў аснову сваіх творчых імкненняў клалі адзіны момант сезанаўскіх тэндэнцый—„рацыяналізм" і выводзілі з яго свае кубістычныя формы, дык бубнавалетчыкі і іх паслядоўцы, цяпер некаторыя беларускія маладыя мастакі ўзялі ў Сезана другі бок яго тэндэнцыі—толькі яго „жывапіснае" майстэрства, адарвалі яго ад ідэйнай сезанаўскай буржуазнай сутнасці і ператварылі ў фетыш голай жывапіснай тэхнікі.

Сезан сваімі жывапіснымі сродкамі будаваў цэлыя кампазіцыі. Жывапісь яго была накіравана на раскрыццё самой рэчы, яе канструкцыі. Сезан шукаў канструкцыі гэтай рэчы, але ён колерам сваіх фарб дасягаў кампазіцыйнага адзінства сваіх карцін; тым часам нашы мастакі, якія імкнуцца паследаваць яму, не ўразумелі самой сутнасці сезанаўскай жывапісі—яе своеасаблівай якасці, якая цалкам выцякала з яго ультра-буржуазнага светапогляда, і спынілі сваю увагу толькі на праблеме самых сезанаўскіх фарб і адарвана развілі да жывапіснага абсурда, да фармалізма. Фарбы, форма, апрацоўка паверхні карціны (фактура), размяшчэнне каляровых плям больш займае ўвагу нашых мастакоў, чымся сам змест карцін, яе філасофскі ідэйны бок. Адгэтуль усе іх вышукі, усе іх імкненні ідуць у пустое, у недарэчнае, бо яны не разумеюць, што фарбы толькі тады адыграюць вялікую ролю ў мастацтве, калі яны не ператвараюцца ў пустыя канструктывістычныя вышукі іх злучэнні, а служаць сродкамі для выяўлення і выражэння дум, пачуццяў, светапоглядаў і настрояў людзей, а ў дадзеным выпадку ідэй пролетарыята.

---

[1]) Зомбарт „Современный капитализм", т. III, полутом II, стар. 451—452.

III.

Другі буржуазны уплыў, які знайшоў сабе месца ў беларускім мастацтве—гэта фармалізм (Шэўчанка, Істомін, Лабас, Тышлер, Дрэвін і інш.) Гэта група мастакоў у сваіх творчых выходных пунктах ідзе ад эстэтствуючага дэкаратывізма, ад рафінаваных французскіх фармалістаў—Матыс, Дорэн, Пікасо і інш.

У аснове гэтага фармалістычнага руху ляжаць прынцыпы: адмаўлення вобразнага ідэйнага комплекса і адмаўлення ідэалагічнай асновы мастацтва. У жывапісі гэтыя мастакі, паслядоўцы французскага фармалізма, шукаюць так званага „жывапіснага матарыялізма". Яны ставяцца да карціны, як да самой мэты, як да канструкцыйнай сістэмы форм-фарб. Гэта канструкцыйная сістэма форм-фарб, як замкнутая сама ў сабе мэтаімкнёнасць такімі мастакамі, як Тышлер, Дрэвін, людзьмі адарванымі ад рэчаіснасці і запатрабаванняў пролетарскіх мас—у іншых выпадках даведзена да крайняй абмежаванасці, да абсурда. З нашых мастакоў у першую чаргу адносяцца сюды такія, як Семашкевіч, Тарасікаў і потым Аксельрод, Красоўскі, Кастэлянскі. Гэтыя мастакі знаходзяцца пад моцным уплывам буржуазнага ідэалістычнага светапогляду і творча капошацца ў лапах фармалізма. Аксельрод у сваіх творчых імкненнях з'яўляецца ў значнай ступені паслядоўцам рамантыка-энтузіяста Тышлера. Гэты мастак ад рэальнасці ўцякае ў суб'ектыўны ідэалізм. Тон карцін яго далікатны, пяшчотны, зеленавата-сіні, але ўсё гэта падпарадкавана нейкай блекласці і неяснасці, незразумеласці фона карціны. Тышлер вытручвае багацце фарб, танальнага ўражання, з'явы жыцця ён замыкае ў кола нейкага туману, мары. Аксельрод адрозніваецца ад Тышлера сваёй экспрэсіяністычнай трактоўкай фігур, але фарбы, якімі ствараюцца яго фігуры, па каларыту мізерныя, суб'ектыўна умоўная схема фарб. Карціна „Белапольская акупацыя" можа служыць прыкладам суб'ектывістычных успрыняццяў мастака, дзе ён паказвае белапольскіх „дзяржымордаў", якія рэжуць, забіваюць і здзекваюцца над рабочымі, над яўрэйскай местачковай беднатой. Мастак не абураецца бясчынствамі белапольскіх бандытаў. Гэта крывавая падзея служыць мастаку толькі зачэпкай для яго фармалістычнага экспрэсіянізма: для таго, каб ён мог на палатне размеркаваць свае фарбы, святловыя плямы, толькі дзеля іх самых. Яго цікавяць толькі фармалістычныя моманты мастацтва, а не падзеі, не гістарычная жыццёвая з'ява, якая павінна быць у мастацтве адлюстравана і пакінута на памяць патомству, як гістарычная з'ява, як паказ у мастацтве класавай барацьбы, рэвалюцыйнага руху на Беларусі.

Другі значны прадстаўнік фармалізма—Дрэвін. Дрэвін, так як і Тышлер, абыходзіць у сваёй творчасці рэальныя жыццёвыя з'явы. З Тышлерам ён сходны па суб'ектыўнай абмяжованасці, скупасці сваёй фарбавай гамы. Усе яго карціны па каларыту і выразнасці нагадваюць сабой нейкую бязглудзіцу, бяссэнсную мазню, якая мела раней месца на выстаўцы „Аслінага хваста" і „Мішэні". Рэчы дадзены нейкімі сімбаламі, намёкамі даведзены да поўнай абстрагаванасці, да знішчэння самых рэчаў (прадметаў). Блізка да Дрэвіна стаіць мастак Семашкевіч. Праўда Семашкевіч жывапісна працуе трохі ў другім плане, чым Дрэвін, але ідэалагічна ў адным напрамку. У яго карцінах, як і ў Дрэвіна, усё той-жа буржуазны прымітывізм. Усё тая-ж апалітычнасць, беззмястоўнасць, нікчэмнасць і пустата. Фігуры людзей у яго заўсёды прыдушаны, прыціснуты. Падаюцца гледачу ў сэнсе нейкага прымітыва. Прымітыў у Семашкевіча пераважае над ўсім.

Мастак з'яўляецца выразнікам „вароншчыны" ў жывапісі. Матарыяльнасць, жыццёвасць—варожыя яго творчасці. Ён малюе не натуру, а вобразы сваёй памяці, ачышчаныя, па яго думцы, ад наноснага, выпадковага. У жывапісі Семашкевіча ажыццяўляюцца ідэалістычныя тэндэнцыі Варонскага, па думцы якога каштоўнасць мастацкага адлюстравання рэчаіснасці заключаецца толькі тады, калі гэта адлюстраванне набліжаецца да дзіцячага ўспрыняцця рэчаіснасці, да прымітыва, дзе толькі асацыяцыі адчування адлюстроўваюцца на яго палотнах.

Я бог таинственного мира,
Весь мир в одних моих мечтах.

Семашкевіч выступае супроць буржуазнага мастацтва, супроць так званай „літаратуршчыны", супроць натуралізма. Ён бунтар. Ён адкідае сэнс і разумны план у мастацтве і становіцца на дарогу вышукаў нейкага містычнага, не зусім яснага ідэйнага прымітыва. Адгэтуль у яго ўвага толькі да фарб, да колераў, і адгэтуль у яго няма станоўчай грунтоўнай апрацоўкі карцін, а імправізацыя. У адзін дзень ён піша 3 4 карціны, ні над адной з іх сур'ёзна не думае, не працуе, таму яго працы носяць чыста-вучнёўскі характар. Яны не даведзеныя да канца, не скончаныя, эскізныя, прымітыўныя.

У аснове пагдядаў мастакоў прымітывістаў (Семашкевіч, Аксельрод і інш.) ляжыць скіфства, прымітывізм. Гэта працэс развала буржуазна-кулацкай ідэалогіі ў эпоху пролетарскай рэволюцыі. „Скіфства" становіцца філософскім лозунгам некаторай групы эпігонаў кулацтва і народніцкай буржуазіі, якая гатова прыняць Кастрычніцкую рэволюцыю, але не як пролетарскую, соцыялістычную рэволюцыю, а з другім класавым зместам, як пераход да рэволюцыі сялянскай, да рэволюцыі буржуазна-дэмакратычнай. Таму прымітывізм—гэта адмаўленне культуры буржуазнай і непрыняцце культуры пролетарскай, а на гэта мейсца высоўванне прынцыпаў і форм прымітывізма не толькі ў мастацтве, культуры, але і прымітыўных гаспадарчых форм. „Трэба, каб была маленькая вёска, піша Блок у сваім дзённіку, свая царква (адна маленькая, белая), свой сход, свае маленькія магілкі і г. д.". Такім чынам, прымітывізм у мастацтве—гэта ёсць ідэалізацыя культурнай адсталасці, ідэалізацыя прымітыва патрыархальнага кулацкага жыцця.

Красоўскі, Шэўчанка знаходзяцца пад значным уплывам фармалізма фалькоўскага толку; праўда, яны бліжэй стаяць да совецкай рэчаіснасці, глыбей яе ўспрыймаюць, чымся, скажам, Семашкевіч, Тарасікаў, Кастэлянскі. Але націск формалізма ў значнай меры адчуваецца і на іх творчасці. У гэтых мастакоў наглядаецца адсутнасць узаемасувязі рэчаў і людзей. Гэта атрымоўваецца таму, што ў мастакоў няма шчыльнай соцыяльнай сувязі з нашай совецкай рэчаіснасцю, а гэта іх вядзе да песімізму, які яскрава выражаецца як у колеравай гаме, так і ў агульным, умоўным вобліку рэчаў. Узяць, напрыклад, мастака Красоўскага, Шэўчанка — яны цікавяцца нашым сучасным жыццём, але яны з гэтым нашым сучасным жыццём маюць мала соцыяльнай сувязі.

Мастацкія тэндэнцыі Шэўчанкі, Красоўскага, Семашкевіча і іншых, якія цесна звязаны з фармалізмам, з буржуазным ідэалістычным светапоглядам—гавораць аб самаізаляванасці гэтых мастакоў ад задач рабочага класа, ад удзельнічання ў культурным соцыялістычным будаўніцтве нашай краіны. Гэта знайшло свой адбітак у фармалістычна-абстрактным гіпертрафаванні фарб, якія становяцца ў іх жывапісі самамэтай, якая жыве сама сабою і ніяк не звязана ні з кам-

пазіцыяй карціны, ні з ідэйным зместам яе. Творчыя тэндэнцыі іх ідуць не ў бок рэалістычнага мастацтва соцыялізма, а ў бок індывідуальнай замкнёнасці, адарванасці ад рэальнай рэчаіснасці і з'яўляюцца старым перапевам як рускага велікадзяржаўнага рэтраспектывізма, так і буржуазнага рэакцыйнага фармалізма. Гэту творчую самаізаляцыю нельга разглядаць як няўмеласць мастака справіцца з сваімі задачамі, з задачамі паказу нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Гэтыя недахопы ляжаць глыбей. Яны ляжаць у света поглядзе самога мастака, яго падыходзе да рэчаіснасці. Гэтыя настроі і творчыя канцэпцыі аб'ектыўна, незалежна ад таго хоча гэтага мастак, ці не хоча,—з'ява рэакцыйная, у якой адбіваецца светапогляд кулацкіх капіталістычных элементаў, якія ліквідуюцца як клас у краіне пабудовы соцыялізма. І задача гэтай маёй працы раскрыць ідэалагічныя карэнні гэтых варожых канцэпцый і, такім чынам паралізаваць іх варожыя ўплывы на масы, на совецкае мастацтва і дапамагчы самым мастакам разабрацца і зразумець памылкі сваіх творчых імкненняў, тэндэнцый і перайсці на рэйкі пролетарскай ідэалогіі.

* * *

У рамках гэтай тэмы я не маю магчымасці спыніцца на росце выдатнага, станоўчага, якое ёсць у нашым беларускім мастацтве і якое займае значнае мейсца ў нашым грамадскім жыцці. Трэба сказаць, што поруч з гніючымі буржуазнымі культурнымі рэшткамі ў мастацтве, якія ва ўмовах пабудовы соцыялізма ў нашай краіне ідуць да заняпаду, дагніваюць і развальваюцца—расце і ўзмацняецца наша пролетарская соцыялістычная культура.

Вялікі рост дадатнага совецкага мастацтва асабліва наглядаецца з моманту пастановы нашай партыі аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый. Ужо V-я Ўсебеларуская мастацкая выстаўка з'явілася моцным творчым водгукам беларускіх мастацкіх арганізацый на пастанову ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б („Партызаны"—Пашковіча, „Другі З'езд РСДРП"—Ахрэмчыка, „Кастрычнік на Беларусі"—Грубэ і інш.). Гэта выстаўка з'явілася магутным наглядным паказам росту і актывізацыі нашага мастацтва ў бок адлюстравання ў здаровых рэалістычныя формах нашай совецкай рэчаіснасці, як у яе мінулым, у грамадзянскай вайне, так і ў яе сучасным, у будаўніцтве соцыялізма.

З развіццём і магутным ростам соцыялістычнага будаўніцтва, культуры расце і пашыраецца сектар совецкага выяўленчага мастацтва. Будуюцца заводы, фабрыкі, ствараюцца тэатры, палацы культуры, памяшканні совецкіх грамадскіх будынкаў, а на гэтай базе расце жывапісь, расце скульптура. Нашы мастакі скульптуры—паказалі свой магутны творчы рост на монументальных скульптурных працах па афармленню Дома Ураду. Яны ў сваіх працах, у магутных вялікіх разваротах паказалі правадыроў рэволюцыйнага руху, паказалі правадыроў пролетарыята, паказалі гісторыю класавай барацьбы, як у нас у Расіі і ў Беларусі, так і на захадзе.

Вынікі ўсіх гэтых мастацкіх работ паказваюць нашы дасягненні ў галіне выяўленчага мастацтва, графікі, скульптуры, жывапісі афармлення масавых грамадскіх свят. Усе гэтыя багатыя формы выяўленчага мастацтва, якія развіваюцца і растуць разам з ростам соцыялізма ў нашай краіне, пад кіраўніцтвам ленінскай партыі,—даюць належны адказ нацдэмаўскім тэарэтыкам і „мастакам" кулацтва, гніючага і распадаючагася капіталізма.

27/І-1934 г.
г. Менск

К. ГУБАРЭВІЧ

# ЛІТАРАТУРА І КІНО

Зараз адбываюцца цікавыя і глыбокія па сваёй значнасці працэсы своеасаблівай дыфузіі двух вялізных галін мастацтва: кіно і літаратуры. Гэта працэс узаемнага ўзбагачэння творчым вопытам, працэс выраўнання лініі адзінага фронта мастацтва, з якіх кіно за апошнія гады было на ар'ергардных пазіцыях. Ідэйнае адставанне кінематографіі паставіла яе перад неабходнасцю абнаўлення сваіх творчых крыніц новымі жыватворчымі сіламі, здольнымі ўзбагаціць гэты анемічны арганізм новым прытокам крыві.

Такой сілай з'явілася мастацкая літаратура.

Не ў парадку філантрапічнага „снисхождения" да сваёй „збяднелай" суседкі мастацкая літаратура аддае кінематаграфіі багацце свайго творчага вопыту, а ў парадку самай шчырай і адданай дапамогі ўзняццю яе ўзроўня да вышыні задач, пастаўленых зараз перад усім совецкім мастацтвам.

Мастацкая літаратура, як адна з самых мацнейшых на сёняшні дзень галін мастацтва, узялася за вырашэнне гэтай цяжкай і складанай задачы. І 1934 год характэрны для совецкай кінематаграфіі вялізным зрухам гэтых двух мастацтваў на сустрэчу адно другому. Пісьменнікі прыходзяць у кіно не толькі з добрымі намерамі, яны прыносяць з сабой паўнацэнныя мастацкія кіно-творы.

З такімі творамі прыйшоў Вс. Вішнеўскі, („Мы из Кронштадта") М. Шолахаў („Поднятая целина"), Ф. Панфёраў („Твердой поступью), Л. Славін („Частная жизнь Петра Виноградова") і багата іншых, якія прынеслі ў кінематаграфію ідэі і думкі настолькі яркія і цікавыя, наколькі яркае і цікавае жыццё, нарадзіўшае іх.

Характэрнай асаблівасцю ўсіх гэтых сцэнарыяў з'ўляецца іх тэндэнцыя да станаўлення нейкага новага жанра. Гэта не такія сцэнарыі, дзе ідэйнае ўбоства старанна залізана прафесіянальным рамяством. Наадварот, гэтага рамяства, або „спецыфікі", пісьменнікам іншы раз не хапае. Затое пісьменнікі даюць глыбокі ідэйна-мастацкі дыапазон замысла, даюць самае жыццё, якое не змяшчаецца ў рамках патэнтаваных канонаў. Каноны разбураюцца. І гэтым самым нараджаецца новая форма, здольная ўвабраць у сябе максімальную „ёмкасць" жыцця. Сцэнарый „Мы из Кронштадта" Вішнеўскага, „Окраина" К. Фіна і „Конвейер смерти" К. Гусева напісаны якраз, абмінаючы педантычныя законы стандартнай кінематографічнай драматургіі. І мо' таму гэтыя сцэнарыі, як і карціны, пастаўленыя па іх („Окраина" і „Конвейер смерти") уяўляюць сабою творы, увасобіўшыя ў сабе вялізную жыццёвую глыбіню і своеасаблівыя якасці новага жанра.

І, магчыма, што мастацкая літаратура знаходзіцца зараз перад прызнаннем гэтага новага літаратурна-кінематаграфічнага жанра, які зойме ў літаратуры сваё месца поруч в раманам, аповесцю і драмай.

Гэта, канечне, зусім не азначае, што праз некаторы час кінематаграфія стане нейкім філіалам мастацкай літаратуры, дзе будуць адбывацца эксперыменты над выпрабаваннем новых літаратурных жанраў. Кінематаграфія, як і кожнае ў паасобку мастацтва, мае свае арганічныя законы, якія неабходна зразумець і асвоіць, каб стварыць сапраўдны кінематаграфічны твор. І калі мы кажам аб новым літаратурна-кінематаграфічным жанры, дык тут трэба разумець тое новае, што ўзнімае сцэнарый да мастацкага твора, што дапамагае яму стаць у канечным выніку неабходнай асновай высока-мастацкага фільма.

Усё гэта ў пэўнай меры можна сказаць у дачыненні і да беларускай літаратуры і беларускай кінематаграфіі.

Праўда, беларуская кінематаграфія ў гэтым напрамку мае менш выстарчальны вопыт, але тым не меней на сённяшні дзень мы ўжо можам гаварыць аб той нязначнай колькасці сцэнарыяў і карцін, якія дала беларуская літаратура.

Беларуская літаратура ў свой час дала такія фільмы, як „Лясная быль“ М. Чарота, „Сосны шумяць“, „У агні народжаная“, „Сонечны паход“—А. Вольнага і інш. Усе гэтыя фільмы ў свой час мелі, і зараз маюць, прынцыповае значэнне ў сэнсе паступовага стварэння беларускай кінематаграфіі—соцыялістычнай па зместу і нацыянальнай па форме.

Але кожны год соцыялістычнага будаўніцтва ставіў перад беларускай кінематаграфіяй усё больш складаныя і новыя задачы, якія вымагалі ад яе самага рашучага ажыццяўлення іх. У 1933 г., напрыклад, такой задачай для беларускай кінематаграфіі з'яўлялася неабходнасць карэннага пералома ў бок асваення тэматыкі соцбудаўніцтва БССР, рашучага ўздыма ідэйна-мастацкай вартасці ўсіх выпушчаемых карцін. Праўда, падобныя задачы стаялі перад кожнай нацыянальнай кінематаграфіяй, але ва ўмовах развіцця беларускай кінематаграфіі—яны набывалі асаблівую вайстрату. Зразумела, што для вырашэння іх патрабавалася напружаная барацьба з усімі тымі прычынамі, якія перашкаджалі здаровай творчай дзейнасці.

Па-першае, патрабавалася некаторая хірургічная аперацыя, каб ачысціць беларускую кінематаграфію ад гнойных балячак вялікадзяржаўнага шавінізма, беларускага нацыянал-дэмакратызма і праяў яўрэйскага нацыяналізма. Пад кіраўніцтвам і пры дапамозе партыйных арганізацый БССР гэтая аперацыя была зроблена.

Па-другое, патрабавалася мабілізаваць усе лепшыя творчыя сілы для стварэння высокаякаснага сцэнарыя.

І тут кінематаграфія ў першую чаргу звярнулася да беларускай літаратуры.

Праўда, 1933 год нельга яшчэ лічыць этапным годам, калі літаратура і кінематаграфія самкнуліся ў адзіны атрад беларускага совецкага мастацтва. Але тым не меней 1933 год даў гукавы фільм „Двойчы народжаны“—па сцэнарыю Кобеца, „Жуліка“—па сцэнарыю П. Броўкі, з сцэнарыя „Салікамск“ А. Вольнага і інш.

І зараз цікава зрабіць некаторую ацэнку ўсім гэтым творам у плане іх ідэйна-мастацкай вартасці для беларускай кінематаграфіі.

Праўда, кажучы аб мастацкай вартасці карцін, трэба мець на ўвазе магчымую розніцу паміж карцінай і сцэнарыем, па якім пастаўлена гэта карціна. Калі пісьменнік строга індывідуалізаваны ў сваёй творчасці, калі ён, і толькі ён, з'яўляецца аўтарам свайго твора, дык кінафільм ствараюць, сама менш, чатыры аўтары. Гэта, у першую чаргу,—аўтар сцэнарыя, а потым ідзе рэжысер, аператар і актор, якія ўсе разам знаходзяць вобразам сцэнарыя адэкватнае пластычнае выяўленне. І нярэдка бывае, калі другая група аўтараў фільма не

дасягае гэтай роўназначнасці, і тады фільм стаіць ніжэй свайго сцэнарыя. А іншы раз бывае наадварот. Вось чаму пры ацэнцы таго ці іншага фільма неабходна размяжоўваць яго са сцэнарыем, каб аддаць належнае і таму і другому.

Якраз фільм „Двойчы народжаны" (рэж. Аршанскі) і з'яўляецца характэрным у гэтым напрамку, бо ніяк нельга ставіць знак роўнасці паміж ім і сцэнарыем (трэба мець на увазе аўтарскі сцэнарый). Аўтарскі сцэнарый „Двойчы народжаны" тэматычна быў больш маналітны і акрэслены. Адзінства яго тэматычнай лініі і з'яўлялася галоўнай асаблівасцю сцэнарыя, як мастацкага твора. Канакрад Лапух украў-ткі калгаснага каня. Калгаснікі злавілі Лапуха як злодзея, і далейшае развіццё вобраза Лапуха ідзе так, што абстаноўка калгаснага будаўніцтва ломіць яго зладзейскую натуру.

З драматургічнага боку гэта быў надзвычай трапны, надзвычай удзячны канфлікт, які даваў мажлівасць развіваць вобраз на аснове яго глыбокай жыццёвай супярэчлівасці, на аснове яго ўнутранага супраціўлення.

Само жыццёператварыла закаранелага злодзея Лапуха, і на працэсах гэтага ператварэння быў пабудаваны сцэнарый. Мастацкая канкрэтнасць гэтых працэсаў, прызначэнне іх як асноўнай „зрительной" ідэі сцэнарыя—з'яўлялася тым, што рабіла сцэнарый арганічнадзейным творам.

Іншая справа, што сама гэтая ідэя не давала здаровай асновы для карыснага і неабходнага для савецкага гледача мастацкага твора. Патураць злодзею, якога цяпер трэба кваліфікаваць як класавага ворага, абграваць яго цяплынёй чалавечых пачуццяў калгаснікаў і „сердабольнага" старшыні калгаса Дубовіка—работа, па меншай меры, для калгаснікаў непатрэбная. З гэтага боку для сцэнарыя неабходна была карэнная перапрацоўка. Трэба было перастаўляць адпраўныя пункты ці то зусім мяняць іх.

Як-жа „пераставілі" гэтыя пункты аўтары (за выключэннем аўтара сцэнарыя), на долю якіх выпала перапрацоўка першапачатковага варыянта сцэнарыя? Выйсце было знойдзена не асабліва глыбокадумнае.

Лапуха яны, канечне, пакінулі ў сцэнарыі злодзеем. Але якім? Гэта ўжо не той злодзей, каторы выкраў калгаснага каня. Каб не паслізнуцца на коўзкім рамястве Лапуха, аўтары яшчэ да пачатку фільма расправіліся з Лапухом як са злодзеем. Яшчэ да пачатку фільма аўтары за штосьці пасадзілі Лапуха ў ДОПР і прымусілі яго ўсвядоміць там соцыяльную шкоднасць свайго, несугучнага нашаму часу, рамяства. Яшчэ да пачатку фільма Лапух, як кажуць, „нарадзіўся другі раз".

Значыцца з самай першай часткі Лапух увайшоў у фільм чалавекам ужо амаль з закончанымі працэсамі сваёй унутранай перабудовы. Так што для самога фільма амаль нічога ўжо не асталося. І ў самым фільме Лапух толькі дапаўняў свой вобраз асобнымі штрышкамі, якіх не хапала для паўнаты. Вось у гэтым і крыецца грунтоўнейшая памылка „суаўтараў" сцэнарыя. Яны зрабілі Лапуха непатрэбным для дзейнага разгортвання карціны. А паколькі яны хацелі паказаць і даказаць „перараджэнне" Лапуха, дык ім прышлося абгарадзіць яго штучнымі сітуацыямі, прайшоўшы якія Лапух павінен быў „перарадзіцца".

Гэтую штучнасць лягчэй за ўсё прасачыць па тых фабульных прывязках, якімі аўтары ўсімі сіламі стараліся прывязаць Лапуха да сюжэта. Перад гэтым трэба сказаць, што паміж волі аўтараў,

тэмай фільма стала класавая барацьба ў калгасе. А Лапух застаўся толькі повадам кулацкага шкодніцтва. Застаўся ў карціне вобразам з падсобнай функцыяй. І толькі.

Аб'ектыўна ў карціне Лапух выконвае ролю чалавека, на якога лягчэй за ўсё збочыць кулацкае шкодніцтва. Самае страшэннае, па замыслу аўтара, шкодніцтва—падпал калгаса. А паколькі гэты падпал прыпадае пад канец карціны, дык Лапуха нечым трэба было заняць да канца карціны. І дзеля гэтага старшыня калгаса Дубовік не адсылае Лапуха, як злодзея, для далейшага следства, а загадвае яму наладзіць хамуты. Да рэчы—Лапух выявіў сябе рымарам. З хамутамі скончана. Далей высвятляецца, што ў калгасе хварэюць коні і патрэбен ветэрынар. Не выкрыты кулак Крукоўскі паехаў па ветэрынара і знарок не прывёз яго. Нібыта не застаў. І Лапуху зноў падсунулі работу. Выяўляецца, Лапух і ў ветэрынарнай справе нешта кеміць. Ніхто ў калгасе не ведаў, ад чаго хварэюць коні, як ім пачысціць капыты і перавязаць ногі, а Лапуху гэта—раз плюнуць. Ізноў знайшлася прычына заняць час. Тым больш, што коняй трэба было лячыць як мага хутчэй, бо праз чатыры-пяць дзён пачыналася сяўба.

І вось, нарэшце, доўга-чаканы пажар. Тут ужо Лапух канчаткова „перарадзіўся". Выкрывае шкодніцкую хеўру кулака Крукоўскага і, нават, сам іх вязе ў горад для следства. Што і трэ' было даказаць. Але не трэба даказваць таго, наколькі ўсё гэта надумана і штучна. Усе гэтыя хамуты, коні і падпал трэ' было, каб час ад часу гальванізаваць у аснове нерухомы вобраз Лапуха, прымусіць яго рухацца ў карціне і нешта рабіць.

Не зразумеўшы з самага пачатку аб'ектыўную функцыю вобраза Лапуха—аўтары не цэнтралізавалі творчую ўвагу на галоўнай тэматычнай лініі фільма: на класавай барацьбе ў калгасе. Класавая барацьба ў калгасе раскрыта неглыбока. Вобраз Крукоўскага і падкулачнікаў—гэта не зусім яркае і поўнае адценне рэальнай сапраўднасці класавай барацьбы. Класавы вораг „Двойчы народжанага" крышку больш нахабны і развязны, чым ён бывае ў жыцці. У жыцці ён больш стоены, прыціхлы і больш разумнейшымі спосабамі вядзе сваю шкодніцкую работу. Тут аўтары фільма не далі праекцыі на сёнешні дзень.

Павярхоўнасць мастацкага аналіза сапраўднасці няўхільна вядзе да міжвольнага скажэння яе. Так, напрыклад, ніхто ў калгасе не ведаў, ад чаго хварэюць коні, і толькі за пяць дзён агледзеліся, што яны папсаваныя, дзякуючы свядома-шкодніцкаму догляду канюха-падкулачніка. І гэта шкодніцтва выкрыў толькі старшыня РВК. Зразумела, што такая створаная аўтарамі штучная калізія нічога агульнага не мае з рэальнай сапраўднасцю сёнешняга калгаса.

І не толькі асобныя калізіі, а цэлыя вобразы пакідаюць уражанне штучнага, неарганічнага дапасавання да сюжэтна-фабульнага арганізма карціны. Так уведзена роля Марыны (арт. Гурэцкая), па сутнасці—роля бяздзейная, з прызначэннем чыста арнаментальнага характару. Тое самае можна сказаць і аб вобразе Лёшкі, вобразе старанна спісаным з нядобраякаснага пейзанскага лубка. Старшыня РВК ужо зусім механічна ўведзен у сюжэт. Гэта кампазіцыйная анархія меней за ўсё дапамагае ідэйна-мастацкаму выпукленню тэмы.

Гукавая партытура фільма стаіць ніжэй сеняшніх запатрабаванняў. Пасля „Акраіны", „Першага ўзвода", „Канвеера смерці" і „Паручыка Кіжэ"—гукавая частка „Двойчы народжанага" не можа задаволіць совецкага гледача. За выключэннем некаторых удалых (у сэнсе

скарыстання гуку) мясцін—увесь гук карціны нясе чыста-ілюстрацыйную функцыю, без усялякай колькі-небудзь цікавай мантажнай пабудовы. Інакш кажучы, гук не з'яўляецца арганічным элементам фільма. Гэта асаблівасць значна зніжае культуру гукавой кінематаграфіі, і ў гэтым напрамку карціна—крок назад.

Музыка (кампазітар Дунаеўскі) хоць і не пашырае тэмы за рамкі кадра, але ў сэнсе ілюстрацыйнага кампанента падабрана ўдала і трапна.

Самай удалай у карціне з'яўляецца аператарская работа (аператар Рабаў). Светлы, жыццярадасны тон пейзажа і вёскі, умелае скарыстанне святла для ўяўлення тэй ці іншай аасблівасці вобраза ў сістэме цікавай кампазіцыі кадра—дапамаглі рэжысёру ўтрымаць фільм на вышыні здаровага жыццёвага настрою.

Вось той максімум ідэйна-творчых запатрабаванняў, якім фільм „Двойчы народжаны“ далёка не адпавядае.

Але фільм адпавядае таму ідэйнаму мінімуму, які робіць фільм у канечным выніку карысным для савецкага гледача. Выкрыццё прыёмаў і тактыкі класавага ворага, які кожны зручны выпадак выкарыстоўвае для сваёй барацьбы—вось што робіць карціну карыснай. І тым болей, што „Двойчы народжаны“ з'яўляецца першай гукавой карцінай у савецкай кінематаграфіі з тэматыкай калгаснага будаўніцтва.

Другі фільм, пастаўлены па сцэнарыю П. Броўкі „Жулік“, мае некалькі іншую творчую біяграфію. Калі сцэнарый „Двойчы народжаны“ дарабляўся і ставіўся без усялякага ўдзелу самога аўтара, дык сцэнарый „Жулік“ аўтар сумесна з рэжысёрам давялі да вытворчай прыгоднасці пры самай шчыльнай творчай скантактаванасці.

Сцэнарый „Жулік“ пісаўся паводле аповесці аўтара „Каландры“.

Памылкова было б патрабаваць зараз ад карціны „Жулік“ поўнага ўвасаблення матэрыяла аповесці.

Сцэнічная і кінематаграфічная інтэрпрэтацыя літаратурнага твора мае тую асаблівасць, што п'еса, ці сцэнарый, напісаныя паводле яго, уяўляюць сабою асобны твор, з уласцівымі законамі свайго жанра. Праўда, гэты твор павінен выяўляць ідэйны замысел сваёй літаратурнай асновы, але сродкі і матар'ял для гэтага выяўлення не абавязкова чэрпаць толькі з літаратурнай крыніцы твора. Напрыклад ў аповесці К. Фіна—„Окраина“ быў зусім непрыкметны сказ: „Я не немец, я сапожник“. На гэтым сказе аўтары сцэнарыя пабудавалі цэлую драматургічную лінію з вобразамі, якіх у аповесці зусім не было. І гэтым не толькі не збочылі ад ідэйнага замысла аповесці, а паглыбілі і ўзбагацілі яго. „Мать“ Пудоўкіна—не тое самае, што „Мать“ Горкага. А між тым, фільм цалкам перанёс на экран ідэйную глыбіню аповесці.

Так што справа не ў тым, ці адпавядае фільм сюжэтна-фабульнай аснове сваёй літаратурнай першакрыніцы, ці не. Справа ў тым, наколькі правільна і поўна раскрывае фільм ідэйную функцыю літаратурнага твора.

І падыходзячы да карціны „Жулік“ з гэтага боку, трэба адразу сказаць, што карціна не дае поўнага раскрыцця ідэйнай функцыі аповесці „Каландры“.

Аўтары ўзялі ад аповесці адну сюжэтную лінію, да таго не зусім удзячную ў сэнсе мажлівасці глыбокага ідэйна-мастацкага раскрыцця тэмы. Гэта лінія Косці Мігуцкага.

Бясспрэчна, што тэма аховы соцыялістычнай уласнасці патэнцыяльна настолькі глыбокая і багатая творчымі мажлівасцямі свайго

вырашэння, што, бадай, любы жанр знойдзе ў ёй патрэбны сабе матэрыял. Але справа ў тым, які з гэтых жанраў найбольш глыбока можа раскрыць социяльную сутнасць гэтай тэмы. І той жанр, які быў абраны аўтарамі, жанр крымінальнай меладрамы, меней за ўсё адпавядаў ідэйнаму прызначэнню. Дакладней кажучы, гэты жанр быў своеасаблівай пагрозай, заключанай у матарыяле, і адначасова—прывабным аганьком. Гэтая прывабнасць вабіла сюжэтнай лёгкасцю, кампазіцыйнай стройнасцю, бытавым каларытам і г. д. Тое і другое трэба было абыйсці. Аўтары-ж пайшлі на гэты „аганёк“ і апынуліся ў палоне абыякавага стандарта давайсковай амерыканскай кінематаграфіі.

Сюжэт „Жуліка“ (адкінуўшы яго сёняшнюю наменклатуру) тыповы сюжэт звычайных амерыканскіх фільмаў з серыі „Роковое свидание“ і яму падобных.

Зразумела, што некрытычна пераняты сюжэт буржуазнай кінематаграфіі, з усімі ўласцівымі яму законамі, не мог увабраць у сябе багацце тэматычнага матэрыяла і гэтым самым не мог больш поўна раскрыць совецкую рэчаіснасць.

Совецкая рэчаіснасць, рэчаіснасць станоўчага характару ў карціне даволі бедная. Сакратар калектыва, майстар, сцэна каля машыны з абрэзаным сукном, комсамольскі карнавал і інш.—усё, што павінна было скласці ідэйны эквівалент нашай рэчаіснасці, паказана не ў належным мастацкім развароце. Можа таму, што ўсё яно не зусім арганічна дапасоўвалася да сюжэтнай асновы карціны.

Сюжэтная аснова пабудавана па прынцыпу „трыкутніка“. Прынцып, праўда, не новы, але не настолькі ўжо і стары, каб яго лічыць (як гэта багата хто лічыць) зусім няздольным дапамагчы вырашэнню той ці іншай тэмы. У „Машыналі“, напрыклад, гэты прынцып свядома скарыстаны асноўным прыёмам. І на такім, здаецца, класічным па сваёй трывіяльнасці прыёме Соф'я Трэдуэл даволі глыбока раскрыла социяльную сутнасць сваёй тэмы.

Можна было-б успомніць дзесяткі прыкладаў з літаратуры, тэатра і кіно, дзе гэты „жывучы“ прынцып як нельга лепей дапамагаў аўтарам. Ён жа значна дапамог і аўтарам „Жуліка“.

Як гэта ні парадаксальна на першы погляд, але класавая сутнасць Косці Мігуцкага выразней за ўсё абрысавалася на фоне гэтага „трыкутніка“.

Косця Мігуцкі парэзаў самае каштоўнае для ўсёй фабрыкі сукно, вывеў з работы машыну і людзей, каб толькі памсціцца за Веру. Тут, канечне, можна сказаць, што пачуццё біалагічнай зайздрасці перамагло ў Косці ўсё астатняе. „Старая“ гісторыя ў чалавечым жыцці. Але ў тым-то і справа, што такое пачуццё можа сілай штурхнуць на шкодныя ўчынкі толькі чалавека з класава-варожым поглядам на нашу рэчаіснасць.

І, магчыма, што няправільна было-б шукаць ва ўчынку Косці Мігуцкага свядомага, раней абдуманага класавага шкодніцтва. Узрушаная рэўнасць—гэта біалагічны аффект. Але ў Косці Мігуцкага ён арганічна і няўхільна пераходзіць у аффект социяльна-варожы. І ўскрыццё арганічнай сувязі такіх, здаецца, глыбока „па-закласавых“ пачуццяў, як каханне, ці рэўнасць—з класавымі паводзінамі чалавека—з'яўляецца даволі цікавай і станоўчай асаблівасцю як сцэнарыя, так-сама і карціны. Гэта робіць вобраз Косці Мігуцкага рэальна праўдзівым.

Вобраз Вані і Веры ў значнай меры пазбаўлены гэтай праўдзівасці. Праўда, яны прамянеюць здаровым жыццёвым аптымізмам, абое яны

жывуць поўнай біалагічнай і соцыяльнай маладосцю, але яны пазбаўлены ў карціне самастойнага дзейнага развіцця і знаходзяцца ў поўнай функцыянальнай залежнасці ад вобраза Косці Мігуцкага. А праз вобраз Косці Мігуцкага, зразумела, нельга было паказаць усю разнастайнасць нашай рэчаіснасці, і, канечне, карціна „Жулік", пры ўсёй сваёй бадзёрай аптымістычнай узнятасці, не можа прэтэндаваць на поўнацэннае мастацкае вырашэнне пастаўленай тэмы.

Вось усе фільмы, пастаўленыя ў 1933 г. па сцэнарыях беларускіх пісьменнікаў.

Ці азначаюць гэтыя частковыя творчыя няўдачы, што беларускія пісьменнікі, хоць бы той самы Кобец ці Броўка выявілі сваю творчую бездапаможнасць у кіно? Канечне, не.

Гэта ў першую чаргу азначае тую неахайнасць, якую праявіла былое фабрычнае кіраўніцтва да сцэнарыяў „Двойчы народжаны" і „Жулік". Замест таго, каб дапамагчы аўтарам перарабіць свае сцэнарыі ў напрамку падвышэння іх ідэйна-мастацкай вартасці, фабрыка пусціла гэтыя сцэнарыі „по воле волн" (праўда з другога боку, неахайнасць гэта надзвычайна характэрная, тыповая праява вялікадзяржаўніцтва, ад якога фабрыка ў свой час была не свабодна); падругое, гэтыя частковыя творчыя няўдачы трэба кваліфікаваць, як „выдаткі" першапачатковага аўладання такой даволі складанай галінай мастацтва, як кінематаграфія.

Гэта зусім натуральна і няўхільна. І трэба думаць, што другія сцэнарыі Кобеца і Броўкі, сценарыі, якія ўжо будуць мець пад сабою некаторы творчы вопыт і школу, будуць стаяць непамерна вышэй. Гэта можна пацвердзіць надзвычай удалым і трапным прыкладам са сцэнарыем А. Вольнага „Салікамск".

Сцэнарый „Салікамск" напісаны пасля такіх кінематаграфічных работ А. Вольнага, як „Сосны шумяць", „У агні народжаная", „Сонечны паход" і „Справа 222". Усе гэтыя работы, не гледзячы на іх этапнае значэнне для беларускай кінематаграфіі і для самога аўтара, былі не зусім тыповымі для творчага метада і мастацкай патэнцыі А. Вольнага. Механістычнасць і стылевая эклектыка былі характэрнымі асаблівасцямі гэтых работ.

І толькі перамогшы ўсё гэта цаной такой колькасці работ, А. Вольны здолеў напісаць сцэнарый „Салікамск", ад якога, можна смела сказаць, пачынаецца другі этап яго творчай біяграфіі. „Салікамск"—гэта зусім ўжо новы твор у сэнсе мастацкай арганічнасці і стылевога адзінства.

Кажучы аб сцэнарыі „Салікамск", трэба мець на ўвазе, што ён уяўляе сабою пакуль толькі літаратурны варыянт. І таму зусім не трэба зараз поркацца ў прафесіянальных дробязях сцэнарыя. Строга кажучы, „Салікамск", у такім выглядзе—гэта яшчэ не зусім той сцэнарый, які адпавядае вытворчай гатоўнасці. Гэта яшчэ толькі кінаповесць, з якой можна зрабіць высокакваліфікаваны кінематаграфічны сцэнарый. Але гэта ўжо тая аповесць, якая дае фундаментальную ідэйную аснову для вялікага кінематаграфічнага палатна.

На так званым „вытворчым" і „калгасным" матэрыяле, досыць скампраметаваным дасціпнымі рукамі рамеснікаў ад кінематаграфіі, А. Вольны паставіў сваёй задачай вырашыць тэму пралетарскай дапамогі рабочых Совецкага саюза гаспадарчаму ўмацаванню калгасаў БССР, дапамогі на аснове інтэрнацыянальнай салідарнасці рабочых не толькі Совецкага саюза, а і замежных. Мастацкі інстынкт аўтара вымусіў яго расказаць гэту тэму мовай социялістычнай праўды. А социялістычная праўда вымагала ўсебаковага і аб'ектыўнага аналіза жыцця. Вось чаму ў сцэнарыі мы маем такую моцную і яркую

лінію, як шкодніцтва нямецкіх фашыстоўскіх агентаў. Нямецкіх не таму, што нямецкія фашысты самыя заядлыя ворагі Совецкага саюза, а таму, што здабыча свайго калія вызваляе Совецкі Саюз ад імпартнай залежнасці і, у прыватнасці—ад залежнасці нямецкай.

Калі Совецкі саюз усімі сіламі намагаецца вызваліцца ад імпартнай залежнасці, дык капіталісты шалёнай барацьбой намагаюцца захаваць яе, бо гэта пытанне іх жыцця, а мо' і смерці. Вось дзе соцыялістычная праўда. І тая-ж самая праўда вымусіла аўтара паказаць шкодніцтва ў яго аб'ектыўнай ролі на сёнешнім этапе.

Нямецкі фашыстоўскі інжынер Корраў прыехаў са сваёй бацькаўшчыны ў Салікамск нібыта пагасцяваць да свайго старога прыяцеля, галоўнага інжынера Салікамскіх руднікоў Эдэльге. Сапраўды-ж ён прыехаў з цвёрдым намерам і заданнем дыверсійнай дзейнасці. Год пяць-шэсць таму назад Коррау, прыехаўшы, паспрабаваў-бы на тых самых рудніках пашукаць недзе патайна арганізаваную групу „братоў па духу", а калі б не знайшоў яе—пэўна сам арганізаваў-бы такую. Зараз жа, калі ў Совецкім Саюзе абсеклі вострыя дасціпныя кіпцюры ўсім замежным дыверсантам ад інтэрвенцыі, прайшоўшым выпрабаваную школу „Торгпрома" і „Инделиженс-Сервис"—Коррау не асмеліўся лезці на ражон. Ён пачаў шукаць такую мажлівасць, каб, ну, не сарваць, а хоць бы як-небудзь замарудзіць работу. І вось такім адзіным выйсцем выявіўся яго прыяцель, інжынер Эдэльге, якога Коррау вырашыў адцягнуць ад Салікамскіх руднікоў і, гэтым самым, пакінуць іх без тэхнічнага кіраўніцтва.

Спачатку Коррау паспрабаваў сыграць на патрыатычных струнах Эдэльге. Ён упарта пераконваў Эдэльге звярнуцца ў сваю бацькаўшчыну, пагражаючы, што бацькаўшчына помсціцца яму за доўгую і сумленную паслугу большэвікам. Не выйшла. Тады Коррау сістэматычна пачаў упэўніваць Эдэльге, што яго жонка Эмілія нераўнадушная да совецкага інжынера Рудніцкага. Гэта было ўжо крыху слабейшым мейсцам у характары Эдэльге. Ён паверыў.

Коррау яшчэ больш паглыбіў падазронасць Эдэльге. Ён падбухтарыў замежных рабочых абраць Эмілію дэлегаткай у БССР. Эмілія едзе ў БССР разам з Рудніцкім. Гэтага ўжо даволі было, каб Эдэльге страціў раўнавагу не толькі ў асабовым жыцці, а і ў рабоце. Па эгаістычнай зняважлівасці і недаверлівасці да Рудніцкага, Эдэльге касуе яго план папярэдняга глыбокага свідравання ў карналітавых пластах, чым мімаволі і даводзіць шахту да газаноснага выбуху.

Коррау хоць часткова, але дамогся свайго. Праўда, не надоўга. Змабілізаваныя воля і напружанасць совецкіх і замежных рабочых хутка выратавалі разбураную шахту, і да беларускіх палёў усё-ткі пайшлі доўгія саставы цягнікоў, нагружаных совецкім каліем.

Усё гэта ў сцэнарыі паказана не на „потрясающих страстях", якія ў кінематаграфіі часта любяць прыўзнімаць на патэтычныя хадулі. Стылёвая манера сцэнарыя характэрна сваёй інтымна-лірычнай роўнасцю і мастацкай прастатой.

Тут да рэчы сказаць, Вольны выявіў сябе, як майстар інтымналірычнага жанравага фрагмента. Гэта таксама своеасаблівы стылевы напрамак у совецкай кінематаграфіі, які больш рэльефна вызначыўся ў такіх фільмах, як „Встречный" и „Окраина".

Мікіта, Пахом і Лешка—вобразы, пабудаваныя па такому стылевому рысунку. Гэта і дало мажлівасць надаць ім як мага больш задушэўнай мастацкай праўдзівасці і чалавечай цяплыні.

Але згубіўшы на некаторы час пачуццё кампазіцыйнага такту, Вольны пачаў злоўжываць жанравым фрагментам. У сцэнарыі надзвы-

чай багата лішніх жанравых кавалачкаў, неарганічных вобразнай суцэльнасці сцэнарыя. Гэтыя надзвычай частыя і навязлівыя разгаворы „з прычыны і без“, асобныя сцэнкі, нелагічныя для сюжэтнага, фабульнага развіцця—стракацяць па сцэнарыю лапікамі „мёртвых месц“, абцяжарваюць кампазіцыю і, самае галоўнае, перашкаджаюць утварыць арганічна-кінематаграфічную партытуру гуку. Сцэнарый у сваім літаратурным варыянце яшчэ не з'яўляецца гукавым. Ад гукавога кіно тут толькі гутаркі, не арганізаваныя драматургічным мантажом. Ёсць, праўда, адно-два надзвычайна ўдалых гукавых месцы. Гэта песня салікамскіх рабочых, якая разносіцца над беларускімі палямі. Гэта ад сапраўднай гукавой кінематаграфіі. Усё астатняе трэба перарабіць, раўнуючыся на такія месцы.

У рабочым варыянце сцэнарыя і ў самай карціне гэта, безумоўна, будзе дароблена, як будзе дароблена лінія арганічнай увязанасці Салікамска і БССР у напрамку яе мастацкага паглыблення, як будзе дапрацаваны вобраз Эміліі ў напрамку мастацкага апраўдання яе ўчынкаў.

Галоўнае тое, што ёсць што і з чаго дарабляць.

---

М. МОДЭЛЬ

# НА ШЛЯХУ ТВОРЧАГА РОСТУ

*(Аб „Маці" І. Гурскага)*

Ільля Гурскі напісаў новую п'есу „Маці", у якой аўтар разгортвае вялікае палатно гістарычных падзей на Беларусі, пачынаючы ад Лютаўскай рэволюцыі, канчаючы белапольскай акупацыяй і партызанскім рухам у тыле белапалякаў.

Тав. Гурскі ўжо даволі вядомы пролетарскай грамадскасці БССР драматург па сваіх мінулых п'есах—„Качагары", „Новы горад" і інш. Заслугай драматурга—комуніста Гурскага з'яўляецца тое, што ён сваёй п'есай „Качагары" першы ў беларускай совецкай драматургіі выступіў з вострым драматычным памфлетам супроць контррэволюцыйных нацыянал-дэмакратаў і нацыянал-апартуністаў у 1929., у часе ўпартай барацьбы КП(б)Б супроць гэтых агентаў замежных інтэрвенцыянісцкіх сіл, мабілізуючы рэволюцыйную пільнасць рабочага гледача і чытача.

У чым сіла драматургіі тав. Гурскага? Сіла яго драматургіі заключаецца ў вострай палітычнай актуальнасці тэматыкі яго твораў, у тым, што яго п'есы проста адказваюць на вострыя пытанні класавай барацьбы. П'еса „Качагары" пры некаторых недахопах, мастацкі дакумант, які па-партыйнаму разаблачае нацыянал-дэмакратызм. „Новы горад" паказвае класавую барацьбу на нашым індустрыяльным будаўніцтве і ставіць праблему перавыхавання чалавека—адну з важнейшых задач другой пяцігодкі пабудовы бескласавага грамадства; дзіцячая п'еса „Сварка" асвятляе калгасную тэму, п'еса „На крэсах усходніх"—праблему абароны краіны і рэволюцыйнага руху заграніцай. Сіла драматургіі тав. Гурскага і ў тым, што ў ёй б'е пульс жыцця і барацьбы партыі, рабочага класа і шырокіх працоўных мас за штодзенныя, хвалюючыя масы задачы соцыялістычнага будаўніцтва.

Мастацкая сіла вобразаў яго п'ес у іх ідэйнай накіраванасці на выкрыццё нацдэмаў, шкоднікаў, апартуністаў, на паказ лепшых людзей нашай гістарычнай эпохі—ударнікаў будаўніцтва і абароны.

Слабасць мінулых работ тав. Гурскага ў частай несуадпаведнасці спецыфічных мастацкіх выяўленчых сродкаў (лексіка, спецыфіка сцены і г. д.) з правільнай ідэёвай мэтаімкнёнасцю яго драм і асобных вобразаў, часам у павярхоўным паказе нашай рэчаіснасці, схематызме і нетыповасці некаторых характараў і вобразаў.

П'еса „Маці" ідзе па шляху творчага роста тав. Гурскага, па шляху замацавання і ўдасканалення моцных бакоў і перамагання слабасцей. Дадатнымі вартасцямі гэтай п'есы з'яўляецца імкненне драматурга ўскрыць сапраўдныя спружыны класавых канфліктаў у часе рэволюцыі і грамадзянскай вайны на Беларусі, паказаць кіруючую

ролю большэвіцкай партыі ў рэволюцыі, яе барацьбу супроць буржуазных і дробнабуржуазных партый, выкрываючы ўсю іх здрадніцкую контррэволюцыйную ролю.

Драматург робіць асаблівы ўпор на разаблачэнне беларускіх буржуазных нацыяналістаў на тым этапе і іх гора-правадыроў, якія ўзначальвалі „БНР", на паказ іх простага змыкання з германскім імперыялізмам і белапольскімі інтэрвентамі. Ён робіць упор на разаблачэнне гэтых „герояў", якія віталі „начальніка польскай дзяржавы Язэпа Пілсудскага" на яго „роднай зямельцы — Беларусі" [1]). Ён мастацкі паказвае, што ў кожнай нацыі ёсць дзве нацыі—эксплаататараў і эксплаатуемых, ён разаблачае нацыяналістычны лозунг аб бяскласавай, агульна-нацыянальнай „маці" Беларусі і паказвае, што маці паноў Скірмунтаў, Васіля Бушмы і К° з'яўляецца мачыхай для беларускіх працоўных.

Тав. Гурскі ў вырашэнні пастаўленых перад сабой задач ідзе двуедзіным шляхам. Паказваючы змаганне мас, ён адначасова канцэнтруе ўвагу і на асобных вобразах—большэвіка Андрэя Бушмы, афіцэра Васіля Бушмы і іх маці Грышчыхі. Яго галоўныя героі ўдзельнічаюць ва ўсіх асноўных драматычных калізіях.

У п'есе „Маці" ясна даводзіцца, што законы класавай барацьбы цалкам падпарадкоўваюць сабе законы біалагічныя, што ў розным соцыяльным асяродку выхоўваюцца зусім розныя людзі, нават і тады, калі гэтыя людзі звязаны кроўным сваяцтвам.

Два браты—Андрэй Бушма і Васіль Бушма, пастаўленыя ў рознае соцыяльнае асяроддзе, выхоўваюцца ў супроцьлеглым кірунку. Андрэй Бушма, звolены з завода ў Петраградзе разам з бацькам за ўдзел у „бунце", трапіўшы на імперыялістычную вайну, на фронт, становіцца большэвіком. Ён удзельнічае ў падрыхтоўцы Окцябрскай рэволюцыі на фронце, узначальвае братанне з нямецкімі працоўнымі, якія апрануты ў салдацкія шынелі і жалезныя каскі, агітуе супроць „чэрвеньскага" наступлення, кіруе экспрапрыяцыяй маёнтка памешчыка Скірмунта, нарэшце, становіцца на чале партызанскай барацьбы ў тыле белапольскіх акупантаў.

Аўтар атуляе свайго героя нязвычайнай цяплынёй і любасцю. Шчыры, адданы пролетарскай справе салдат-большэвік, Бушма, піцерскі рабочы, заваёўвае сімпатыі і давер'е салдацкіх мас, становячыся на чале іх у барацьбе супроць „чэрвеньскага" кровапраліцця, за братанне.

Кіруючы экспрапрыяцыяй маёнтка пана Скірмунта, ён паказвае прыклад большэвіцкай арганізаванасці і дысцыпліны. Ён выкрывае здрадніцкі твар дробнабуржуазных нацыяналістычных і „соцыялістычных" партый, паказваючы масам сапраўдны шлях абароны заваёў пролетарскай рэволюцыі.

Андрэй Бушма праяўляе вялікія здольнасці і уменне падпольнага арганізатара і вырастае ў буйнага партызанскага важака тых партызанскіх атрадаў, якія аказвалі выключную дапамогу Чырвонай Арміі ў барацьбе з белапольскімі бандамі.

Трапіўшы ў іншыя ўмовы, у іншы соцыяльны асяродак, як піша маці ў лісце Андрэю Бушма на фронт: „Васіль наш у людзі выбіўся, афіцэрам стаў... Нейкіх ударнікаў набірае... Абараняць маці Беларусь..." Гэты Васіль Бушма становіцца махровым контррэволюцыянерам, „нацыянал дэмакратам" і ўвесь час застаецца на тым баку барыкад,

[1]) Гл. даклад тав. Шаранговіча на 15-м з'ездзе КП(б)Б.

вядучы „не на жыццё, а на смерць“ барацьбу супроць Андрэя Бушмы і ўсіх людзей яго пролетарскага лагера.

Ужо ў першай сустрэчы мы маем дыялог, які паказвае нарастанне супярэчнасцей паміж братамі.

„В. Бушма.—Агітуеш?

А. Бушма.—Нікак нет, ваша благародзь!

В. Бушма.—Немцам прадаўся...

А. Бушма.—На гэтым коніку далёка не паедзеш“ і г. д.

Васіль Бушма далейшай хадой кадзей трапляе ў самы цэнтр беларускага нацыянал-дэмакратызма, у здрадніцкую „беларускую раду“, дзе ён становіцца ваенным міністрам. Тут драматург цікавым гротэскным прыёмам высмейвае нікчэмнасць, прадажнасць і лізаблюдства гэтай „Рады“ перад германскім імперыялізмам, прымушаючы „міністра“ Васіля Бушму для прыёма нямецкага палкоўніка пераапрануцца ў лёкая, у якасці афяры ў імя маці—Беларусі:

„Скірмунт (умаляюшча да Бушмы на яго заяву, што няёмка неяк міністру па вайсковых справах ды за швейцара...): Васіль Рыгоравіч, айчызна маці—Беларусь патрабуе афяр...“

У раскрыцці гэтых асноўных вобразаў драматург дапускае некаторыя элементы спрашчэнства і павярхоўнасці. У драме наперакор логіцы браты і маці Грышчыха, не гледзячы на вялікі дыапазон здарэнняў, на рознастайнасць „месца“ часу і дзеі“ (законы класічнай трагедыі), альбо усе, альбо па двое ўвесь час чамусьці трапляюць разам: на вакзале, у БНР, у польскім штабе, на вёсцы, у партызанскім атрадзе, робячы ўражанне пэўнай штучнасці і нерэальнасці гэтых спатканняў. Аўтар, зусім правільна акцэнтуючы класавы момант у раскрыцці вобразаў, не ўлічвае складанасці працэсу развіцця разыходжанняў паміж братамі, паказваючы іх ужо пасля першага спаткання лютымі ворагамі.

Даведаўшыся аб тым, што экспрапрыяцыяй маёнтка Скірмунта кіраваў яго брат, Васіль Бушма кідае рэпліку: „Андрэй Бушма?... Мой брат стаў бандытам, ён горшы вораг мой...“

Вобраз маці Грышчыхі ў драме досыць супярэчлівы, хоць завяршэнне яго дадзена аўтарам у вельмі цёплых лірыка-рамантычных фарбах.

Станаўленне Грышчыхі ў свядомага барацьбіта за ідэю яе сына Андрэя супроць сына Васіля робіцца праз складаны шлях, праз вельмі складаныя перажыванні і пачуцці, і толькі ў канцы яна свядома далучаецца да партызан. Аднак, паасобныя мясціны ў яе тэксце дэзарыентуюць чытача ў разуменні вобраза.

У першай сустрэчы з абодвума сынамі Грышчыха нібы адразу разумее розніцу паміж шляхамі сваіх сыноў. Яна кажа: (Андрэю): „Па бацьку пайшоў, выліты Грышка...“ (Да Васіля): „А ты, Васіль, не ведаю, па кім удаўся,—зносак нейкі...“ Ясная справа, што гэтыя рэплікі павінны сімбалізаваць адносіны маці да аднаго і другога сына, да іх ідэй.

Аднак, далейшыя яе паводзіны „сыны мае, ды толькі непакорлівыя яны абудва“ сведчаць пра тое, што яна яшчэ не зразумела розніцы ў шляхах сваіх сыноў. Вобраз маці занадта сімвалічны. Аўтар чамусьці прымушае мала развітую старуху-беспрацоўную з шпаркасцю маланкі пераносіцца з аднаго месца дзеі ў другое, гаварыць „народныя“ прамовы, якія не вяжуцца з псіхаідэалогіяй работніцы.

Занадта рамантызаваная, этнаграфічная фігура Алеська—сястра Бушмаў, апаэтызаваная вясковая дзяўчына, вобраз якой абеглымі рысамі раскрываецца толькі ў апошняй карціне, у бойцы партызан

з белапалякамі. Непраўдападобна гучыць з вуснаў выратаванай з віру Алеські яе сімвалічная рэпліка брату афіцэру пасля яго заявы, што з Усходу сівер дзьме халодны: „Хочацца туды, дзе сонейка ўзыйшло, абагрэцца хочацца.. Бо тут трухляціна, смурод...“ Адкуль такая высокая вобразнасць і сімволіка ў гэтай вясковай дзяўчынкі?

Па-мойму, неарганічным з'яўляецца увядзенне ў п'есу такіх гістарычных фігур, як генералы Дзянікін, Карнілаў, з таксама Духонін, якія аўтарам не зусім раскрыты. Большэвік „Славін, рэдактар газеты „Буревестник“, таксама патрабуе даапрацоўкі.

Астатнія вобразы ў п'есе—іх усяго 41, перагрузка незвычайная,— вельмі ўскладняюць задачу драматурга і работу тэатра над п'есай.

У п'есе, па-мойму, лішнім з'яўляецца пралог, дзе вельмі эскізна аўтар спрабаваў даць складаны і эдказны этап Лютаўскай рэвалюцыі—„адмаўленне“ Нікалая ад прастола і яго арышт. Пралог не звязан з ўсёй кампазіцыяй п'есы, з'яўляючыся штучным дадаткам да яе.

Тав. Гурскі не зусім уважлівы у выкарыстанні лексічных сродкаў. У гэтым сэнсе ён яшчэ цалкам не перамог хібаў уласцівых яго мінулым п'есам.

Большэвік рэдактар газеты „Буревестник“ Славін, спрачаючыся са Скірмунтам, заяўляе: „Наш шлях не лёгкі: то над крутым абрывам, то на цянькі, то паміж балот, лясоў кудравых“... „але мы дойдзем, бо ведаем, куды ідзем“. Па мойму, такая мова не ўласціва Славіну.

Алеська пасля бойкі партызан з белапалякамі, бяручы сцяг у загінуўшай маці, праз слёзы, кажа: „Ой, не шумі ты гаю, не разнось ты жалю па нізінах ды прасторах нашых, бо і так у рэчках ды ў вазёрах, і ў крынічаньках быстрых поўна слёз гаротных...“ Таксама, нам здаецца, такая мова не з'яўляецца уласцівай для Алескі. Тав. Гурскаму над удасканаленнем мовы, лексічных сродкаў трэба яшчэ папрацаваць.

* * *

Заканчваючы кароткія заметкі аб п'есе „Маці“, мы павінны яшчэ раз падкрэсліць, што гэты твор знаходзіцца на шляху далейшага творчага росту тав. Гурскага, які з'яўляецца вынікам упартай творчай вучобы драматурга, у спалучэнні з актыўнай грамадска-палітычнай працай.

Далейшая работа з тэатрам, упартая вучоба ў спалучэнні з актыўным удзелам у социялістычным будаўніцтве дасць магчымасць перамагчы тыя недахопы, якія наглядаюцца ў п'есе „Маці“.

**Адказны рэдактар; МІХАСЬ ЛЫНЬКОЎ**

**Рэдкалегія:** Я Браніштэйн, П. Галавач, П. Глебка, З. Жылуновіч, К. Зарамбоўскі, М. Клімковіч, Я. Колас, К. Крапіва, М. Лынькоў. К. Чорны.

Адрас рэдакцыі: Менск, Совецкая 68, Дом пісьменніка

